# Маладосць

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

(735) ЛЮТЫ, 2015

Выдаецца з 1953 года

# 2



www.maladost.lim.by

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск

## У НУМАРЫ:

***Ад рукі.*** Эліза Ажэшка. Дні . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3

***Выбітныя.*** LA TROUPPE FRANCOPHONIE «ATELIER»: «LE MUR» THEATRAL ET LES PONTS CULTURELS / ФРАНКАФОННАЯ ТРУПА «АТЭЛЬЕ»: ТЭАТРАЛЬНАЯ «СЦЯНА» І КУЛЬТУРНЫЯ МАСТЫ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 4

***Інтэрв'ю.*** **Наталля АЎДЗЕЕВА:** «Выпадковых кіраўнікоў сярод жанчын не сустракаецца» . . . . 7

***Інтэрв'ю.*** **Надзея АНУФРЫЕВА:** «"Зубронак" — гэта сіта, якое прасейвае людзей» . . . . . . . 143

***Інтэрв'ю.*** **Міхась БАРАЗНА:** «Мастацтва — гэта дадатковая магчымасць задумацца пра лёс сваёй краіны» . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 11

### *ПАЭЗІЯ*

**Вераніка ПУСТАВІТ.** Лекі для душы. *Вершы. Упершыню ў «Маладосці»* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 17

**Мікіта НАЙДЗЁНАЎ.** Бліжэй да раніцы. *Вершы* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 27

**Вольга ПАЎЛЮКЕВІЧ.** На наступным узроўні сталасці. *Вершы. Упершыню ў «Маладосці»* . . . 39

**Мікола ШАБОВІЧ.** З бадзенеўскага сшытка. *Вершы* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 95

### *ПРОЗА*

**Святлана МАГІЛЕЎЧЫК.** *Апавяданні. Упершыню ў «Маладосці»* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 19

**Сяргей БЕЛАЯР.** *Апавяданні* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 30

**Югася КАЛЯДА.** Je suis ton ange gardien. *Аповесць* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 45

### *ПЕРАКЛАДЫ*

Nick Alexander. The Photographer's Wife . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 98

Eliza Orzeszkowa. Dnie . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 106

### *КРЫТЫКА*

**Алена КАРП.** Пад польскай акупацыяй. *Літаратуразнаўчыя штудыі штотыднёвіка «Рунь» (1920)* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 138

**Ева ЛЯВОНАВА.** Быць васільком . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 125

***Post factum.*** **Віктар КОРБУТ.** «Аўтарка найлепшай жаночай аповесці» . . . . . . . . . . . . . . . . . 129

***Эпісталярый.*** **Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ.** Прывітанне з 1928 года . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 146

### *ПУБЛІЦЫСТЫКА*

***Cathedra.*** Куды заводзяць мары . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 132

***Гісторыя і постаці.*** **Леанід ЛАЎРЭШ.** Прыгоды Сяргея Пясецкага на Лідчыне . . . . . . . . . 148

***COSMOpoLITan-exPRESS.*** **Святлана СІТНІК.** Палёт над Эгейскім морам . . . . . . . . . . . . 154


Dnie

34

Styczeń, 1899

Luty

«Каштоўнасцю сваёй інтымны дзённік для прасочвання дынамікі асобы непараўнальны з іншымі матэрыяламі», — так піша Івона Вішнеўская, даследчыца і дэшыфратарка рукапісу Элізы Ажэшкі пад назвай «Дні», што быў «адкрыты» польскім прафесарам Эдмундам Янкоўскім падчас яго навуковага падарожжа ў СССР у 1957 годзе. «Сучасная пісьменніцкая практыка аддае перавагу прозе без выдумкі: аўтабіяграфіі, біяграфіі, дзённіку, успамінам, хроніцы, лістам, размовам з... нататнікам, запіскам, сшыткам, рэпартажам, эскізам, фельетонам, афарызмам, — дадае Івона Вішнеўская. — Дзённік Элізы Ажэшкі, які яна вяла з перапынкамі на працягу сямі гадоў, можна назваць інтымнай і адначасова практычнай формай. У цяжкія моманты ён выконваў тэрапеўтычную ролю, служыў таксама звыклым календаром, што нагадваў пра лісты, на якія трэба было адказаць, пра сяброўскія абавязкі...»

Рубрыка «пераклады» змяшчае артыкул Івоны Вішнеўскай, прысвечаны «Дням», а таксама фрагмент «Дзён» — невялікага, трохі зношанага сшытка.




# LA TROUPE FRANCOPHONIE «ATELIER»: «LE MUR» THEATRAL ET LES PONTS CULTURELS

# ФРАНКАФОННАЯ ТРУПА «АТЭЛЬЕ»: ТЭАТРАЛЬНАЯ «СЦЯНА» І КУЛЬТУРНЫЯ МАСТЫ

**Ідзе рэпетыцыя. «Добры вечар, я прыйшла ўзяць у вас інтэрв'ю». — «Калі ласка, заходзь, мы чакалі!»**

***Каця Ш.:*** — Усё пачалося з таго, што мне патэлефанаваў мой выкладчык французскай мовы Дзяніс Кажарын: ёсць, маўляў, магчымасць паехаць на фестываль франкафонных тэатраў у Познань — для гэтага патрэбна трупа студэнтаў, якая паставіць спектакль з прапанаванага спісу. Ідэя мяне захапіла, бо я ўжо 10 год займаюся ў аматарскім тэатры, але толькі як актрыса. Вельмі цікава было паглядзець, як будуць іграць разам людзі, між сабою ніяк не звязаныя. Гэта быў лёс! Ад пачатку мне хацелася рэалізаваць гэты праект з даволі слабымі студэнтамі, якія вывучаюць французскую толькі першы год, каб яны зразумелі, што такое на самай справе французская мова, і ўбачылі перспектыву сваёй працы. Я ўжо апусціла рукі, калі сустрэла адну дзяўчыну, якая сказала мне: «Давай я знайду табе людзей». «Ну, добра», — адказала я. Вось так мы і сабраліся.

***Аня:*** — Да таго ж, мы ўсе тут удзельнікі алімпіяд, у тым ліку і рэспубліканскага этапу, так што французская ў нас на добрым узроўні!

***Каця Ш.:*** — Першыя два месяцы мы прыглядаліся адно да аднаго і рэпетыравалі там, дзе была магчымасць.

***Аня:*** — Каля банкаматаў, у корпусе «Г», у Парку Горкага…

***Каця Ш.:*** — Рэпетыцый на сцэне ў нас было толькі тры…

***Каця К.:*** — І адна з іх ужо на сцэне фестывалю ў Познані. Наша п'еса называлася «Сцяна». Яе аўтар, Ціеры Сімон, меў на ўвазе сцяну сапраўдную, матэрыяльную.

***Каця Ш.:*** — А ў нас ***с***цяна — не знешняя перашкода, а ўнутраная: нашыя перадузятасці і страхі, якія не даюць нам рухацца далей. Калі ты пераможаш «сцяну» ўнутры сябе, то і ў рэальным жыцці ты ўсё пераадолееш.

***Каця К.:*** — Мы прыдумалі, што «Сцяна» — гэта шоу на тэлебачанні, і там сабраліся, натуральна, людзі розных прафесій, заняткаў,

дастатку і здольнасцей. У п'есе было 12 персанажаў, але з-за таго, што нас усяго шасцёра, мы падзялілі словы так, што атрымалася шэсць герояў, і кожны з іх — асоба…

***Каця Ш.:*** — Нашая ідэя была ў тым, каб увасобіць тыпажы сучаснага грамадства.

***Аня:*** — Я, напрыклад, была «бізнеслэдзі», жонкай багатага банкіра, сама — віцэпрэзідэнт французскага банка. А прыняць удзел у гэтым шоу вырашыла з-за таго, што мне было нудна жыць і трэба было паспрабаваць у жыцці чаго-небудзь новенькага.

***Каця П.:*** — А я была мадэллю, летуценніцай, усім расказвала пра тое, якія сны мне сняцца, усім дурыла галаву — і мяне там не надта любілі.

***Андрэй:*** — Я іграў ролю няўдачлівага акцёра, у якога былі вялікія грашовыя праблемы. Я быў «сынком», моцна прывязаным да сваёй маці, якая заўсёды казала, што рабіць. Параіла пайсці на шоу — і я пайшоў, каб знайсці спонсараў і раскруціцца.

***Каця К.:*** — А дзяўчаты яго стараліся загнабіць!

***Каця Ш.:*** — Я на яго крычала болей за ўсіх!.. Шчыра кажучы, я была самым тыповым з усіх герояў — настаўніцай. Як бы гэта ні было дзіўна, я лічу, што ведаю ўсё, але на самай справе — толькі ў разрэзе кніжкі. Я нічога не ведаю пра сапраўднае жыццё і разумею, што ўсе мае веды — гэта тэорыя.

***Маша:*** — Я з'яўляюся тут дурненькай афіцыянткай, якая перыядычна «разумнічае», але ўвогуле нічога з сябе не ўяўляе, хоць сама пра сябе і лепшай думкі. І трапіла яна сюды, бо хоча прарвацца на тэлебачанне, пазнаёміцца з Дзюжардэнам (*Жан Дзюжардэн (Jean Dujardin) — французскі шоумен і акцёр («99 франкаў», «Артыст»)),* іншымі знакамітасцямі…

***Каця К.:*** — Кожны персанаж у нашым спектаклі праходзіць праз пэўныя змены, але не абавязкова ў лепшы бок. У мяне быў персанаж — навуковы супрацоўнік, у нейкім сэнсе мізантроп, які лічыць, што ўсе людзі тут — ідыёты і «лепей я буду трымацца збоку і назіраць за вамі. У шоу я ўдзельнічаю, бо праспорыла. Мне ўсё да лямпачкі, «вырашайце ўсё самі», часам магу каму-небудзь выказаць, што ён — ідыёт, пасврачацца з кім-небудзь. Але напрыканцы спектакля я раблюся бліжэйшай да людзей.

***Каця П.:*** — Каб паўдзельнічаць у конкурсе, трэба было даслаць заяўку і відэа. Мы засьнялі нібыта ўрыўкі з відэазапісу кастынгу нашых герояў на тэлешоу.

***Каця К.:*** — Трэйлер, што ні кажы!

***Каця Ш.:*** — Хоць, увогуле, трэба было паказаць толькі ўрыўкі са спектакля, але яго на той час яшчэ не было, мы толькі пачалі рэпетыраваць першыя сцэны, іх мы таксама запісалі для заяўкі.

***Каця П.:*** — Але нам потым казалі, што наша відэа вельмі заінтрыгавала!

***Аня:*** — А ўвогуле заяўкі падавалі 14 краін, з іх выбралі 6 — у тым ліку і нас. Да Познані дабіраліся на ве-ельмі камфартабельным мікрааўтобусе, прадастаўленым Амбасадай Французскай Рэспублікі! Выкладчык, які прапанаваў нам паехаць на гэты фестываль, Дзяніс Кажарын…

***Каця К.:*** — Ён — прэзідэнт Асацыяцыі выкладчыкаў французскай мовы ў Беларусі…

***Аня:*** — …і ён дамовіўся, каб культурны аддзел французскай амбасады пасадзейнічаў нам.

***Каця К.:*** — І аддзел цалкам аплаціў нам дарогу і дапамог з візамі.

***Каця Ш.:*** — Мы жылі ў цэнтры горада, у трох секундах ад галоўнай плошчы.

***Маша***: — І да тэатра, да чаго заўгодна — крок ступіць.

***Аня***: — Мы жылі ў хостале, у пакоі было 6 ложкаў…

***Андрэй:*** — ...і адна раскладушка!

***Аня:*** — Але ў нас было столькі мерапрыемстваў, майстар-класаў, што мы там амаль не з'яўляліся.

***Каця Ш.:*** — Доўжыўся фестываль 5 дзён.

***Аня:*** — Нам дапамагаў валанцёр Віця, наш тэхнічны дырэктар. У дзень нашага выступлення, раніцай, калі мы рэпетыравалі, ён, напэўна, падумаў, што наш спектакль зусім не высокага ўзроўню. Мы адно на аднаго крычалі, але такія спрэчкі былі, бо не маглі ўключыць музыку...

***Каця П.:*** — А калі мы толькі выйшлі за кулісы, падбег да нас: «Я бачыў ваш спектакль!»

***Аня:*** — Журы і гледачы былі ў захапленні ад таго, як мы без дэкарацый змаглі ства-



*КАЦЯРЫНА ШАГОЙКА, 23 гады (МДЛУ, выкладчык французскай) — энергічная дзяўчына з кучарашкамі;*

*КАЦЯРЫНА ПУСТАХОД, 19 год (МДЛУ, студэнтка факультэта міжкультурных камунікацый) — дзяўчына з добрай усмешкай і мадэльным ростам;*

*ГАННА САВІЦКАЯ, 19 год (МДЛУ, студэнтка перакладчыцкага факультэта) — мілая брунетка з захопленымі вачыма;*

*АНДРЭЙ КУЛІЕЎ, 19 год (БДЭУ, студэнт) — асоба мужчынскага полу;*

*КАЦЯРЫНА КАНАПЛЁВА, 19 год (МДЛУ, студэнтка ФМК) — упэўненая брунетка з кароткай стрыжкай;*

*МАРЫЯ ШАШУТКІНА, 19 год (МДЛУ, студэнтка ФМК) — эфектная высокая брунетка. Усе — акцёры франкафоннай трупы «АТЭЛЬЕ».*

рыць атмасферу такога квадрата, быццам перад намі сцяна.

***Андрэй:*** — А мы выкарысталі эфект «чацвёртай сцяны»…

***Каця Ш.:*** **—** Толькі мы пра гэта самі не ведалі!

***Андрэй***: — Мы ніяк не ўзаемадзейнічалі з гледачамі, камунікавалі толькі паміж сабой.

***Каця П.:*** — І здолелі дабіцца эфекту.

***Каця К.:*** — А я хачу дадаць, што з 6 труп мы адны былі аматарамі — усе астатнія вучацца на тэатральных факультэтах. На самай справе гэта выдатна, што ва Усходняй Еўропе ладзяцца франкафонныя мерапрыемствы.

***Каця К.:*** — А то паўсюль «ангельцы», «ангельцы» ды «ангельцы»…

***Аня:*** — Нам падарылі 5 кніг з добрымі п'есамі сучасных французскіх, бельгійскіх ды іншых франкафонных драматургаў.

***Каця Ш.:*** — Калі мы паедзем на наступны фестываль у Познань, то нам зноў трэба будзе выбраць п'есу са спісу, які нам прапануюць арганізатары.

***Каця К.:*** — Мы падалі заяўку на фестываль у Бельгію і Парыж, але ёсць думкі і пра новы спектакль.

***Каця Ш.:*** — Французская мова існуе не толькі для таго, каб вучыць яе на нудных парах і выконваць нейкія заданні, але для таго, каб рэалізоўвацца ў жыцці.

***Каця П:*** Не трэба баяцца, калі ёсць нейкая ідэя, шанец! Чаму б не паспрабаваць? Мы рызыкнулі — і гэта было класна!

***Задавала пытанні Яна Владыка, група 310, факультэт міжкультурных камунікацый, МДЛУ.***

# НАТАЛЛЯ АЎДЗЕЕВА:
## «ВЫПАДКОВЫХ КІРАЎНІКОЎ СЯРОД ЖАНЧЫН НЕ СУСТРАКАЕЦЦА»

*Прафсаюзнаму руху на Беларусі — 110 гадоў. Пра тое, чым на самай справе займаюцца ў арганізацыях, якія аб'ядноўваюць працоўных людзей у адпаведнасці з іх прафесіямі, расказвае Наталля Аўдзеева, старшыня Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры, член рэдакцыйнай калегіі «Маладосці».*



**— Як вы мяркуеце, чаму прафсаюзы, якія ўзніклі неверагодна даўно, дагэтуль не губляюць сваёй актуальнасці?**

— Сёння ў галіновых прафесійных саюзах, аб'яднаных у Федэрацыю прафсаюзаў Беларусі, налічваецца больш за чатыры мільёны чалавек. І калі прафсаюзныя арганізацыі ў асноўнай часткі насельніцтва краіны асацыююцца з традыцыйным наборам цукерак да Новага года, падарункамі і граматамі з нагоды ўрачыстых падзей, 25-ці працэнтнымі зніжкамі на пуцёўкі ў санаторыі сістэмы Федэрацыі прафсаюзаў, то самае галоўнае, куды больш аб'ёмнае застаецца «за кадрам». А гэта і грамадскі кантроль за выкананнем працоўнага заканадаўства

***ДАВЕДКА***

***Беларускі прафсаюз работнікаў культуры аб'ядноўвае людзей, дзейнасць якіх накіравана на духоўнае, інтэлектуальнае і фізічнае выхаванне і развіццё чалавека, а значыць — занятых у сферах культуры, мастацтва, фізічнай культуры, спорту, турызму, а таксама інфармацыі ва ўсёй разнастайнасці яе структур — ад СМІ да паліграфпрадпрыемстваў і ўстаноў па распаўсюджванні выданняў. Адзін з найстарэйшых у Беларусі, ён узнік напачатку мінулага стагоддзя на аснове прафсаюза друкароў — найбольш адукаванай і актыўнай часткі працоўнага класа, легалізаваны ў 1906 годзе.***

## Калі прафсаюзныя арганізацыі краіны асацыююцца з традыцыйным наборам цукерак да Новага года, падарункамі і граматамі з нагоды ўрачыстых падзей, то самае галоўнае, куды больш аб'ёмнае застаецца «за кадрам»

ва ўсіх яго разнастайных аспектах, і ахова працы, і прыняцце на аснове Генеральнага пагаднення паміж Урадам, рэспубліканскімі аб'яднаннямі наймальнікаў і прафсаюзаў Тарыфных пагадненняў (у нашым выпадку падпісаных паміж Цэнтральным камітэтам прафсаюза і яго асноўнымі сацыяльнымі партнёрамі — Міністэрствам культуры, Міністэрствам інфармацыі, Міністэрствам спорту і турызму, Нацыянальнай дзяржаўнай Белтэлерадыёкампаніяй), мясцовых, а на кожным прадпрыемстве — калектыўных дамоў, якія з'яўляюцца найважнейшымі лакальнымі нарматыўнымі актамі па абароне законных правоў працоўных і змяшчаюць дадатковыя нормы ў іх інтарэсах. Уявіце сабе, што толькі ў арганізацыях, якія знаходзяцца ў полі ўплыву нашага прафсаюза, дзейнічаюць 14 абласных, 56 раённых (гарадскіх) пагадненняў і 1027 калектыўных дамоў.

Прававыя інспектары прафсаюза ажыццяўляюць юрыдычную экспертызу праектаў, а прафлідары імкнуцца бываць на сходах і канферэнцыях, на якіх гэтыя праекты разглядаюцца перад тым, як быць прынятымі ў якасці лакальнага нарматыўнага акту. Толькі на працягу папярэдняга месяца мне давялося ўдзельнічаць у працы дзвюх такіх канферэнцый у Беларускім дзяржаўным універсітэце фізічнай культуры і Нацыянальнай дзяржаўнай Белтэлерадыёкампаніі. А каб змест калектыўнай дамовы ўдасканальваўся і досвед працы ў гэтым напрамку, мы раз на два гады аб'яўляем конкурс пад назвай «Лепшы калектыўны дагавор», які праходзіць на некалькіх узроўнях — раённым (гарадскім), абласным і рэспубліканскім.

**— Якія міфы аб прафсаюзах вам даводзілася чуць, і як бы вы іх абверглі?**

— Мабыць, крануся аднаго, але найбольш распаўсюджанага. Гэта міф пра тое, што прафсаюзы не маюць свайго меркавання, не клічуць на барыкады і г. д.

На гэты конт з поўнай адказнасцю гатова заявіць, што прававое поле для актыўнай і выніковай дзейнасці беларускіх прафсаюзаў цалкам дастатковае.

Звярніцеся хоць бы да Закона аб прафесійных саюзах, Указа Прэзідэнта ад 6 мая 2010 года № 240 «Аб ажыццяўленні грамадскага кантролю прафесійнымі саюзамі» — і вы ў гэтым пераканаецеся. Мы працуем як сацыяльныя партнёры з Урадам, іншымі структурамі дзяржавы. Калі дзесьці прымаюцца меры, з якімі мы не згодны, то спрачаемся, даказваем, абгрунтоўваем свой пункт гледжання на розных узроўнях і ў розных інстанцыях. Напрыклад, сёння спадзяемся на ўнясенне змяненняў у Пастанову № 569 Савета Міністраў у частцы, што датычыцца павелічэння памераў выплат па бальнічных лістах цяжарным жанчынам і маладым спецыялістам. Там жа, дзе наймальнікі (ці, наадварот, работнікі) парушаюць заканадаўства і адмаўляюцца гэта прызнаць, з нашай дапамогай аднаўляецца справядлівасць. Бывае, што і з дапамогай судоў, калі сітуацыя выходзіць за рамкі нашай кампетэнцыі. А падымаць людзей на барыкады — не проста крайняя, але і небяспечная мера, якая да добрага прывесці не можа. У краіне, дзе робіцца для народа ўсё, што толькі магчыма, нам усім трэба супрацоўнічаць дзеля кансалідацыі грамадства, захавання міру і стабільнасці, удасканалення ў гэтых мэтах заканадаўства.

**— Якая роля прафсаюза ў развіцці ўласна культуры ў нашай краіне?**

— Нядаўна завяршыўся разгляд усім грамадствам праекта Кодэкса аб культуры, у чым самы непасрэдны ўдзел прыняў і наш прафсаюз. «Трымаць руку на пульсе» сферы культуры дапамагае нам тая акалічнасць, што прафлідары розных узроўняў з'яўляюцца членамі калегій міністэрстваў (я, да прыкладу, Міністэрства культуры, Міністэрства інфармацыі, Міністэрства спорту і турызму),

упраўленняў (аддзелаў) ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі, спорту і турызму абласных, раённых (гарадскіх) выканаўчых камітэтаў. Мы актыўна падтрымліваем тыя ці іншыя творчыя акцыі, канкрэтныя ўстановы, калектывы, дзеячаў культуры, мастацтва, літаратуры.

Штогод вызначаем лаўрэатаў прэміі Беларускага прафсаюза работнікаў культуры ў гэтых сферах, а таксама лепшых па прафесіі сярод моладзі, якая працуе ў аграгарадках, — бібліятэкараў, настаўнікаў дзіцячых школ мастацтваў, кіраўнікоў аматарскіх творчых калектываў і г. д. Нядаўні прыклад — хадайніцтва Цэнтральнага камітэта нашага прафсаюза перад Прэзідыумам Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі аб выдзяленні сродкаў на стварэнне і ўстаноўку помніка Уладзіміру Мулявіну ў Екацярынбургу. Пры гэтым сродкі будуць перададзены беларускім скульптарам. А Палац культуры прафсаюзаў і Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага па нашай ініцыятыве і пры падтрымцы Федэрацыі прафсаюзаў і Міністэрства культуры пакажуць дабрачынны спектакль непасрэдна ў дзень нараджэння нашага Песняра. У рамках сваёй кампетэнцыі мы стараемся ўплываць на мінімізацыю негатыўных праяў, якія ўзнікаюць у выніку прыняцця шырокамаштабных мер па тых ці іншых напрамках дзейнасці: і добрыя ў цэлым мэты (як, да прыкладу, аптымізацыя сістэмы ўстаноў культуры, інфармацыі, спорту і інш.) могуць на месцах рэалізоўвацца па-рознаму. Вывучыўшы ход аптымізацыі бібліятэчнай сістэмы, прафсаюз выступіў ініцыятарам правядзення «круглага стала» па гэтай тэме на базе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі з запрашэннем зацікаўленых і кампетэнтных асоб. Па выніках удзельнікамі мерапрыемства былі зроблены высновы аб парушэннях у асобных рэгіёнах метадычных рэкамендацый, зацверджаных на сумесным пасяджэнні міністэрстваў культуры і адукацыі, праз якія тлумачыцца, якім чынам варта аптымізаваць бібліятэчную сістэму на месцах з улікам інтарэсаў усяго насельніцтва. Прафсаюз, у сваю чаргу, накіраваў у выканаўчыя камітэты лісты адпаведнага зместу. На гэта пытанне можна было б адказваць бясконца: развіццём культуры займаюцца ў першую чаргу прафесіяналы, яны ж — члены нашага асаблівага, багатага на таленты прафсаюза, многія — непасрэдна яго лідары. Адсюль і цеснае супрацоўніцтва, калі з'яўляюцца агульныя мэты, задачы і справы.

**— Да асабістага. Як вы сталі кіраўніком? Падзяліцеся сваімі поглядамі на гэту ролю.**

— Лідарства, напэўна, было ў мяне ў крыві. Мае бацькі, іншыя сваякі былі кіраўнікамі рознага ўзроўню. Але галоўным прыкладам для мяне была і застаецца маці, якая, паходзячы з беднай шматдзетнай сям'і, здолела прайсці шлях ад навучэнкі фабрычна-заводскага вучылішча да намесніка аднаго з буйнейшых банкаў. Яе наказ, што чалавек сам будуе свой лёс, зарабляе свой аўтарытэт і сам жа яго беражэ, я нясу праз усё жыццё. І заўсёды, пачынаючы з дваццаці аднаго года, была кіраўніком: па хадайніцтве Магілёўскага педінстытута, з'яўляючыся маладой мамай, пачала працаваць сакратаром камітэта камсамола педагагічнага вучылішча. Я рана зразумела наступнае: лягчэй дамагчыся вынікаў у справе, калі гэтую справу ўзначаліць асабіста. Безумоўна, за гэта права ты расплочваешся і бяссоннымі начамі, калі шукаеш адказы нават не на адно, а на некалькі пытанняў, і пастаяннай працай над сабой (я скончыла тры ВНУ), і проста псіха-фізічнымі перагрузкамі. Але мне менавіта ў такім рэжыме жыць камфортней, калі б я «збоку» назірала за тым, што адбываецца, і не мела б магчымасці ўдзельнічаць у тых ці іншых працэсах і справах, тады б пакутавала па-сапраўднаму.

**На справе з жанчыны больш строгі спрос: ёй, каб паспяхова расці, працаваць трэба нашмат больш і лепш, чым мужчыне, і пры гэтым валодаць выдатнымі асобаснымі якасцямі. Так што «выпадковых» кіраўнікоў сярод жанчын, як правіла, не сустракаецца**

## Розніцы паміж кіраўніком-мужчынам і кіраўніком-жанчынай — да прабачаць мне мужчыны, як казаў Аркадзь Райкін, — не існуе. Усё ад асобы залежыць, ад яе стаўлення да справы і людзей

**— Маладым чытачкам (менавіта чытачкам) вы параіце згаджацца на прапанову стаць кіраўніком ці станеце адгаворваць? Чым, на ваш асабісты погляд, жанчына-кіраўнік адрозніваецца ад кіраўніка-мужчыны?**

— Агульнага рэцэпта быць не можа. Чалавек павінен рэальна ацэньваць свой патэнцыял, мець за плячыма нейкую школу — нават калі гэта тая ці іншая грамадская дзейнасць. Дарэчы сказаць, перш, чым узяцца за вызваленую камсамольскую працу, я прайшла шлях старшыні савета дружыны школы, сакратара камітэта камсамола філфака і члена камітэта камсамола інстытута, а да таго, як стаць дэпутатам Парламента, двойчы абіралася дэпутатам Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў. Таму, калі ўжо разумееш і адчуваеш, што гатовы і маеш маральнае права стаць кіраўніком, абавязкова трэба на гэта адважвацца. Ні муж, ні дзеці ў дадзеным выпадку не стануць «перашкодай»: бярэшся ўзначальваць калектыў, а тым больш — структуру, якая выходзіць за рамкі адной установы, дык з далейшай арганізацыяй жыцця роднай маленькай «сямейнай ячэйкі» несумненна здолееш і надалей спраўляцца. А калі муж з катэгорыі «домастройца», то вырашайце самі, ці варта прысвячаць жыццё эгаісту, які хоча «прыдушыць» у вас асобу. Розніцы ж паміж кіраўніком-мужчынам і кіраўніком-жанчынай — да прабачаць мне мужчыны, як казаў Аркадзь Райкін, — не існуе. Усё ад асобы залежыць, ад яе стаўлення да справы і людзей. Тут зноў, як у сем'ях: недзе лідар маці, недзе бацька. Розніца хаваецца ў стаўленні да кіраўніка-жанчыны той часткі грамадства, якая лічыць, што ў жанчын і з логікай праблемы, і папляткарыць яны любяць, і наогул іх месца толькі на кухні (а потым тая ж самая частка грамадства сцвярджае, што лепшыя кухары — мужчыны!). На справе з жанчыны звычайна больш строгі спрос: ёй, каб паспяхова расці, працаваць трэба нашмат больш і лепш, чым мужчыне, і пры гэтым валодаць выдатнымі асабаснымі якасцямі. Так што «выпадковых» кіраўнікоў сярод жанчын, як правіла, не сустракаецца. Ім не даруецца тое, што можа даравацца мужчынам. Тут можна нават гаварыць пра недастаткова ахайны выгляд...

**— Раскажыце пра свае захапленні, інтарэсы па-за працай.**

— Галоўнае маё захапленне — сольны спеў. У 19 гадоў я стала лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу вакалістаў. У мінулым годзе выпусціла дыск пад назвай «Нябачныя крылы». Пішу вершы, песні. Часта менавіта ў вершаванай форме віншую з юбілеямі або ў сувязі з іншымі значнымі падзеямі дзеячаў культуры, мастацтва, літаратуры, калектывы галін, якія знаходзяцца ў сферы інтарэсаў нашага прафсаюза. Як і большасць людзей майго пакалення, люблю традыцыйную кнігу, сапраўднае кіно... Ды і без добрых часопісаў (такіх, як «Маладосць»), газет не магу абыходзіцца. Гэта таксама лад жыцця кіраўніка. Інтэрнэт — перш за ўсё для атрымання аператыўнай інфармацыі, а для душы і розуму — друкарскія ўвекавечаныя словы, за якія нясуць адказнасць канкрэтныя аўтары і выданні.

**— Што вас фарміравала ў дзяцінстве і што працягвае ўплываць на ваш светапогляд?**

— Жаданне ўсіх і ўсё ўдасканальваць — адказ на другое пытанне. Узоры такіх паводзін я знаходзіла ў кнігах, кінакарцінах, у сваіх бацькоў і настаўнікаў. Мне шанцавала. І словы «раней думай пра Радзіму, а потым пра сябе» для мяне не ідэалагічны «перагіб», а свядомы выбар, які азначае прыярытэт грамадскага над асабістым. Перакананая, што толькі пры такім выбары ў душы будзе панаваць гармонія: робіш лепш людзям, робіш лепш і сабе.

*Запісала Віялета РЫЧАГА*

# МІХАСЬ БАРАЗНА:
## «МАСТАЦТВА — ГЭТА ДАДАТКОВАЯ МАГЧЫМАСЦЬ ЗАДУМАЦЦА ПРА ЛЁС СВАЁЙ КРАІНЫ»

«Маладосці» Міхась Баразна распавядае пра нязменную сутнасць чалавечай натуры, строгі адбор на навучанне ў Акадэміі (дзе лічыцца непедагагічным вылучаць геніяльнасць, бо там і так — «лепшыя з лепшых»), а таксама пра тое, што плакат, міжнародны конкурс якога праводзіўся па ініцыятыве Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь пры падтрымцы БДАМ і «Выдавецкага дома «Звязда», з'яўляецца лакмусавым індыкатарам стану грамадства: калісьці «стос паперы», а зараз — «набор файлаў у папцы ў фармаце ipg памерам не больш за 3 мегабайты» можа распавесці пра час і яго актуаліі вельмі празрыста.

«І тры гадзіны на дзень трэба абавязкова вылучаць на навуковую і творчую дзейнасць, каб не адбылася дэградацыя», — кажа ён напрыканцы размовы. Але давайце лепш па-парадку.



*Міхась Рыгоравіч Баразна — мастак, зараз больш фотамастак, мастацтвазнаўца, які ў многіх аспектах адказвае за сталенне мастацкіх талентаў нашай краіны, бо з 2010 года з'яўляецца рэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, якая налічвае каля 1300 студэнтаў, што навучаюцца на пяці факультэтах.*

— **Уласны шлях да мастацтва…**

— Не ведаю, наколькі цікавым будзе экскурс у даўніну, у маё дзяцінства, бо менавіта там усё і пачыналася: там падмуркі і жаданні. Мне здаецца, што ўжо ў дзяцінстве я ведаў свой жыццёвы шлях, прынамсі да 30-ці гадоў. У мяне і не было іншых жаданняў, акрамя як быць чалавекам мастацтва. Я ніколі не збіраўся быць лётчыкам, касманаўтам ці кімсьці іншым, хоць быў рухавым хлопчыкам, займаўся спортам: плаваў, бегаў, катаўся на ровары, гуляў у хакей, футбол ды ўвогуле, як усе вясковыя дзеці, жыў актыўным жыццём. (Міхась Баразна паходзіць з вёскі Ракушава Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці. Нарадзіўся 20 лістапада 1962 года. — **А. Ю.**).

У школе я вучыўся нядрэнна, таму перада мною адкрываліся розныя шляхі. Удзельнічаў




у алімпіядах: па фізіцы, матэматыцы, хіміі, іграў у шахматы, аднак гэта ніколі і ніяк не ўплывала на той выбар, які я добра ўсведамляў ужо з 10 гадоў, — мастацтва.

**— У гэтым выбары ці не спрацаваў «генетычны код»?**

— Не, я не з мастацкай сям'і. Бацькі былі настаўнікамі. Стаць мастаком было маім уласным жаданнем. Яны мяне не стымулявалі ў гэтым: магчыма, хацелі іншага шляху, асабліва бацька, — больш рацыянальнага і прадказальнага.

Свет мастацтва — гэта ж свет няпэўны, зменлівы, гэта свет канкурэнцыі, дзе неабходна штодня даказваць свой высокі ўзровень і немагчыма адпачываць на лаўрах.

Мне пашанцавала, бо я з першай спробы паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, хоць там, дзе я вырас, не было ані мастацкай школы, ані мастацкага гуртка. Падрыхтоўку я праходзіў самастойна, дзякуючы прыроднай ці, можа, выхаванай метадычнасці. Трэба ж было ўсё паспяваць: і вучобай займацца, і спортам, і дапамагаць бацькам па гаспадарцы, і, як усім дзецям, тэлевізар паглядзець ды ў кіно збегаць…

(Пасля заканчэння інстытута Міхась Баразна скончыў аспірантуру пры ім і ўжо ў 1992 годзе распачаў выкладчыцкую дзейнасць. — **А. Ю.**).

**— Якія яны, студэнты вашага пакалення, студэнты 1990-х і сучасныя?**

— Я лічу, што чалавек як універсальная постаць змяняецца вельмі марудна, а, магчыма, і не змяняецца ўвогуле. Змяняюцца адзенне і сродкі транспарту, якімі ён карыстаецца, сродкі сувязі таксама, а чалавек па сутнасці сваёй нязменны. Магчыма, ёсць пэўныя антрапалагічныя змены, звязаныя з харчаваннем ці з відамі спорту, якімі ён займаецца, але па натуры чалавек — канстанта. Нараджаецца, каб дазнацца пра першае каханне і як гэта — стаць бацькам, маці...

Нікуды не падзелася каханне, яно такое ж, якім было ў сярэдзіне XIX стагоддзя і ў сярэдзіне XX стагоддзя. Магчыма, чалавек стаў больш аперыраваць табліцамі і ведамі, але гэта не ўплывае на пачуцці. Таму параўноўваць студэнтаў розных часоў — справа няўдзячная. Трэба параўноўваць лепшых з лепшымі, а горшых з горшымі — і тое не хочацца.

І я не веру, што, напрыклад, студэнты сталі большымі лайдакамі, бо адразу ўзгадваю лепшых. Як раней, так і пасля будуць тыя, для каго навука і мастацтва — асноўнае, дзеля чаго яны гатовыя на ўсемагчымыя і гераічныя ўчынкі. Як калісьці, так і цяпер камусьці ў мастацтве спакайней, больш лагодна і ціха, а для кагосьці, наадварот, мастацтва — гэта экспрэсія і шквал пачуццяў, для іншых жа — неабходнасць і немагчымасць іншага шляху. Мы не рыхтуем аднолькавых мастакоў, дызайнераў, акцёраў. У гэтым няма сэнсу. Магчыма, сучасныя маладыя мастакі будуць горш валодаць тэхнікай «туш-пяро», але калі б у наш час быў Corel, то, можа, і мы паадкідалі б свае пёркі!



**— Існуе шмат меркаванняў, часам і такія: мастацтва, маўляў, зусім не праца, нешта несур'ёзнае, лёгкае... Як жа насамрэч?**

— Сапраўды, часам здаецца, што мастакі — людзі дужыя і здаровыя, а займаюцца нейкай там графікай альбо малой ювелірнай формай. Аднак мастацтва — далёка не суцэльны адпачынак! Гэта праца, якая патрабуе канцэнтрацыі, волі, спрэчак з самім сабой і з віртуальным гледачом. Гэта ўступленне нават не ў дыялогі, але ў палілогі, пасля якіх нарэшце, можа, і ўдасца зрабіць рэч, якая будзе дасканалай не 5-10 хвілін, а стагоддзі. І гэта патрабуе, магчыма, і незаўважнай, але каласальнай энергіі. Мы часам не ведаем і не бачым, што адбываецца за сценамі майстэрні, як ствараецца мастацкі твор, які яго шлях ад эскіза праз мадэль да вынікаў.




**— Навучэнцы Акадэміі — таленавітыя, геніяльныя? Хто імі становіцца?**

— Гаварыць у сценах Акадэміі пра «геніяў» абсалютна непедагагічна. Гэта пытанне вырашаецца па-за сценамі нашай установы — грамадскасцю. У нашай Акадэміі мастацтваў навучаецца 1300 студэнтаў усяго, а на курсе займаецца па пяць-шэсць чалавек. Вельмі высокі конкурс пры паступленні: каля 7-10 чалавек на месца. У нас няма выпадковых людзей — выбраныя сярод выбраных. Напрыклад, для таго, каб паступіць на графічны факультэт ці скульптуру, трэба мець ужо пэўную падрыхтоўку, якая не прадугледжана ў сярэднеадукацыйнай

# ЛЕПШАЯ ЎЗНАГАРОДА — ЖЫЦЦЁ!












школе ці гімназіі: да абітурыентаў патрабаванні, як да выпускнікоў мастацкіх каледжаў. Праўда, сёння час інфармацыйнай прасторы, што кампенсуе многія фармальныя працэсы. Можна не навучацца ў каледжы, але прайсці навучанне ў прыватнай студыі. Падчас іспыту важны вынік творчай працы, які павінен адпавядаць уступным патрабаванням, а не асабістая справа абітурыента, дзе пазначана ў каго, дзе ён вучыўся і лаўрэтам якіх конкурсаў з'яўляўся.

**— Сёлета адзначаецца 70-годдзе Вялікай Перамогі. Некаторыя навукоўцы і аматары гісторыі аспрэчваюць сам факт перамогі…**

— Я сутыкаўся з сітуацыямі, калі гэты факт аспрэчваўся. Аднойчы, патрапіўшы на такое абмеркаванне, я сказаў: «Тэма вайны — адна з каардынальных тэм мастацтва, гэта вялікая тэма, але і тэма перамогі — не меншая». Калі пэўныя людзі сцвярджаюць, што тэма Вялікай Айчыннай вайны — гэта сацыялізм і неактуальна, то я прыгадваю Васіля Быкава, бо ён якраз пісаў у асноўным пра яе. Адносна нашага конкурсу плакатаў, прымеркаванага да гэтай даты, хачу адзначыць, што гэта найперш конкурс патрыятычнага плаката, які ў бягучым 2015 годзе закранае тэму перамогі ў вайне. Патрыятычны плакат — гэта не толькі 9 мая 1945 года. Панарама гэтага конкурсу нашмат багацей і глыбей, як і паняцце патрыятызму, якое ўключае любоў і да маці, і да Радзімы, і да гісторыі, дзе ёсць свае перамогі, свае паразы і трагедыі.

**— У 1994 годзе ў часопісе «Спадчына» быў надрукаваны ваш артыкул «Плакат эпохі таталітарызму». Калі б прыйшлося вызначыць асаблівасці, тэндэнцыі сённяшняга плаката, то якім бы мог быць загаловак? Як бы вы акрэслілі сучаснасць?**

— Не бяруся акрэсліваць сённяшні час у некалькіх словах, знаходзячыся ў ім. Але для мяне ён надзвычай цікавы тым, што гэта мой час. Я яго бачу з сярэдзіны і знаходжуся ў захапленні ад многага, адчуваю і хвіліны шчасця, і перажываю драматычныя моманты. Лічу, што для мастацтва наш час вельмі сур'ёзны і важкі. Павярхоўна ставіцца да ўсяго, што адбываецца, і лёгка раздаваць пэўныя ярлыкі, як гэта рабіла інтэлегенцыя ў 1970-я, называючы штосьці «застоем», а штосьці «адлігай», я не буду. Пасля чарнобыльскай трагедыі шмат што змянілася ў нашых адносінах да свету, мы сталі больш засяроджанымі на ўласных праблемах. Прыгадваецца момант з дзяцінства, калі я зразумеў, што пра высыханне Аральскага мора ведаю больш, чым пра Белавежскую пушчу. Цяпер мала таго, што аб'ездзіў усю Беларусь на аўтамабілі, я проста зачараваны прыгажосцю краявідаў, замкаў, каналаў, «помнікамі альгердам»… Мастацтва — гэта дадатковая магчымасць уважліва задумацца пра лёс краіны і дзяцей — і нешта зрабіць. Нескладана ёрнічаць наконт рэчаіснасці, націскаючы кнопкі клавіятуры, становячыся чэмпіёнам свету ў гэтым у інтэрнэт-прасторы. Трэба паспрабаваць выйсці ў рэальнасць!

Плакат — гэта лакмусавая паперка, якая распавядае пра стан культуры, рэкламны плакат — пра тое, у якім стане вытворчасць. Калі няма чаго рэкламаваць, то і няма рэкламнага плаката. Я не гісторык, не палітолаг, каб адным словам ахарактарызаваць цяперашні час. Я, паўтаруся, знаходжуся ў сярэдзіне гэтай сістэмы і не маю гістарычнай дыстанцыі, падпарадкуюся таму, што вызначаць нашы спецыялісты, якія любяць Беларусь.

Для мяне час, у якім я жыву, паўтаруся, надзвычай цікавы. І, як сцвярджаюць людзі рацыянальнага мыслення, жыццё праходзіць адзін раз, і мы не маем магчымасці любіць сваю краіну ў нейкі іншы час. Таму я люблю яе цяпер, я ёю натхняюся, я ёю ганаруся.

*Гутарыла Аксана ЮЧКАВІЧ*

Вераніка ПУСТАВІТ

# ЛЕКІ ДЛЯ ДУШЫ



***Вераніка Пуставіт нарадзілася 9 лютага 1994 года ў Мінску. Вучыцца ў Інстытуце журналістыкі БДУ. Працуе спецыяльным карэспандэнтам у газеце «Звязда». Лаўрэат літаратурнага конкурсу Саюза пісьменнікаў Беларусі «Славянскі калейдаскоп» (2014), пераможца конкурсу «Ладошка» ў намінацыі «Лепшы сцэнар да сацыяльнага відэароліка» (2014).***

## АРЫТМІЯ

***— Мама, я напісала верш са складаным рытмам і назвала яго «Арытмія».***
***— Адразу бачна, што ты — дачка доктара.***

Нашаму з вамі ліставанню трыццаць два тыдні.
То бок праз месяц у нас павінна штосьці нарадзіцца.
Ужо абмеркавана пад дзясятак слушных фільмаў,
Плюс асаблівасць падпалескіх
спеўна-танцавальных традыцый.
Наскокам пракінулі адзін праз аднаго сотні песняў.
Вершаў чортаў тузін. Прозы стос вялікі, непад'ёмны.
У сацыяльных сетках, ведаеце, стала цесна,
І радуе ўжо значна больш экран заўжды цёмны.
Так душаць памінальныя сустрэчы раз на сорак дзён
З вамі. У дадатак — тэлефанаванні раз на дзесяць.
Я ўжо забылася, як гладзіце маіх валасоў лён,
Але штодзённа пішаце ў vk каторы месяц.
І вось я засынаю пад інтэрнэтнае «дабранач».
І коўдра абдымае, збірае з думак ямбы.
Калі б не цеплыня да вас, што грэе сэрца нанач,
Не друкаваць бы зраніцы: «Ну як вы?».

## ЧЫМ ЛЕЧЫЦЦА ДУША

Душа лечыцца не словамі.
Яны толькі тэрмінова,
Як анальгін,
Прыбіраюць боль
І вяртаюць яго,
Калі губляюцца
У закутках думак.
Душа лечыцца не стасункамі.
Знешняе не здольна
Забіць чарвяка,
Які з'ядае
Яблык душы чалавека

Знутры.
Душа лечыцца не помстай.
Гэтак мы самі
Капаем сабе яму
Да дна адзіноты і злосці,
Якую пасля не запоўніць
Урадлівай глебай.
Душа лечыцца ўчынкамі,
Малітвай зранку і ўвечары
І асэнсаваным выбарам.
Душа лечыцца толькі тады,
Калі мы вырашаем
Зрабіць яе здаровай.
Назаўжды.

## УРБАНІСТЫЧНАЕ

Бам! Першая.
Бам-бам! Пайшоў.
Завітайма на новае шоу!
Хто з вуліцы не сышоў — выбачай
Ды хутчэй адкрывай парасон.
…І тут жа раптоўна —
Скон
Для дажджу,
Што горад
Халодным напоем
У хвіліну адну супакоіў.

## МОЙРЫ

Шоўкам працяў
мае летуценні
час.
Ножыкам чырк —
і няма больш
танюткай карціны.
Клато саткала
жыццё мне
і вас.
Лахес аддала
у вершах мне
паланціны.
І толькі Атрапас
вам сшыла
дзяўчыну
па проймах —
мяне,
але з сэрцам чужым.
І вось я ўглядаюся
падсвядома
ў тканіну,
Дзе прадпісана
мне трэцяю быць
для дваіх,
Дзе я вас
ніяк
не пакіну.

## БЕЗДЗЕЯСЛОЎНА

Валошкі ў кубку.
Кошка на ложку.
Будзільнік а шостай.
Кіпень а сёмай.
Пірог да гарбаты.
А восьмай — дахаты.
А дзявятай — пабег.
З таполікаў снег.
Маміна ўсмешка.
Да лецішча сцежка.
Клубніцы арома…
Бездзеяслоўна
Я — дома.

*Святлана МАГІЛЕЎЧЫК*

# АПАВЯДАННІ



***Святлана Магілеўчык нарадзілася 28 чэрвеня 1980 года ў вёсцы Васількі Бялыніцкага раёна. Скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум, цяпер працуе карэктарам у Бялыніцкай раёнцы. З-за працы закінула сваё «пісьменніцтва» на самую далёкую паліцу. Зараз паціху дастае...***

## ЯНЫ ІДУЦЬ

— Яны ідуць! — гучала з кожнага завулка ў Горадзе.

— Мінакі ўжо блізка, — шапацеў рэпрадуктар. — Замыкайце крамы, хавайце малых дзяцей, адмаўляйце незнаёмым людзям у начлезе і вячэры, абмяжуйце ўсе выхады ў калідоры і на адкрытыя пляцоўкі.

Горад знаходзіўся глыбока пад зямлёй. Ён быў вялікі, некалі нават вельмі вялікі. Калі чытаць падручнік гісторыі, якую вывучаюць у школе, то можна адтуль даведацца, што ў далёкім мінулым людзі жылі высока на паверхні, але здарылася так, што ім стала пагражаць небяспека, і пад зямлёй быў пабудаваны вялізны горад, які засялілі ўцекачы зверху. Біяр не чытаў падручнікаў, а па гісторыі — тым больш. І школу не наведваў ужо даўно. Ад тае пары, калі падземныя воды затапілі некалькі калідораў. Гораду адчайна не хапала рэсурсаў, таму людзі бурылі праходы далей і далей, шукалі спажывы, каб хоць на кароткі час працягнуць сваё нягеглае жыццё. Калі на шляху трапляліся вялікія пусткі, туды адвозілі смецце або будавалі там каменныя пляцоўкі. Гэта былі таксама месцы, дзе збіраўся народ, каб вырашыць важныя справы або правесці сціплыя святы. Нельга было грукацець, хутка бегаць, гучна размаўляць, бо абвалы былі вельмі частыя і лёгка маглі сапсаваць палову Горада. Біяру было шаснаццаць, калі падчас такога абвалу загінуў бацька. Сям'я згубіла галоўнага карміцеля, і маці вызваліла сына ад заняткаў у школе, бо стала цяжка ўтрымліваць дваіх дзяцей адной, а маленькая прадуктовая крамка амаль зусім не прыносіла прыбытку.

— Біяр, цяпер ты будзеш галоўным у нашай сям'і, — аднойчы пасля сняданку сказала мама. — Будзеш насіць глебу для агарода, падмяняць мяне, калі я адпраўлюся на пошукі прадуктаў у Стары Горад. Фрыя будзе хадзіць у школу, дзяўчынцы больш, чым табе, патрэбна адукацыя.

— Давай лепш я пайду ў Стары Горад! — усклікнуў Біяр, а потым згадаў, што павышаць голас нельга, і перайшоў амаль на шэпт: — Мы з татам бывалі там неаднаразова, я не згублюся.

— Нават не думай, — грозна прамовіла мама. — Я не перажыву, калі ты загінеш.

— А ты?

— І я рызыкую, — вельмі ціха сказала мама. — Але калі з табой што-небудзь здарыцца, то мы з Фрыяй будзем асуджаны на галодную смерць. Нам ніхто не дапаможа.

Біяр моўчкі накіраваўся да пакінутай ім працы. Раней у іх былі два пакоі, шмат месца, а цяпер значную частку займала цяпліца: кожны больш-менш пусты кавалачак прасторы мама старалася запоўніць агароднінай, каб хоць крыху прадаць і неяк перабіцца самім. Але і людзі навокал былі небагатыя, шмат тавару бралі напавер, потым адпрацоўвалі або забываліся вяртаць.

Калідоры, па якіх усе рухаліся, былі вельмі вузкія. Не хапала перакрыццяў, буравыя ўстаноўкі зношваліся, а пра тое, каб вярнуцца на паверхню, нават размовы не было. Гэта было найстражэйшым чынам забаронена. Але знаходзіліся тыя, хто выступаў супраць правіл.

Такіх людзей называлі Мінакамі.

Яны з'яўляліся не надта часта.

Яны рухаліся невялікімі групамі па чатыры-пяць чалавек…

Яны ішлі праз Стары Горад.

Яны ішлі на паверхню.

Мінакі былі выгнаннікамі.

Іх нідзе не прымалі, не прадавалі ім ні ежы, ні адзення, не пускалі на начлег. Мінакоў баяліся — асабліва, калі яны пачыналі гаварыць. Са знаёмых Біяра двое пайшлі за Мінакамі. Назад не вярнуўся ніхто.

Назад ніхто ніколі не вяртаўся. Гэтая акалічнасць насцярожвала людзей і прымушала іх не ўступаць ні ў якія стасункі з падарожнікамі.

Біяр зачыніў краму, хуценька адвёў сястру ў пакой і загадаў сядзець вельмі ціха. Маці прымацавала да дзвярэй вялікую засаўку. На калідорах павыключалі святло, пакінулі толькі аварыйныя ліхтарыкі. Усе сядзелі моўчкі і чакалі. Раптам яны пачулі дробны грук у дзверы.

— Нікога няма дома, а я вам не адчыню, — сказала мама тым, хто быў за дзвярыма.

— Рэмі, гэта ты? Я пазнала твой голас, — пачулася з-за дзвярэй. — Я — Марта. Памятаеш мяне?

— Марта? — мама пацягнулася было да засаўкі. — Ты не адна?

— Са мной людзі, — сказала жанчына. — Гэта мае родныя. Пусці нас, калі ласка. У нас ёсць ежа, мы заплацім табе за некалькі гадзін адпачынку. Мы тры дні не бачылі святла, вельмі змарыліся. Нам патрэбна няшмат.

Мама прыбрала рукі Біяра, які паспрабаваў яе затрымаць, і адсунула засаўку. Людзі зайшлі ў пакой і моцна зажмурыліся ад сціплага святла. Твары іх былі вельмі бледныя, па шчоках каціліся слёзы. Біяр схапіў Фрыю за руку і загарадзіў сабою маці.

— Вітаю вас, — сказала жанчына, якая назвалася Мартай. Яна ўжо агледзелася, яе вочы крыху абвыкліся. — Вялікі дзякуй, што прывецілі нас. Гэта мае родныя. Брат Кард, ты яго не памятаеш, Рэмі. Калі мы з табою апошні раз бачыліся, ён яшчэ не нарадзіўся. Мая дачка Нэн і мама. — Людзі нізка схіліліся перад гаспадыняй. Так яны выказалі вялікую павагу да тых, хто прыняў іх. Біяр рэзка накіраваўся да выхада.

— Я прынясу вады! — сказаў ён першае, што прыйшло ў галаву, і выскачыў вонкі. На калідоры хлопец крыху аддыхаўся. Спачатку хацеў папярэдзіць уладу, але

потым усё ж перадумаў, набраў вады і марудна пакрочыў дадому. Ён чакаў убачыць Мінакоў — суровых, загартаваных нягодамі мужчын, а гэтыя… Бездапаможныя жанчыны, дзяўчынка і хлопец прыблізна яго ўзросту.

— Цябе ніхто не бачыў, пакуль ты хадзіў па ваду? — насцярожана спытала мама.

— Не, — адказаў Біяр. Ён падаў вады прыхадням, дапамог ім размясціцца. Мама тым часам прапанавала нечаканым гасцям сціплы полудзень.

— Твой сын стаў сапраўдным мужчынам, — парушыла няёмкае маўчанне Марта. — Калі я яго бачыла ў апошні раз, ён быў зусім маленькім.

— Яму давялося клапаціцца пра нашую сям'ю, калі… калі Холдэн памёр. Зараз мы перажываем не самы лепшы час. — Ціха прамовіла мама.

— Холдэн памёр? — здзіўлена спытала Марта. — Не можа такога быць! Рэмі, ты нешта не дагаворваеш.

— Для мяне ён памёр, — суха адказала мама. З яе вачэй пацяклі злыя слёзы. — Ён стаў Мінаком, як і вы. А гэта значыць — памёр.

— Мама, — усклікнуў Біяр, — значыць тата — жывы? Чаму ты не сказала нам, што ён стаў Мінаком? — Рэмі падышла да сына і прытуліла яго галаву да сябе.

— Таму, — сказала яна, пільна ўглядаючыся яму ў вочы, — што тата пакінуў нас. Ён паабяцаў, што вернецца, але Мінакі ніколі не вяртаюцца. Яны гінуць. Я была супраць, каб твой бацька станавіўся Мінаком, і таму засталася. А вось цяпер ты, Марта… Ты ідзеш у невядомае…

— Не, я ведаю, куды іду, — твар Марты прасвятлеў. — Мы ідзём на паверхню, там ёсць сонца, свежае паветра, вецер, акіяны, горы! Там жывуць людзі!

— Лухта і мана! — прамовіла мама. — Вас абдурылі, абвялі вакол пальца! Нашы ўлады колькі год шукаюць выйсце, але ніхто ніколі не дабіраўся да паверхні, таму што яе няма!

— Я змагу даказаць табе адваротнае, — Марта адхіліла халяву аднаго бота і выцягнула адтуль кавалачак паперы. Гэта была карцінка з нейкай старажытнай кнігі. На ёй — выявы неба, сонца, гор, якія блакінымі хвалямі абмывае мора. Карцінка была крыху папсаваная, але гэтага было дастаткова, каб Біяр з павагай стаў глядзець на новых знаёмых. Марта беражліва схавала малюнак назад у абутак.

Рэпрадуктар на сцяне раптам ажыў і зашамацеў сваім металічным голасам:

— Надзвычайная сітуацыя! Забіты мэр Горада! Забіты мэр Горада! Ёсць меркаванне, што гэта зрабілі Мінакі. Настойліва просім вас не выходзіць з дамоў, да вас прыйдуць супрацоўнікі аховы. Той, хто затрымае Мінакоў, атрымае вялікую ўзнагароду!

Твары Марты і яе родных збялелі.

— Нас могуць знайсці, Рэмі, — ціха сказала жанчына. — Мы не будзем рабіць табе непрыемнасці. Зараз жа пойдзем далей.

— І куды? — спытала маці Біяра. — Твае родныя змарыліся, ім патрэбны святло і адпачынак. — Яна падышла да малой Нэн, якая заснула на руках у бабулі, і прыкрыла яе коўдрай.

— Біяр, — звярнулася Рэмі да сына, — пабудзь з нашымі гасцямі, а я буду размаўляць з аховай. — Марта падазрона зірнула на былую сяброўку, але тая працягвала:

— Не хвалюйся, я не здам цябе ўладам. Памятаеш, з намі часта хадзіў хлопчык з суседняй вуліцы?

— Прыпамінаю, — нясмела адгукнулася госця.

— Яго звалі Холдэн, як і майго мужа. Зараз ён начальнік аховы на нашым участку. Ён верыць Мінакам, мой муж некалі сябраваў з ім. Я пастараюся пера-

канаць яго, каб не рабіў у нас пераструс. Вам выходзіць вельмі небяспечна, трэба пачакаць нейкі час.

— Дзякуй табе, Рэмі, — расчуленая Марта абняла гаспадыню. — Я нават не ведаю, як табе дзякаваць, нам проста неверагодна пашчасціла, што мы патрапілі да вас!

У дзверы пагрукалі. Рэмі крыху прыцішыла святло і выйшла на калідор. Гэта былі прадстаўнікі аховы. Але Холдэна з імі не было.

— Мы павінны агледзець вашае жыллё, мадам, — гаварыў малады службовец, апрануты ў навюткую форму з бліскучымі знакамі адрознення. — Мінакі прадстаўляюць сур'ёзную небяспеку для грамадства, таму мы просім вас расказаць пра тых, хто пражывае ў вас дома.

Ахоўнік, відаць, распачаў службу не так даўно, таму працу сваю імкнуўся выканаць належным чынам.

— А дзе Холдэн? — спытала Рэмі, каб крыху адцягнуць час.

— Ахоўнік Холдэн хутка з'явіцца, — адрапартаваў службовец. — Я маю права зрабіць у вас агляд. Дазвольце зайсці.

— Калі ласка, — Рэмі адчыніла дзверы. Яе сэрца жаласліва сціснулася.

— Хто гэтыя людзі? — спытаў ахоўнік. — Мінакі?

— Гэта мае сябры, — адказала Рэмі. — Яны прыйшлі з другога канца горада наведаць мяне.

— Вы падманваеце ахову, — цвёрда сказаў службовец. — За гэта вы будзеце арыштаваны, а Мінакі пакараны. — Збірайцеся, — крыкнуў ён на Марту і яе родных.

— Не маеце права! — закрычала Рэмі і ўчапілася рукамі ў новы мундзір ахоўніка. — Мы сапраўды не бачыліся шмат часу. Хадзіць у госці ў нашым Горадзе не забараняецца, — узнікла кароткая валтузня.

— Вы будзеце пакараны і за супраціўленне ўладам, — працягваў ахоўнік. Ён збіраўся выклікаць дапамогу. Рэмі села на падлогу і закрыла вочы рукамі. Паніклая, адчужаная Марта збірала немудрагелістыя рэчы. Кард і Нэн прачнуліся і са страхам глядзелі на ахоўніка.

— Што тут адбываецца? — здалёк пачуўся знаёмы голас, і ў пакой шпарка ўвайшоў начальнік аховы Холдэн. За яго спінай сціпла пераступаў з нагі на нагу Біяр. Ён, скарыстаўшыся валтузнёй, прывёў Холдэна, каб той заступіўся за Мінакоў. Ён яшчэ не ведаў, што той неаднаразова дапамагаў Мінакам. Але ў Біяра была цудоўная памяць, і ён уважліва прыслухоўваўся да размовы дарослых.

— Ахоўнік Холдэн! — малады службовец аддаў яму чэсць. — Я маю намер далажыць вам, што затрымаў Мінакоў і гэтую жанчыну, — ён паказаў на Рэмі, — якая аказала супраціўленне ўладам Горада.

Твар Холдэна асвяціла шырокая ўсмешка. Ён шырока раскінуў рукі і пайшоў да Марты. Прысутныя стаялі з разяўленымі ад здзіўлення ратамі.

— Ага! Вось ты і папалася, павучок на цыбатых ножках! — салодкім голасам прагаварыў Холдэн. — Колькі гадоў я шукаў цябе і не мог ніяк знайсці! Марта, якой ты стала прыгажуняй! Як даўно я цябе не бачыў! — ён радасна абняў аслупянелую Марту, а потым азірнуўся на ўсіх астатніх. — А вы што застылі?

Сітуацыя выглядала вельмі камічна. Біяр пачаў ціхенька пасмейвацца ў жменю, маці таксама. Ахоўнік няёмка пераступаў з нагі на нагу і раз-пораз папраўляў свой мундзір. Марта таксама заўсміхалася.

— Але ж добра, — працягваў Холдэн. — Прабачце, у нас надзвычайная сітуацыя, я павінен ісці. Вы пачакайце мяне, я абавязкова зайду да вас пасля змены, яна скончыцца праз пяць гадзін.

— Будзем чакаць! — з усмешкай прамовіла Марта.

Холдэн выйшаў, і малады ахоўнік пабег услед за ім.

— Што здарылася? Чаму вы іх не затрымалі? — пытаўся ён, — гэта ж Мінакі. Вы што? Не бачыце?

— Гэта мае сябры дзяцінства, — адказаў Холдэн. — Яны сапраўды прыйшлі ў госці. Я спадзяюся, што ты зразумееў мяне? — уважліва паглядзеў ён на падначаленага. — А цяпер пойдзем далей. У нас сёння процьма спраў.

— Вы не баіцеся, што заўтра Мінакі могуць прыйсці да вас? — ціхім шэптам спытаў малады чалавек. — Што яны могуць паклікаць вас з сабою?

— Не баюся!

— І пойдзеце разам з імі ў невядомае? — зрабіў вялізныя вочы ахоўнік.

— Канешне пайду. Яны ведаюць, куды ідуць.

Як толькі ахова выйшла з дома, жанчыны крыху перавялі дух, а Марта ліхаманкава пачала збірацца.

— А вось цяпер нам і сапраўды трэба ісці, — сказала яна. — Гэты малады чалавек хоча выслужыцца і абавязкова выкрые нас уладам. У нас ёсць некалькі гадзін. Я кепска ведаю гэтую частку Горада, а мапы, на жаль, у мяне няма.

— Біяр правядзе вас! — абнадзеіла сяброўку Рэмі.

— Твой сын?

— Ма-а-ам, ты сур’ёзна? — не паверыў сваім вушам хлопец. — Але ж ты…

— Т-с-с! — перапыніла яго мама. — Я ведаю, што ты дойдзеш. Апошнім часам Мінакоў становіцца ўсё больш і больш. Значыць, у гэтым ёсць нейкі сэнс. Я магу падацца вам вар’яткай, але некалькі хвілін таму я думала зусім іначай. Вы — такія бездапаможныя, без Біяра вам будзе цяжка. Ды і яму з вамі прыйдзецца нялёгка. Але я веру ў свайго сына. — Біяр парывіста абняў маці. — І я папрашу цябе, — звярнулася яна да сына, — пасля таго, як ты выйдзеш на паверхню, вярніся за сваёй старэнькай матуляй, я хачу таксама пабачыць сонца. — Яна змахнула некалькі сціплых слязінак.

— Рэмі, хадзем з намі, — ціха прамовіла Марта.

— Я не магу… Пакуль… — адказала ёй сяброўка. — Гэта так цяжка для мяне… — яна падштурхнула свайго сына да Мінакоў і зачыніла за імі дзверы. Потым павольна прысела на тапчанок і заплакала. Фрыя, якая засталася з маці, спешна падбегла да яе, абняла. Так яны і заснулі разам. Праз чатыры з паловай гадзіны ў іх кватэру ўварваліся ўзброеныя да зубоў ахоўнікі. Яны засталі даволі непрыглядную карціну: на падлозе ляжала мёртвая жанчына, а побач з ёй сядзела маленькая дзяўчынка і расчэсвала сваёй ляльцы валасы. Калі ахоўнікі наблізіліся да дзяўчынкі, яна закрычала і закрыла тварык рукамі. Апошняе, што яна ўбачыла, гэта высокія наваксаваныя боты, якія растапталі яе цацку…

Мінакі былі ўжо далёка ў Старым Горадзе. Яны ішлі так хутка, як толькі маглі. Біяр сам неаднаразова праходзіў па гэтых калідорах, і таму ў першы дзень яны змаглі пераадолець вялікую адлегласць. А потым пачаліся праблемы. Людзей у Старым Горадзе было вельмі мала, і падарожнікі іх амаль не сустракалі. Калі хто і праходзіў, то гэта ў асноўным «прамыславікі», якія шукалі, чым пажывіцца, або «пакінутыя» — нямоглыя, старыя і хворыя, якіх Горад выкінуў са свайго нутра. Ахоўнікі самі амаль ніколі не заходзілі ў пакінутыя месцы. Чым далей рухаліся ў Стары Горад, тым менш бачылі святла. І гэта было галоўнай праблемай. Масла для ліхтара скончылася вельмі хутка, і давялося прыкладаць шмат намаганняў, каб захаваць сякі-такі агонь.

Да таго ж у падарожнікаў канчаліся сілы. Запасы ежы і вады вычэрпваліся. Калі яшчэ ваду зрэдку можна было знайсці, то ежу — ніяк. Усё было выграбена ўшчэнт, а што нельга было вынесці з сабой — сапсавана. Найбольш цяжка было бабулі і

малой Нэн. Мінакі па чарзе неслі дзяўчынку, а старую падтрымлівалі пад рукі. Гэта значна замаруджвала іх хаду. Стомленыя цяжкім шляхам, яны апынуліся ў адным з калідораў, па якім было бачна, што там нехта жыве. Мінакі, ледзь перастаўляючы ногі, ўваліліся ў дзверы і паснулі на падлозе.

Біяр убачыў святло. Ён яшчэ ляжаў з заплюшчанымі вачыма, але святло было сапраўдным, цёплым, і гэта вельмі радавала. Хлопец ціха паварушыўся.

— Ён прачнуўся, — аднекуль, як праз вату, пачуўся голас Марты. — Беднае дзіця, ён так стаміўся.

— Біяр вялікі і мужны хлопец, — адказаў ёй чыйсьці да болю знаёмы голас. — Ён сапраўдны малайчына, што прывёў вас да мяне. Вы крыху адпачніце, і тады я адвяду вас на паверхню.

Біяр расплюшчыў вочы і паспрабаваў падняцца. Пакой, у якім ён апынуўся, быў цёплы і светлы. Побач з ім на невялікіх ложках спалі брат і дачка Марты. Па іх роўным дыханні Біяр здагадаўся, што з імі ўсё ў парадку. Марта сядзела ў кутку з нейкім чалавекам, і яны нягучна размаўлялі. Калі чалавек павярнуўся да хлопца, той адразу ж яго пазнаў. Гэта быў яго бацька!

— Тата? — голас хлопца выдаваў хваляванне. — Ты што тут робіш?

Бацька хуценька падхапіўся і абняў сына.

— Я тут працую. Выводжу людзей на паверхню, — сказаў ён. — Як там мама?

— Не ведаю. Я пакінуў іх унізе. Мы вельмі доўга ішлі, стаміліся. Дзе ты быў увесь гэты час?

— Нас не пускае ў Горад ахова, — ціха прамовіў бацька. — Так бы я даўно прыйшоў па вас. Таму я знаходжуся тут.

— А ўзяць сілай? — запытаўся сын.

— І пахаваць пад зямлёй мноства людзей? — татаў твар зрабіўся сур'ёзным. — Ты выйшаў, бо захацеў сам. Нехта — не хоча, кагосьці — не выпускаюць. Мы не ведаем дакладна, колькі людзей знаходзіцца ў Горадзе. Некалькі рухаў — і ўсе збудаванні могуць абваліцца. Уяві, колькі чалавечых жыццяў можна згубіць!

— Адкуль ты гэта ведаеш? — спытаў Біяр.

— Мы пракладалі новыя калідоры. Тады я заўважыў, што ўсё спецыяльна робіцца ненадзейна. Той, хто ведае сістэму размяшчэння калідораў і збудаванняў, можа лёгка заблакіраваць усе выхады. Зрабіць, напрыклад, абвал. І людзі будуць думаць, што гэта — трагедыя, і будуць баяцца.

— Так ты і стаў Мінаком? — падсумаваў размову сын.

— Прыблізна так, — адказаў бацька. — Мінакоў не надта бяруць у разлік, бо рэдкія з іх даходзяць да паверхні. А з тых, хто дайшоў, ніхто не вяртаецца назад.

— Я паабяцаў маме, што вярнуся, — уздыхнуў Біяр.

— Ты вернешся, абавязкова вернешся, — супакоіў яго тата. — А зараз хадзем за мной, я нешта пакажу табе. — Біяр асцярожна падняўся і рушыў услед за бацькам па калідоры. Яны падымаліся ўсё вышэй і вышэй. Навокал святлела, і памяшканне станавілася шырэйшым. Бацька моцна трымаў сына за руку. Першае знаёмства з навакольным светам магло адмоўна адбіцца на адчуваннях хлопца. Нарэшце яны аказаліся перад вялікімі шклянымі дзвярыма. Яны павольна адсунуліся, і ў твар Біяра падзьмула свежае ранішняе паветра. Ён заплюшчыў з усяе сілы вочы і скурчыўся каля бацькавых ног.

— Біяр, — ласкава паклікаў яго тата. — Паглядзі, якая прыгажосць!

Марудна, перамагаючы дрыжыкі ў нагах, хлопец падняўся, абапіраючыся на бацькаву руку, расплюшчыў вочы. Перад ім расцілалася неба, пакрытае белымі аблачынкамі, хвалістай стужкай сінела бясконцае мора. А там, з-за гор, падымалася ласкавае ранішняе сонейка.

## ПАРТЫЯ Ў БІЛЬЯРД

— Дзе ты кажаш, працуе твой дзядок? — спытаў старшы лейтэнант Арцёмаў у свайго лепшага калегі і сябра Паўла Вознага.

— Працаваў раней, — удакладніў той, — медрэгістратарам у паліклініцы… А цяпер — на пенсіі. Давай хутчэй, а то спознімся, прымусім чакаць паважанага чалавека.

— Я не разумею, што мы будзем рабіць з тваім дзедам у більярдным клубе? — зноў спытаў Арцёмаў. — У нас і так вольнага часу мала, а тут яшчэ гэтае недарэчнае забойства.

— Так, зусім яно недарэчы, — пагадзіўся Павел. — Чалавек з-за мяжы прыехаў ладзіць бізнес, і вось… — Возны вытрымаў вялікую паўзу. Іх райаддзел і так стаяў «на вушах». Забойства замежнага бізнесмена падчас гульні ў більярд нарабіла шмат шуму ў горадзе. Міліцыя ў разгубленасці: чалавек толькі прыехаў, ні канкурэнтаў, ні ворагаў ніякіх не паспеў нажыць. Біяграфія, якую даслалі замежныя калегі, самая звычайная: разведзены, шмат працаваў, вельмі любіў більярд…

— Давай хутчэй, — злёгку штурхануў яго ў плечы Арцёмаў. — Я не спаў амаль дзве ночы, які з мяне ігрок?

— Дзядуля мае намер сказаць нам нешта важнае, — адказаў яму Павел, — а ты ж ведаеш, я більярдам не цікаўлюся зусім. Ён і папрасіў, каб я прывёў каго-небудзь накшталт цябе, прафесіянала…

— Ты што? — злосна зашаптаў Арцёмаў, — кожнага сустрэчнага знаёміш са складам крымінальных спраў? — ён пагардліва зірнуў на калегу.

— Выбачайце, маладыя людзі, — прагучаў раптам глыбокі аксамітны голас. Ён належаў падцягнутаму старому ў стыльным шэрым паліто. — Мне здаецца, я прымусіў вас чакаць.

— Нікольki, Стэфан Уладзіслававіч, — радасна звярнуўся да яго Павел. — Знаёмцеся, гэта мой сябар, вялікі аматар більярда Антон Арцёмаў.

— Вельмі прыемна, пан Заборскі да вашых паслуг, — прагаварыў стары прыгожым голасам і працягнуў руку. — Я — вялікі аматар більярда, шкада толькі, няма годных супернікаў.

— Наўрад ці я буду вам сёння дастойным супернікам, — стрымана адказаў на яго поціск Арцёмаў. — У нас на працы надзвычайная сітуацыя, таму больш як на паўгадзіны не разлічвайце.

— Не будзем марнаваць час, — зазначыў стары і яны накіраваліся да вольнага стала. Было бачна, што Заборскага тут ведаюць, хаця сам Арцёмаў нярэдка наведваў гэту ўстанову. Менавіта тут быў забіты замежнік, і Антон быў таму сведкам.

— Гуляеце на грошы? — спытаў Заборскі.

— З вамі? — не зразумеў Арцёмаў.

— Увогуле, — стары прапанаваў яму выбраць кій.

— З вамі магу за ідэю, — усміхнуўся старшы лейтэнант. — А так — толькі за грошы. Більярд — гульня для сапраўдных мужчын.

— Пачынайце партыю, — прапанаваў стары.

Нягледзячы на стомленасць, Арцёмаў пачаў вельмі добра, але і Заборскі не адставаў ад яго, а потым на сукне пачала дзеецца фантастыка. Павел, які назіраў за супернікамі, стаяў увогуле з разяўленым ротам. Яго сталы сябар так віртуозна змагаўся з кіем, што напарніку даводзілася неаднаразова ўхіляцца ад магчымых удараў.

— Яшчэ? — спытаў Заборскі пасля таго, як прайшлі пазначаныя паўгадзіны.

— Можна крыху, — згадзіўся Арцёмаў. — Ваша гульня вельмі добрая, але я бачыў яшчэ лепшую. Тады была проста фантастыка!

— Вы, малады чалавек, гулялі з нябожчыкам? — спытаў дзед.

— Чаму гэта вас так цікавіць? — Арцёмаў падазрона зірнуў на Вознага.

— Крыху знаёмы з матэрыяламі справы, — дзед раптам зрабіў нечаканы ўдар і міліцыянер зразумеў, што прайграў. Ён шпурнуў кій на стол і зрабіў сябру знак кіравацца да выхада.

— Збягаеце з поля боя? — спыніў яго стары. — Я на вашым месцы ненадоўга затрымаўся б.

— Вы паказалі бліскучую гульню, але, на жаль, я не маю часу, — лейтэнант узяў пад казырок.

— Навошта вы забілі яго? — спакойна, нібыта нічога не адбылося, запытаў стары.

— Чаму вы думаеце пра мяне? — твар у Арцёмава выцягнуўся. — Вам не спадабалася гульня? Вам мала? Тады я магу застацца яшчэ на нейкі час. — Ён схапіў са стала кій і з усяе сілы рэзануў па шарах.

— Надзеньце яму наручнікі, Павел, — спакойна звярнуўся стары да Вознага.

— Гэта чорт ведае, што такое, — гучна крыкнуў Арцёмаў. — Адміністратар! — Возны маланкава скруціў яму рукі. — Што ты робіш? Звар’яцеў?

— Вы забілі гэтага чалавека, — ціха, але цвёрда прамовіў Заборскі. Да іх падышоў адміністратар, але Возны прад’явіў яму сваё пасведчанне, і той прапанаваў ім прайсці ў асобны кабінет. Там Арцёмаў ужо не скандаліў, але працягваў бурчаць:

— Збор ідыётаў, дзіцячы садок… Знайшлі крайняга… — Паўлу было шкада сябра, ён таксама нічога не разумеў і чакаў, што будзе адбывацца далей.

— Але ж менавіта вы забілі гэтага чалавека, — Заборскі зноў звярнуўся да Арцёмава.

— Паслухайце, — твар старшага лейтэнанта стаў наліваца крывёю. — Што вы трымаеце мяне за дурня? Зараз прыедзе машына, і тады смяяцца буду я, а вось… Адкуль вы ўвогуле прыдумалі, што я ведаў гэтага чалавека?

— Вы яго не ведалі, — сказаў дзед, — вы проста зрабілі неасцярожнасць і паказалі перад ім сваё майстэрства. А ён іграў нашмат лепш. Ваш кій перакрыў яму сонную артэрыю, на імгненне… Але ў яго было слабое сэрца. Звычайна тыя, хто гуляе з вамі ў смерць, адчуваюць пры ўдары лёгкае галавакружэнне, слабасць… Дні праз тры спыняецца іх жыццё…

— Ну, а матывацыя? — закрычаў Арцёмаў, — якая ў мяне была матывацыя? Не ведаеш, шкодны дзед? — ён прыўзняўся на сваім месцы, але наручнікі і хуткая рэакцыя напарніка прымусілі яго зноў прысесці.

— Якая матывацыя? — пытаннем на пытанне адказаў Заборскі. — Проста чалавек аказаўся не ў той час не ў тым месцы. Ну і яшчэ ваш гонар, малады чалавек. Вы прывыклі быць самым-самым лепшым. Каб я не ўхіліўся ад вас своечасова, то цяпер і для мяне выбіралі б труну…

Арцёмава адвезлі, а Павел яшчэ крыху затрымаўся каля старога Заборскага.

— Як вы так хутка пра ўсё здагадаліся? Я сам нават не ведаў такіх падрабязнасцей, — пацікавіўся міліцыянер.

— Мой хлопчык, калі-небудзь ты зразумееш, што залішні гонар і прага да лідарства могуць любога ператварыць у пачвару. Чалавек, які ходзіць па галовах, сам некалі падставіць пад чаравік сваю макаўку, — стары на хвіліну зірнуў на блакітнае неба. — А яшчэ я быў там і ўсё бачыў. Проста спачатку я падумаў, што гэта няшчасны выпадак.

*Мікіта НАЙДЗЁНАЎ*

# БЛІЖЭЙ ДА РАНІЦЫ



***Мікіта Найдзёнаў нарадзіўся 12 ліпеня 1990 года ў Пінску. Паэт, журналіст, музыкант, лідар гурта HURMA. У 2007 годзе стаў пераможцам Адкрытага маладзёжнага конкурсу паэтаў на «Днях Беларускай і Шведскай паэзіі ў Пінску». Вучыцца ў аспірантуры БДУ і працуе на радыё «Беларусь».***

* * *

Людзей здзіўляю, сам дзіўлюся
І не стамляюся штодня.
Ніхто б не здолеў, не адняў
Мой шар у лузе, шару, лузер.

Штодня гляджуся ў люстэрка,
Ды сам сябе не пазнаю.
А час ганяе плынь сваю.
І што з чаго, вядома зверху.

Сумую па табе, але
Кайфую, калі нешта штырыць.
Я шчасны: мне дваццаць чатыры,
А лепшае ўсё — далей.

**ГЭТЫ ДЗЕНЬ**

Гэты дзень быў удачны,
Я ўдзячны яму.
Пачынаем зіму
Вельмі неадназначна.
Як рамантык-прагматык
Прагне новых галактык,
Плошчаю Перамогі
Крочыць сэрца знямоглае.

Самай доўгаю ноччу
Прасядзелі ў размовах.
Не на гэта зімовыя
Варта ночы скарочваць.
Гэты дзень быў удачны,
Хоць пачаўся так позна,
А надвор'е марознае,
Як навек нешта страчанае.
Ад імбіру з лімонам

Хутка вернецца голас.
Недачытаны Глобус,
Непрагледжаны «...глобус...»
Дачытаць бы яго нам,
Паглядзець бы яго нам…

* * *

Болей сэнсу не ў тым,
каб сыходзіцца, а сыходзіць.
Задыхацца ад нематы,
Нібы хворыя на сухоты.

Не прасіць ні аб чым
І даваць без патрабаванняў.
А пасля ўначы
Аднаму заставацца ў ванне.

Спяць у ложку каты,
Скочуць зранку, галодныя.
А мне б даць лататы
Ад усмешкі лагоднае.

І глядзець, і сачыць,
Каб не ведала нат.
Так сумуе ўначы
Па Зямлі касманаўт.

* * *

Хай праз гэтыя танцы цябе няма,
Я не буду лічыць нястачы.
Дарма.
Танчы.

Да цябе не прыйду на адкрыты ўрок,
Не схаваю ў кватэры цюльпаны.
Скок.
Панны.

Замінала мне нешта. Танцор я благі.
Толькі ён няхай будзе лепшы.
Другі.
Першы.

* * *

Нейкі незразумелы сум,
Хоць я добра ведаю сам,
Што ўсё гэта звычайны сон,
А я дома ў мамы сын.

А ты недзе далёка так,
што між намі аж процьма тых
І не тых. Выбіраю з трох
Тую, што вырабляе ток.

Выраб зроблены — незалік.
Высыхаў на пазногцях лак.
Я лаўлю твой чарговы лук.
Тэлефон выпадае з рук.

* * *

Я быў ва ўсіх яе адтулінах,
Але не ведаю, адкуль яна
Такая вось з’явілася ў жыцці
І як мне быць: пакінуць яе ці

Ісці шукаць вяртання нейкага,
Каб зноў узмахвала павейкамі
І пазірала так нявінна.
Скажы, якая пупавіна

Трымае з ёю, што і месяца
Быць аднаму не атрымаецца.
Усё навокал — яе мецціны,
А унутры, як яе станцыі.

І не дае хады, нібыта
Каменьчык дробненькі ў ботах.
Дай мне нябеснага блакіту,
Скажы: ідзі далей, Мікіта.
А ты трымаеш, ну чаго ты?..

* * *

Не катуй, не пішы,
Мне так лёгка ў цішы.
Ты ўжо не душа.
І не частка душы.

Як было — раўнаваў,
А цяпер зруйнаваў.
І як выйшла, было
Усё далёка не wow,

Як здавалася мне.
Патанай у мане,
Ды мастак не прастак
Хоць і верыць. Я — не.

## БЛІЖЭЙ ДА РАНІЦЫ

Бліжэй да раніцы
Яно здараецца
І накрывае
Мацней за коўдру.
Бліжэй да раніцы
Усё ўспамінаецца
І адчуваецца
Даволі добра.

Бялі някепскімі,
Цяпер аскепкамі
Мы разляцеліся,
Што больш не склеіш.
Пакінь налепкамі,
Ратуйся лекамі,
Якія маеш,
У якія верыш.

А вершы пішуцца,
І ўсё здараецца
Бліжэй да раніцы,
Далей ад ночы.
Адкрыў Манілаўку,
На новай станцыі
Ратую стансамі
Каго захочаш.

Сяргей БЕЛАЯР

# АПАВЯДАННІ



***Сяргей Белаяр (Сяргей Мартынюк) нарадзіўся 19 красавіка 1978 года ў Брэсце. У 2003 годзе з адзнакай скончыў гістарычны факультэт БрДУ імя Пушкіна. Лаўрэат і пераможца айчынных і замежных літаратурных конкурсаў.***

## ЛОГІКА НЕГУМАН

***Фантастычнае апавяданне***

Транспартнае судна «Непатрабавальны мул» перасекла мяжу Сонечнай сістэмы дваццаць другога кастрычніка дзве тысячы сто шэсцьдзясят дзявятага года. На борце было васьмёра членаў экіпажа і адзінаццаць з паловай тысяч тон каштоўнага грузу, які чакалі на Еўропе.

— Хутка мы будзем дома! — летуценна ўсміхнулася Сняжана Гаўрыш і прыціснулася да каханага. Вочы Долмата Раксы гарэлі радасцю, прычынай якой было не толькі ўсведамленне блізкасці спадарожніка Юпітара. — Ты яшчэ не прыдумаў імя для дзіця?

— Калі народзіцца хлопчык, назавём Арвідам, у гонар дзеда...

— А калі дзяўчынка?

— Не ведаю, — Ракса пяшчотна пагладзіў жанчыну па жываце, які пачаў акругляцца, а затым пацалаваў у патыліцу, удыхнуўшы чароўны водар валасоў. — Мне падабаецца Астэрыя.

— А Бажэна?

— Чаму не? — паціснуў плячыма Ракса. — Таксама прыгожае імя... Галоўнае, каб табе падабалася!

— Не, цяпер мы — сям’я. І падабацца павінна нам абодвум.

— Мы занадта розныя для таго, каб мець аднолькавыя густы.

— Мужчына і жанчына павінны быць рознымі, інакш у іх саюзе няма ніякага сэнсу... Праўда, прыгожа?

Гарызонт займаў срэбны россып.

— Ты столькі гадоў у космасе, але так і не перастала захапляцца зоркамі? — здзівіўся Ракса.

— Імі нельга аб’есціся, таму што яны мацнейшыя за любы наркотык... Я буду па іх сумаваць!

— Гэта ж не назаўсёды!

— Я змагу вярнуцца да іх толькі пасля таго, як наша

дзіця стане дарослым, — у голасе Гаўрыш адчуваўся смутак, — а да гэтага... Не хвалюйся, Долмат, я дам рады, бо нас будзе трое!

— Мы можам наняць выхавацеля.

— Мы ўжо гаварылі пра гэта: ані нянечкі, ані дзіцячыя садкі, якімі б выдатнымі яны ні былі, бацькоў ніколі не заменяць!

— Я магу знайсці іншую працу.

— А чым дрэнная гэта?.. Ты будзеш прылятаць на Еўропу. Хай на месяц, на два, але зможаш праводзіць час з дзіцём... Дый дзе ты яшчэ заробіш такія грошы?

У словах Гаўрыш мелася рацыя, таму Ракса палічыў за лепшае прамаўчаць. Ды і навошта лішні раз верадзіць душу?

— Падумаць толькі, я падарыў жыццё чалавеку, і гэты чалавек зможа радавацца яму. Стаць пісьменнікам ці артыстам, будаваць дамы ці кіраваць касмічнымі караблямі...

— Хочаш, каб наша дзіця стала касманаўтам?

— Кім яно будзе, вырашаць яму. Галоўнае, каб прыносіў карысць людзям!

— Ты заўсёды была альтруісткай, — Ракса ўзнагародзіў жанчыну пацалункам і злавіў сябе на тым, што лічыць яе сапраўдным падарункам лёсу.

— А ты не?

Адказаць Раксу не далі.

— Капітан? — ажыў інтэркам.

— Прабач! — Ракса наблізіўся да перамоўнай прылады і націснуў на кнопку. — Слухаю!

— Інвентарызацыя грузу завершана. Пасля выхаду з гіперпрасторы мы нічога не страцілі!

— Добра, Вірмант! Што рэактар?

— Набірае абароты. Праз два тыдні будзем у порце!

— Падумаць толькі — многіх зорак даўным-даўно няма, а святло ад іх працягвае да нас ісці, — сказала Гаўрыш, калі Ракса зноў схапіў яе ў абдымкі. — Што гэта?

— Не ведаю...

Прама па курсе з'явілася воблака, афарбаванае ў блакітныя і ружовыя колеры. Ракса быў гатовы паклясціся, што яшчэ секунду таму гарызонт быў чысты. Памеры воблака імкліва павялічваліся.

«Непатрабавальны мул» не мог ні затармазіць, ні павярнуць...

Спалохацца касманаўты не паспелі. Пачуўся дробны трэск анігіляцыі, які імгненна ўзмацніўся да верхняй крытычнай велічыні, затым судна з жахлівай сілай скаланула.

Згасла святло, і практычна адначасова завыла сірэна.

— Долмат! — голас Гаўрыш звінеў ад спалоху.

— Без панікі! — Ракса ўскочыў і дапамог жанчыне падняцца. — Ты цэлая?

— Так, — Гаўрыш цяжка дыхала. Адчувалася, што яна слаба кантралюе сябе.

— Да вочак!

Перагародку прыйшлося падымаць уручную. Ледзь толькі ўтварылася дзірка, якая дазваляла выбрацца з адсека, як касманаўты нырнулі ў яе. З-за дыму было цяжка дыхаць. Ён лез у вочы, замінаючы арыентавацца.

— Сюды! — Ракса сціснуў руку Гаўрыш і пацягнуў жанчыну за сабой. Лік ішоў на секунды. З кожным крокам дыму прыбывала. Сістэма прымусовай вентыляцыі бяздзейнічала.

— Чаму не загараецца аварыйнае асвятленне?

Замест адказу Ракса сарваў вечка і вырваў з яго дубль-скафандр.

— Апранай! Хутчэй!

Экіпаж любога судна стараліся падбіраць з такім разлікам, каб касманаўты не моцна адрозніваліся адзін ад аднаго па камплекцыі.

На тое, каб апрануцца ў скафандры, сышло крыху больш за хвіліну. Да гэтага часу дым апусціўся да пояса.

— Можаш дыхаць?.. Выдатна, не адыходзь ад мяне!.. Вірмант?.. Вірмант, чуеш мяне?.. Адказвай, Вірмант!

Ні па ўнутраным канале, ні па інтэркаме звязацца з памочнікам капітана так і не ўдалося.

— Мы павінны трапіць на мосцік!

Зрабіць гэта хутка і з найменшай рызыкай можна было толькі праз выхад у адкрыты космас.

Гаўрыш не вагалася.

У суседнім адсеку панаваў вакуум — выбух прабіў наскрозь усе тры пласты ашалёўкі. Пры цьмяным святле зорак была бачная бялявая заслона інею, што пакрываў сцены, падлогу і столь.

Холад абсалютнага нуля. Выжыць немагчыма.

На шчасце, помпа не пацярпела, і касманаўтам удалося хутка адпампаваць паветра. А вось перагародка падымалася з цяжкасцю, прымушаючы губляць каштоўныя хвіліны. Нарэшце шлях быў вольным.

— Чаравікі! — не паленаваўся лішні раз нагадаць пра магнітныя прысоскі Ракса. З космасам жартаваць нельга. Ён, як і раней, заставаўся чужым і варожым. — Гатовая?.. За мной!

Касманаўты ўключылі ўнутраны ціск скафандраў і ступілі ў пустэчу. Па адсеку загулялі прамяні ліхтароў. Да шлюзавай камеры дайшлі без праблем, а вось з люкам зноў узнікла замінка — створкі ніяк не хацелі рассоўвацца.

Ракса і Гаўрыш пасля няўдалай спробы прабіць праход пры дапамозе лома пусцілі ў ход плазменны разак. Промень без цяжкасці прарэзаў тоўсты метал. Замацаваўшы страховачны трос, Ракса першым пакінуў судна.

Ашалёўку «Непатрабавальнага мула» нібы паела воспа. Рознапамерныя кратэры, шчыліны і шчарбіны пакрывалі ўсю пярэднюю частку судна. Дзе-нідзе ў корпусе зеўралі вялікія дзіркі. Усе яны размяшчаліся насупраць адсекаў, дзе знаходзіліся людзі.

Ракса ў думках вылаяўся — ён да апошняга моманту спадзяваўся на тое, што яшчэ каму-небудзь пашчасціла выжыць.

— Пашанцавала, нічога не скажаш.

Гаўрыш заплакала — яна паспела пасябраваць з усімі.

Варта было павярнуць галаву, як у поле зроку трапляла воблака, якое хутка аддалялася. Нічога не сведчыла пра тое, што нейкія паўгадзіны таму яно сустрэлася з «Непатрабавальным мулам».

— Антыгаз... Трагічная выпадковасць... Мы павінны ісці!

Падсвядома Ракса чакаў пытання «навошта», але яно не ўзнікла — на першае месца выйшла дзіця.

Хуткасць была невысокая, тым не менш перасоўвацца па корпусе аказалася справай вельмі няпростай. Няроўная паверхня абцяжарвала счапленне, і з гэтай

прычыны даводзілася пастаянна сачыць за тым, каб цэнтр цяжару ссоўваўся наперад.

Касманаўты былі ўсяго за некалькі крокаў ад мэты, калі «Непатрабавальны мул» патануў у асляпляльнай вогненнай успышцы...

Ракса адчуў, як жахлівая сіла адарвала яго ад корпуса і шпурнула насустрач зоркам. Яго страховачны трос захліснуўся на назе Гаўрыш, тым самым не дазволіўшы ёй адарвацца ад мужчыны.

Палёт працягваўся вечнасць...

Урэшце супраціў інерцыі масы прымусіў касманаўтаў скінуць хуткасць да нуля.

Ракса падцягнуў да сябе Гаўрыш. Жанчына была жывая, але яе твар нагадваў маску. Безвыходнасць. Нават калі б яны і мелі магчымасць паслаць сігнал бедства, выратавальнікам не паспець да таго, як скончыцца кісларод.

Заставалася спадзявацца толькі на цуд. Касманаўты былі рацыяналістамі.

— Чаму, як толькі я знайшла сэнс жыцця, гэтае жыццё ў мяне адбіраюць?.. Хай бы толькі маё, але дзіцячае…

Адзінае, што быў у стане зрабіць Ракса, — схапіць Гаўрыш у абдымкі. Ён не саромеўся слёз. Менавіта праз іх капітан «Непатрабавальнага мула» не адразу зразумеў, што яркая кропка, якая загарэлася на фоне Юпітара, галюцынацыяй не з’яўляецца.

Не маючы магчымасці выцерці слёзы, Ракса прамаргаўся. Кропка пачала набываць строгія геаметрычныя формы. Загарэўся агеньчык надзеі.

— Сняжана! — жанчына не адрэагавала, таму Ракса энергічна страсянуў яе. — Паглядзі туды!

Гаўрыш пакорліва павярнула галаву, каб праз некалькі секунд схамянуцца і закрычаць:

— Гэй, мы тут! Дапамажыце!

Дзве фігуркі ў светлых скафандрах маглі і не заўважыць, а вось атрутна-аранжавы фальшфейер...

Ракса вырваў чаку і адкінуў цыліндр, які выбухнуў воблакам дробнадысперснага пылу. За хвіліну дыяметр воблака павялічыўся ў дзесяць разоў.

Радасць змянілася спалохам — па меры таго, як касмічны карабель скарачаў адлегласць, можна было зразумець, што з тварэннем чалавечых рук ён не мае нічога агульнага.

— Хто гэта, Долмат?

— Здаецца, мы ўсё ж такі не самотныя ў Сусвеце... Браты па розуме завіталі!

— Мне страшна!

— Не бойся, я з табой! — якія яшчэ словы мог знайсці Ракса?

Іншапланетны зоркалёт завіс прыкладна за сотню кіламетраў ад касманаўтаў. Нават на такой адлегласці ён здаваўся велізарным. У корпусе з’явілася дзірка, з яе вылецеў бот. Яму спатрэбілася ўсяго некалькі секунд для таго, каб наблізіцца да Раксы і Гаўрыш.

Не менш за хвіліну бот вісеў без руху, затым падаўся назад і адкрыў люк у выпуклым пузе.

— Што адбываецца? — жанчына паспрабавала прыціснуцца да мужчыны, але пасля таго, як страховачны трос сам па сабе расшматаўся, Раксу з нарастаючай сілай пацягнула да бота. — Не адпускай мяне!

— Трымаю!

Прыцягненне аказалася мацнейшым. Як толькі мужчыну ўсмактала ў дзірку, люк зачыніўся, а бот узяў курс на касмічны карабель.

— Не, пачакайце! Там мая жонка! Вы пакінулі Сняжану! — Ракса рынуўся да люка. Мужчыну адкінула пасля першага ж удару кулаком па метале.

Свядомасць змеркла...

Ачуўся Ракса ў вялікім памяшканні з паўкруглым скляпеннем. У вочы, прымушаючы жмурыцца, біла яркае святло.

Мужчына зрабіў спробу прыкрыць вочы рукой і са здзіўленнем усвядоміў, што не ў стане паварушыцца: рукі, ногі, грудзі і лоб апярэзвалі мяккія, але трывалыя рамяні.

Ля ложка стаялі двое. Відавочныя негуманоіды.

Істоты з цікавасцю разглядалі Раксу і перагаворваліся паміж сабой на свісцячай мове.

— Вызваліце мяне!

Негуманоіды перазірнуліся, пасля чаго сінхронна сціснулі залацістыя абручы.

— Гэта для вашай жа карысці! — у голасе звінеў метал.

— Я патрабую, каб вы неадкладна знялі з мяне рамяні і вярнуліся за Сняжанай!

— Адказ адмоўны!

— Калі вы не вернецеся, яна памрэ ад асфіксіі! У яе вось-вось скончыцца кісларод!

— Адказ адмоўны! Біялагічная небяспека — унутры самкі знаходзіцца чужая форма жыцця.

— Што? — Ракса не адразу зразумеў, пра што ідзе гаворка. А калі да яго дайшоў сэнс, вочы камандзіра «Непатрабавальнага мула» шырока раскрыліся ад жаху.

## СУСТРЭЧНЫ БОЙ

***Навукова-фантастычнае апавяданне***

Свет знік, каб праз імгненне з'явіцца ў выглядзе віртуальнай рэальнасці.

Перад сяржантам Уваравым слалася шырокае поле з рэдкімі дрэвамі. Злева знаходзілася станцыя Прохараўка, справа — лукавіна ракі Псёл, праз якую нямецкае камандаванне збіралася выйсці да Курска пасля няўдалага наступу на Абаяньскім кірунку.

Шлем ствараў ідэальны эфект прысутнасці — камп'ютарная мадэль «World of tanks 2.0» выглядала як сапраўдная. Паветра было чыстым і свежым, цішыня заспакойвала. У параўнанні з першай версіяй гульня рушыла далёка наперад — пачынаючы ад рэжыму «анлайн» і заканчваючы мноствам дадатковых гаджэтаў.

— Гэй, сяржант! — даляцеў да Аляксея голас камандзіра, лейтэнанта Доргаша. — Чаго ўтаропіўся? Залязай! З хвіліны на хвіліну пачнецца артпадрыхтоўка!

— Ёсць у танк! — адгукнуўся ды паспяшаўся заняць сваё месца Увараў, які ў экіпажы быў зараджаючым і наводчыкам. — Прывітанне ўсім!

Таварышы адгукнуліся бязладным хорам галасоў.

— Света, як малы?

— Яшчэ дваццаць пяць—трыццаць перамог — і ў мяне атрымаецца сабраць грошы, неабходныя для выплаты авансу! — адказаў механік-вадзіцель, яфрэйтар Ілья Купчын. Па-за гульнёй — Святлана Літвіновіч, дваццаць адзін год, студэнтка філфака са Смаленска. Яе адзіную з экіпажа старшакласнік мог назваць сябрам. Яны перапісваліся па «асьцы».

— Поспехаў! — пажадаў сяржант, які прымаў чужое гора — у малодшага брата дзяўчыны быў востры лейкоз — як уласнае. Увараў зачыніў люк і правёў позіркам па снарадах, правяраючы гатоўнасць да бою.

— Дзякуй, Лёша! — усміхнуўся аватар. — А ты як?

— Нармальна. Ніяк не дачакаюся, калі буду мець уласны танк!

— Галоўнае — не здавацца! Усё атрымаецца!

— Хацелася б…

Лейтэнант Пётр Доргаш — у рэальным свеце Віктар Пятроўскі, дваццаць два гады, маскоўскі «мажор» — яшчэ некаторы час памаячыў у люку, а затым нырнуў у вежу і спытаў:

— Гатовыя?

— Вядома, камандзір!

— Гатовыя! — кіўнуў Аляксандр Карко. Аватар стралка-радыста насіў Браніслаў Ягелончык, дваццацісямігадовы мастак-афарміцель з Кракава.

— Мінчук, ты як?

— Заўсёды гатовы! — пацвердзіў Аляксей.

— Чакаем! — лейтэнант Доргаш прытуліўся да перыскапічнага агляднага прыбора.

Нягледзячы на тое, што чакаць пачатку бою заставалася нядоўга, хвіліны здаваліся вечнасцю. Увараў увесь знерваваўся і сустрэў першы залп з радасцю і палёгкай. Катаныя пліты і лісты гамагеннай сталі толькі збольшага прыглушалі грукат кананады. Не дапамагаў справіцца з шумам і шлемафон.

Каб адцягнуцца і «забіць» час, Аляксей вырашыў агледзецца. «Трыццацьчацвёрцы» лейтэнанта Доргаша давядзецца дзейнічаць у складзе роты, якая складалася з такіх жа Т-34, англійскіх пяхотных Mk IV «Чэрчыль» і лёгкіх Т-70. Падраздзяленню былі выдадзены самаходныя штурмавыя гаўбіцы СУ-122 і лёгкія штурмавыя гарматы падтрымкі пяхоты СУ-76.

Праціўніка сяржант бачыць не мог, так што пра тыпы нямецкіх танкаў заставалася толькі здагадвацца. Увараў быў упэўнены ў тым, што 5-й гвардзейскай танкавай арміі будуць супрацьстаяць сярэднія T-III, T-IV і цяжкія «Тыгры», узмоцненыя САУ StuG III.

— Пачынаем праз пяць хвілін! — паведаміў па танкавай перагаворнай прыладзе стралок-радыст, каторы сядзеў над сімплекснай радыёстанцыяй.

Увараў адарваўся ад назіральнай шчыліны, зачыніў яе трыплексным шклаблокам і падцягнуўся.

— Пачынаем рух адразу пасля атрымання загаду! Напрамак — саўгас Кастрычніцкі! У выпадку з’яўлення праціўніка — прымаем бой! Пытанні ёсць?

Пытанняў не было.

— Наперад! — скамандаваў Доргаш, калі па радыёстанцыі давялі загад генерал-лейтэнанта Ротмістрава.

Рухавік зароў, і Т-34 жвава ўзяў з месца.

Жалезная лавіна спачатку павольна, а пасля паступова паскараючы тэмп, панеслася наперад.

Трэсла неміласэрна. У сярэдзіне танка грукатала, як у кузні. Паветраачышчальнікі са смуродам дызельнага паліва не спраўляліся — дым лез у нос і ў рот.

Прыкладна праз пятнаццаць хвілін паказаліся варожыя танкі. Сяржант не памыліўся: немцы сапраўды выставілі супраць савецкіх танкістаў Т-ІІІ, Т-IV і Т-VI, за якімі кацілі штурмавыя гарматы.

— Да бою! — закрычаў Доргаш.

Увараў зарадзіў гармату каліберным бранябойным снарадам і далажыў:

— Гатовы!

— Зараз павесялімся! — ухмыльнуўся Пётр. У «World of tanks 2.0» яго прывяла прага вострых адчуванняў. Масквіч любіў рызыку, а ў «рэале» ён быў пазбаўлены магчымасці паказытаць сабе нервы з-за празмернай клапатлівасці бацькоў, якія кантралявалі кожны крок адзінага дзіцяці. Толькі ў гульні Віктар мог «адарвацца» на поўную.

Стралок-радыст кіўнуў. Паляк існаваў дзеля гульні — усё роўна, якая яна. Танкістам ён стаў пасля таго, як насыціўся «S.T.A.L.K.E.R.»-ам.

Поле — роўнае, як стол. Схавацца не было дзе — заставаліся толькі манеўр і хуткасць. Змагацца з магутнымі дальнабойнымі нямецкімі гарматамі ні савецкія, ні англійскія не маглі.

Немцы пачалі бой першымі. Нягледзячы на перавагу савецкіх танкістаў — узыходзячае сонца сляпіла ворага — немцы лёгкімі і большай часткай сярэдніх танкаў атакавалі карпусы Ротмістрава з флангу, тым самым вымусіўшы першы наступаючы эшалон на хаду мяняць напрамак атакі. Сумятнёй, якая ўзнікла ў шэрагах савецкіх танкістаў, скарысталася рота «Тыграў»: пры падтрымцы САУ, часткі Т-ІІІ і Т-IV цяжкая бранетэхніка атакавала чырвонаармейцаў з іншага боку.

Вакол Т-34 Доргаша ўздыбілася зямля.

Увараў злавіў бліжэйшы Т-IV у тэлескапічны прыцэл і крыкнуў:

— Можна!

— Атрымай! — рыкнуў камандзір танка. Услед рушыў стрэл. Аляксей нездарма лічыўся адным з лепшых наводчыкаў — даўбешка ўдарыла варожы танк у лоб корпуса і без цяжкасці прабіла браню. — Гатовы!

Са звонам вылецела з казённіка пустая гільза, запахла порахам.

Сяржант схапіў новы снарад і загнаў яго ў гармату. Своечасова.

— «Тройка» злева! — папярэдзіў лейтэнант, паварочваючы вежу.

Увараў прыпаў да прыцэла, навёў перакрыжаванне на Т-ІІІ і крыкнуў:

— Можна!

Лейтэнант стрэліў. Нямецкі танк рэзка сышоў направа — механік-вадзіцель быццам адчуў, што ў машыну трапіць снарад. Даўбешка ўрэзалася ў зямлю, падняўшы вялікі слуп травы і пяску.

— Прамазалі! Зараджай! Хутчэй!

Аляксей вырваў з кладкі снарад і ўвагнаў яго ў ствол.

На гэты раз пазбегнуць сустрэчы са стрэлам Т-ІІІ не змог. Снарад трапіў яму ў вежу.

— Ёсць! — радасна закрычаў Пётр, але ўжо ў наступную секунду змяніўся ў твары — адзін з «Тыграў», выпусціўшы чорнае воблака дыму, накіраваўся насустрач Т-34. Гармата пачала лавіць цэль.

— Ілья!

— Бачу, камандзір! — адгукнуўся Купчын і, дадаўшы хуткасці, узяў налева, каб праз некалькі метраў спыніцца, павярнуцца на месцы і пакаціць направа. Ад рэзкіх рухаў танкістаў кідала на сценкі.

Для пушкі «Тыгра» пяцьсот метраў — не адлегласць, але варожы стралок здолеў прамахнуцца. Затое прыцэльна паклаў снарад T-IV. На шчасце, браня Т-34 вытрымала стрэл.

— Снарад! — запатрабаваў камандзір танка.

— Можна!

Доргаша апярэдзілі — хтосьці з суседзяў першым падбіў «чацвёрку». Танк атрымаў снарад у стык вежы і задыміў. З люкаў пасыпаліся немцы.

Карко пачаў страляць па ворагу з кулямёта. Пры гэтым на твары Аляксандра не завагаўся ніводзін мускул — паляк набіраў балы. Пераважная большасць удзельнікаў пазбягала знішчэння аватараў, бо адна справа — браніраваныя машыны, а зусім іншае — асобасныя абалонкі. Стралок-радыст быў падобны да робата.

Кожная сотня метраў каштавала сапернікам немалых страт, аднак ні Чырвоная армія, ні Вермахт паварочваць не збіраліся. Перамога значыла занадта шмат...

Баявыя парадкі змяшаліся. Ад прамых пападанняў танкі ператвараліся ў вогненныя шары. Ад дэтанацыі боекамплектаў зрывала вежы, злятаі гусеніцы, адрываліся каткі і распырскваліся кроплі распаленага металу.

Не хацелася і думаць пра тое, як даводзілася дзядам у далёкім сорак трэцім.

Адзіночных стрэлаў было не чуваць — стаяў суцэльны грукат. Поле бою завалакло дымам, і арыентавацца атрымлівалася выключна па сілуэтах. Нягледзячы на тое, што бітва была ўсяго толькі гульнёй, абодва бакі змагаліся адчайна.

Па брані барабанілі аскепкі, кулі і камякі зямлі. З шчылін цягнула выхлапамі і порахам. Ад дыму слязіліся вочы, вымаць снарады з укладак і валізак даводзілася ледзь ці не навобмацак. Ляск глушыў — каб пачуць адно аднаго, танкісты крычалі. Механік-вадзіцель тузаў рычагі і ціснуў педалі. Т-34 то рэзка спыняўся, то іраваўся наперад, то віляў, як папяровы караблік у бурным вясновым ручаі. Доргаш страляў бесперапынку. Эфір ператварыўся ў сапраўдны кацёл чалавечых эмоцый, на радыёхвалях рабілася нешта няўяўнае…

Танкістаў Ротмістрава падвяла рызыка — захопленыя наступленнем, яны патрапілі пад шчыльны агонь StuG III. Нямецкія САУ адзін за адным выбівалі савецкія і англійскія машыны.

Не пашанцавала і экіпажу Доргаша. Кумулятыўны снарад трапіў у левы борт насупраць месца механіка-вадзіцеля. Па Т-34 быццам ударылі кувалдай, адсек у адно імгненне напоўніўся дымам і агнём.

— Пакінуць танк!

Увараў штурхнуў металічны блін і літаральна вываліўся з падбітай машыны. У вачах дваілася, а ў вушах стаяў звон. З рассечанага лба цурчэла кроў.

Сяржант імкнуўся адпаўзці ад танка як мага далей. Баявы камплект — семдзесят сем стрэлаў. Выбухне — Бог душу не знойдзе. Любое раненне, роўна як і пашкоджанне машыны, вяло за сабой зняцце балаў і спісанне грошай з рахунку. Горш за ўсё была смерць аватара — у гэтым выпадку ўдзельнік заставаўся наогул без балаў і грошай.

За дваццаць метраў ад Т-34 знайшлася варонка. Аляксей залез у яе і перавёў дух, а затым прыўзняўся над краем, каб зарыентавацца ў становішчы. З-за дыму і пылу

здавалася, што надышла ноч. Карко ўцякаў у тыл. Страціўшы танк, паляк страціў і цікавасць да «World of tanks 2.0». Аватар лейтэнанта Доргаша рассыпаўся квадрацікамі — «мажор» выходзіў з гульні.

«Добра яму, — са злосцю падумаў сяржант. — Зараз "перазагрузіцца" і ўступіць у бой на новым танку з новым экіпажам!». У адрозненне ад Пятроўскага, для Аляксея выхад з гульні ў самы яе разгар азначаў развітанне з марай.

Купчына нідзе не было відаць.

Увараў выцер рукавом лоб, страсянуў галавой і паспрабаваў знайсці поглядам механіка-вадзіцеля. Неўзабаве старшакласнік здолеў разгледзець у дыме руку, што тырчала з люка. Аўра яфрэйтара адрознівалася насычаным чырвоным колерам і паступова цямнела — аватар атрымаў сур'ёзнае раненне з вельмі высокай верагоднасцю распаду лічбавай выявы.

Сэрца сяржанта ёкнула.

Полымя разгаралася, і дэтанацыя боекамплекту была толькі пытаннем часу.

Увараў нервова праглынуў. У галаве Аляксея круцілася адна-адзіная думка: «Яна страціць усё!» З выкрыццём маскі дзесяцігадовы Інакенцій губляў надзею на лячэнне. Бацькі ў Светы і Кешы не было, а маці піла — разлічваць на яе дапамогу не даводзілася. Родных і сяброў не мелася.

Сяржант сціснуў кулакі і заскрыгатаў зубамі, ліхаманкава спрабуючы адшукаць выйсце. Увараў разрываўся паміж жаданнем дапамагчы таварышу і страхам пазбавіцца заробленых балаў, гэтым самым на няпэўны час забыўшыся на мару.

Агонь усё бліжэй падбіраўся да Купчына. Колер аўры аватара стаў цёмна-чырвоным.

Адмовіцца ад мары было нялёгка. Не менш цяжка аказалася ўсведамляць, што без дапамогі сябра Літвіновіч памрэ. І тое, што смерць аватара была камп'ютарнай, зусім не мяняла справы — шмат чаго залежала ад стану рахунку Светы. Калі б не хвароба брата, дзяўчына даўно магла б мець самы прасунуты танк з падрыхтаваным на найвышэйшым узроўні экіпажам.

Вакол грымелі выбухі, свісталі аскепкі і кулі, рушылі танкі. Увараў нічога гэтага не заўважаў — погляд сяржанта быў прыкаваны да аватара.

Вучань выпускнога класа прапусціў імгненне, калі з падсвядомасці вынырнула думка пра тое, што Перамогі ніколі б не было, калі б усе думалі толькі пра сябе. І гэтая думка дапамагла Аляксею зрабіць выбар.

Увараў ускочыў і рвануў да Купчына, зусім не думаючы пра тое, што здзяйсняе свой першы ў жыцці подзвіг...

*Вольга ПАЎЛЮКЕВІЧ*

# НА НАСТУПНЫМ УЗРОЎНІ СТАЛАСЦІ



***Вольга Паўлюкевіч нарадзілася 1 верасня 1993 года ў Слуцку. Студэнтка 5 курса філалагічнага факультэта БДУ. Друкавалася ў часопісах «Верасень» і «Нёман». Захапляецца кіно, джазам, рукадзеллем у многіх яго праявах, кнігамі і — самае галоўнае — людзьмі.***

## АНЁЛЫ

мы — заплечнікі,
рамяшкі на спацелых спінах сваіх анёлаў
паглядзі, як адзін уздымаецца,
як свае выпроствае крылы —
як паветра прымае яго,
як яму сонца глядзіць у вочы —
ён за спінай нясе беззаганнае,
трапяткое жыццё дзіцяці;
паглядзі, як імклівай ластаўкай
перад восеньскай навальніцай
над зямлёю ляціць бязбоязны
малады златапёры веснік,
ахінае святлом нябесным
узмах яго палымяных крылаў.
у яго за плячамі юнае
гарачлівае сэрца б’ецца;
паглядзі, як ляціць на поўдзень,
у краіну Ягонае Славы
пасівелы анёл,
саслабелы,
зняможаны доўгаю цяжкаю службай.
ён ахоўвае скарб шматпакутнай
неўміручай душы чалавечай;
а адзіны не можа ўзняцца з зямлі
і вольна выпрастаць крылы,
бо ягоныя крылы зламаныя
аб непарушны сталёвы гонар,
бо абпаленыя кіпучым, быццам лава,
гарачым гневам,
бо падраныя чорнаю зайздрасцю,
быццам чорнай варонінай зграяй…
гэта — мой анёл.
памаліся, каб ён узняўся
і здолеў мяне падняць…

* * *

калі адбяруць у мяне і багацце, і ўладу,
пазбавяць і сэрца, і голасу кволае цела,
мяне ахіне, як нябожчыка, цемра і холад
і побач са мной застануцца хіба толькі маці,
сябры,
Бог
І ты.
калі ў напалоханым свеце не стане спагады
і шэрая пустка пачне праглынаць нашых родных,
і маці ў імжы, як апошні агеньчык, патоне,
мяне прымірыць з гэтым добрая Божая вестка,
надзейныя плечы сяброў
і каханне тваё.
калі саслабее рука, што трымае асадку,
і позірк пажоўкне, і стане няўпэўненым розум,
і крокі мае подых хворага сэрца заглушыць,
зракуцца сябры, і душа будзе прагнуць малітвы
і слова твайго.
калі завалодаюць душамі воўчыя зграі,
зачыняцца храмы, зачыняцца дзверы і вочы,
і Бога майго зноў зняважаць і зноў забароняць…
я моўчкі штодзённа яго буду клікаць і славіць
ў абдымках тваіх.
калі ты аднойчы загінеш,
ці знікнеш,
ці здрадзіш,
я знікну, як хмарнаю раніцай цень,
маё сонца.

* * *

пераходзіш наўпрост
на наступны узровень сталасці,
а застаешся такою ж, якою была дагэтуль,
толькі верыць перастаеш канчаткова, што дачакаешся
падрабязнай інструкцыі
па карыстанні светам —
Бог цябе папярэджваў, відаць, у якімсьці далёкім сне,
каб жыла па магчымасці ў згодзе з яго суворaю воляй,
а табе падавалася:
толькі б не закаснець
і занадта не вылучыцца з наваколля.
Бог цябе папярэджваў, відаць,
каб не слухала кепскіх парад,

не сядала ў машыны да незнаёмых
і часцей да Яго наведвалася ў храм, ставіла свечкі ў славу Ягоную.
Ён цябе папярэджваў, а ты наламала дроў,
намяшала ў душы сачавіцы з грэчкай —
перабірай цяпер, адкладай у вядро
крыўды свае і спрэчкі,
непатрэбныя пацалункі, званкі, сустрэчы…
без Яго кіравання ты робішся недарэчнай,
балбатлівай,
нязграбнаю па-старэчаму.
і табе ўжо не сніцца Ягоны Сын,
не супакойвае ўсмешкай сваёй лагоднаю —
застаецца бесперапынна прасіць,
каб дараваў табе гонар твой,
каб дараваў, што не чула Яго зусім…
толькі вецер, нібыта рукою Ягонаю,
так ласкава гладзіць твае валасы…

* * *

ты даўно не чакаеш, што ўсё апынецца як след.
рамантызм за гады стаў не больш як мастацкім кірункам,
ды й табе ўсё адно, з кім старэць, па вялікім рахунку, —
бо жыццё так няспынна, бязлітасна крочыць далей.
шмат яно падарыла табе нечаканых прыгод,
шмат табе паказала любві і пакручаных лёсаў…
У дзяцінстве бабуля казала:
«Жывіце па-боску», —
а цяпер за збаўленнем не пабяжыш наўздагон…
хтось будуе масты — іншы паліць масты за сабой,
нехта пляжыць лясы — іншы пустку засаджвае лесам,
і душа ў гэтым коле жыцця — між зямным і нябесным
не адкажа сабе, у які нават кідацца бок.
і не стане лягчэй, хто б цябе не трымаў за руку
хто б не дыхаў у плечы твае, не сціскаў у абдымках
і бабуліны словы дрыжаць на старых фотаздымках
і гучаць як малітва, якую ты помніш пакуль…

* * *

Ты ў маёй адзіноце няпрошаны госць,
Спадарожнік Зямлі, невядомы дагэтуль,
І цяпер без цябе не існуе Сусвету —
Без цябе гэта неба пустое наскрозь.
Ты прыйшоў навальніцай,

І ў вокнах маіх пасяліўся твой шэпт, перарывісты подых,
Пацалункамі кроплі на вуснах і скронях,
Выкрык,
выбліск маланкі
Адзін на дваіх.
Ты прыйшоў, і мяне падначаліў сабе,
Як магніт, што прыцягвае шпількі ды голкі…
І цяпер мне ляцець за табой наўздагонкі
І імкнуцца паспець…

* * *

Я чытаю цябе у скарочаным варыянце,
быццам добры раман, на які не хапае часу,
ты —
герой скандынаўскіх легенд
і уайльдаўскіх казак,
мой уласны «Сабор Парыжскае Божае Маці».
Мне б на скуры тваёй языком занатоўваць главу за главой,
мне б вычытваць цябе палкім подыхам
да апошняе літары…
Пад тваімі далонямі я
пераўтвараюся ў воск,
і на белых старонках найпростыя словы блытаю.

* * *

я даўно не скаладала рук
на маленне і на прычасце
і адвыкла паклоны класці
і псаломы спяваць Цару;
быццам кожнай з сямі атрут
я напоеная са збыткам —
не карай мяне, не распытвай,
калі можаш, даруй.

* * *

я ў гэтай мове голая
безабаронная
кулі ляцяць над скронямі
вецер пранізлівы свішча
над абшарам, што быў душой,
а стаў папялішчам
я ў гэтай мове бедная,

беспатольная,
вынішчаная ўшчэнт
і смяротна стомленая
ад таго, што словы самыя звыклыя
упіваюцца, як ваўчыныя іклы.
я ў гэтай мове кінутая,
зняважаная,
ёю мяне абражвалі,
з ёю здраджвалі.
словы працягнуты ўпоперак і ўсцяж мяне,
быццам швы ад складанае аперацыі —
той, хто яе не слухае, мае рацыю:
з ёю не пабратацца,
не закахацца,
ў ёй няма ні выходных, ані вакацый —
толькі праца,
знясільваючая праца.

* * *

я ўжо не ведаю, дзе мяжа
між самагубствам і самааналізам.
пульс пачашчаецца,
рукі дрыжаць,
проста калі да цябе дакранаюся,
цела майго кожны дробны нерв
свеціць
распаленай ніткай вальфрамавай.
здужаю толькі адзінае «не» —
не падманвай.

* * *

я з пакалення тых,
хто шукае адрас па гугл-мапах,
плаціць у крамах карткамі і да раніцы танчыць у клубах.
я з пакалення тых,
хто плюе сарказмам і шчэрыць зубы,
асабліва калі ўсё не ладзіцца некалькі тыдняў запар.
я з пакалення крытыкаў
і бязлітасных пракуратараў.
кожнага дня мы змагаемся
невядома з якімі бедамі.
нам не хапае спагады, цярплівасці,
грошай,

і дэмакратыі,
і мільёна іншых рэчаў, пра якія мы самі не ведаем.
я з пакалення тых,
хто святкуе папойкай дзень Перамогі,
хто прачынаецца з хвораю галавой
і чужой дзяўчынай,
хто не цікавіцца бія- ці якой-небудзь іншаю — логіяй,
што не дае магчымасці што-небудзь выкрасці ў Айчыны…
мы — непатрэбныя дзеці неспакойнага новага веку,
і — як трава пры дарозе —
без аховы ў ім пакінутыя.
Божа, вазьмі, калі ласка, нас, дурных,
пад сваю апеку —
выратуй.

* * *

Заставайся адна.
Ты як поўня — бялюткай фарбы,
бо як люстра глытаеш святло.
Ты нібы зямля,
бо ў табе карані, ты — і глеба, і далягляд,
і ў табе Бог схаваў столькі цудаў і столькі скарбаў…
Заставайся адна.
Будзь угнойваннем, будзь галлём,
будзь пясчынкай, будзь кропляй —
найменшай часцінкай свету.
І травінка праз жыцці народзіцца дыяментам —
толькі зараз ёй трэба счарнець,
спапялець вуглём.
Заставайся сабе стрэлкай компаса,
рэхам, гукам —
азывайся, калі хтось у роспачы заблукаў.
Заставайся сваёй,
не шукай, каб не ашукаць —
хай хапае любові любому,
хто ўмее слухаць.

Югася КАЛЯДА

# JE SUIS TON ANGE GARDIEN[1]

*Не стану ждать*
*твоих ответов, ангел, поелику*
*столь плохо представляемому лику,*
*как ты, под стать,*
*должно быть, лишь*
*молчанье — столь просторное, что эха*
*в нём не сподобятся ни всплески смеха,*
*ни вопль «Услышь!»*

Іосіф БРОДСКІ



**Югася Каляда нарадзілася 10 лютага 1981 года ў Гомелі. Жыве ў Мінску. Па адукацыі гісторык і юрыст. Працуе ў галіне рэкламнага бізнесу. Яе кнігу «Галоўная памылка Афанасія» (2005) філосаф Ігар Бабкоў назваў «самым скандальным і контраверсійным літдэбютам дзесяцігоддзя». Творы Югасі друкаваліся на польскай, літоўскай, украінскай, рускай мовах.**

## I

Пасярод аднаго з занядбаных завулкаў, што месціўся ў аддаленым гарадскім квартале, на пыльнай дарозе, аточанай паабапал старымі платамі, старымі дрэвамі ды старымі дамамі, стаяў, прыклаўшы руку брылём да твару, малады хлопец у джынсах ды клятчастай кашулі.

Быў толькі пачатак жніўня, той самы час, калі лета ўваходзіць у сваю найлепшую пару. Нашае непрацяглае лета, нібы авансам на доўгія зімовыя месяцы, на пачатку жніўня залівае гарады сонцам і лянотнай гарачынёй; тады ўсё гарадское жыхарства, прадчуваючы хуткае трымценне пад халоднымі вятрамі, нерухомее пад гэтым сонцам, заплюшчвае вочы і скараецца панаванню гарачыні.

Напоўніцу гарадскую летнюю летаргію можна адчуць толькі ў такіх занядбаных кварталах. Згаданы завулак нібы ўвасабляў сабою сон і нерухомасць. І не было адкуль узяцца ветрыку, які зрушыў бы гарачы жоўты пыл на дарозе, расцярушыў бы хмызы, што скрозь абляплялі платы, а дзе-нідзе нават запаўнялі сабой праломы; і старыя сады, што месціліся ў глыбінях двароў, надзейна ахоўвалі густы выратавальны цень пад сваім галлём. Толькі што даносіўся аднекуль раз-пораз кароткі брэх зморанага сабакі, ды маленькія птушкі былі пачыналі цвыркаць, але хутка змаўкалі. Увесь завулак выглядаў так, нібыта рыхтаваўся да паміранне, не стрываўшы націску часу; здавалася, тыцні нагой любы з гэтых дамоў — і рассыплецца ў пясок уся вуліца, пакінуўшы па сабе адно горкі прысмак пылу ў роце ды такі самы горкі ўспамін.

[1] Я твой анёл-абаронца (*фр.*).

Завулак менаваўся Камуністычным, што вынікала з аблупленай сіняй шыльды, ды, пэўна, адным сваім выглядам ілюстраваў цэлы гістарычны перыяд, маючы на мэце даць навуку будучым пакаленням.

Хлопец, які ўтаропіўся ў адзін з дамоў завулка, пацёр шыю пад вузкім раменьчыкам важкага фотаапарата, які ўжо добра намуляў яму. Хлопца звалі Колем, Міколам; ён меў дваццаць чатыры гады, позірк разумнага чалавека ды пульхныя вусны, якія, хоць і не псавалі ягонага твару, але надавалі яму нейкае падабенства да дзіцяці, асабліва на зыркім святле. Ён, мабыць, даўно прызвычаіўся да гэтае адметнасці свайго твару, таму па звычцы, каб выглядаць адпаведна веку, ссоўваў бровы ды хмурыў лоб. Нават цяпер, пры адсутнасці гледачоў, Міколаў твар выдаваў гэтую міміку, бо Мікола шукаў адказ на вельмі значнае пытанне.

— Не, не бачыў... Або бачыў? Не, не можа быць!

Ён звяртаўся з гэтаю прамоваю да старога дома нумар шэсць два. Дом аслупянела глядзеў на навакольны свет пустымі прагаламі вокнаў усіх сваіх трох паверхаў. Чырвоная фарба фасада сто гадоў як аблупілася: яна адвальвалася ад сценаў разам з вялікімі кавалкамі тынку, агаляючы крохкую, калісьці чырвоную, цэглу. З правага боку дом быў спрэс аплецены вінаградам, і здавалася, што толькі дзякуючы гэтай адважнай расліне пакуль яшчэ не развальваецца.

Такія вось старыя дамы былі аб’ектам Міколавых даследаванняў. Справа ў тым, што Міколка паляваў на гісторыю. Старыя газеты, дзённікі, сшыткі, фотаздымкі, паштоўкі, лісты, — усё гэтае смецце, кінутае колішнімі гаспадарамі, гэтыя сведкі гісторыі — усё гэта месцілася на гарышчах старых дамоў. Кожны, хто больш ці менш шчыльна судакранаўся з навукай Гісторыяй, ведае найвялікшую мару археолага — патрапіць на старажытны сметнік. Такім чынам недасягальны Уладар Час ператварае смецце ў каштоўнасці.

Коля быў гісторыкам паводле адукацыі ды закліку душы. Ужо на першым курсе ён зразумеў, што ягоная мара капаць у Даліне Фараонаў гэтак марай і застанецца, таму ён вырашыў праводзіць раскопкі, якія не вымагаюць ніякіх адкрытых лістоў. Мабыць, ён і парушаў нейкі закон, але пакуль ніхто не прыйшоў па ніводны з ягоных скарбаў.

І вось цяпер Мікола стаяў перад гэтым домам нумар шэсць два ў Камуністычным завулку ды спрабаваў зразумець: чаму ён раней яго не прыкмячаў?

Так і не знайшоўшы адказу, Мікола пастанавіў, што іншых перашкод даследаванням няма, ды, папярэдне акінуўшы вокам завулак, рушыў абыходзіць дом, каб увайсці ў дзверы, што месціліся з боку двара.

Дзверы аказаліся там, дзе ён і меркаваў; дакладней, саміх дзвярэй не было, адно толькі прагал, які адкрываў стромкія сходы ў вантробах двара. Дом будаваўся з разлікам на некалькі кватэр.

— Кватэры — потым! — пастанавіў Коля ды рушыў адразу на гарышча, узрадаваны тым фактам, што сходы былі цэлыя ды не абваліліся пад цяжарам часу.

А гарышча аказалася менавіта такім, якімі і мусяць быць гарышчы старых занядбаных дамоў. Там панаваў дзіўнаваты пах, уласцівы апусцелым памяшканням, даволі прыемны пах — з тых, што спрыяюць настальгіі ды шалёнай юнацкай рамантыцы. Паветра пад дахам, нагрэтае да гарачыні, было шматкроць прарэзана вертыкальнымі сонечнымі слупамі — там, дзе стары бляшаны дах меў пашкоджанні, і шырокі сонечны прамень праклаў сабе шлях упоперак гарышча — ад аднаго акенца да другога.

Карацей, гарышча было выдатнае. Толькі абсалютна пустое.

Так, абсалютна, неймаверна пустое — нават на дашчанай падлозе не валялася ніякага бруду, будаўнічага смецця — нібы нехта акуратна ўсё падмёў. Напэўна, былыя гаспадары і самі належалі да таварыства архіварыусаў ды знеслі па ад'ездзе ўсе дакументы, а заадно і прыбралі па сабе.

— Ну нічога сабе! — вымавіў невымоўна здзіўлены Мікола.

Такога ён, напраўдзе, яшчэ ніколі не спатыкаў.

Ён ужо скіраваўся да выхада, маючы слабую надзею хоць нешта знайсці ў кватэрах, як раптам заўважыў у куце цьмяны бляск амальгамы.

Коля асцярожна, не давяраючы свайму шчасцю, зрабіў колькі крокаў у самы аддалены ды змрочны закуток гарышча, куды не сягаў ніводны сонечны праменьчык. Там, спрэс аплеценае павуціннем, стаяла вялікае, вышэй за чалавечы рост, люстра.

Гэтае люстра нібы наўмысна пакінулі тут. Коля беражліва сабраў з яго павуцінне; відаць, люстра прастаяла некранутае не адзін год: з-пад пальцаў разбягаліся павукі розных памераў ды ўзростаў, сыпаліся пустыя мушыныя абалонкі, матыльковыя крылцы ды абвальваўся зляжалы шмаццём пыл. Коля ачысціў люстра ды абамлеў.

Вось чаго ён не бачыў дык не бачыў! Ён нават не зразумеў, да якой эпохі належыць люстра ды з якой краіны яно прыехала. Асада была шырокая, пэўна, драўляная, але шчыльна пакрытая золатам — не пафарбаваная залатою фарбаю, а менавіта пакрытая нечым незвычайным, бо гэтае золата не лупілася, а толькі набыло з часам дзіўнаватыя адценні. Ды і сам арнамент, выяўлены на асадзе, таксама быў неперадавальна дзіўны. Мікола, які да гэтага моманту лічыў сябе знаўцам гісторыі, ашаломлена кратаў гэтых пачвар: ці то людзей, ці то птушак, ці то ільвоў, — ды ніяк не мог зразумець, што гэта за дзіўны стыль. Натуральна, што да такой шалёнай эклектыкі маглі дайсці толькі сучасныя творцы — а ў некаторых паставах вычварна пераплеценых целаў нават адчуваліся намёкі на егіпецкі канон! — але Мікола вельмі не хацеў вось так адразу ды канчаткова расчароўваць сябе. І нешта яму падказвала, проста няспынна спявала ўвушшу: «Не, не, не! Не, гэта не сучаснасць! Гэта — таямніца, сакрэт, найвялікшая загадка, містыка!» І нават амальгама — о, гэтая недасягальная, таямнічая амальгама! — нават яна была *не такая*, нязвыклая ды дзіўная: занадта глыбокая, занадта цьмяная для амальгамы сучаснага люстра. Нягледзячы на меркаваную старажытнасць, яно цудоўна адлюстроўвала і гарышча з сонечнымі слупамі, і самога Міколу, і абяцала, як апошняму здавалася, адлюстраваць яшчэ шмат чаго — або раскрыць таямніцу свайго паходжання.

— Не, гэта нельга тут пакідаць! — рашуча пастанавіў зачараваны Мікола; ён абхапіў, каб несці, люстра ды адразу натрапіў рукамі на новую павучыную калонію. Давялося ачышчаць адваротны бок знойдзенай каштоўнасці.

Не знайшоўшы ззаду ані подпісаў, ані прыклееных паперак, Коля, тым не менш, ані трохі не страціў надзеі; ён забыўся на так і не даследаваныя кватэры ды пацягнуў люстра да сходаў, мяркуючы, як лацвей гэта зрабіць.

А перасоўванне люстра насамрэч было праблемай. Важкае, вялікае, яно не паддавалася, толькі і чакала, каб выслізнуць з Міколавых абдымкаў, нібыта не хацела развітвацца з гарышчам і домам. Мікола падцягнуў яго да адтуліны ў падлозе; прытрымліваючы люстра абедзвюма рукамі, ён толькі хацеў спусціць яго за сабою, як левая нага згубіла прыступку. Разам з гэтым і сам Мікола страціў раўнавагу. У гэтым не было б нічога жахлівага, але Міколавы задзёртыя дагары рукі рэфлекторна выпусцілі люстра. Разумеючы, што зараз гэтая махіна абрынецца на яго ўсёю вагою, Мікола адзінае, што паспеў, прыкрыў галаву рукамі.

* * *

Мікола расплюшчыў вочы ды зразумеў, што мог бы і не рабіць гэтага. Навокал стаяла непраглядная цямрэча. Хлопец адчуў, што ляжыць перакулены ў вельмі дзіўнай паставе на нечым мяккім. Ён асцярожна, па чарзе паварушыў рукамі, нагамі, галавой: нідзе не балела.

Цемра тым часам крыху рассоўвалася. Мікола ўскочыў на ногі, абмацаў сябе ды паднёс рукі да вачэй. Да ягоных далоняў прыклеіліся кавалачкі моху, зямлі ды доўгія хваёвыя голкі.

— Ёлкі-палкі! — абалдзела сказаў Мікола. — Ёлкі-палкі!!!

Насамрэч, ён меў рацыю. Навокал і палак, і елак было ўдосталь. Мікола быў у начным лесе, у самым гушчары.

Непраглядная хвіліну таму цемрадзь умомант набыла мільёны розных адценняў ды абрысаў. Нізка-нізка, ледзь не чапляючы вершаліны елак, па нябёсах плыла вялікая белая поўня.

— А! Дык я папросту праваліўся ў люстра, — здагадаўся Мікола, — і апынуўся ў лесе! Усё зразумела!

І што яму было зразумела?

Пра што можа думаць чалавек, які знайшоў у раней ніколі не бачаным доме таямнічае люстра, праваліўся ў яго ды апынуўся пасярод начнога лесу? Напэўна, ён канчаткова і незваротна звар’яцеў! Добра, адкінем гэтую гісторыю з люстрам. Пра што можа думаць нармальны, здаровы чалавек, які раптам апынуўся адзін у начным гушчары? Спачатку, мабыць: «Ой, мамачкі родныя! Божухна, дапамажы мне!» А потым, суцішыўшы трымценне пад каленкамі ды калаценне сэрца, пачне больш ці менш цвяроза разважаць: шукаць, з якога боку дрэвы парослыя мохам, залезці на высокую елку або хвою, вырашыць, урэшце, прычакаць світанку!

Ніводнай з вышэйзгаданых думак у Міколы не нарадзілася. Ён нават не засмуціўся з нагоды згубы новага ды надта дарагога фотаапарата — наадварот, адчуў палёгку ад таго, што нічога больш не боўтаецца на шыі. Ён пайшоў наперад — менавіта туды, куды глядзелі ягоныя вочы.

Мікола ішоў сабе наперад, раз-пораз адхіляючыся ад зарасніка невядома чаго. Ён ішоў, абсалютна спакойны, і радаваўся таму, што вось рушыць ён, вольны, шчаслівы чалавек па лесе, і паветра такое свежае, і так прыемна пахне хвоя, і да таго ж вялікая поўня асвятляе ягоны шлях. Ні «А дзе мой дом?», ні «А што я буду есці заўтра?», ні нават «А куды я іду?» — ніводнае з гэтых пытанняў не турбавала цяпер Міколу. Ён рухаўся наперад ды адчуваў асалоду ад свабоды ды еднасці з прыродай.

Так вось ішоў Мікола, пакуль не натрапіў вачыма на маленькі агеньчык, што цёплым жоўтым святлом міргаў недзе далёка між дрэў.

— О! Вось туды я і пайду! — узрадваўся Мікола.

Ён нават не падумаў, што агеньчык можа вырасці ў вогнішча, раскладзенае нядобрымі людзьмі; што святло, мабыць, папярэджвае пра небяспеку — не, куды там! Мікола паляцеў на святло як даверлівы матылёк.

Агеньчык не знікаў, наадварот, ён павялічваўся, святлеў ды, праз нейкую гадзіну, ператварыўся ў цёпла асветленае акно нейкай драўлянай хаціны, што стаяла ў лясным прагале.

Мікола выйшаў з лесу ды спыніўся. Хатка была дзіўная. Па-першае, яе з аднаго боку атачаў частакол, на якім зверху было нешта паначапляна, белае ды круглае; у няпэўным святле поўні Мікола не ўгледзеў, што менавіта. Па-другое, хатка, хаця і месцілася далёка ад ракі, але была збудавана на даволі высокіх слупах, прычым

слупы былі размешчаны шалёным архітэктарам не на рагах пабудовы, а толькі пасярэдзіне. Дзвярэй відаць не было.

— А!.. — здагадаўся Мікола. — Хатка, як цябе, ну, таго... Абярніся! Да лесу задам!..

Ніякіх змен не адбылося. Хата засталася стаяць, як стаяла.

— А да мяне перадам! — дадаў Мікола.

І зноў нічога.

Мікола ўжо быў набраў паветра ў лёгкія, каб з усяе моцы яшчэ раз пракрычаць замову, як раптам у лясной цішы прагучаў рашучы жаночы голас.

— Абыходзь!

— Чаго? — не зразумеў Мікола.

— Абыходзь, я кажу! Хату абыходзь! Ты ж увайсці хочаш, дзверы тут!

Мікола паслухмяна рушыў туды, адкуль даносіўся голас. З іншага боку хаткі на даволі высокім ганку сядзела, склаўшы ногі па-турэцку, жанчына, якая зацягвала вяроўкай вялікую мяцёлку. Не падымаючы галавы, яна працягнула:

— Падымайся, чаго стаў? Вось бачыш, усё зламанае спрэс, і хата зламаная, а парамантаваць рукі не даходзяць! Вось і мяцёлка была развалілася!

Жанчына завязала апошні вузел, праверыла, ці моцна зацягнута вяроўка, ды, закончыўшы работу, паднялася і зірнула ў вочы Міколы, які ўжо спрытна ўскараскаўся па драбінах на ганак.

— Ну, добры вечар, хлопец! — і яна падала руку для вітання.

— Добры вечар! — Мікола пацiснуў працягнутую яму цвёрдую руку ды спытаў:

— А вы — Баба Яга?

Жанчына весела засмяялася, паказаўшы роўныя белыя зубы.

— Ну так, так! Калі хочаш, буду Баба Яга. Хадзем у хату, халодна ўжо. Змерзла ўся, пакуль цябе чакала.

І Баба Яга шырока адкрыла дзверы, на некалькі секундаў заліўшы святлом начынне двара разам з частаколам і насаджанымі на яго чалавечымі чарапамі. Мікола, які прапусціў Ягу першай, зірнуў, ці не ідзе яшчэ нехта, ды шчыльна зачыніў за сабой дзверы.

У хаце было светла, цёпла ды ўтульна. Мікола апусціўся на лаўку ды адразу адчуў, наколькі ён стомлены.

Хата складалася з аднаго, але даволі вялікага пакоя без усялякіх сенцаў. Пасярод стаяў вялікі стол з лаўкамі, ля правай сцяны тулілася неверагодных памераў печка. Ля печкі меліся паліцы з разнастайным кухонным начыннем. Рэшта прасторы сценаў была адведзена кнігам. Кніжныя паліцы раслі ад падлогі ды сягалі ажно высокай столі. І ўся хата была асветлена цёплым святлом свечак, расстаўленых паўсюль у розных дзіўных жырандолях.

Баба Яга адразу знікла недзе за печкаю ды загрымела там посудам. Раптам яна вярнулася і ўтаропілася ў Міколку, упёршы рукі ў бакі:

— Слухай! Ну чаго ты сеў? Хуценька мыцца ды спаць! Ужо, пэўна, трэцяя гадзіна — так мы і світанак сустрэнем!

— А мыцца ў лазні? — пацікавіўся Міколка.

— Ха! А дзе ты тут лазню бачыў? Ой, кніжак абчытаўся! Хадзем, пакажу.

Баба Яга завяла Міколку за печку; там былі пастаўлены розныя тазікі з вадой ды кошыкі.

— Ну, я думаю, тлумачыць табе не трэба... А, вось яшчэ. Так, ручнікі чыстыя... Кашулю вось гэтую апранеш, — яна паказала Міколку на нейкі доўгі балахон. — Сваю вопратку кінеш на падлогу, я яе заўтра спалю... Так... Ну ўсё, здаецца!

І Баба Яга пайшла, захінуўшы закуток фіранкай, замацаванай на адмыслова працягнутай вяроўцы.

Мікола, пакінуты адзін, яшчэ раз упэўніўся, ці шчыльна захінута фіранка. З тазікамі ды кошыкамі ён управіўся спрытна ды хутка, бо недарэмна нарадзіўся ў Савецкім Саюзе, дзе такое экстрэмальнае мыццё практыкавалася кожнае лета. Ды і цяпер практыкуецца на постсавецкай прасторы, дзе адключэнне гарачай вады, гэткае дзікунства на еўрапейскі погляд, увайшло ў добрую нацыянальную традыцыю.

Нарэшце Міколка, вымыты ды пераапрануты ў балахон, выйшаў да Бабы Ягі. Тая сядзела за сталом і пры святле свечкі ўважліва вывучала вялікую кнігу.

Яга падняла на яго вочы.

— Ну што, спаць?

— А есці? Я есці хачу! — яшчэ крыху, і Мікола пачаў бы клікаць яе «мамай».

— Ой, дзіцё ты горкае, — уздыхнула Баба Яга, — шкодна на ноч есці!

Яна ўсё ж паднялася ды нешта знайшла на сваёй кухні.

— На, пагрызі!

Міколка ўзяў піражок ды ўмомант праглынуў яго.

Баба Яга ўжо хадзіла па хаце ды гасіла свечкі.

— Там, на лаўцы, падушка ды коўдра... Дабранач! — і яна падзьмула на апошнюю свечку.

Міколка навобмацак знайшоў свой так званы ложак.

— А ці не будзе тут мулка? — быў спытаў ён, але, ледзь крануўшы шчакой падушку, праваліўся ў сон.

Калі Мікола прачнуўся, было ўжо далёка за полудзень. Пры дзённым святле хата выглядала яшчэ больш утульнай, чым учора ўначы: усё было такое чыстае, дагледжанае і нават на кніжных паліцах не заўважалася пылу.

Мікола хуценька ўскочыў з лаўкі. У хаце, апрача яго, нікога не было; толькі звінеў птушынымі спевамі блізкі лес ды ў двары нехта плёскаў вадою. Мікола выйшаў на ганак, які лепш было б назваць гаўбцом, настолькі высока ён быў над зямлёю, пацягнуўся, падставіўшы твар сонцу, ды адразу пачуў вітанне Бабы Ягі:

— Ну нарэшце, прачнуўся! А я ўжо будзіць цябе хацела! Нас яшчэ чакаюць сёння вялікія справы.

Баба Яга мыла на двары нейкую бялізну. Нават цяпер, на сонечным святле, Мікола ўзіраўся ў яе твар ды не мог зразумець, колькі ёй гадоў. Можа, сто, а можа, трыста. Але Баба Яга рухалася гэтак жвава ды спрытна, што немагчыма было ёй даць больш за пяцьдзясят. А калі смяялася — дык увогуле, трыццаць пяць—трыццаць. Дзіўная яна была, гэтая Баба Яга, дзіўная, як і ўсё навокал, дзіўная, як сам Мікола, які ўпарта не заўважаў гэтых дзівосаў.

Баба Яга кінула сваю бялізну ды палезла па драбінах у хату.

— Ну што, — заклапочана адзначыла яна, — вось засмажу я цябе, і будзе ў мяне свежае чалавечае мяса! — і яны з Міколам засмяяліся з трапнага жарту.

У хаце Мікола сеў пры стале ды падрыхтаваўся ўважліва слухаць. Баба Яга ўзяла з паліцы важкі фаліянт, той самы, што гартала ўночы. Яна сур'ёзна, без усялякай усмешкі, зазірнула ў Міколавы вочы.

— Слухай мяне ўважліва. Ты, напэўна, ужо здагадаўся, што трапіў у казку. Мы тут жывём, і ў нас свае законы. Ты ўжо не чалавек, але пакуль яшчэ і не казачны герой. І зараз ты мусіш зрабіць выбар — абраць сабе ролю. Ну і ўсё, што да яе дадаецца. Так... Але спачатку мы зменім табе імя. Імя — гэта ўжо палова справы, гэта ж казка, ты, спадзяюся, разумееш. Ну што гэта за імя такое — Мікола! Уяўляеш, што

ты за ролю мецьмеш з такім імем! Міколка-паравоз хіба што... Але не будзем далёка хадзіць, далёка шукаць... Ты цяпер Ніко. Сцісла і ясна. Пярэчанні не прымаюцца! — Баба Яга павяла рукою ў бок хлопца, які ўжо адкрыў рот, каб нешта вымавіць.

— Так... Ніко, значыцца. А зараз звернемся да нашай энцыклапедыі, — Яга разгарнула кнігу пасярэдзіне.

— Вось, усё што заўгодна, і нават звыш таго! Абірай. Калі ласка, напрыклад... О! Рыцар. Заўсёды на кані, з дзідаю. Мусіць скакаць па лясох ды палёх, змагацца, выратоўваць каралёў з каралеўнамі, абіраць панну сэрца, выступаць на турнірах... Ну, нішто сабе. Так, вось яшчэ. Ваўкалак. Шчыра раю. Шмат якія слаўныя людзі былі ваўкалакамі. Трэба кіраваць каралеўствам якім-небудзь або княствам, уночы перакідвацца ў ваўка, бегчы па лесе, выкрываць ворагаў... А калі раптам ворагі ўсё ж запалоняць, можна бесперашкодна ўцячы... Карацей, каб стацца ваўкалакам, трэба быць вельмі мужным. Далей. Вурдалакі. Вампірчыкі, калі хочаш. О, тут можна быць кім заўгодна! Лепш за ўсё жыць у змрочным замку — у самоце, натуральна! — быць такім прыгажунчыкам з белым тварам, уночы запрашаць дзяўчат ды смактаць кроў. Можа здарыцца няшчаснае каханне... Ну, думаю, ты і сам пра іх ведаеш. Так, яшчэ тут ведзьмакі розныя, героі, русалкі... А, ты ж у нас хлопец, даруй!

— А анёлы там ёсць? То бок тут... у нас? — пацікавіўся вельмі заінтрыгаваны Ніко.

— Анёлы, гм... Ну, натуральна, ёсць анёлы, вось, на першай старонцы! — Баба Яга падсунула Ніко разгорнуты фаліянт з апісаннем ды ілюстрацыяй.

Той колькі хвілін зачаравана вывучаў кнігу.

— А калі б я быў анёлам, — спытаў замілаваны Ніко, — у мяне таксама былі б крылы?

— Натуральна!

— І я на іх лётаў бы? Сапраўдныя крылы?

— Сапраўдныя! І лётаць можна. Трэба лётаць!

— О! — Ніко ўздыхнуў, глыбока ўзрушаны. — А хто там яшчэ ёсць?

— А ты ўжо абраў! — Баба Яга ўсміхнулася ды падміргнула яму.

— Што значыцца абраў? — запярэчыў Ніко. — Я ж яшчэ іншых не бачыў! А можа, я рыцарам быць хачу? Або каралём!

— Ты падумай, — разважліва сказала Баба Яга, — ты ўяві, які з цябе рыцар. Уяві!

Ніко заплюшчыў вочы ды пачаў засяроджана ўяўляць. Вось ён, рыцар, скача па лесе на кані, уцякае ад пагоні, а тут яму вораг насустрач, пачынаецца двубой, трэба абараняцца... Не, лепш назіраць двубоі з вышыні! Ніко шчасліва ўсміхнуўся ды расплюшчыў вочы.

Баба Яга таксама ўсміхалася.

— Ну як — анёл?

— Анёл! А дзе мае крылы?

— А ты зірні за спіну!

Ніко азірнуўся ды пабачыў вялізныя белыя крылы, што раслі з ягонае спіны. Недасведчаны пакуль, ён адразу спалохаўся: а як ён здолее кіраваць імі? Вось, напрыклад, што рабіць, калі ён захоча паварушыць правым крылом?

І адначасова з гэтаю думкаю правае крыло ледзь варухнулася. Узрадаваны Ніко працягнуў эксперымент ды так махнуў крыламі, што па хаце паляцелі пух ды пер’е.

— Эй, анёл, цішэй! Не ў нябёсах! — прыкрыкнула Баба Яга.

— Слухай... — зачараваны Ніко ніяк не мог адвесці вачэй ад сваіх крылаў, — а як, адкуль яны ў мяне з’явіліся?

— Крылы? Яны ў цябе заўсёды былі! — Баба Яга ўжо прыбрала кнігу на паліцу. — Табе ўжо час ляцець.

— Чакай! Як ляцець? Куды ляцець? — Ніко разгублена зірнуў на Ягу. — Я ж нічога тут не ведаю! Ты ж мне не патлумачыла, што мусяць рабіць анёлы!

— А нічога. Нічога не мусяць рабіць. Ды і што яны могуць? Анёлы павінны лётаць у нябёсах, а людзі мусяць заўважаць іх ды радавацца. Вось і ўсё! Ну яшчэ можна зрабіцца анёлам-абаронцам, але гэта вельмі адказна. Тут, ведаеш, хоць і казка, але ў ёй таксама свае законы.

— А які закон найгалаўнейшы? Такі, ну... Самы-самы!

— Галоўнае — гэта быць шчырым. Хадзем.

Ніко з Бабай Ягою выйшлі з хаты ды сталі на высокім ганку. Сонца ўжо пачынала пакрысе хіліцца да далягляду.

— Калі ў цябе з'явяцца невырашальныя пытанні — прылятай. Я дапамагу. Ну, а цяпер... Ляці, мой анёл! Ляці! Будзь шчыры!

Ніко шырока раскінуў крылы, зрабіў адзін узмах... другі... трэці... І раптам адарваўся ад зямлі ды памкнуўся ўгару, спачатку павольна, потым хутчэй, хутчэй, усё вышэй ды вышэй, у блакітныя-блакітныя нябёсы...

— Лячу! Я лячу! — закрычаў Ніко, але ніхто, апрача ветру, не пачуў ягоных слоў. Хатка Бабы Ягі спачатку зрабілася маленькаю-маленькаю, потым увогуле знікла з вачэй. Пад крыламі анёла Ніко ва ўсе бакі раскінуўся лес; зямля нарэшце набыла круглую форму, адкрыла анёлу свой сапраўдны твар, невымоўна прыгожае аблічча планеты...

— Я лячу! Лячу! — крычаў Ніко ды ляцеў — немаведама куды, шчаслівы, вольны анёл — проста ляцеў.

Неўзабаве ён зразумеў, што, каб ляцець, неабавязкова хлопаць крыламі, як верабей, можна проста раскінуць іх і такім чынам трымацца ў паветры. Больш за тое, можна было нават не варушыць крыламі. Ніко адчуваў, што ляціць проста так, сам па сабе, нібыта лёгкае белае пёрка, падхопленае ветрам. Так, ягоны палёт кіраваўся ягонымі думкамі.

— О-о-о! Вось гэта — шчасце! — крычаў у найвышэйшым захапленні Ніко ды ляцеў, ляцеў... Ён, выпрабоўваючы свае сілы, рэзка мяняў кірунак, перакручваўся ў паветры, перакульваўся на спіну ды лавіў крыламі моцную хвалю ветру, даваў нырца ды, не далятаючы да зямлі, адразу хутка ўзмываў угару.

А Сонца тым часам афарбавалася ў барвовы колер ды разліло чырвань па нябёсах, абвяшчаючы хуткі надыход ночы. Ніко, ужо досыць змораны, але вельмі шчаслівы, вырашыў прыпыніць свае практыкаванні ды засяродзіцца на вывучэнні лесу, адным з жыхароў якога ён цяпер стаўся.

Чамусьці ў ягонай галаве замацавалася думка, што ў лесе мусяць жыць залатыя цмокі. Адкуль ды калі з'явілася гэтая ўпэўненасць, Ніко не ведаў, але настолькі яскрава, настолькі падрабязна ўяўляў гэтых цмакоў, нібыта раней сутыкаўся з імі.

Залатыя цмокі — яны мусілі жыць у глыбокіх пячорах, на берагах лясных азёраў, вялікіх, чорных лясных азёраў, аточаных стагадовымі ялінамі. Можна было б стаіцца на пяску, у камянях ды чакаць, не адрываючы вачэй ад чорнае воднае паверхні, і ўночы пабачыць іх! Пабачыць цмачыху з цмачанятамі, маленькімі ды жвавымі, якія выходзілі б са сваёй патаемнай пячоры; можна было б назіраць, як урачыста плыве па возеры стары вялікі цмок, як ззяе ягоная залатая луска пры святле маўклівай поўні... Залатыя цмокі былі марай, затоенай марай ягонага дзяцінства, і Ніко вырашыў іх знайсці: проста так, паглядзець.

Справа была ў тым, што Ніко не меў ніякага ўяўлення, дзе шукаць цмокаў. Таму ён усклаў адказнасць за гэтую сустрэчу на свой казачны лёс ды папросту павольна паляцеў над самым лесам, ледзь не чапляючы вершаліны елак.

Ляцеў ён даволі доўга, напружваючы зрок, але не сустрэў не тое што цмока, але нават якой-небудзь птушкі. Тым часам Сонца закацілася, саступаючы месца Месяцу, і на лес няўхільна пачала навальвацца цемра.

— Ну што гэта такое! — расчаравана працягнуў Ніко. — Я лячу ўжо каторую гадзіну, а ўсё яшчэ ні на каго не натрапіў! Я што, тут адзін, у гэтай казцы?

І адразу заўважыў залаты бляск унізе, пад дрэвамі.

Гэтая маленькая падзея ў чарговы раз пацвярджае старую ісціну: не трэба хаваць сваіх жаданняў! Вар'яцкія, неверагодныя, містычныя, абсурдныя — усе жаданні трэба выказваць гучна ды фармуляваць канкрэтна.

Залаты бляск, між тым, належаў далёка не цмоку; ён сыходзіў ад доўгіх залатых валасоў дзяўчыны, якая блукала па лесе ў такую досыць познюю гадзіну. Ну і не мусіла яна быць залатым цмокам: Ніко ж не паведаміў, каго менавіта ён хоча сустрэць!

Ніко ані трохі не засмуціла гэткае несупадзенне; наадварот, ён быў узрадаваны, і яшчэ як! Ну напраўду, у першы ж дзень свайго казачнага жыцця сустрэць у лесе дзяўчыну з залатымі валасамі! Ніко, пакуль ляцеў ёй на дапамогу, — а ён чамусьці адразу вырашыў, што дзяўчыне трэба дапамагчы, — ужо аплёў сябе вясёлкавым павуціннем ілюзій. «Ну натуральна, — думаў Ніко, — гэта ж каралеўна! Адзіная дачка тутэйшага караля. Пайшла без аховы збіраць кветачкі ды заблукала ў лесе! А я цяпер вярну яе ў сям'ю, якая, пэўна, ужо падняла на ногі ўсё каралеўства! Вось як яно проста! Ні рыцарам не трэба быць, ні вампірам, — ні табе двубояў, ні крыві! Палётаў, палётаў — і герой! Лепш за ўсё быць анёлам. І не трэба мне паловы вашага каралеўства!»

Дзяўчына пачула ў небе рух ды падняла вочы. Ніко сустрэўся з ёй позіркам ды, шчаслівы, пачаў спускацца на зямлю. Ён вельмі шкадаваў, што не можа бачыць сябе збоку. Якая ўсё ж гэта была кранальная сцэна! Дзяўчына, што падняла вочы да неба, і гэты залаты вадаспад валасоў, яна была такая далікатная, безабаронная, у доўгай белай сукенцы — пасярод вечаровага лесу, зусім адна — яна сама выдавала на анёла, такая светлая, гнуткая, як кветачка!.. Ніко і думаць забыўся на сваіх цмокаў. Ён апусціўся перад дзяўчынай, апошні раз узмахнуўшы крыламі ды працягнуў ёй рукі.

— Добры вечар!

— Добры вечар! — дзяўчына мякка ўклала свае далоні ў ягоныя.

Яна глядзела на Ніко так даверліва, так сур'ёзна; мабыць, дзяўчына цяпер адорвала яго найглыбейшым позіркам, спрабуючы выказаць вачыма патаемную мару свайго сэрца. Гэта было так безразважна, так неабачліва — адорваць выпадкова сустрэтага ў лесе такім позіркам, але як можна не давяраць анёлу? Як можна чакаць прыхаванай небяспекі ад таго, хто спусціўся да цябе з нябёсаў? Ад таго, хто гэтаксама шчыра зазірае табе ў вочы?

Дзяўчына не ўсміхалася; наадварот, ейны твар захоўваў засяроджаную сур'ёзнасць, але дзякуючы гэтаму позірку-малітве, дзякуючы маленькім цёплым далоням, што дзяўчына даручыла ягонай уладзе, Ніко зразумеў: ён прыляцеў своечасова. Яшчэ б нейкія паўгадзіны — і гэтая далікатная кветачка плакала б тут ад адчаю; мабыць, сядзела б пад дрэвам, схаваўшы твар у каленях, і не магла б спыніць слёзы, ахопленая жудою непрагляднае ночы, нематы ды адзіноты.

— Ты — анёл? — спытала дзяўчына.

— Так, я анёл, — мякка адказаў Ніко; ягоны голас крыху дрыжаў ад усведамлення адказнасці, ускладзенай на яго казачную місію, — я анёл! І я прыляцеў, каб выратаваць цябе! Цяпер я з табою! Ты можаш больш нічога не баяцца!

— Добра, — пагадзілася дзяўчына.

Яна з палёгкаю ўздыхнула ды нарэшце дазволіла сабе ўсміхнуцца — і нібыта залатыя жарынкі пырснулі ў бакі ад гэтай усмешкі, на секунду заблыталіся ў лясным галлі ды згаслі, пакінуўшы па сабе ледзь чутныя ноты няўлоўных мелодый.

Яны ўсё яшчэ стаялі, пераплёўшы далоні, і не маглі адвесці вачэй адно ад аднаго.

— Якая ты прыгожая! — замілавана вымавіў Ніко, сузіраючы шляхетныя рысы звернутага да яго твару.

— Які ты прыгожы! — рэхам адгукнулася дзяўчына.

— Не, — мякка запярэчыў Ніко, — гэта ты — прыгожая! Ніхто не можа быць прыгажэйшай за цябе! Ты — як зорка! Як зорачка з неба! Ты — самая прыгожая ў гэтым свеце! Дарэчы, — падхапіўся ён, — нам ужо час ляцець!

— І мы папраўдзе паляцім? — у шчаслівым захапленні спытала «зорачка».

— Так! — запэўніў яе Ніко. — Мы паляцім, і я аднясу цябе дахаты. Я буду трымаць цябе моцна-моцна, ты можаш нічога не баяцца! Мы падымемся ў гэтае неба, і ты ўбачыш, што такое Шчасце!

Ніко так рашуча запэўніваў яе ў бяспецы палёту, нібы не ён сёння ўранні, у хаце Бабы Ягі, не ведаў, як паварушыць крыламі.

— Гатовая? — спытаў ён у будучай каралеўны. — Паляцелі!

Ніко абняў яе аберуч ды моцна прыціснуў да сябе. І ўмомант елкі апынуліся пад нагамі. У небе, бяздонным ды казачным, ляніва пазяхнула, зірнуўшы на іх, вялікая белая поўня.

Яны ляцелі. Ніко, сціскаючы сваю прыгажуню, адчуваў, як калоціцца яе сэрца. Дзяўчына замружыла вочы ды схавалася тварам у ягоным плячы.

— Не бойся! — падбадзёрыў яе Ніко. — Паглядзі, як прыгожа!

Дзяўчына паслухмяна павярнула галаву ды паглядзела навокал. Унізе ляжаў бясконцы лес, той, дзе яна яшчэ хвіліну таму блукала зусім адна. А ўверсе — чорнае неба. І калі б нехта шукаў прыгажосці ў гэтай бясконцай цемрадзі, ён заўважыў бы толькі іх: анёла і дзяўчыну з залатой залеваю валасоў.

І раптам далікатная прыгажуня рашуча прамовіла, паказаўшы рукою долу:

— Я жыву тут!

Ніко зірнуў уніз. «Тут» ніякага каралеўскага замка не было. Затое было возера — вялікае цёмнае лясное возера, як тыя, што маляваў у мроях Ніко, уяўляючы сваіх залатых цмокаў.

Ніко асцярожна апусціўся на халаднаваты пясок ды ўгледзеў непрыкметны з вышыні маленькі домік, што стаяў ледзь не на самым беразе блізка ля вады.

— Вось тут я і жыву, — усміхнулася дзяўчына, якую ён ужо выпусціў са сваіх абдымкаў.

— Дабранач! — сказаў Ніко, не атрымаўшы запрашэння на якую-небудзь гарбату, але, убачыўшы, што дзяўчына не сыходзіць, задаў даволі лагічнае пытанне:

— Прыгажуня мая, а як цябе завуць?

— Ніні! — працягвала пяшчотна ўсміхацца таямнічая знаходка.

— Ніні... — паўтарыў ён. — А я — Ніко! Анёл Ніко. Ну, я паляцеў? Але заўтра вярнуся! Я абавязкова вярнуся, толькі чакай мяне!

І ўсяго толькі трэці раз за сённяшні дзень ён адарваўся ад зямлі ды памкнуўся ў неба, пакінуўшы на беразе возера дзяўчыну. Ён ужо не бачыў, як тая, прыклаўшы пальцы да вуснаў ды праводзячы яго позіркам, некалькі разоў прашаптала:

— Ніко... Ніко...

А Ніко, рукі ды плечы якога яшчэ захоўвалі дзявочае цяпло, ляцеў сабе ды разважаў. Ён уцяміў, што забыўся высветліць у Бабы Ягі даволі значнае пытанне: а дзе ж ён цяпер мусіць жыць? Не ў лесе ж яму начаваць!

Ён ляцеў ды тужліва думаў пра які-небудзь домік, маленькі светлы домік на вяршаліне якой-небудзь гары. І ўрэшце казачны досвед зрабіў сваю справу.

— Дом! — здагадаўся вымавіць Ніко. — Я лячу дахаты!

І амаль адразу поўня акрэсліла ў небе абрысы высокіх гор, да якіх з радасцю памкнуўся Ніко; і неўзабаве ён натрапіў на сваё анёльскае жытло. Гэта быў дом, які, нібы гняздо вялікіх птушак, месціўся на адной з горных вяршыняў, годна высокіх ды недасяжных. Ніко ўляцеў у дзверы свайго дома ды, не запальваючы святла, паваліўся на ложак і заснуў бестурботным казачным сном.

Раніца ўвайшла ў ягоны дом разам з аблокамі. Ніко расплюшчыў вочы ды, знайшоўшы сябе высока ў небе, у белых пульхных аблоках, зноў адчуў шалёную радасць.

Ён ускочыў, зажмурыўся, пацягнуўся і выпрастаў крылы.

— Вось што такое шчасце!

Пачалося ягонае сапраўднае казачнае жыццё. Цяпер ён меў сваю ролю — і няблага пачаў яе выконваць; ён валодаў уласным жытлом, пра якое марыў! Домік насамрэч аказаўся лепшым, чым Ніко сабе ўяўляў: вокны, якія можна было адчыняць насцеж ды дазваляць аблокам праплываць праз пакой, а сам пакой быў белы, нічым не загрувашчаны; сапраўднае анёльскае жытло. Ніко агледзеў панараму ды застаўся задаволеным: гара была высачэзная, ускараскацца на яе было немагчыма, хіба што ўзляцець; унізе, наколькі ставала погляду, ляжаў усё той самы лес, і далягляд быў зацягнуты фіялетавым туманам. «Ну проста цэнтар Сусвету!» — самазадаволена пастанавіў нанованавернуты анёл.

Ніко згадаў наказ Бабы Ягі быць шчырым ды, каб выканаць сваё абяцанне, паляцеў да Ніні. Яго крыху расчаравала тое, што яна не была каралеўскаю дачкою, але што зробіш: анёл мусіць выратоўваць усіх, а не выпытваць у кожнай дзяўчыны яе радавод.

Ніні сядзела на беразе, калі ён прыляцеў, ды шпурляла каменьчыкі ў ваду, сузіраючы маленькія хвалі. Выгляд яна мела даволі журботны. Ніко апусціўся на пясок побач з ёю.

— Давай, можа, пазнаёмімся? — прапанаваў ён. — Ты хто? Чым ты займаешся?

— Ну... — Ніні шпурлянула чарговы каменьчык, і хвалі зноў пабеглі па паверхні возера. — Цікавае пытанне... Складанае. Хто я... Я, ты ведаеш, сама ўсё жыццё спрабую знайсці адказ. А хто, дарэчы, мае вырашаць? Для гэтага каменьчыка я — сусветная катастрофа. Для птушак — тая, хто іх корміць. А аблокам я ўвогуле ніхто! А для сябе самой... не ведаю!

Ніко, паклаўшы галаву на калені, уважліва слухаў Ніні, спрабуючы сцяміць, што яна мае на ўвазе. Але ў яго кепска выходзіла. Што тут складанага: адказаць, хто ты? Тут, у казцы, усе ролі размеркаваны. Калі ты ніхто, так і кажы, навошта будаваць вежы са слоў?

Ніні працягвала.

— Што тычыцца таго, чым я займаюся... О, заняткаў у мяне багата! Кідаць каменьчыкі ў ваду — раз! Карміць птушак — два! Размаўляць з лесам — тры!

Яшчэ можна глядзець у неба — о, усё жыццё можна пакласці на сузіранне неба! Яно, ведаеш, ніколі не бывае аднолькавым. Не бывае двух падобных світанкаў. А калі навальніца? А калі вясёлка? Тут такое можна пабачыць! Яшчэ я люблю словы. Люблю з імі гуляцца. Складаць іх у сказы... Для мяне сказ, ведаеш, — як музыка! Ты ніколі не думаў, што такое слова? Чаму ў ім хаваецца сэнс? Дзе ён там прыхаваны, за якой літарай? Калі словы растрэсці на літары — сэнс траціцца. Літара не мае сэнсу, а слова мае — чаму? Я люблю слухаць. Дождж, напрыклад, ці вецер... А ты — хто? — яна нечакана, як мячык у дзіцячай гульні, кінула пытанне Ніко.

Той спешна пачаў шукаць словы, каб не пакрыўдзіць Ніні, каб выпадкова не сказаць, што ягоная місія куды больш значная за ейную.

— Я... А я проста анёл. Я лётаю, каб людзі мяне прыкмячалі ды радаваліся. А, вось яшчэ, — тут Ніко раптам згадаў маленькую зацемку Бабы Ягі пра ягоныя магчымасці ды вырашыў скарыстаць іх напоўніцу, — я — анёл-абаронца! Хочаш, я буду тваім анёлам-абаронцам? Ведаеш, што гэта такое?

— Патлумач! — папрасіла Ніні.

І Ніко пачаў выдумляць. Бо Яга сама нічога не патлумачыла яму, а ўважліва прачытаць энцыклапедыю ён не здагадаўся.

— Ну, анёл-абаронца — гэта такі анёл, які абірае каго-небудзь ды абараняе яго... Ад усяго! Ад розных небяспек. Ён заўсёды нябачна прысутнічае ля таго, каго абараняе. Вось, напрыклад, сядзіш ты дома адна, а за акном ноч, а табе самотна, плакаць хочацца, і нікога побач няма... І тут ты згадваеш, што маеш анёла-абаронцу — і табе адразу робіцца весела ды несамотна. Ці вось ідзеш ты адна па лесе, і табе боязна... А насамрэч нічога не трэба баяцца, бо ты пад маёй абаронай! І ты адразу адчуеш, як ветрык пяшчотна кранаецца твайго твару — а гэта насамрэч я, твой анёл-абаронца! Я заўсёды буду з табою!

— Так... Я згодная! — заўсміхалася Ніні.

Яна зноўку глядзела на Ніко сваім даверлівым позіркам, гэтаксама, як глядзела тады ў лесе.

«Прыгожыя ў яе вочы, — адзначыў Ніко, — толькі сумныя занадта!»

— Ты не сумуй! — паспрабаваў пераканаць ён Ніні. — Трэба заўсёды захоўваць усмешку! Мы жывём у казцы! Вось я заўжды шчаслівы! Ну чаму ты такая сумная?

— Я не сумная, — сказала Ніні ды зноў перастала ўсміхацца, — у мяне такі выраз твару.

— Ну, цяпер ты можаш усміхацца часцей — у цябе ёсць я! — Ніко падняўся, каб ляцець. — Даруй, ужо час развітвацца! У мяне багата-багата спраў. Анёлам быць, ведаеш, адказна вельмі!

Здавалася, немагчыма ўявіць Ніні больш сумнай, чым яна была, але пасля апошніх слоў Ніко ў ейных вачах нібы задзьмулі свечкі, і яны зрабіліся цёмнымі-цёмнымі.

— Ляці, мой анёл!

— Я прылячу! Чакай! — пракрычаў Ніко з вышыні.

Папраўдзе кажучы, ніякіх тэрміновых справаў Ніко не меў. Ён толькі збіраўся іх сабе напрыдумваць. Пільнаванне цмокаў ён адклаў на няпэўны тэрмін, вырашыўшы спачатку даследаваць казку, у якой жыў усяго толькі другі дзень, але ўжо паспеў абчапляцца адказнасцямі ды абавязкамі.

І пачаліся ягоныя бясконцыя палёты невядома куды з неакрэсленаю мэтай. «Вось ужо дакладна, — пасміхаўся з сябе самога Ніко, — ляці туды, не ведаю куды, знайдзі нешта, не ведаю што! Вось гэта казка, я разумею!»

Спачатку лес паўстаў перад ім вялікаю таямніцаю. Лес — Ніко не ведаў яго назвы — пэўна, быў жывы. Ну, калі не жывы, дык спрэс заселены жывымі істотамі.

Ніко, лётаючы над елкамі, заўважаў унізе няпэўны рух, прысутнасць жыцця; але гэтае жыццё хавалася ад яго. Або не хавалася — проста не мела патрэбы ў ягоным анёльскім удзеле. Ніко здагадваўся, што, каб бліжэй пазнаёміцца з ляснымі насельнікамі, трэба апусціцца на зямлю ды пачаць жыць паводле законаў лесу, а не лётаць над галовамі белай зданню, чапляючы нагамі елкі. Але гэта мусіла адабраць багата часу, а Ніко хацеў ведаць казачную геаграфію, хаця б у агульных рысах.

Таму ён падымаўся ўгару ды ляцеў высока над лесам, спрабуючы дасягнуць ягоных межаў.

Гэта таксама было цяжка. Колькі разоў Ніко марна намагаўся даляцець да краю лесу, і шторазу ён прылятаў дахаты, змораны ўшчэнт, так нічога і не спазнаўшы. Ніні, да якой ён раз-пораз завітваў, не магла нічога патлумачыць. І толькі пад канец другога тыдня Ніко змяніў тактыку. Адной раніцай, вылятаючы са свайго доміка на гары, ён рэзка набраў вышыню, але не спусціўся, як раней. І амаль адразу пабачыў вынікі.

Планета скранулася з месца ды пачала павольна пракручвацца пад ягонымі крыламі. Бясконцы лес, раней нерухомы, нібы падаўся назад, і сонца яшчэ не паспела падняцца ў зеніт, калі Ніко ўпершыню ў сваім казачным жыцці пабачыў мора.

Ніко адразу здагадаўся, што бліскучая рыса на даляглядзе — гэта і ёсць мора, такой свабодай пацягнула адтуль. І вецер неўпрыкмет перамяніўся, падзьмуў нечым свежым ды салёным.

— Мора! — крычаў Ніко. — Мора!

Здаецца, якая розніца была яму, здольнаму лётаць, над морам ляцець ці над лесам? Ніко і сам не ведаў, чаму ён апанаваны гэткім радасным шалам, заўважаючы ўнізе ваду заміж дрэў. Але мора таксама было жывое. Ягонае салёнае вадкае цела няспынна калыхалася; хвалі лавілі сонца і мелі намер асляпіць Ніко сваім ззяннем, але адно дадавалі яму шчасця. А як можна адчуваць сябе няшчасным, калі ты імчыш над морам, не маючы іншага клопату, як толькі супрацьстаяць салёным пругкім вятрам? Як можна не крычаць ад шчасця, калі барвовае сонца хіліцца да далягляду, а пад табою апантана палымнеюць марскія хвалі, і ты ляціш да гэтага чырвонага сонца над палымнеючым морам, абсалютна вольны, — што гэта, калі не шчасце?

Ніко быў шчаслівы. Ён усіх хацеў зрабіць шчаслівымі. Калі на далягледзе з'яўляліся ветразі, ён набліжаўся да карабля на такую адлегласць, каб быць пабачаным. І яго заўважалі з карабля — Ніко здавалася, што ён чуе крыкі матросаў: «Анёл! Анёл! Глядзіце, анёл у небе!»

Ніко ніколі не задаваўся пытаннем, чаму людзі лічаць за шчасце пабачыць у небе анёла. Што можа быць у ягоным з'яўленні цудоўнага, асабліва для казачных жыхароў? Ён жа не сыпаў ім грошай з неба, не падымаў іх у нябёсы. Не, ён проста ляцеў, шчаслівы анёл, і дзяліўся сваім шчасцем з усімі.

Людзі таксама не дапытваліся крыніцаў свайго шчасця. Проста так было заведзена ў казцы: пабачыць анёла — гэта добры знак. Мабыць, заўсёды толькі вера ў цуды робіць людзей шчаслівымі.

Ніко не спыняў сваіх далёкіх палётаў. Ён працягваў адкрываць новыя далягляды, і кожны дзень прыносіў яму нешта дагэтуль неспазнанае. Ніко ўрэшце натрапіў на вялікія гарады; толькі за адзін дзень ён налічыў іх пяць. Гарады таксама трэба было вывучаць.

Гэта былі такія гарады, якія мусяць быць у казках. Калі б Ніко не забыўся на сваю гістарычную адукацыю, ён занёс бы іх у Сярэднявечча, у Заходнюю Еўропу. Вузкія брукаваныя вулкі, мураваныя трохпавярховыя дамы, дахі, крытыя чырвонай, сцямнелай ад часу дахоўкай, замак або палац у цэнтры, аточаны высокім мурам, і

спічастыя вежы ратуш ды сабораў — такія вось маленькія, падобныя адно да аднаго, гарады. І жанчыны там апраналіся ў доўгія прыгожыя сукенкі, і мужчыны мелі годны выгляд, і вясёлыя дзеці выдавалі на маленькіх анёлаў. Гарады таксама існавалі паводле нейкіх законаў, і чалавечы рух быў там унармаваны: людзі збіраліся на пляцах, каб слухаць прамоўцу або цешыцца з тэатральнай дзеі, хадзілі на рынак выменьваць рэчы на ежу або наадварот, займаліся кожны сваёй справай — карацей, у казачных гарадах кожны жыхар таксама меў вызначаную ролю.

Ніко меў здагадкі, што гарады ў казцы існуюць не проста так, што жыхары ўдзельнічаюць у агульнай дзеі, трапляюць у розныя прыгоды, маюць таямнічыя місіі, але гарадское жыццё ніяк не тычылася Ніко. Гарады мелі свае таямніцы — і не спяшаліся адкрываць іх чужынцу. Але Ніко не кідаў спроб асэнсаваць казку, ён трапляўся людзям на вочы — і штораз яны ўздымалі твары ды, шчаслівыя, крычалі:

— Глядзіце, анёл! Вунь анёл праляцеў!

Нешта няўцямнае ўтрымлівала Ніко ад таго, каб узяць ды папросту апусціцца на якім-небудзь пляцы. Ён ужо даволі доўга існаваў у казцы ды інтуітыўна разумеў, што яму дазволена, а што — забаронена. Ну апусціцца ён на плошчы — і што далей? Што ён мае паведаміць людзям? Расказаць, як добра лятаць над морам? Або як прыемна жыць у белым доме на вяршыні высокай гары? Э-э-э-э… У тым і справа, што нічога ён не меў сказаць людзям. Толькі лятаць над іхнімі галовамі, абяцаючы блізкія цуды.

Два ці тры разы Ніко, прычакаўшы глыбокае ночы, спускаўся ды блукаў па горадзе, вывучаючы вулкі, мінаючы апусцелыя пляцы, але вельмі хутка знікаў, ледзь пачуўшы крокі выпадковага начнога мінака.

Лес, мора, гарады — усё было таямнічае, загадкавае, недаступнае, і Ніко ламаў галаву, шукаючы сэнс у гэтай казачнай дзеі. Дык у чым, у чым палягае ягоная місія? Дзе чакаюць яго гераічныя ўчынкі? Які ўвогуле сэнс мае гэтая казка? Ці ёсць у яе пачатак? Ці мае яна канец? І якое morality напісана на апошняй старонцы?

Ніко пачынаў дашуквацца сэнсу — і кідаў гэты марны занятак. Мабыць, сэнс казкі — быць шчаслівым? Нешта забагата шчасця было прызначана на аднаго маленькага анёла!

Ніко шукаў новых знаёмстваў. Так аднойчы ён ледзь не знайшоў бяду на сваю галаву.

Аднаго разу ён пралятаў марскім узбярэжжам ды, заўважыўшы на даляглядзе замак, нядоўга думаючы скіраваўся туды. Яго яшчэ не пакідала надзея напаткаць прыгожую каралеўскую дачку.

Зблізу замак аказаўся вельмі змрочным, нібы ахутаны чорнаю хмараю, але Ніко ўжо падлятаў да замкавых вежаў і не хацеў вяртацца, нічога не разведаўшы. Ён наблізіўся да акна ды стаў у прагале, зазіраючы ўсярэдзіну.

Калі ягоныя вочы прызвычаіліся да паўзмроку, Ніко ўцяміў, што глядзіць у вялізную залу, такую гіганцкую, што стол ды крэсла ўнізе выдавалі на лялечныя. У зале быў камін памерам з мескую браму, а ў фатэлі сядзеў хударлявы мужчына ды ўважліва сузіраў анёльскую постаць, якая нечакана з'явілася ў акне. Чалавек маўчаў, чакаючы першага слова ад нябеснага госця.

Ніко не знайшоў нічога лепшага, як асцярожна, але як мага больш ветліва вымавіць: «Дзень добры!»

Змрочны мужчына, аднак, яшчэ крыху счакаў, нібы падбіраў словы, але ўрэшце сказаў:

— Ну добры дык добры… Спускайся да мяне, калі ўжо прыляцеў… анёлак!

Ніко, не жадаючы парушаць законы ветлівасці, зляцеў з акна ды нібы нырнуў у халодную чорную ваду, такая змрочная атмасфера панавала ў зале. Мужчына ўважліва вывучаў яго, нерухома седзячы ў сваім фатэлі, падобным да трона. І нічога на мужчынскім твары не выдавала ягонага настрою, ніводная зморшчынка не зварухнулася, каб выдаць сапраўдныя пачуцці. Ніко ажно працяла холадам ад такой гасціннасці.

— І якія ж навіны ты прынёс мне, анёл? — нарэшце запытаў мужчына.

Ягоныя словы вельмі пагрозліва прагучалі ў пустой, вялізазнай, як горад, зале.

— А… Ніякіх! Я проста хацеў пазнаёміцца… Вы хто?

І раптам позірк Ніко натрапіў на ненатуральна гіганцкі камін. У ім валяліся, згрувашчаныя абы-як, чалавечыя косткі. Ніко ўмомант усё зразумеў.

— Дык вы — людажэр! — ледзь знайшоў сілы прашаптаць Ніко ды, працяты жахам, пасунуўся назад.

— А чаго табе палохацца? Ты ж не чалавек! Ты ж анёл! — спакойна адзначыў Людажэр і, заўважаючы, што ягоная спроба супакоіць госця не дала вынікаў, азірнуўся ды паглядзеў на той самы камін, які так спужаў анёла.

Пабачыўшы тое, з-за чаго перапалохаўся анёл, Людажэр нечакана зарагатаў. Ён смяяўся доўга, усхліпваў ды выціраў слёзы. Нарэшце хударлявы Людажэр спыніўся. Ён больш не меў драпежнага выгляду, але Ніко праз гэта лепей не пачуваўся. Ён стаяў ля стала ды калаціўся ад жаху. Людажэр пачаў супакойваць анёла.

— Ты што? Ты думаеш, гэта чалавечыя косткі? Ха-ха! Дык гэта ж бутафорыя, муляжы! Дзеля антуражу! Сімвалічнасць, так бы мовіць! Эге, ды цябе ж калоціць! Ды не стой ты, сядай!

Другога фатэля ў зале не было, таму Ніко давялося сесці на стол. Зразумеўшы, што ніхто не збіраецца яго есці, анёл адчуў вялікую палёгку, але сэрца ўсё адно калацілася. Ну папраўдзе, калі разважыць: даволі непрыемна ляцець у госці ды трапіць да людажэра!

А Людажэр тым часам працягваў:

— А ведаеш, як людзей жаруць? Не, ніякага мяса, ніякай крыві — ты што! Гэта ж казка! А вось як — слухай. Я ў казцы найразумнейшы. Няма нікога, больш абазнанага за мяне — хіба толькі сам Казачнік, але гэта асобная размова. Дык вось. Прыйдзе да мяне чалавек, захоча са мной паразмаўляць, а я ўсе ягоныя хібы выкрываю, усе памылкі заўважаю, меркаванні аспрэчваю… Чалавек выкладзе мне свой светапогляд, а я ўсё павыкручваю, усё ў іншым святле падам… Зруйнаваў светапогляд — вось і няма чалавека! Зразумеў? Сцяміў, анёл?

— Сцяміў, — нарэшце выціснуў з сябе Ніко. — Але не! Нічога я не сцяміў! Я, напраўдзе, не зразумеў, навошта Вам гэта трэба? Навошта знішчаць людзей? Нават маральна! Які ў гэтым сэнс?

— Э-э-э, — Людажэр зноўку стаў сур'ёзным, нібы нацягнуў маску. — Такія пытанні нельга задаваць. Такое маё, Людажэра, прызначэнне. Думаеш, проста быць найразумнейшым? Мяркуеш, вельмі весела жыць, не маючы суразмоўцаў? Ведаеш, якія думкі, ідэі нараджаюцца ў мяне тут? — і Людажэр пастукаў худым, доўгім пальцам па сваім ілбе. — Такія ідэі! І няма ніводнага, хто зразумеў бы мяне! Няма нікога побач, хто зразумеў бы мае пачуцці! Людажэр, ага, ён кепскі, ён брыдкі, ён агідны, гэты Людажэр… А мабыць, я проста шукаю суразмоўцу? Мабыць, мне сяброў нестае? А вы ўсе: Людажэр, Людажэр…

Ніко, нібы заварожаны, не зводзіў вачэй са свайго вусцішнага знаёмца. Людажэр быў бы вельмі прыгожым, адзначыў Ніко, калі б ягоны твар не быў скрыўлены нейкім прадчуваннем няшчасця: нібы пякельную пячатку меў той на ілбе.

Анёл не захацеў больш ні хвіліны заставацца ў гэтым прытулку нянавісці ды ўзаеманепаразуменняў.

— Дык я паляцеў? — пацікавіўся ён у Людажэра, які зноў знерухомеў у сваім крэсле.

— Ляці, мой анёл… Ляці!...

Ніко паспешна памкнуўся да акна, спінаю адчуваючы цяжкі позірк. Яму здавалася, што ў апошніх словах Людажэра прагучалі ноткі шкадавання. Мабыць, анёл выпадкова прынёс яму крышачку свайго шчасця.

Ніко ляцеў, пакідаючы як мага далей жахлівы замак, і пачуваўся ён ніякавата. «Вось табе і казка! — думаў ён. — Вось табе і казачныя ролі!»

Сэнс казкі ні на каліва не высвятляўся, толькі хаваўся глыбей ды глыбей. Ніко нічога не разумеў.

Аднак такая бессэнсоўнасць не магла перашкодзіць яму быць шчаслівым. Бо, каб зрабіць анёла няшчасным, трэба адабраць у яго крылы — а Ніко крылаў не губляў, яны падпарадкоўваліся яму гэтаксама добра, як і ў першы дзень. І Ніко лётаў, лётаў бесперапынна, і людзі, заўважаючы яго з зямлі, усё гэтаксама крычалі:

— Глядзіце, анёл праляцеў!

Ніко завітваў і да Ніні, але ўсё радзей ды радзей ашчаджаў час на гэтыя візіты. Прычына была ў той самай бессэнсоўнасці. Што яму магла даць гэтая заўсёды сумная дзяўчына, хай сабе і з залатымі валасамі? Ён прылятаў, а Ніні штораз сядзела на пяску ды шпурляла каменьчыкі ў ваду. Ніко аднойчы сказаў ёй, што такім чынам Ніні хутка затопіць усё возера, але яна не зразумела жарт.

Ніні таксама была таямніцай для Ніко, але ён чамусьці не меў палкага жадання выкрываць гэтую таямніцу. Ніні з кожнай сустрэчай здавалася Ніко ўсё больш і больш нецікаваю, і прыгажосць ейная таксама не мела ніякага сэнсу. Ніко працягваў запэўніваць дзяўчыну, што ён ейны анёл-абаронца, але прылятаў да чорнага возера штораз праз большыя адрэзкі часу. Напачатку — штодзень, потым — праз дзень, далей — разы два на тыдзень, а аднаго дня, раптам згадаўшы Ніні, Ніко заўважыў, што не наведваў яе цэлы месяц.

І на працягу дня, заняты палётамі, ён зусім не згадваў свае кветачкі, чароўным чынам знойдзеныя пасярод лесу.

Анёла турбавалі больш значныя пытанні. І, урэшце, засынаючы ў белым высокім доме, ён пастанавіў нанесці візіт сваёй старой знаёмай.

Ніко прачнуўся ды, не разважаючы, паляцеў наўпрост да Бабы Ягі. Бо памятаў, як тая прапанавала завітваць, калі паўстануць перад ім невырашальныя пытанні.

Баба Яга сядзела на ганку, звесіўшы ногі. Ніко здалося, што яна яго чакала.

— Ну што, анёл, заходзь! — Яга паднялася ды запрасіла яго ў хату. — Доўга ж ты лётаў, мушу сказаць!

Яны па звычцы селі пры стале.

— Распавядай, якія пытанні невырашальныя з’явіліся!

Баба Яга ўсміхалася настолькі загадкава, што Ніко пачыналі браць сумневы: а ці не ведае ўсё наперад гэтая вядзьмарка няпэўнага веку?

— А пытанні вось такія… Мабыць, вырашальныя… Як бы сфармуляваць… Карацей, я не бачу сэнсу!

— У чым?

— У казцы! Ці мае казка сюжэт? Я думаў, што кожная казка мае сюжэт ды сэнс, пэўную логіку, але я не бачу нічога! Я заблытаўся. Навошта я існую? Проста каб быць шчаслівым? Каб лётаць над галовамі? Я хутка засумую, бо мне нецікава! І яшчэ. Апрача шчырасці, якія ёсць казачныя законы? Я ўявіў дом — і з'явіўся дом, я думаў пра залатых цмокаў — і ўбачыў залаты бляск! Я падумаю — і ўсё ўзнікае? Але ж я не думаў ані пра Людажэра, ані пра мора, ані пра гарады! Як узнікла казка?

Баба Яга працягвала пяшчотна ўсміхацца, чым пераконвала Ніко ў сваіх здольнасцях прадбачыць ды чытаць думкі.

— Лагічна! Пачнём з канца. Хто стварыў казку, пытаеш. Слухай. Казку стварыў Казачнік. Як — нам гэтага не спасцігнуць. Так ёсць. Ёсць Казачнік, які надзяліў герояў паўнамоцтвамі: уявіць дом, цмакоў… Калі б ты пажадаў мець мора пад тваімі гарамі — ты яго меў бы. Дастаткова чароўнае моцы, на мой погляд. Але! Мы не можам зруйнаваць казку. І не ў нашых сілах разгадаць асноўны Сюжэт. Яго тут не ведае ніхто, так што не засмучайся. А цяпер наконт сэнсу твайго існавання. Тут больш складана. Ты мусіш сам знайсці сэнс або вынайсці яго на пустым месцы. Запаўняй сваё жыццё як знаеш і чым знаеш. Дапоўні казку ўласнай сюжэтнай лініяй! Тут табе ніхто не дапаможа, і пытаць будзеш толькі самога сябе: а што я рабіў? Ці не марнаваў я час? Ці спазнаў я новае? І — галоўнае! — ці быў я шчыры? Ну што, анёл, уцяміў?

— Аё-яёй! — Ніко пацiснуў крыламі як плячыма. — Усё няпроста! Казка, выходзіць, гэта не дзіцячыя забаўкі!

На ганку, перш чым развітацца, Баба Яга дадала:

— І яшчэ. Памятай: ты можаш сустрэць Казачніка. Ён бачыць усіх нас наскрозь. Шчырасць, сумленнасць — гэта асноўнае. Ляці, мой анёле, ляці!

Ніко ляцеў дахаты, занураны ў свае думкі. Дык у казцы трэба працаваць і вучыцца! Вось чаму ў Бабы Ягі ўся хата загрувашчана кнігамі! І не ў адзін дзень, пэўна, Людажэр стаўся найразумнейшым! І Ніні, мабыць, не ад лайдацтва кідае каменьчыкі ды сузірае неба! Адзін толькі ён, наіўны анёлак, ганяе пыл сваімі белымі крыламі… І Казачнік, Казачнік, таямнічы Казачнік — хто ён такі? Мо ён падпільноўвае Ніко вунь за тою хмараю?

Ніко згадаў усе папярэднія ўчынкі ды, не знайшоўшы падстаў абвінаваціць сябе ў няшчырасці, супакоіўся.

Наперадзе яго чакала справа: знайсці сэнс жыцця. Акрэсліць аб'ект вывучэння. Прыдбаць розуму. І, падлятаючы да дому, Ніко ўжо ўяўляў у агульных рысах, у чым палягае ягоная місія.

— Я хачу збудаваць палац! — крычаў ён аблокам з расчыненых вокнаў белага доміка. — Я хачу збудаваць палац, якога яшчэ няма ў казцы! Гэта будзе Палац Узаемапаразумення! Палац Знаёмстваў! Палац Сяброўства! Я пабудую палац уласнаручна!

У казцы Ніко больш за ўсё бянтэжыла тое, што героі не былі знаёмыя між сабой, амаль нічога не ведалі адно пра аднаго, існавалі аўтаномна, як чужыя. А Казачнік, пэўна, стварыў велізарны Сусвет — і колькі ў ім жывых істот? Энцыклапедыя Бабы Ягі няпоўная, недакладная; ці можа яна паведаміць агульную колькасць тых самых анёлаў? А Ніко збудуе вялізазны палац, у сто разоў большы за замак Людажэра, з вежамі, вышэйшымі за горы. І ў яго завітаюць усе казачныя жыхары, усе без выключэння! І гэта будзе вельмі плённа ды карысна. Усе міжсобку пасябруюць ды, мабыць, паспрыяюць развіццю казачнага Сюжэта! І ён, анёл Ніко, ажыццявіць ідэю ўласнаручна!

У Ніко адразу ўзнікла процьма тэрміновых і неадкладных спраў. Цяпер ён не хлусіў Ніні, прылятаючы на хвілінку да возера, пра сваю занятасць: палац не мусіў чакаць!

Палац Паразумення авалодаў усімі думкамі Ніко. Уранні, удзень, увечары, уночы анёл толькі і марыў пра сваю грандыёзную пабудову, з вежамі да нябёсаў. І пачаліся будаўнічыя работы.

Спачатку Ніко доўга выбіраў месца, налятаўшы тысячы кіламетраў, перш чым знайшоў узвышша, як наўмысна прызначанае для пабудовы Палаца.

«І мора будзе відаць адсюль, і лес! Усё будзе відаць, уся казка!» — паўтараў Ніко, вывучаючы будаўнічую пляцоўку.

Уласна будаўніцтва таксама вымагала напружанай працы. Такі вялізазны палац немагчыма было ўявіць у адну хвіліну, і Ніко прымушаў свае мазгі функцыянаваць з усяе моцы. Ён УЯЎЛЯЎ — кожную драбніцу, кожную рысу свайго будынка, кожны каменьчык падмурку — усё! Стомлены, зняможаны, сто разоў ён апускаўся на зямлю, заплюшчваў вочы, сціскаў скроні рукамі ды ўяўляў, уяўляў — кожную прыступачку сходаў, малюнак мармуру, уяўляў шурпатую паверхню камянёў, гульню сонечных промняў у шкельцах; усе анфілады, нефы, нервюры, дэнтыкулы, ёнікі, канэлюры, валюты… А колькі сваёй фантазіі ён уклаў у скульптуры, барэльефы, у атлантаў ды карыятыд! Усіх іх Ніко ведаў у твар — ды што ў твар, ён мог на памяць адказаць, колькі ў каго складак на вопратцы!

Палац павольна, але няспынна набываў абрысы, поўніўся жыццём будаўніка, анёла Ніко. Вось і прыспеў ягоны час вучыцца: процьму разоў Ніко лётаў да Бабы Ягі па кнігі, да Людажэра — па кансультацыі. Людажэр, дарэчы, зусім не быў брыдкі ды агідны, проста не вельмі шчаслівы, і не меў намераў зжэрці Ніко. Наадварот, ахвотна распавядаў, паводле якіх законаў механікі ды вышэйшай матэматыкі трэба правільна размяшчаць кантрафорсы ды нервюры.

І Ніко зразумеў, што шчасце бывае рознае. Калі ішоў дождж, ён прыпыняў будаўніцтва ды сядзеў дома, сузіраючы нябёсы, як раіла яму Ніні. Ніко быў уражаны казачнай прыродай. Калі б не Палац, ён ахвотна прысвяціў бы жыццё сузіранню: гэты занятак лучыў Ніко з нейкім таемным сэнсам. Ніко, гледзячы як хмары віруюць у небе, задаваў сабе пытанне: чаму ў казцы такая казачна прыгожая прырода? Чаму, куды б ён ні кінуў вокам, паўсюль ён сустракае бездакорную прыгажосць? Лета, восень, вясна, зіма, сонечна або непагадзь — чаму немагчыма адвесці вачэй, чаму ён перапоўнены шчасцем?

Ніко ўжо ставала досведу, каб самастойна знайсці адказ. У казцы не было кепскага надвор'я, бо ў казцы не было турбот. Галовы казачных герояў не былі забіты пустымі клопатамі — будучыня не несла няшчасцяў. Таму і яны, шчаслівыя насельнікі казкі, глядзелі вакол сябе светлым, нічым не засмучоным позіркам, былі здатны разумець Прыгажосць.

І анёл Ніко быў шчаслівы. Вялікая мэта авалодала ягонай свядомасцю — ён будаваў Палац.

Але аднойчы адбылася Нечаканасць.

Увявіўшы апошнюю калону ў адной з анфіладаў, Ніко прычакаў позняга вечара, каб пабачыць, як кладуцца вечаровыя цені. Ляцець дахаты было ўжо позна — ды і яму самому не вельмі хацелася — і Ніко застаўся на ноч ля Палаца.

Спаць жадання не ўзнікала, нягледзячы на цёмную ноч, і Ніко вырашыў зрабіць маленькі шпацыр да рэчкі, што выцякала з лесу ды мкнулася да аддаленага мора; а мо яму пашчасціць нарэшце сустрэць цмокаў?

Ніко павольна крочыў берагам, склаўшы крылы, ды не меў сілы ні пра што разважаць. Яму ставала мармытання рачулкавых хваляў ды подыхаў начнога лесу. Шлях ягоны асвятляла нязменная сяброўка Поўня.

І раптам Ніко спыніўся, аслупянелы. У няпэўным святле Поўні, у гэтым здрадніцкім, зманлівым, скажоным святле ён пабачыў Мрою.

Мроя сядзела на вялізным валуне пасярод ракі ды глядзела на ўласнае адлюстраванне ў чорна-сярэбранай вадзе. Ніко адразу, не разважаючы, стаіўся за дрэвам, каб не напалохаць яе, не спужаць. Хацеў пабачыць яе цалкам, занатаваць у памяці да драбніцы, да апошняй рысачкі, як чароўны малюнак, як няісны міраж! Ніко прагна глядзеў на Мрою, не здатны адвесці ад яе вочы.

Мроя была дзяўчынай. Русалка, вядзьмарка, лясная драпежніца, чараўніца — хто яна? Дзяўчына сядзела на камені, напружана выглядаючы нешта ў вадзе, і ў кожным выгіне ейнага пругкага цела адчувалася прыхаваная энергія, жыццёвыя сілы, жывёльная прыгажосць — жорсткая ды бездакорная. Чорная, зблытаная грыва валасоў спускалася ледзь не да вады, і вочы дзявочыя ззялі халодным полымем. На ёй амаль не было вопраткі — толькі плашчык пакрываў спіну, і нагадвала дзяўчына пантэру або птушку, вялікую моцную птушку.

Што рабіла гэтая дзяўчына з зіхоткімі вачыма тут, уночы, на валуне пасярод ракі? Спачатку Ніко падумаў, што яна папросту замілавана ўласным адлюстраваннем, але, раней нерухомая, дзяўчына зрабіла рэзкі, вокамгненны рух, і вось — сярэбраныя пыркі, плёскат вады — яна выхапіла з рачных хваляў рыбу.

Ніко скамянеў, мяркуючы, што чарнавалосая драпежніца праглыне рыбку, якая білася ў ейных руках. Але прыгажуня адно пакруціла няшчасную жывёлінку ды закінула яе ў родную стыхію.

Мільён разоў за дзесяць хвілін наважваўся Ніко падысці да пантэры-птушкі, і мільён разоў нерашучасць спавівала яго нябачнымі вяроўкамі, не дазваляючы наблізіцца. Нарэшце Ніко прымусіў сябе зрабіць колькі крокаў ды выйсці з цемры да вады.

Дзяўчына заўважыла яго ды адразу сашчапіла рукі, незадаволена паглядаючы ў бок белай здані.

Ніко зрабіў чарговае намаганне, і ніхто не ведаў, чаго каштавалі яму ўсяго толькі два словы!

— Ты хто? — наважыўся вымавіць ён.

— А ты хто? — патрабавальна пацікавілася драпежніца, з недаверам вывучаючы анёлаву постаць.

— А я... я проста анёл... — ледзь не прашаптаў Ніко і, заўважаючы, што адказу не атрымлівае, дадаў: — А што ты тут робіш?

Дзяўчына ссунула стрункія бровы.

— Я лаўлю залатых рыбак! Толькі ты мне ўсё сапсаваў — змарнаваў маё паляванне! Рыбы баяцца галасоў!

Ніко меў намер падтрымаць размову.

— Залатых рыбак... Як цікава! А ты ведаеш, я шукаю залатых цмокаў! Мы маем нешта агульнае!..

Птушка-пантэра фыркнула, вельмі непаважна надзьмуўшы вусны.

— Ха! Агульнае! Параўнаў рыбу з цмокам! Нічога ў нас агульнага няма! А што ты ўмееш рабіць, анёл?

Ніко, ашчасліўлены такой увагай да ягонае персоны, пачаў быў, акрылены, выхваляцца:

— Я ж анёл! Я ўмею лётаць... Высока, далёка, хутка — як пажадаеш! Хочаш, я абдыму цябе, і мы паляцім куды скажаш?! Туды, дзе ты яшчэ не была! Хочаш пабачыць мора? Або гарады? У мяне ёсць сябар — Людажэр...

Згадаўшы Людажэра, Ніко запнуўся, не ведаючы, ці з'яўляецца чалавекам чорнавалосая прыгажуня. А яна, між тым, скарыстала гэтую паўзу, нібы толькі і чакала, калі Ніко ўрэшце скончыць балбатаць. Дзяўчына яшчэ раз фыркнула, вельмі, дарэчы, непаважна.

— Ха! Лётаць! Здзівіў! Я сама ўмею лётаць — не горш за цябе!

І ўмомант тое, што Ніко ў зманлівым святле палічыў плашчыкам, распахнулася ў крылы — скураныя чорныя крылы, з вострымі косткамі ды перапонкамі — пругкія крылы, не раўнуючы кажановыя.

Дзяўчына так хутка ўзнялася ў паветра, што Ніко адно паспеў крыкнуць наўздагон:

— Імя! Скажы імя!

— Анжэлік! — празвінеў у начной цішы дзявочы голас.

І яна знікла, як мроя, міраж, як чароўны малюнак... Толькі вада бруілася ў рачулцы, кацілася праз каменьчыкі, мармытала казку на незразумелай мове.

Ніко яшчэ хвіліны з дзве сузіраў вялікі валун пасярод рачное вады, не маючы сіл адвесці ад яго позірк. Пасля ён падняў вочы ў пустое чорнае неба, чакаючы пабачыць у ім вогненны след ад палёту казачнай драпежніцы.

Неба маўчала, лес маўчаў. Бяздонная казка праглынула ягоную мрою, не пакінуўшы ні адбіткаў, ні абяцанняў. Нічога. І толькі рачныя хвалі мармыталі нешта: яны ведалі, ведалі таямніцу, але не спяшаліся раскрываць яе анёлу.

Ніко павольна пакрочыў берагам ракі назад да Палаца. Зачараваны, ён нібы згубіў сябе. Кім ён быў? Куды ён ішоў? Ніко не ведаў, не хацеў ведаць, не мог ведаць адказаў на гэтыя пытанні. Ніко знік — і зніклі лес з ракою, засталася толькі думка пра яе: пра начную птушку, крылатую змяю, дзяўчыну з чорнымі зблытанымі валасамі. Ніко забыўся на свае пухнатыя крылы, на свае бялявыя пёркі, ён бачыў толькі тыя, чорныя, скураныя — крылы кажана. Яму не трэба было заплюшчваць вочы — дзяўчына была перад ім, над ім, вакол яго...

Чым была гэтая думка? Гэты сон, мроя, навала?.. Ніко не разумеў і не хацеў разумець; ён меў адно толькі жаданне: яшчэ раз пабачыць сваю драпежніцу, глядзець, глядзець на яе неадрыўна, не выпускаць яе з вачэй, з думак, з уласнага сэрца...

— Анжэлік... Анжэлік! — шаптаў Ніко.

Як жа так — няма нічога агульнага? Дзяўчына, пэўна, памылілася! А імя? А як жа ж ейнае імя? Анжэлік! Гэта ж знак лёсу! Дзяўчына мусіла належаць яму — паводле ўсіх казачных законаў, насуперак усялякаму клёку — Анжэлік! Ён быў анёлам, а яна — Анжэлік! Анёлава дзяўчынка. Дзіўнае, дзіўнае стварэнне!..

— Анжэлік... Анжэлік... — зачаравана паўтараў Ніко.

Зніклі мовы, зніклі словы, зацёрліся, страцілі сэнс альфабэты; засталося толькі Імя — гучнае, з трох складоў — Анжэлік, з сямі гукаў, як з сямі нот — Анжэлік...

Заварожаны, з адсутным позіркам, Ніко немаведама як дайшоў да Палаца, уладкаваўся на мармуровых сходах ды заснуў, — нібы праваліўся ў цямрэчу, у вымярэнне ўласных мар ды нявыказаных, патаемных жаданняў, — заснуў, каб казачная ноч прывяла да ладу ўсе маланкавыя віхуры ягоных думак; заснуў, каб раніца сфармулявала пытанні ды падказала адказы.

Калі б не ягоны дзіўнаваты стан, Ніко, кладучыся спаць, мог бы пачуць няпэўны рух у цемры, мог бы заўважыць таямнічыя постаці, што спешна зніклі ў лясным гушчары пры ягоным набліжэнні. Ніко мог бы ўгледзець абрысы: маленькага росту,

у дзіўных шапках, у высокіх востраносых ботах, з вялікімі мяхамі за плячыма; абрысы не належалі чалавечым істотам. Гэта былі заўсёдныя, спрадвечныя гаспадары казкі — гномы. Спрытныя гномы ўжо паспелі прыхаваць у палацавых сутарэннях свае скарбы, бо ведалі наперад, што ў Палацы будзе браць пачатак вясёлка. Так, самая сапраўдная казачная вясёлка; яна мусіла нарадзіцца ў Палацы ды разгарнуцца над усёй казкай. Анёл Ніко нават сам не ўяўляў памераў, якіх мела дасягнуць ягоная задума з Палацам.

А раніца прыйшла з дажджом — сапраўднай залевай; вада абрынулася з неба, пацякла вадаспадам па мармуровых сходах, на якіх анёл уладкаваўся на ноч. Ніко быў абуджаны рашучымі кроплямі; ён сеў на прыступкі, падставіў твар пад цёплы дождж, заплюшчыў вочы ды адчуў: гэта шчасце.

Ніко сядзеў на прыступках свайго недабудаванага Палаца, з тварам, паднятым да вірлівага неба, ды прыслухоўваўся да самога сябе. Шчасце замацавалася ў ім глыбока-глыбока, трывала-трывала, нібы вялікая птушка звіла гняздо ў ягоных вантробах; і сэрца тахкала не раўнуючы як неспакойнае птушанятка.

Ніко здавалася, што жыццядайная крыніца бруіцца ўсярэдзіне і перапаўняе вадой яго — раней засушнага, нібы пустыня.

Жыццё! Вось яно, жыццё, вось яно, сапраўднае шчасце! — і Ніко, больш не здатны заставацца нерухомым, паляцеў — вышэй, далей — да неба, да мора; ён прарываў шчыльную залеву, пераадольваў супраціў вады ды ветру. Крылы ягоныя набрынялі, умомант зрабіліся важкімі, і Ніко раскінуў іх, з усяе моцы, ушыркі — і паляцелі ва ўсе бакі пырскі; і ў той самы момант хмары прарваліся, і з нябёсаў палілося гарачае сонечнае святло.

І з блытаніны зыркага, сляпучага святла, струмянёў залевы, з ветру з-пад анёлавых крылаў нарадзілася вясёлка — сапраўдная казачная вясёлка. Яна пачыналася над Палацам, абдымала неба, а другі край вясёлкі губляўся за даляглядам.

Ніко, аслеплены, уражаны, памчаў дагары — вышэй ды вышэй; гэта шчасце змусіла яго раскінуць крылы, задзерці да неба твар — і з усяе моцы ён пракрычаў:

— Я кахаю цябе, Анжэлік! — вось, вось, знянацку, не паспеўшы нічога асэнсаваць, — Ніко знайшоў яго — адказ на ўсе пытанні.

* * *

Палац быў дабудаваны.

Ніко, стомлены, ляцеў дахаты, спрабуючы ўпарадкаваць свае чаканні ды адчуванні.

Заўтра, менавіта заўтра — калі сонца з’явіцца на ўсходзе — у ягоны Палац мусяць прыйсці ледзь не ўсе казачныя істоты. У тым, што пра Палац вядома ўсім, Ніко быў перакананы, бо як магло адбыцца інакш у казцы, дзе ўсё вядома наперад? Але хто, хто менавіта прыйдзе — вось што непакоіла Ніко найперш. Наконт Людажэра сумневаў ён не меў, Баба Яга таксама паабяцала, але, каб уявіць незлічоныя колькасці іншых, на гэта фантазіі Ніко не ставала. Залатыя цмокі хіба што... Мабыць, з гарадоў папрыцягваюцца розныя прывіды, рыцары з замкаў, а таксама разнастайныя каралі з каралевамі ды прынцэсамі — каго яны могуць з сабой прыцягнуць?..

Але не гэта, не гэта было асноўнае! Здагадкі ды думкі Ніко кружлялі па коле ды зноў вярталіся да адной дзіўнай таемнай істоты: да дзяўчыны з чорнымі вачыма ды кажановымі крыламі.

Бо ад моманту іхняй выпадковай сустрэчы ля начной ракі Ніко меў адну толькі мару: пабачыць Анжэлік.

Пабачыць Анжэлік ды распавесці ёй пра сваё каханне.

Чаму? Навошта? І які сэнс могуць мець ягоныя шчырасці? І ўвогуле, што гэта за пачуццё, якое ён так упарта называе каханнем? — і ў ніводным з гэтых пытанняў Ніко не бачыў сэнсу.

Я яе кахаю! І не хачу чуць аніякага голасу розуму — гэта не розум, а баязлівасць прамаўляе ў тых, хто не здатны лётаць! Што такое каханне? Я яе кахаю — вось і ўсё! І ўсведамленне гэтага дае мне сілы жыць — не проста жыць, а быць шчаслівым! Я кахаю яе — гляджу ў неба, бачу аблокі — і я шчаслівы; я бачу прыгажосць паўсюль, ва ўсім, пранізлівае шчасце — хіба гэта не цуд? І хто заклікае мяне шукаць у гэтым сэнс?

Аналізаваць, прагназаваць, раскладаць прыгажосць на малекулы — я не буду, ніколі! Я хачу бачыць яе — увасабленне дасканалай прыгажосці! Пра які розум можа ісці гаворка, калі я шчаслівы? Гэты свет заззяў усімі колерамі, адкрыў мне сваю сутнасць; а сутнасць — у каханні! Гэта — цуд, гэта — таямніца, і як розум можа адказаць на пытанне: ЧАМУ? Яна паглядзела на мяне сваімі чорнымі вачыма — і свет перакуліўся. ЯК гэта можна патлумачыць?! Каханне — гэта найвялікшая таямніца нашага свету, і я не буду, не буду паганіць яе асэнсоўваннем ды аналізаваннем! Я пабудаваў Палац — дзякуючы каханню, а яны хочуць раскласці ўсё па паліцах, яны вымяраюць усё сваімі кароткімі лінейкамі, падлічваюць на паперках няісныя лічбы... Я кахаю цябе, Анжэлік! І табе я ўдзячны, табе абавязаны сваім шчасцем; я кахаю цябе, Анжэлік, цябе, драпежную птушку з кажановымі крыламі, маю казку, мрою, святло майго жыцця...

Так думаў Ніко, калі ляцеў дахаты, у свой дамок на вяршыні гары. Шкада, што ён не занатоўваў сваіх думак, інакш спытаў бы самога сябе: а што гэта за *яны,* якія так упарта апелявалі да розуму ды да самааналізу з прагназаваннем бліжэйшай будучыні? Напраўдзе, нікому Ніко не распавядаў пра свае пачуцці да цёмнавалосай драпежніцы; папросту ягонае мінулае жыццё ў чалавечым абліччы нагадвала пра сябе. О, гэтае цяжкае ды змрочнае, невытлумачальнае, бессэнсоўнае чалавечае жыццё! Якія шанцы выжыць мае ў ім каханне? Якія шанцы выжыць мае каханне ў чалавечым жыцці з мільёнамі перашкод? Калі ўжо пашчасціла табе нарадзіцца чалавекам — куды ты прыткнеш сваё казачнае каханне? Як ты пранясеш яго па жыцці, дзе трэба атрымліваць пяцёркі ў школе, каб трапіць ва ўніверсітэт, зарабіць чырвоны дыплом, з восьмай да шостай зарабляць грошы, а яшчэ мыць посуд, абіраць бульбу, яшчэ статус нейкі сацыяльны, пашпарт трэба афармляць, амбасада візы не адкрыла, абцас зламаны, канапа старая, шафа развальваецца, у прыбіральні трубы цякуць, сусед-алькаголік заснуў з цыгарэтай, у краме нахамілі, з працы выганяюць, за інтэрнэт рахунак прыйшоў, а паліто другі сезон як з моды выйшла, а што людзі скажуць? О божа... Няшчаснае маё каханне, безнадзейнае каханне маё, ну куды ты мяне нясеш, усё б табе да зор ляцець... Каханне ты маё недарэчнае, ні межаў для цябе няма, ні рэзонаў... Каханне ты маё няшчаснае, ну хто цябе прыдумаў, адкуль ты ўзялося, што мне з табой рабіць? Куды мне цябе прыткнуць? А?..

Няма адказаў, няма... І Ніко не меў ніякіх адказаў, а толькі пранізлівае жаданне пабачыць назаўтра Анжэлік. Звыклы да няспыннага карагоду думак, ён заснуў, а ў небе міргалі зоркі — яшчэ адна невытлумачальнасць.

І прыйшла раніца. Не проста планета перакруцілася вакол сябе, не проста неба згубіла колер на ўсходзе, не проста перацяклі ў мінулае начныя гадзіны — прыйшла

раніца. З’явілася, як каралева, адзіная ды непаўторная, абвясціла аб сваёй прысутнасці: вось яна Я! Ніко расплюшчыў вочы — нібыта і не спаў — ды колькі хвілін ляжаў нерухомы, спрабуючы асэнсаваць новы дзень. Усё змянілася — канчаткова, незваротна, нібыта Час быў не бясконцы, а падзяляўся на адцінкі, на калідоры, на адасобленыя пусткі. Ніко ляжаў ды адчуваў — усёй скурай, усімі пёркамі на крылах — адчуваў сутнасць, матэрыяльнасць Часу, ягоную будову, адгалінаванні ды пасткі, самотныя выспы ды стромкія сходы. І мінулае чалавечае жыццё неўсвядомлена адгукалася пульсаваннем у скронях. Нібыта раней ён блукаў па калідоры, замкнёным у кола, але раптам, немаведама як, праскочыў у адгалінаванне. Ніко здавалася, што нейкія дзверы, няісныя, але важкія, назаўсёды зачыніліся за спінаю. І дарогі назад не будзе ўжо ніколі. Прыйшла раніца новага дня. У адчыненых вокнах ён бачыў неба — зацягнутае пакуль яшчэ начнымі аблокамі, яно, свежае, новае, нібы знерухомела ў прадчуванні вялікага, сляпучага святла — з першымі моцнымі сонечнымі промнямі. З вокнаў цягнула прахалодаю; тут, на вяршаліне гары, паветра заўжды было найчысцейшае, але цяпер Ніко адчуваў: і ў паветры нешта змянілася.

Урэшце Ніко вельмі востра адчуў прысутнасць; ляжаць далей не было ніякага сэнсу; ён падняўся, выйшаў навонкі ды пабачыў Ніні.

Яна сядзела на камянях спінаю да дзвярэй, абхапіўшы каленкі, ды глядзела на ўсход, нібы прыйшла з адзінаю мэтаю: паназіраць за сонцам з найвышэйшай гары. Сядзела Ніні, пэўна, не першую хвіліну; ейныя доўгія валасы леглі на камяні як заледзянелы вадаспад.

На грукат дзвярэй за спінаю яна не азірнулася.

— Здароў! — сказаў Ніко.

У ягоным звароце прагучала няўлоўнае пытанне.

— А, — Ніні паднялася ды зрабіла няўпэўнены крок насустрач. — Добрай раніцы!

На яе твары не адбівалася ніякіх акрэсленых эмоцый.

— Як маешся? — спытаў Ніко.

Пытанне было вельмі недарэчнае. Ніко інстынктыўна склаў рукі на грудзях. Гэта быў вельмі красамоўны жэст. Ніко зразумеў, што зараз пачне вярзці бязглуздзіцу, адным пытаннем збіўшы размову на іншы шлях, ператварыўшы яе ў рытуал, не варты выканання. Ён хацеў спытаць зусім іншае, і не толькі спытаць, але і сказаць Ніні нешта значнае, паведаміць, што жыццё змянілася, што вяртання да мінулага няма, што ён сам змяніўся — і яшчэ шмат чаго; але патрэбныя словы ўмомант зрабіліся цяжкімі, як цагліны, ды праваліліся на дно жывата — і выцягнуць іх на язык было амаль не магчыма.

Але Ніні мела словы бязважкія, як мыльныя бурбалкі, або, за працяглы перыяд маўчання, у яе назапасілася так багата слоў, што ім ужо не ставала месца ўсярэдзіне — так ці не, але Ніні праігнаравала непатрэбнае пытанне ды пачала прамаўляць.

— Ты забыўся на мяне. Я не пытаюся, чаму. Я здагадваюся. Я нават ведаю — так мне здаецца. Я хачу спытаць пра іншае. Адкажы, калі ласка, адкажы! — чаму? Ты казаў мне, што ты — мой анёл-абаронца. Ты абяцаў не забывацца на мяне. Я не крыўдую — не, хлушу! — я крыўдую, але не на цябе. І гэтае пытанне — чаму? — гэта я не ў цябе пытаюся. Але ты вымаўляў словы, якія я памятаю! Я іх памятаю, а ты — не.

Ніні спынілася ды раптам, закінуўшы галаву, паглядзела на неба. Ніко прасачыў за ейным позіркам. У небе пачаўся рух. Туман заварушыўся ды падаўся да захаду, губляючы па дарозе насычанасць, і ўжо першыя сонечныя промні абмацвалі зямлю. Паміж сваіх разнастайных думак Ніко заўважыў лёгкае здзіўленне. Ніні прамаўляла

такія няпростыя словы больш чым спакойна, нават з нейкаю стомаю, — і раптам умомант Ніко здагадаўся: яна задзерла вочы дагары, каб не заплакаць!

Гэтае раптоўнае адкрыццё ў адну секунду ператварыла Ніні ў чужога чалавека: нібыта празрыстая непрабіўная сцяна паўстала паміж імі, і не толькі пачуцці не адолеюць гэтае перашкоды, але нават слоў праз сцяну не чуваць.

Ніко ўсведамляў эгаістычнасць сваіх эмоцый, але не мог нічога з сабою зрабіць: Ніні сваімі слязьмі, сваім няшчасцем аўтаматычна рабіла яго вінаватым, а ён не хацеў быць вінаватым! Ён і не быў вінаваты перад ёю!

Але трэба было нешта казаць, бо маўчанне брыняла ды рабілася нясцерпным.

— Паслухай, — Ніко ўрэшце зрабіў намаганне. — Я не вінаваты! Я ніколі табе не хлусіў! Я заўсёды казаў праўду! Калі я абяцаў быць тваім анёлам-абаронцам, я быў шчыры! Ну хіба што я не думаў пра будучыню, але мяне не папярэдзілі! Мне сказалі: «Шчырасць — перадусім!» Я думаў, гэта казка, няма тут будучыні, я ж не ведаў! І цяпер я не хлушу, ані каліва: хочаш, я застануся тваім анёлам? Я абяцаю, што...

І Ніко замаўчаў. Ён не ведаў, што можна паабяцаць: сёння мусіла адбыцца НЕШТА, гэты Палац, Анжэлік, усё так таямніча ды няпэўна...

Але Ніні ўжо авалодала сваімі слязьмі. Без тугі ў вачах, з нейкаю стомаю яна сказала, гледзячы ў твар Ніко:

— Я разумею. Я цябе разумею лепш, чым ты ўяўляеш. Не трэба да мяне прылятаць. Не трэба, бо ты гэтага не хочаш. Даруй, што з’явілася без запрашэння — не змагла сябе стрымаць. Хацелася цябе пабачыць. Ты і сам нічога не ведаеш. «Чаму, чаму» — гэта не да цябе пытанне. Бывай.

Ніні замаўчала ды крыху ссунула бровы. Яна нават не памкнулася хаця б працягнуць руку на развітанне.

— Ну, бывай, — зацягнуў быў Ніко, але раптам патрэбныя словы самі вылецелі навонкі:

— А як ты сюды патрапіла?

Ніні, упершыню за ўсю размову, усміхнулася; як здалося Ніко, занадта весела.

— Ха! Я ўмею лётаць, — і павярнулася да яго спінаю, паднялася ў паветра ды хутка-хутка паляцела прэч: проста паляцела, без усялякіх крылаў, намаганняў — як пёрка.

Ніко, крыху збянтэжаны, сачыў за хуткім знікненнем белай постаці ды задаваў сабе некаторыя пытанні. Па-першае, калі Ніні ўмее лётаць, навошта ён выратоўваў яе з лесу? І ці было гэта сапраўднае выратаванне? Пэўна, Ніні проста шпацыравала, а ён вырашыў пагулядца ў героя... Тады паўставала наступнае пытанне: ну і хто з іх быў няшчыры? Чаму Ніні ніколі не паведамляла яму пра свае здольнасці? Але, з іншага боку, ён сам не пытаўся... Выходзіць, не цікавіўся ёй па-сапраўднаму? Але, але... Дзіўная дзяўчына, зусім дзіўная! Ну проста таямніца нейкая неразгаданая, але ж...

Але разгадваць гэтую таямніцу цяпер, перад лёсавызначальнай падзеяй, Ніко намераў не меў. І чаму ён вырашыў, што свята ў Палацы нейкім чынам мусіць вызначыць ягоны анёльскі казачны лёс — Ніко асабліва не аналізаваў. Ён проста ведаў, вось і ўсё.

Упэўненасць трывала замацавалася недзе ў жываце Ніко. Ён, цалкам спакойны, папярэдне выліўшы на сябе ледзяной вады — па дарозе паспее высахнуць! — паляцеў да Палаца.

Але падчас палёту разам з вільгаццю знікала і ўпэўненасць, нібы выпарвалася пад ужо гарачымі промнямі, саступаючы месца неспакою, хваляванню ды трымценню.

Хто прыйдзе на ягонае свята? І ці прыйдзе хто-небудзь увогуле? І — галоўнае — ці прыйдзе тая, якой ён ахвяраваў так багата: усе свае думкі, сны, натхненне, мары, увесь плён апошніх тыдняў?! Анжэлік, Анжэлік... Анёлава дзяўчына. Драпежная птушка. Хто яна такая? Мабыць, ён прысніў яе? Мабыць, не было ніякай сустрэчы ля ракі? Мабыць, ён размаўляў з бруістымі хвалямі ды валунамі? Анжэлік, Анжэлік...

І падлятаючы да Палаца, Ніко быў ахоплены адзіным жаданнем: няхай ніхто не прыйдзе! Яму было ўжо ўсё адно: абы толькі прыляцела Анжэлік!

А Палац паўстаў на даляглядзе, нібы фата-маргана; нават ахоплены хваляваннем, Ніко не мог не заўважаць яго дасканалай, упэўненай Прыгажосці. «Я стварыў гэта САМ! — у захапленні падумаў Ніко. — Як у мяне атрымаўся гэткі цуд?» Палац папраўдзе быў цудоўны; больш дзівосны за казку.

«Вось ён, мой Палац! — пяшчотна думаў Ніко, сузіраючы стромкія вежы ў фіялетавым тумане, — мой Палац, сэнс майго жыцця... Напраўдзе, я ж уклаў у яго будаванне ўсё, што меў! Усё, на што быў здольны! Каханне, натхненне... Каму мне дзякаваць? Мабыць, каханне мне было дадзена не проста так, а дзеля Палаца! І галоўнае ў маім жыцці — не каханне, а Палац!»

А Палац быў варты ўсіх ахвяраванняў. Ён быў дасканалы. Ніко мог ім ганарыцца і, падляцеўшы да вежаў блізка-блізка, злавіў у сваёй галаве маленькую вяртлявую думку: можа, ён закаханы ні ў якую не Анжэлік, а ў гэтыя муры ды калоны, асветленыя казачным сонцам?

Але, зляцеўшы на прыступкі, Ніко адчуў, што ўпартыя думкі пра Анжэлік наноў адваявалі ўсе дагэтуль страчаныя пазіцыі ў яго галаве.

А вакол ужо адбывалася дзея, у якую яшчэ трэба было патрапіць, зразумець яе ды асэнсаваць.

Казачнае сонца пакуль яшчэ стаяла не вельмі высока: яго промні бесперашкодна ўваходзілі ўва ўсе расчыненыя насцеж вокны, і белы мармур, з якога быў збудаваны Палац, свяціўся, прамяніўся з сярэдзіны, ствараючы дзіўную гульню святла і ценяў. Кожны, хто набліжаўся да Палаца, трапляў у гэту аўру ды, ашаломлены, рабіўся больш казачным, чым быў.

Тое самае адбылося і з Ніко. Ледзь кранулўшы нагамі прыступкі, ён са здзіўленнем адчуў чароўныя ператварэнні. Нібы нехта невідочны зрабіў яго, анёла Ніко з белымі крыламі, абсалютна пустым, выцягнуў з ягонай галавы ўсе думкі, вынуў з грудзей сэрца ды падзьмуў усярэдзіну — і ў пустую абалонку анёла патрапіла абсалютна чыстае сонечнае святло.

Перапоўнены сонцам, Ніко зараз не здолеў бы, нават калі б вельмі захацеў, ані голасна крыкнуць, ані замітусіцца, пабегчы прэч, ані нават рэзка ўзмахнуць крыламі. А Ніко нават не хацеў: прага рашучых імпульсіўных учынкаў знікла; зніклі ўвогуле ўсе жаданні: мітусня, неспакой, няўпэўненасць...

«Гэта — шчасце», — рэшткамі аналітычнага розуму паспеў падумаць Ніко ды яшчэ адзначыў наўздагон: «Так бывае толькі ў сне!»

Сонечны, супакоены, абсалютна шчаслівы, ён няспешна падымаўся па палацавых сходах, неабсяжных, як мора, і гэтаксама павольна сузіраў тых, хто разам з ім завітаў на свята.

Па сходах важна ўздымаліся розныя казачныя персанажы. Каралі, каралевы, прынцэсы — іх была цэлая процьма; яны цягнулі за сабою шлейфы стракатых суконак ды важкія пурпуровыя мантыі; залатыя кароны блішчалі як маленькія сонцы на іх галовах. Побач з каралеўскімі персонамі рушылі на свята і блазны, самыя разнастайныя, у сваіх недарэчных строях яны выступалі не менш годна, чымся тыя, перад кім яны звычайна крыўляліся.

Сівабародыя прадказальнікі будучыні, перапоўненыя ведамі пра тое, чаго яшчэ не было, валаклі свае бароды да галоўнага ўвахода ў Палац, і прамяніліся зоры на іхніх чорных вострых каўпаках.

Вядзьмаркі ды ведзьмакі ўсіх магчымых спецыялізацый, пакінуўшы спрэчкі, непаразуменні ды канкурэнтную барацьбу, падымаліся па прыступках; і маланкі з пякельнымі агнямі зніклі з іх вачэй — былі толькі праменьчыкі, цёплыя сонечныя праменьчыкі.

Не абмінулі свята і прынцы з рыцарамі: усе яны былі на белых конях, хто ў бліскучых латах, а хто з палымнеючымі ружамі ў руках, і іх коні ўрачыста цокалі падковамі па белым мармуры прыступак. І нават не ўзнікала заўсёднага ў такіх выпадках ажыятажу ды панікі сярод прынцэс усіх узростаў.

І гэта былі толькі тыя, каго Ніко паспеў заўважыць; а колькі яшчэ казачных істот, раней ніколі не бачаных, рушыла на свята! Калі б наш анёл згадаў сваю ўніверсітэцкую вучобу, ён лёгка распазнаў бы і сфінксаў, і белых сланоў, і цэлыя пантэоны багоў ды рознай набрыдзі ўсіх магчымых абрысаў ды колераў.

Але не трэба заводзіць аповед у міфалагічныя гушчары. Ніко, нарэшце мінуўшы велізарныя дзверы, патрапіў у галоўную залу.

У вялізазнай палацавай зале, якую немагчыма было ахапіць позіркам, гучала музыка. Адкуль яна даносілася, хто яе граў — Ніко не разумеў. Ён нават не спрабаваў зразумець. Ён павольна перасоўваўся сярод насельнікаў казкі, і разам з ім павольна, без усялякае мэты, перасоўваўся ўвесь натоўп. Стракатыя казачныя постаці рухаліся ў сонечным святле пад гукі дзіўнай музыкі, а сонечнае святло струменілася адусюль, як залацісты ліманад з бурбалкамі.

«“Бурацiна”, — успомніў Ніко, — ліманад “Бурацiна”! Як у дзяцінстве! Я патрапіў у ліманад. Гэта, напэўна, і ёсць Нірвана!»

Згадаўшы пра нейкі тагасветны ліманад з нірванай, Ніко страпянуўся. «Божа, якая лухта!» — здзіўлена адзначыў ён ды патрос галавой: сонца патроху выплывала з яго, саступаючы месца думкам.

Амаль адразу ён пабачыў залатых цмокаў: іх цяжка было не заўважыць. Іх было чацвёра: цмок, цмачыха і два маленькія цмокі, дзеці, напэўна. Цмокі павольна рушылі кудысьці; ім саступалі дарогу. А музыка ўсё гучала; Ніко з цікаўнасцю аглядаў гасцей.

Побач прайшлі чатыры анёлы, толькі яны былі зусім дзіўныя: з галовамі льва, птушкі, быка, а чацвёрты быў падобны да чалавека. Прашыбавала поруч ці то котка з дзявочым тварам, ці то дзяўчынка з целам белай пухнатай коткі. Ніко пачаў узірацца ў натоўп, не асабліва, дарэчы, спадзеючыся заўважыць чорныя скураныя крылы.

Раптам ён пабачыў Людажэра. Той, відаць, ужо даўно чакаў, пакуль Ніко зверне на яго ўвагу; Людажэр прывітальна памахаў рукою ды скіраваўся да анёла.

Ніко, не без здзіўлення, адзначыў, што Людажэр нагадвае яму англійскага лорда. Здзіўленне ж было выклікана тым фактам, што Ніко не мог, як ні намагаўся, успомніць, хто такі англійскі лорд.

Людажэр нарэшце праціснуўся да яго праз натоўп.

— Здароў, анёл! — яны павіталіся за руку. — Ну, як табе падабаецца плён уласнага мыслення? — і Людажэр шырока павёў рукою вакол сябе.

— Ой, — Ніко ў задуменні пацёр нос. — Я не ведаю! Мне здаецца, што гэта стварыў зусім не я... Нехта збудаваў гэты Палац маімі рукамі. Не мог я прыдумаць гэткую дасканаласць! Ты заўважыў? Тут за гаспадара не я — ён! Палац. Палац жывы. І ён сам нас усіх склікаў. Можа, мы ўсе цяпер даведаемся пра Мэту! Ну, той самы сэнс казкі... Разумееш, пра што я?

Людажэр, здавалася, уважліва слухаў Ніко, схіліўшы галаву набок ды сашчапіўшы пальцы. Але на пытанне не адказаў. Наадварот, падняў зусім іншую тэму.

— Дарэчы, анёлак! Ці чуў ты, што сёння тут будзе Казачніца?

— У сэнсе? — здзівіўся Ніко. — Ты хочаш сказаць Казачнік?

— Э-ге, — засмяяўся Людажэр, ты і не ведаеш! Менавіта што Казачніца, адзіная і непаўторная! Вось хто намі кіруе! Як яна захоча — так і будзе! Усе мы ад яе залежым, вось так!

— Пачакай-пачакай, — зацікавіўся Ніко, задаволены тым, што нарэшце Людажэр завёў з ім размову на раней забароненую тэму, — пачакай-пачакай! А ты сам яе раней бачыў? Ты ці Баба Яга, напрыклад? Кажаш, ад яе ўсё залежыць? А калі яе папрасіць выканаць адно жаданне? Гэта ж ёй, напэўна, нічога не варта! Так, некалькі слоў! А такое ўжо было, каб нехта прасіў?

Ніко зноўку ахапілі жаданні ды прадчуванні. Яны, як птушкі, затрымцелі ўсярэдзіне, і яму самому ўжо закарцела зноў разгарнуць свае крылы ды паляцець — над морам, насустрач сонцу... Але галоўнае, у Ніко зноўку ажыла надзея: распусцілася, разгарнула свае палымяныя пялёсткі, як кветка чырвонага маку. Надзея, надзея, жаданне пабачыць Анжэлік...

— Слухай, Людажэр, адкажы мне: ці можа яна выканаць маё жаданне? Паслухай, ці ты чуеш... — Ніко торгаў Людажэра за рукаў.

Але той не звяртаў на анёла ўвагі, глядзеў кудысьці за спіну Ніко. І сам Ніко ўрэшце заўважыў, што рух у зале спыніўся і ўсе павярнулі галовы ды неадрыўна глядзелі ў кірунку, да якога Ніко стаяў спінаю. І толькі казачная музыка рабілася ўсё больш ды больш гучнай.

— Глядзі, вунь яна. Ідзе, — нарэшце вымавіў Людажэр, не зводзячы вачэй са сходаў, якія вялі на іншы паверх.

Ніко таксама павярнуўся да сходаў. Гэтая велізарная лесвіца была такая высокая, што здавалася, быццам па ёй можна дайсці да нябёсаў. І толькі Ніко, як будаўнік, не меў наконт сходаў ніякіх ілюзій. Замiж нябёсаў там быў другі паверх.

І вось з гэтага нябеснага другога паверха спускалася Казачніца. Палац, такі неахопна вялізазны для ўсіх, быў для яе нават крыху цеснаваты. Казачніца была апранута ў бездакорна белыя строі; ейныя белыя валасы струменіліся да самай падлогі, гэтаксама белай, мармуровай, як зледзянелы вадаспад.

Казачніцай была Ніні.

Ніко знерухомеў. Ён не даў веры сваім вачам. Ён заплюшчыў вочы. Потым расплюшчыў.

Казачніца не знікла. Яна спускалася ў залу.

Ніко адчуў, што не можа паварушыць ніводным пёркам. Ён не мог цяпер нават міргаць, усё глядзеў ды глядзеў, як насоўваецца на яго гэтая жанчына з белымі валасамі, якія раней здаваліся яму залатымі.

Так, гэта была Ніні, але адначасова і не яна. Ніко зразумеў, у чым розніца: проста Казачніца мела ейнае аблічча, але выраз твару... Цяпер ён быў зусім іншы. Казачніца не магла быць Ніні — той самай Ніні, якая даверліва працягнула яму рукі тады, у лесе; той самай Ніні, якая ўздымала вочы да неба, каб не паказаць сваіх слёз, каб не выдаць свайго адчаю праз тое, што ён, Ніко, забыўся на яе ды закахаўся ў іншую дзяўчыну.

Казачніца тым часам ужо падышла да Ніко блізка-блізка. Ці то спрацавала нейкая аптычная ілюзія, ці то яна насамрэч кіравала ўсімі працэсамі, але Ніко адцеміў, што Казачніца мае звычайныя памеры, і ростам яна была ніжэйшая за яго недзе на паўгалавы. Гэтаксама як і Ніні...

— Здароў, анёл-абаронца! — павіталася Казачніца, і Ніко зразумеў, што нават голас яна мае зусім іншы: упэўнены ды дзіўна гучны. Ужо не чуваць было ні шуму галасоў, ні нават чароўнай музыкі.

Казачніца ўсміхалася.

— Ну што? Не чакаў такога павароту сюжэта?

Ніко ўвогуле не ведаў, чаго можна цяпер чакаць. І толькі жахлівае падазрэнне ўсё шырылася ды шырылася ў ім.

— Паслухай! — раптам закрычаў Ніко. — Паслухай! Што ты зрабіла з Анжэлік?! Куды ты яе падзела? Што ты з ёю зрабіла? Адказвай! Я ведаю, што гэта ты адказная за ўсіх нас! Мне патлумачыў Людажэр! Гэта ты трымаеш нашыя лёсы ў сваёй руцэ! Я ведаю, што табе варта толькі слова сказаць! Гэта ты, ты кудысьці схавала маю Анжэлік! Вярні мне Анжэлік! Я кахаю яе! Вярні!

Казачніца спачатку ўсміхалася, потым засмяялася, і ўрэшце банальна зарагатала.

— Гэй, анёл-абаронца! Глядзі сюды! Якую тваю Анжэлік? Гэтую?

І Ніко зноўку адчуў, што вочы ягоныя бачаць нешта невытлумачальнае. Перад ім, замест Ніні, стаяла Анжэлік, упёршы рукі ў бакі, ды смяялася голасам Казачніцы.

— Анжэлік? — перапытала Анжэлік. — Дык гэта ж я! Глядзі сюды! Гэта я — ад пачатку да канца! Ад альфы да амегі, ха-ха! Ад крылаў да пазногцяў на нагах! Анжэлік — гэта я!

Ніко зноў заплюшчыў вочы. Ён быў зламаны, забіты гэтай манаю, гэтай няпраўдаю, гэтай крыўднай ілюзіяй. Анжэлік — гэта Ніні? Або Ніні — гэта Анжэлік? Ці ўвогуле, абедзве — усяго толькі тая самая Казачніца? А кім тады былі...

Ён, не жадаючы ведаць адказы, не жадаючы нават фармуляваць пытанні, расплюшчыў вочы.

Зноў перад ім была Казачніца ў абліччы Ніні. Напэўна, гэта было ейнае ўлюбёнае аблічча.

Ніко выціснуў з сябе адно-адзінае, найгалоўнейшае пытанне:

— Навошта?

— Ой, — Казачніца набыла сур'ёзны выгляд. — Гэтага нават я не ведаю... Але што ж гэта я? — і яна зноўку заўсміхалася. — Зараз я табе патлумачу.

Яна паматляла ў паветры рукамі, нібы нешта страсаючы.

— Мне патрэбны быў ты. Ты, менавіта ТЫ! Зірні навокал! Я дзеля цябе стварыла гэтую казку!

Ніко азірнуўся. Зала была абсалютна пустая. Здавалася нават, што яна значна паменшала ў памерах і неяк сцямнела. Нікога, нікога не было побач з ім: ні Людажэра, ні залатых цмокаў, ні каралеў з ведзьмакамі, ні рыцараў на белых конях.

— Ты зразумеў? Я стварыла гэтую казку выключна дзеля цябе, анёлак ты мой непаўторны! І ты, менавіта ты быў Галоўны Герой! Зразумеў? На тваю долю выпаў такі гонар — стаць маім Галоўным Героем!

Не, Ніко не разумеў нічога.

— А чаму я? Адкажы? Навошта я спатрэбіўся табе? Каб з мяне паздзекавацца? Навошта я табе спатрэбіўся?

— Паздзекавацца? — правае брыво Казачніцы абражана папаўзло дагары. — І гэта ты называеш «паздзекавацца»? Не, анёлак! Я не здзекавалася з цябе. Мне проста быў патрэбны гэты Палац. Уцяміў? Зразумеў ты сваімі анёльскімі мазгамі? Мне быў патрэбны Палац! І я прыдумала цябе. А потым я стварыла для цябе Анжэлік гэтую... А няблага ж атрымалася? Ну хіба не? Анжэлік — гэта мая казачная ўдача... Дарэчы, ты вось тут днямі пытаўся, што першаснае: каханне ці творчасць. Анёлак, я лічу, што зараз ты сам мусіш даць мне адказ! Ну?

Казачніца запытальна зірнула на яго.

— Каханне, — упэўнена прашаптаў Ніко.

— Ох, — Казачніца закаціла вочы, — падумай! Навошта я цябе прыдумала? Навошта я стварыла Анжэлік? Каб збудаваць што?

— Каханне! — рашуча прашаптаў Ніко.

— О божа! — Казачніца пачынала заўважна нервавацца. — Няма ніякага кахання! Гэта я яго прыдумала! Я! Прыдумала! Каханне!

Ніко здалося, што ў яго пачынае кружыцца галава. Але хутка ён зразумеў, што гэта не галава, наадварот, вакол яго зварухнуліся ды павольна паплылі Палац, сходы ды Казачніца. І нават голас Казачніцы ўсё цішэў, знікаў, станавіўся глухім ды невыразным, а яна ўсё прамаўляла, прамаўляла, прамаўляла...

— Няма, няма! Я яго прыдумала! Каб збудаваць Палац! На цябе была ўскладзена Місія... А ты не зразумеў... На цябе была ўскладзена місія... місія...

## II

> ***«И он ему сказал». «И он ему сказал». «И он сказал». «И он ответил». «И он сказал». «И он». «И он во тьму воззрился и сказал». «Слова на ветер».***
>
> Іосіф БРОДСКІ

Аксамітная чорная хваля накрыла залатую, сусвет пацямнеў, зрабіўся маленькім, утульным, скруціўся да памераў дробнай планеткі, але раптам зноўку пачаў раскручвацца да межаў космасу, і тут пабегла залатая хваля, распырскваючы жарынкі, потым здрабнела, жарынкі ператварыліся ў зоры, і знянацку ўвесь сусвет пахіснуўся, ад'ехаў набок, як коўдра, а з-пад коўдры ўзніклі пярсцёнкі, цэлыя горы заручальных пярсцёнкаў; потым зніклі пярсцёнкі, прыйшла ноч, але нейкая светлая, у якой толькі што няспынна прамаўляла радыё: «На мяне ўскладзена місія. На мяне ўскладзена місія. На мяне ўскладзена місія». Але зноўку ўсё накрыла залатая хваля, не раўнуючы сонечная; святло хутка набірала моц, гарачэла ды гарачэла; сон сыходзіў. Вераніка прачнулася і расплюшчыла вочы.

Было ўжо, пэўна, блізка да адзінаццаці гадзін раніцы, бо сонца запоўніла ўвесь пакой ды дабралася да ложка. Вераніка зрабіла марную спробу схавацца ад сонца, але ўрэшце адкінула даўкую коўдру і села на ложку, паціраючы скроні.

Ля акна пры камп'ютары сядзела малодшая сястрычка, падабраўшы ногі на крэсла: не раўнуючы гаргуля ды ўтаропіўшы вочы ў манітор, перабірала ўголас варыянты напісання.

— На мяне ўскладзена місія... На мяне ўскладзеная місія... Ускладзена... Веранічка, як трэба пісаць? *Ускладзена* ці *ўскладзеная*?

Вераніка пазяхнула.

— А... не ведаю. Пішы «Мне даручылі». Слухай, я сон такі бачыла! Звар'яцець! Ведаеш, каго я прысніла?

Але сястрычка наўмысна праігнаравала пытанне і нават не павярнула галавы.

— Пакуль ты спала, Ігар званіў. Ну ве-ельмі хацеў цябе пачуць! Зараз будзе яшчэ раз званіць.

Значыцца, званіў. Гэта мяняла адразу ды ўсё. Трэба было неадкладна абіраць схему паводзін. Больш за тое, неадкладна, у бліжэйшыя хвіліны, трэба абраць жыццёвую дарогу: ні менш ні больш, менавіта дарогу, па якой, пачынаючы ад

сённяшняга дня, пойдзе ейнае жыццё. І адцягваць гэты момант надалей было немагчыма.

Але Вераніка адцягвала. Яна спадзявалася, што не сёння — заўтра ўсё вырашыцца без яе ўдзелу. Яна спадзявалася, што… Але пра гэта ніжэй. Пакуль Вераніка вырашыла прыкідвацца дзяўчынкай, якая абсалютна не разумее сітуацыі.

— І чаго ён званіў? Яму што, пошты мала?

Але Маша не дала веры відавочнай хлусні старэйшай сястры. Гэтак жа, нягледзячы на Вераніку, яна прамаўляла і, дарэмна што малодшая, абрала інтанацыю вялікай ды разумнай.

— І зараз зноў патэлефануе — гэта па-першае. Па-другое, ён сказаў, што калі ты нічога не адкажаш, яны там з бацькамі ўсё за цябе самі вырашаць. Так што, Веранічка, — Маша нарэшце павярнулася да сястры, маючы намер позіркам падмацаваць сілу слоў, — у тваіх інтарэсах хуценька што-небудзь прыдумаць!

Так. Выходзіць, гуляцца ды прыкідвацца бессэнсоўна. Бо нават Машка бачыць яе наскрозь. І да таго ж пачынае ёю кіраваць, як маленькаю… Вераніка пайшла на кухню рабіць гарбату. Настрой быў сапсаваны з самай раніцы, і нават не Ігар з Машай, не бацькі былі ў гэтым вінаватыя. Кепскі настрой Вераніка мела ўжо блізу трох тыдняў.

— Дык ты вызначылася? — закрычала Маша з пакоя.

— А табе якая розніца? — агрызнулася Вераніка. — З табой усё даўно зразумела! Твая справа маленькая: сядзі тут ды давучвайся! Якая табе розніца, калі я з’еду?

— Ты мне надакучыла! — шчыра прызналася сястра.

І ў гэты момант зазваніў тэлефон.

— Гэта Ігар! — крыкнула Маша.

— Без цябе ведаю, — сказала Вераніка.

Тое, што гэта Ігар, здагадацца было няцяжка: тэлефон выдаваў нязвыкла доўгі званок. Вераніка зняла слухаўку ў кухні.

— Алё.

— Здароў, малая! — бадзёра закрычаў Ігар. — Я чакаю!

— Ой, малы, салют! — Вераніка зноўку прыкідвалася, адчайна спрабуючы выратаваць сябе. — Ну як твае справы? Як там бацькі?

— Ты гэта, дурнічку з сябе не рабі, — Ігар не быў схільны яе шкадаваць. — Я табе не з суседняга дома званю! На якую дату мне запрашэнне афармляць? Ты разумееш, што яго не адзін дзень робяць?

Вераніка маўчала. Але маўчаць было бессэнсоўна.

— Ну?

Яна глыбока ўздыхнула.

— Ну давай… Дзясятага верасня.

— А чаму не першага? Ну добра, хай будзе дзясятага, але гэта было тваё апошняе слова! Усё, дамовіліся! Ну цяпер хуценька: як там вашыя справы?

Усё. Назад дарогі не было. Дзіўна, але Вераніка нават адчула палёгку.

— Нармальна… Што ў нас можа быць новага? Тут ніколі нічога не адбываецца. Слухай, Ігар…

— Ну?

— Ты днямі выпадкова Тэйля не сустракаў?

— Я яго штодзень бачу.

Па голасе было чуваць, што Ігар перастаў усміхацца.

— І што?

— А што? Жывы, здаровы.

— А мне… А пра мяне не пытаўся?

Цяпер прыйшла пара маўчаць Ігару.

— Хм. Не, малая, не пытаўся. Не бяры да галавы. Ну добра, цалую, абдымаю, ад бацькоў прывітанне. Мы цябе чакаем!

— Ім таксама! Ну ўсё, малы, пакуль! Пішы!

— Ага! Салют!

Вераніка яшчэ не паспела пакласці слухаўку, як Маша, якая, дарэмна што ўдавала абыякавасць, адразу абурана залямантавала.

— Як дзясятага верасня? Чаму дзясятага верасня? Мама прыязджае пятнаццатага жніўня, а ты паедзеш толькі дзясятага верасня? Ты абяцала ў жніўні з'ехаць! Ты! Абяцала! У жніўні!

Вераніка змрочна, нібы аслупянеўшы, стаяла пасярод пакоя, а Маша, расчараваная ды пакрыўджаная, выкрыквала словы ў твар сястры і нават падскоквала на месцы. Гэта быў рэфлекс, прыдбаны Машай у дзяцінстве: вось і ўсё, ніякай гульні ў дэмакратыю, яна — маленькая, а Вераніка — дарослая, яны з Ігарам адразу былі дарослымі, а яна так і застанецца маленькаю! Маша падскоквала на месцы, каб стаць аднаго росту з сястрой, хаця даўно ўжо перарасла яе.

Але цяпер для Веранікі Машыны эмоцыі не мелі ніякага значэння. Яна ніяк не магла авалодаць сваімі.

— Па-першае. Табе я нічога не абяцала.

Маша, гэтаксама рэзка, як і ўсхапілася, спыніла свае падскокі.

— А мама прыедзе ў жніўні! Так я адна і не пажыву!

Вераніка скіравалася ў лазенку, але спынілася на парозе. Статус старэйшай сястры дазваляў ёй чытаць натацыі.

— Маша! У сваім жыцці ты яшчэ багата будзеш мець магчымасцей жыць адной. Так багата, што табе надакучыць. Да таго ж, — Вераніка адчувала, што яе ахоплівае злосць, якая да Машы не мела ніякага дачынення, — што ты тут збіраешся адна рабіць? П'янкі ладзіць ды хлопцаў вадзіць? Давай-давай! Дзіця яшчэ якое-небудзь зрабі тут у апошні год — Ігар табе дзякуй скажа!

— А ты — ідыётка! — Маша, несправядліва абвінавачаная, расплакалася. — Псіхапатка! Істэрычка! І правільна, што цябе ніхто не любіць! Усе цябе кідаюць! Правільна!

— Сама ты ідыётка, — спакойна адказала Вераніка ды прычыніла за сабою дзверы.

Вада лілася, але кепскіх думак не змывала. Вераніка паспрабавала, як яна гэта рабіла раней, уявіць: на яе ліецца вада з водаправода, туды яна трапляе з рэчкі, у рэчку — з мора, у мора — з Сусветнага акіяна, — і адчуць сваю далучанасць да сусветных працэсаў, але адчула адно журбу. Бо Вераніка выразна бачыла шлях, пераадолены вадою, якая цяпер сцякала ў каналізацыю па ейнай спіне: цалкам верагодна, што гэтая вада паходзіла з Міжземнага мора, таго самага мора, з якога чэрпае ваду, у ліку іншых, і Францыя, а гэты чароўны набор гукаў — France! — выклікаў у Веранікі, без перабольшванняў, нясцерпны боль.

Калі б Вераніка ў школе надавала вывучэнню геаграфіі крыху больш увагі, яна мела б іншыя, правільныя ўяўленні пра сілкаванне рэк, але не факт, што гэта яе суцешыла б.

Яна скіравала душавыя струменьчыкі сабе на твар, набрала вады ў рот ды выпусціла яе. Адкуль прыйшла гэтая вада, якія медузы плёскаліся ў ёй раней за Вераніку? Апошнімі тыднямі Вераніка лавіла сябе на дзіўных жаданнях. Яна хацела выйсці куды-небудзь у поле, расцягнуцца на зямлі, абхапіць глобус рукамі ды

нагамі, прыкласці вуха да планеты ды слухаць, слухаць, напружана спрабуючы сярод тупату шасці мільярдаў ног, сярод плёскату хваль, сярод рыку машын пачуць крокі аднаго-адзінага чалавека… Вераніка хацела залезці на якую-небудзь вежу, прычакаць ветру з захаду ды прывітаць аблокі, якія колькі гадзін таму бачылі пад сабою іншую краіну. Яна падыходзіла да сусветнай палітычнай карты на сцяне і пяшчотна праводзіла рукой па няправільным шасцікутніку: les pays voisins sont… elle est baignй par[1]… Па начах Вераніка бачыла поўню, і ёй хацелася стаць на падаконнік, прасунуць галаву ў фортку ды завыць, як сабака: «Ты, белая, круглая! Каго ты бачыш? Хто яшчэ глядзіць цяпер на цябе?»

Вераніка закруціла краны.

Яна вымалёўвала партрэт каханай жанчыны на ўласным твары. Правае вока, левае вока; вейкі, mascara сіняга колеру… Роўна пафарбаваць вусны заўсёды было праблемай для Веранікі. «Дзікунства, — разважала яна, — якое выбітнае дзікунства: наносіць фарбу на твар! І гэта ў іх называецца цывілізаванасцю. А колькі грошай выдаткоўваецца на анучкі! Суцэльныя дзікунскія рытуалы: сёлета ўсе жанчыны нашага племені прыкрываюцца анучкамі ружовага колеру! Абярэгі ў вушкі ды на пальчыкі — толькі залатыя! Цывілізацыя дзікуноў!» Веранічцы закарцела тыцнуць пэндзлікам у адлюстраванне мала знаёмай ёй прыстойнай дзяўчыны. Бо яна сама не прызнавала завушніцаў, апрача залатых, а на безыменным пальцы ейнай левай рукі быў начэплены тонкі залаты пярсцёнак, які мусіў так шмат сімвалізаваць, але, пэўна, вычарпаў свае магічныя сілы ды абярнуўся маленькім кайданком ды цяжкім успамінам.

Вераніка яшчэ раз паглядзела на сваю левую руку, уздыхнула ды пайшла апранацца: сядзець дома было невыносна.

Маша зноўку нешта засяроджана выглядала ў камп’ютары.

— Ты ў нэце? — пацікавілася Вераніка, нацягваючы джынсы. — Адкрый-ка мне Яндэкс на хвілінку!

— А што?

— Нічога. Пошту хачу праверыць.

— А… Ну-ну. Правярай.

— А ты не нукай! — Вераніка набрала пароль. — Яшчэ паглядзім, што з табой будзе!

Пакуль адкрывалася старонка «Уваходныя», у Веранікі калацілася сэрца. Калі старонка адкрылася, сэрца працягвала калаціцца, але ўжо па інэрцыі: новых лістоў не было. Гэтая інэрцыя рабілася ўсё больш і больш працяглай па часе. «Перадынфарктны стан», — адзначыла Вераніка.

— Казёл! — сказала Маша. — Дарэчы! А куды ты сабралася?

— Да Арцёма зайду! — адказала Вераніка з парога.

— Што, даўно не бачыліся? — пракрычала ёй наўздагон Маша, але Вераніка ўжо выйшла.

Яна жыла, а дакладней, дажывала апошнія тыдні на вуліцы Беларускай, у апошнім, трохпавярховым доме нумар чатырнаццаць, які вокнамі выходзіў на Свіслач і канцэртную залу.

Да «Першамайскай» было бліжэй, але Вераніка скіравалася да «Кастрычніцкай»: яна мела на мэце не як найхутчэй даехаць да «Акадэміі», а як мага большы час пра-

[1] …мяжуе з краінамі… абмываецца… (*фр.*).

весці на дварэ. На вуліцах таго горада, які мусіла пакінуць не пазней чым дзясятага верасня.

Вераніка вымярала крокамі стары асфальт ды намагалася пабачыць сябе звонку, спрабавала ахапіць уяўленнем усю сітуацыю, усе магчымыя кантэксты з падтэкстамі, нібы прагледзець урывак з фільма або прачытаць пра сябе ў кнізе: «Па вуліцы Беларускай, у кірунку амбасады Малдовы, крочыла дзяўчына… Было лета, сярэдзіна чэрвеня; мінскае надвор'е не абяцала дажджу. Дзяўчыне было сумна: неўзабаве яна мусіла назаўсёды пакінуць родную вуліцу, таму ўважліва азіралася, прымушаючы памяць рабіць развітальныя фотаздымкі старых дамкоў з левага боку, ракі ды скверу праваруч, безгустоўнага белага будынка летняй кавярні… Але сумавала дзяўчына зусім не з нагоды свайго хуткага ад'езду. Папросту яе…»

«І што самае цікавае, — перапыняла сама сябе Вераніка, — мне ж абрыдзеў гэты горад! Сталіца, безгустоўны штучнатвор, увасабленне бескультур'я, ніякага натхнення! Але там, у Францыі, варта мне будзе толькі засумаваць — і я назаву свой кепскі настрой настальгіяй! *Глядзі, глядзі, захоўвай у падкорцы, збірай начных кашмараў плён: сквер у зялёнай пыльнай абалонцы ды бруку штучнага палон, трамвайны звон, машын гудзенне, дарожны знак — як знак бяды — сталіцы сціплае адзенне ў мазгах захоўвай назаўжды! Каб апраўдаць свае пакуты гадоў на сорак напярод; як набярэш маўчаннем скуты чужынскай мовы поўны рот; на ўласную сваю патрэбу, калі вісецьмеш на крыжы: каб вочы закаціць да неба ды патлумачыць: "Nostalgie!"»*

Ад складання праграмных эмігранцкіх вершыкаў Вераніку груба адарваў мужчынскі голас: яна падымалася з перахода ля «Цэнтральнага», калі пачула радасны вокліч:

— Веранічка! Хадзі сюды!

Дзяўчына спынілася ды пачала азірацца: не адразу яна заўважыла свайго колішняга аднакласніка, які стаяў ля стромкіх сходаў Макдональдса, паліў ды ўсміхаўся.

— Здароў, Юрык! — Вераніка падышла да хлопца ды склала рукі, красамоўна паказваючы, што настрой мае кепскі і да шчырасцяў не схільна.

— Не чакаў цябе пабачыць! Мы ўсе думалі, што птушачка Веранічка ўжо даўно зляцела з нашага пекла ў свой французскі вырай!

— Не пускаюць мяне, Юрык, у вырай! — гэтаксама насмешліва падхапіла Вераніка. — Грахоў, кажуць, забагата!

— Не пускаюць? — насцярожана перапытаў хлопец. — Чаму? Візы табе не адкрылі?

— Ды не, тут іншае… — Вераніка скрывілася ды махнула рукой. — Я сама пакуль яшчэ… вагаюся. Вырашаю.

— Э-э-э, — недаверліва працягнуў Юрык, з галавой у цябе праблемы ці што? Чаго тут вырашаць? Калі б у мяне быў брат у Парыжы, я тут ні на дзень не застаўся б!

— А табе і тут, здаецца, някепска! У мяне, напрыклад, такога няма! — Вераніка тыцнула пальцам у дарагі мабільнік з камерай, прымацаваны да пояса аднакласніка.

— Будзе і ў цябе, не турбуйся! Не ў гэтым справа: добра, кепска… Там усё ўвогуле інакш! Хіба сама не ведаеш? Сама ж была заўсёды першай здрадніцай Радзіме! А ў цябе, здаецца, і жаніх нейкі ў Парыжы быў?..

«Менавіта што быў, і менавіта што здаецца», — змрочна адзначыла сама сабе Вераніка, але ўголас адказала:

— Ды еду я, еду, не турбуйся! Толькі не кажу пакуль, каб не сурочыць. А ты дзе цяпер?

— А, — хлопец няпэўна пакруціў галавою, — працую там, дзе раней… Праца сабачая, ведаеш… Усё як заўсёды.

— Не ажаніўся яшчэ?

— Не пакуль, і не збіраюся… А ты?

— І я таксама… Ну, я пайду ўжо: спяшаюся! — схлусіла Вераніка. — Пакуль!

— Давай-давай… Эй, Веранічка! — Юрык крыкнуў ёй наўздагон, — ажаніся са мной, як грамадзянства атрымаеш!

— Абавязкова! — запэўніла яго Вераніка ды пакрочыла да метро.

Ля высокіх вітрынаў «Цэнтральнага» яна наўмысна запаволіла ход. «Гэтая крама з кавярняй называецца ў нас “Універсам Перыферыйны”»! — колькі месяцаў таму яна праводзіла тут франкамоўную экскурсію для аднаго-адзінага слухача. «Зірніце, калі ласка, налева. Для наведвальнікаў, якія знаходзяцца ўсярэдзіне, кавярня называецца “Тэлевізар”. А для тых, хто ідзе па вуліцы — для цябе і мяне, напрыклад — гэта “Заапарк”». Франкамоўны глядач, які быў аднаасобнай дэлегацыяй шаноўных гасцей, смяяўся не адразу, не без цяжкасцей разумеючы жорсткі мясцовы гумар.

А цяпер было лета; пад «Цэнтральным» стаялі столікі, пры якіх сядзелі людзі, вясёлыя, шчаслівыя…

«Ідыётка! — груба аблаяла сябе Вераніка, — дура! Ты не маеш права ім зайздросціць! Ты, пакутніца святая, хутка будзеш сядзець у іншых кавярнях, і філіжанка кавы за чатыры еўра здасца табе “крыху дарагаватай”! Няшчасная, няшчасная — заўсёды табе быць няшчаснай!» — Вераніка злавала на сябе за эмоцыі, абсалютна пазбаўленыя логікі.

Яна спусцілася ў метро, і чалавечы вір адразу ўсмактаў Вераніку, без пытанняў прыняў яе за сваю, не пазнаў у ёй чужаніцу, здрадніцу, без пяці хвілін эмігрантку. Яна пагойдвалася ў вагоне ды, сузіраючы сціплую схему ліній, вынайшла цікавае параўнанне. «Метрапалітэн як мазгі нацыі: толькі дзве звіліны!»

Параўнанне здалося ёй настолькі трапным ды дасціпным, што Вераніка абсмоктвала яго ўсю дарогу ад метро да Дому прэсы: яна мелася падзяліцца сваёй дасціпнасцю з Арцёмам; ён працаваў журналістам у адной з дзяржаўных газет.

Арцём быў дзіцячым сябрам Веранікі і суседам па сумяшчальніцтве. А калі прытрымлівацца гістарычнай праўды, дык напачатку ён быў ейным дзіцячым ворагам. А кім яшчэ можна было лічыць хлопчыка, які падпільноўваў цябе са школы ды кідаўся снежкамі? А аднойчы — жах! — нават выліў на яе з другога паверха вядро вады! Праўда, гэта было ўлетку, і ў той перыяд усе суседскія дзеці гуляліся ў вадзяную вайну, але каб пацярпець такую паразу на вачах усёй кампаніі! А потым — таксама ўлетку, але ўжо пасля дзясятага класа, — Вераніка мела пільную патрэбу ў суразмоўцы, але трапіўся ёй толькі Арцём, і яны праседзелі на ганку з дванаццатай да паловы на трэцюю ночы. Вераніка хлюпала носам, скардзілася на няшчаснае каханне ды патрабавала неадкладных адказаў на мільёны сваіх пытанняў? Арцём, невымоўна здзіўлены абраннем на пасаду знаўцы чалавечых стасункаў, уважліва слухаў, ахвяраваў ёй насоўку ды шчыра спрабаваў аналізаваць сітуацыю. Вераніка, у сваю чаргу здзіўленая такім удзелам у ейных сардэчных праблемах, каб выказаць удзячнасць, прапанавала пры нагодзе звяртацца да яе. Ад таго часу Вераніка з Арцёмам пасябравалі.

Ахоўнік з вахты пазваніў у Арцёмаў кабінет, абмацаў Веранічын пашпарт і прапусціў яе да ліфта.

Калі яна пагрукалася і адчыніла дзверы ў кабінет, там адразу ўтварыўся нейкі нездаровы рух. Гэта Арцём Міхайлавіч вокамгненна прыбраў ногі са стала, але не вельмі ўдала.

— А, гэта ты! — закрычаў ён замест вітання. — Глядзі, што я нарабіў праз цябе! — Арцём мітусліва хапаў са стала ўсе паперы, да якіх хутка беглі струменьчыкі кавы.

— Я ж пазваніла! — Вераніка кінулася яму на дапамогу.

— Занадта хутка ты паднялася!

Важныя паперы былі сабраны, і Арцём паклаў на разлітую каву газету.

— Кавы хочаш? — падступна пацікавіўся Арцём.

— Гэтай вось? — Вераніка паказала вачыма на вільготную пляму, якая выразна праявілася на свежых, але ўжо добра падмочаных навінах.

— Ага, — Арцём скруціў газету ў вялікі камяк ды кінуў яго ў сметніцу.

Пакуль гатавалася кава, яны сядзелі моўчкі.

— Ну што, — запытаўся Арцём, калі яны адначасова зрабілі па глытку ды апусцілі кубачкі на стол, — вырашыла?

— Дзясятага верасня!

— А чаму не першага? Гэта дакладна?

— Ну, у кожным разе, Ігар будзе афармляць на дзясятага, а там як амбасада вырашыць… Карацей, я сваё слова сказала.

— Ну, — Арцём перавёў позірк з манітора на Вераніку, — цяпер адкажы, што *ты* зрабіла.

Тая апусціла вочы ды пачала паскорана боўтаць лыжачкай у каве.

— Нічога.

— Та-а-ак, — Арцём рэзка закінуў галаву ды зноў задзёр ногі на стол, — абалдзець!

Гэтая пастава мусіла падкрэсліваць ягонае абурэнне.

Але Вераніка абурылася больш выразна. Яна ўсхапілася, абаперлася рукамі аб стол ды пачала прамаўляць, гучна, злосна ды пакрыўджана:

— А я ў гэтым невінаватая! Не-ві-на-ва-та-я! Гэта не ад мяне залежыць! Я спрабавала! Процьму разоў! У мяне не атрымліваецца! А пісаць усялякую лухту я не магу! Мне трэба, каб было натхненне! Вось так, каб бабах — і ўсё! А з пальца я высмоктваць не буду! Разумееш мяне? І ўвогуле! Хто цябе прасіў дамаўляцца з выдавецтвам на канец чэрвеня?

— Ты, — узняўшы правае брыво, адказаў Арцём.

Вось так было заўсёды; заўжды яны гуляліся ў гэтую гульню: калі адзін пачынаў псіхаваць, другі ўмомант рабіўся дэманстратыўна спакойным.

Вераніка імгненна вырашыла мяняць тактыку. Яна ўпала ў крэсла ды закрыла твар рукамі, нібыта ў смяротным адчаі.

— Не крычы на мяне! — заенчыла яна. Не прымушай мяне! А то я ўвогуле нічога не напішу! Ніколі бо-о-о-о-ольш!

У яе нават атрымалася вельмі натуральна ўсхліпнуць.

Арцём адразу падхапіўся ды заскакаў вакол Веранікі.

— Ну Веранічка, ну не плач, усё ў цябе атрымаецца! Ну даруй мне, дурному! — Ён адымаў Веранічыны далоні ад твару. — Ну што мне сказаць, каб цябе суцешыць? Ну ты ж геній!

Гэта была іх улюбёная гульня; ролі, якія яны выконвалі з найбольшай ахвотай ды самааддачай: геніяльная пісьменніца са сваімі закідонамі ды рахманы імпрэсарыа пры ёй.

Праграма-мінімум была выканана, асноўныя рэплікі прамоўлены; Вераніка, атрымаўшы пацверджанні сваёй геніяльнасці ды значнай ролі ў сусветнай літаратуры, умомант суцешылася; яны з Арцёмам паселі пры стале і вярнуліся да спакойнага піцця кавы.

— Так, — Вераніка рашуча пастукала лыжачкай па сподачку, — давай шукаць шляхі вырашэння праблемы. Ідэі маеш?

— Хіба што старыя… Што там у цябе з прыватным жыццём? «Лягушатник» твой як — знік незваротна?

— Знік, знік, — пацвердзіла Вераніка. — Падобна да таго, што ён мяне банальна кінуў!

— Табе кепска? — з нейкім прафесійным бляскам у вачах удакладніў «імпрэсарыа». — Ты няшчасная? Табе балюча? Вось і пішы пра гэта! Чым кепскі сюжэт: няшчаснае каханне ў Парыжы? Інтэрнацыянальны такі творык атрымаецца! Ну, як табе?

— А, — Вераніка скрывілася, нібыта кава была добра перасолена, — ды колькі можна! Адно і тое ж, соплі толькі размазваць! Ах, якая я няшчасная, ах, які ён кепскі, ах, як я яго кахаю, зноў хачу ў Парыж, ля-ля-ля! І Нотар-Дам на другім плане. Прыгожыя дэкарацыі, ведаеш, бяздарны фільм не ўратуюць. Яна ў яго закахалася, а ён наплёў прыгожых слоў ды ўцёк да іншай дзеўкі — банальна, банальна! Бесперспектыўны сюжэт, нецікавы нейкі… Не натхняе абсалютна.

— Ну, — Арцём пацягнуў свой гальштук, нібы выпрабоўваючы, ці можна на ім засіліцца, — не натхняе… Што ж мы з выдавецтвам будзем рабіць? У прынцыпе, тваіх старых апавяданняў недзе на палову кніжкі ў мяне набярэцца… У скрайнім выпадку здолееш накатаць якіх-небудзь падарожных нататак старонак на сорак?

Вераніка адарвалася ад жаночага часопіса, які яна ўжо пачала чытаць.

— У скрайнім выпадку — здолею! Магу нават і не на сорак старонак. Ну там «Мемуарчыкі» якія-небудзь, ці развагі на тэму «Все бабочки — дурочки»… Толькі якасць высокую ў такім выпадку не гарантую.

— О, слухай! — імпрэсарыа, абнадзеены сваёй геніяльнай пісьменніцай, заўважна ажывіўся. — А хадзем дахаты!

— А табе што, працаваць не трэба? — падазрона пацікавілася Вераніка.

— Трэба! — Арцём адным глытком выжлукціў усю каву. — Вось я і пайду… інтэрв'ю браць! Ты давай спускайся, а я тут кубкі памыю ды ў кіраўніцтва адзначуся… Чакай мяне на вуліцы, я хутка!

Па дарозе да метро Вераніка зацягнула Арцёма ў краму: «Бутэлечку джын-тоніка, маленькую бутэлечку джын-тоніка!» — ды выжлукціла яе з рыльца амаль адразу, пад пагардлівы журналісцкі каментар: «Этылавы спірт з цукровай вадой!». Потым Веранiцы закарцела ісці пешшу: «Не хачу вяртацца дахаты»; ля наступнай крамы Арцём, аглушаны няспыннай балбатнёй умомант захмялелай Веранікі, набыў сабе бутэльку піва: «Зараз нап'юся, каб нічога не памятаць!». Потым — пошукі вольнай лаўкі ў скверыку, пошукі прыбіральні, «Яшчэ па адной, ну Арцёмка!»; ужо сцямнела, і яны кіраваліся дахаты ад «Першамайскай» паўз канцэртную залу, але ля ўвахода ў «Поющие фонтаны» — Арцёму на бяду ды да вялікай радасці Веранікі — пагойдвалася на абцасах колішняя аднагрупніца апошняй, якая выйшла «падыхаць свежым паветрам». Жывы джаз, штрафная, за сустрэчу, за знаёмства, за каханне, «Як я вас усіх люблю!», дакараючы Арцёмаў позірк, спроба танчыць на стале ды выкупацца ў фантане, «Дзякуй, нам час сыходзіць!», «Бывайце, бывайце, я буду вам пісаць!», «Куды ты мяне валачэш, я сама пайду!» Цвярозы, як і належыць імпрэсарыа, Арцём даў веры, але праз імгненне ён ужо аберуч лавіў Вераніку, бо яна адразу скіравалася ў супрацьлеглы дому бок.

Геніяльная, што было пад сумневам, але непрыстойна п'яная — і гэта ўжо неаспрэчна — пісьменніца павісла на Арцёмавай руцэ, як ветразь у мёртвы штыль, ды, як здавалася, заснула. Арцём мужна цягнуў яе дахаты; ноч была цёмная, ціхая, неба

стракацела зоркамі. Але на мосце нейкія таямнічыя сілы абудзілі заснулы розум Веранікі, і яе ахапіла прага бессэнсоўнай дзейнасці. Па-першае, яна цвёрда стала на ногі, азірнулася ды гучна абвясціла: «У мяне пачынаецца прыступ агарафобіі!» Арцём вырашыў скарыстаць гэты кароткі перапынак, каб даць адпачыць занямелай левай руцэ, але перапынак атрымаўся закароткі, бо Вераніка схапілася аберуч за парэнчы, каб кідацца ў Свіслач, зялёную ды сплытчэлую. Потым, выказаўшы здзіўленне, што «нехта яшчэ хоча падоўжыць ейнае нікчэмнае існаванне», Вераніка спрабавала шпурлянуць у ваду свой залаты парыжскі пярсцёнак: Арцём ледзь адабраў яго ды запхнуў у ейную торбачку.

Паўз сквер ён вырашыў несці Вераніку на руках, не маючы ахвоты даведвацца, у якія яшчэ стасункі тая ўступіць з дрэвамі, лаўкамі ды адхонам леваруч.

Ля дзвярэй уласнай кватэры да Веранікі магічным чынам вярнуўся згублены талент кантраляваць уласныя рухі, і яна ціхенька стаяла, чакаючы, пакуль Маша адарвецца ад інтэрнэту ды адамкне.

— О, Маша! А я табе падарунак прынёс! — Арцём падштурхнуў Вераніку ў абдымкі сястры, якая сустрэла яго адно скептычным позіркам: і гэта чалавек, які толькі сёння ўранні вучыў яе, Машу, жыць!

У калідоры роднай кватэры Вераніка спрактыкавана скінула басаножкі ды скіравалася наўпрост да ложка, па дарозе расшпільваючы джынсы.

— Табе тазік прынесці? — пацікавілася Маша.

— Сабе прынясі! — у знак замірэння шчыра параіла Вераніка, скінула джынсы на падлогу ды некалькімі ўзмахамі схавала сябе пад коўдру.

Яна адключылася вокамгненна, што ў ейным стане было цалкам натуральна; Маша яшчэ гадзіны тры, да самага золку, лазіла ў нэце па начным тарыфе.

— Маша! Маша, прынясі мне вады!

Па напоўненасці пакоя сонцам Вераніка спрабавала здагадацца, якая цяпер гадзіна. Паводле ўсіх прыкмет выходзіла, што ніяк не пазней за адзінаццатую раніцы.

Не тое каб ёй было вельмі кепска, што яна не магла сама ўзняцца; проста ёй было цікава: праявіць сястра крыху спачування ці не?

Маша ўсё ж паўстала ў дзвярах з кубкам ды шчаслівай усмешкай на твары.

— Ну і фізіяномія ў цябе, Веранічка! Ты ўчора нават памыцца не здолела!

— Не… — прастагнала Вераніка. — Давай сюды ваду!

— На, умывайся!

Вераніка атручаным розумам умомант дадумалася да прычыны такой незвычайнай Машынай весялосці. Сястрычка пажартавала з ёю сямейным жарцікам: трапна плесканула змесцівам кубка ў Веранічын твар ды знікла, прадчуваючы пагоню.

Вераніка аглушыла ўсе тры паверхі дома нумар чатырнаццаць баявым поклічам індзейцаў, ускочыла з ложка ды кінулася чыніць помсту. Маша ўжо чакала яе за паваротам на кухню з маленькім вядзерцам:

— А гэта — душ!

Стары дом яшчэ раз здрыгануўся: гэтыя індзейцы, напэўна, вырашылі заўчасна зруйнаваць яго сваімі ваяўнічымі дэцыбеламі.

— Ну што, алькагалічка, — пяшчотна пацікавілася Маша, калі яны, мокрыя, ужо супакоена сядзелі на кухні, залітай вадой, ды пілі кампот з малінаў, — як ты ўчора пагуляла?

Вераніка палічыла пытанне рытарычным ды працягвала выратоўваць патанулыя ягады. Выратаваныя маліны адразу знаходзілі другую смерць ці, можа, другое жыццё, у ейным роце.

— Ведаеш, што? Я зрабіла адкрыццё. Запой як сродак забыцца на няўдалую love story абсалютна не пракаціў.

— Дык ты ж яшчэ не ў запоі, — удакладніла дасведчаная Маша. — Ты б не кампот піла, а піўка якога-небудзь каўтнула! А потым гарэлачкі… Я думаю, праз які-небудзь тыдзень ты не тое што на Тэйля забудзешся — як цябе зваць, не згадаеш!

— Лагічна, — Вераніка паслала на смерць чарговую армію малін. — А ну валі па піва!

— А мне нельга, — нахабна аспрэчыла Маша. — Мне толькі шаснаццаць гадкоў!

— Гэта ненадоўга! — запэўніла яе старэйшая сястра. — Скора табе будзе дваццаць чатыры, і вось тады я пагляджу, што ты запяеш!

— У кожным разе я не буду енчыць, што мяне ніхто замуж не бярэ! — Маша пракрычала гэта ў калідор, бо Вераніка ўжо скіравалася да камп'ютара, прыхапіўшы кубак з кампотам.

— Не ніхто! — закрычала яна ў адказ, бо змагалася за дакладнасць фармулёвак. — Не ніхто, а абы-хто…

Мадэм выдаў звыклы набор гукаў ды супакоіўся; Вераніка правярала пошту.

Пуста. Новых паведамленняў няма. Так пуста, што хоць ты крычы ды слухай уласнае рэха. Аднаму чалавеку ў Парыжы было вось ужо чацвёрты тыдзень пляваць на Вераніку.

Сэрца зноўку сціснула невідочная рука; увушшу загуло. «Чацвёрты тыдзень! — няголасна пракрычала Вераніка. — Чацвёрты тыдзень! Я магла захварэць, памерці, трапіць пад машыну — а яму ўсё адно!»

Вераніка тупа марнавала каштоўны час, неадрыўна сузіраючы адну-адзіную старонку, у загадзя марным спадзяванні прычакаць прыкмет жыцця. Канкрэтнага жыцця канкрэтнага чалавека: хлопчыка Nico з Парыжа, які з невядомай нагоды ўзяў ды перапыніў усе стасункі.

Натуральна, нічога не адбылося. Ніякіх паведамленняў не з'явілася. Вераніка амаль машынальна адкрыла радар «Odigo», інтэрнэт-балбаталкі, праз якую яны з Nico апошнім часам і размаўлялі. Еўропа — Заходняя Еўропа — Францыя — Парыж. Век — 20-14. Пол — мужчынскі. Безуважны да ейнага лёсу, «Odigo» шчыра паведаміў усю жорсткую праўду: Nico on line. Вераніка закусіла ніжнюю губу. Значыцца, ейны каханы Нікошка цяпер спакойна сядзіць у нэце, ейнай прысутнасцю не цікавіцца і, хутчэй за ўсё, нават з кімсьці круціць анлайн-раман. Вераніка, у якой ад рэўнасці пацямнела ў вачах, не разважаючы, адстукала яму паведамленне.

— Hey, toi! Veux-tu me dire quelque chose? J'ai envie de te guilliotiner, mon cher![1]

На што адразу атрымала адказ.

— Pourquoi je dois parler a toi? Qui es tu?[2]

Такога ўдару Вераніка не чакала. Чаго заўгодна. Але не абразы! Чым яна заслужыла такія словы?

І, навыперадкі з ейнымі слязьмі, прагучаў крык Машы з кухні:

— Выйдзі з майго сеансу!

— А табе якая розніца? — агрызнулася Вераніка ды раптам схапіла сябе за твар усёй рукою, зачапіўшы пазногцем шчаку.

— Маша! Маша! — закрычала яна з падвоенаю сілай, нібы хацела ў апошні момант адгаварыць сястру ад эміграцыі на Марс. — Маша, бяжы сюды!

[1] — Эй, ты! Не хочаш мне што-небудзь сказаць? Я табе галаву адсекла б! (*фр.*)

[2] — А чаго гэта я мушу з табою размаўляць? Ты хто такая? (фр.)

Маша прыскакала з лыжкай у роце ды здзіўлена ўтаропілася на старэйшую сястру. Жывую ды здаровую.

— Маша, глядзі сюды! — зашаптала Вераніка ў вялікім хваляванні. — Маша, я размаўляю з Нікошкам, а ён не ведае, што гэта я!

— Ты пад маім імем у «Адыгу» выйшла? — здагадалася Маша ды ўжо падрыхтавалася да маленькага скандалу, як раптам таксама закрыла сабе далонню рот.

— І што ён?

А Ніко ўжо даслаў наступнае паведамленне.

— Pourquoi tu veux me guilliotiner?

— Je crois que tu es lache!

— Mais dis-moi donc qui es tu?[1]

Сапраўды, адкуль ён мог ведаць? Ніко, не чакаючы ніякай небяспекі, падступнай змовы, жорсткага падману, атрымліваў цяпер паведамленні ад незнаёмага ніка Postal 1, зарэгістраванага як істота жаночага полу, шаснаццацігадовага веку. І вельмі ахвотна, дарэчы, падтрымліваў дыялог з гэтай малалеткай.

— Мярзотнік! — працягвала абурана шаптаць Вераніка. — Зараз я табе пакажу «дыялог культур»!

Postal 1: Я? Ты хочаш ведаць, хто я? Хіба гэта цябе цікавіць?

Nico: Натуральна, мяне гэта цікавіць! Я хачу ведаць, што гэта за дзяўчына, якая так агрэсіўна пачынае знаёмімца! Дарэчы, ты размаўляеш па-французску ці проста вывучыла некалькі слоў?

Postal 1: Так, некалькі слоў! Любая мова — гэта ўсяго толькі некалькі слоў!

Nico: Wow! Дасціпна! У кожным разе, вельмі прыемна, je suis Nicolas de Paris![2] Можа, адкрыеш мне таямніцу свайго імя?

Маша, якая пакуль яшчэ не валодала французскай мовай настолькі добра, як старэйшыя брат з сястрою, запатрабавала ў Веранікі:

— Перакладзі!

Вераніка, якая забылася, на якім свеце знаходзіцца, нервова пракаўтнула ўвесь кампот.

— А? Ён цікавіцца, як мяне завуць.

І Вераніка адстукала першае, што прыйшло ёй на розум.

Postal 1: Мяне завуць Анжэлік!

Nico: У цябе прыгожае імя! Вельмі прыгожае імя! А я, як ужо казаў, Ніко! А табе сапраўды шаснаццаць гадоў?

A: Не, гэта жарт! Я вельмі люблю жартаваць. А насамрэч мне дваццаць чатыры гады, вось так!

N: Фантастыка! Мне таксама. А дзе ты жывеш? Адкуль ты, таямнічая Анжэлік?

— Таямнічая Анжэлік… — прашаптала Вераніка. — Адкуль ты…

A: Ведаеш, я жыву ў невялікай краіне ў геаграфічным цэнтры Еўропы, у сталіцы. Ты, напэўна, пра яе не ведаеш. Мой горад называецца Мінск.

N: Goooooooood moooooorning, Minsk! Як гэта я нічога не ведаю? Я выдатна ведаю!

A: Што за дзіўная рэакцыя? Чаму ты такі здзіўлены?

N: Нічога я не здзіўлены, проста цікаўлюся геаграфіяй.

---

[1] — Чаму ты хочаш мне адсячы галаву? (*фр.*)

[2] N: А я — Нікаля з Парыжу! (*фр.*)

— Геаграфіяй ён цікавіцца, — злосна зашаптала Вераніка ды раптам пачала ледзь не крычаць, — хутчэй парнаграфіяй! Давай кажы праўду, падшыванец! Распавядзі сваёй новай ахвяры пра свае схільнасці! Ну давай, прызнавайся: маўляў, была ў мяне пэўны час дзеўка з Мінска, да таго ж я з ейным братам дагэтуль па працы сутыкаюся, вось і ведаю ўсё пра тваю сталіцу!

— Ну перакладзі! — патрабавала Маша. — Што ён кажа?

— Чытай сама, хутка спатрэбіцца! — Вераніка сціснула скроні. — Абалдзець! Вадэвільны сюжэцік! Маска, маска, а я цябе ведаю!

— Ой, глядзі, ён яшчэ нешта піша!

N: Angelique, mais ou es tu? As-tu des photos?[1]

— Засумаваў ужо, бедненькі! — Вераніка адкінула валасы з ілба. — Зараз я табе прадэманструю такую Angelique!

A: Oui, et quoi?[2]

N: Une tasse du the, s'il te plait!

A: Не, спачатку я хачу паглядзець на цябе! Дасылай, калі ласка, праз «Адыгу»!

Сястрычкі прыляпіліся да манітора. У Веранікі перасохла ў роце. Яна заўсёды лічыла, даючы веры словам свайго каханага Nico, што той не любіць фатаграфавацца. І вось цяпер, адзін за адным, яна атрымлівала фотаздымкі з нейкае дыскатэкі, падпісаныя «Nicocaine», мяркуючы па даўжыні ягоных валасоў, зусім-зусім свежыя, і на якіх ейны Нікошка зусім не быў падобны да чалавека, які не любіць фатаграфавацца!

— Глядзі, які ён прыгожы! — Вераніка павялічыла Нікошкаву выяву на ўвесь экран.

— Багата табе карысці ад ягонае прыгажосці? — справядліва адзначыла Маша. — Глядзі, вунь яшчэ нешта даслаў!

N: Цяпер ты мусіш выканаць сваё абяцанне! Мне вельмі хочацца хутчэй цябе пабачыць!

— Машка, ён фоткі просіць! Што пашлём?

Вераніка хвалявалася. Хвалявалася — гэта не вельмі трапнае азначэнне ейнага стану. Вераніка проста не разумела, як можна класіфікаваць сітуацыю. Што гэта за дзіўная з'ява адбылася? Яна толькі ўсведамляла, што знянацку трапіла ў найсвяцейшую мужчынскую таямніцу: на ўласныя вочы бачыла здраду самой сабе. З сабою ж…

Затое Маша даўно супакоілася. Яе хіба толькі забаўляла нетрывіяльнасць сітуацыі.

— Ведаеш, якую дашлі? Там, дзе ты ў чорным парыку!

— Ён пазнае!

— Няма там чаго пазнаваць! Суцэльны грым. Там толькі хіба вочы твае.

А вочы ейныя, Ніко, значыцца, пазнаць не мусіць… А фотаздымкі былі выбітныя: плён іх з Машай вычварэнняў, як казала маці, або «высокамастацкія партрэты», паводле слоў Арцёма. Вераніка, у чорным парыку, абсыпаным белымі кветачкамі, спадылба зазірала ў аб'ектыў, твар быў у белым грыме, а па шчоках плылі чорныя ручаі тушы — нібыта слёзкі… І толькі вялікія шэрыя вочы насцеж.

N: Ну чаму ты не дасылаеш? Я чакаю! Толькі дашлі мне на e-mail, калі ласка!

N: Я чакаю! Ты што, мяне падманула? Ты несумленная! Я табе даслаў чатыры свае фотаздымкі!

---

[1] N: Анжэлік, дзе ты? Ты маеш фатаграфіі? (*фр.*)

[2] A: Так, і чаго?

N: Анжэлік, адгукніся!

А Анжэлік-Веранік у гэты самы час тэрмінова стварала сабе новую скрыню на французскім дамене, каб Nico не здагадаўся, што яна — гэта яна. Або не яна…

N: Tu es lache! Ou es tu??????[1]

A: Ну ўсё, можаш правяраць свой e-mail.

— Маша, Маша, зараз ён здагадаецца, і будзе такое… Звярні, дарэчы, увагу, які ён мне адрас даў! Што гэта за wizzz94@yahoo.fr? Шпіён нейкі… Дваццаць адрасоў у яго, аказваецца… На кожную дзеўку — па паштовай скрыні…

Маша ўжо здагадалася, што сястрычка акупавала комп на ўвесь дзень, ды пайшла мыцца. Вераніка крыкнула ёй наўздагон:

— Колькі ў цябе на картцы часу засталося?

— Гадзіны дзве, не болей!

А Ніко тым часам атрымаў фотаздымак. І не пазнаў ейных вачэй.

N: Якая ты прыгожая! У цябе цудоўныя вочы, такія глыбокія!

Вераніка з жахам, з самым сапраўдным, непадробным жахам чытала гэтыя пяшчотныя словы. Тыя самыя словы яна ўжо чула аднойчы; ды не, якое там аднойчы — няспынна! Que tu es belle, tu es la plus belle femme du monde[2]! — гэтыя словы кахання, як лічыла раней Вераніка, цяпер страчвалі сваю сутнасць. Паўтораныя двойчы — а там хто яго ведае, можа, і тройчы, а можа, і тысячы разоў — словы рабіліся бязважкімі, пустымі; як бурбалкі ў ліманадзе «Бураціна», яны выляталі сотнямі і сотнямі ж лопаліся ў паветры: пок! пок! пок! «Пусты гук, пусты гук, — шаптала Вераніка, — цяпер я ведаю, што такое пусты гук»!

N: А ці магу я даведацца, кім ты працуеш? Чым ты займаешся ў жыцці?

— Займаюся тым, што знішчаю няверных хлопчыкаў! — Вераніка сувора ссунула бровы.

A: А я табе не скажу! Гэта мой сакрэт!

Пакрыўджанае маўчанне ў адказ. Хвіліна, дзве, пяць… Маша ў лазенцы была занята пераліваннем вады з водаправода ў каналізацыю. Нікошка не адказваў. Трэба было тэрмінова яго інтрыгаваць, каб давесці гульню да канца. А які канец будзе мець гэтая небяспечная гульня, Вераніка пакуль не ведала.

A: Hey, toi! Chaque femme a son serpent dans les entrailles de son ame!

N: Flauber?

A: Non, c’est moi![3]

— Эх, Нікошка, Нікошка! Ты нават не падазраеш, якую змяю хавае ў сабе твая Анжэлік! І здагадацца ніколі не зможаш! Зараз я табе выдам усіх змей — па поўнай праграме!

— Якія змеі? — Маша ўвайшла ў пакой, выціраючы галаву ручніком.

— А, лухта… — Вераніка засяроджана стукала па клавіятуры.

Дыялог закручваўся ў дзіўныя, неперадавальныя, фантастычныя кірункі… Вераніка штохвіліны, як загіпнатызаваная, прамаўляла: «Дурдом… Звар’яцець можна! Дурдом…» Яшчэ сёння ўранні яна не падазравала, што настолькі дасканала валодае французскаю моваю; яшчэ ўчора ўвечары яна не меркавала калі-небудзь дазволіць сябе размаўляць з Ніко так рэзка; тыдзень таму ёй здалася б блюзнерскаю

[1] N: Якая ты подлая! Дзе ты?????? (*фр.*)

[2] N: Якая ты прыгожая, ты найпрыгажэйшая жанчына ў свеце! (*фр.*)

[3] A: Эй, ты! Кожная жанчына мае змяю ў сваёй душы!
N: Гэта Флабэр?
A: Не, гэта я! (*фр.*)

думка проста ў лоб абвясціць яму: «А можа, я ў цябе закахалася? З першага позірку? То бок з першага слова! Нягледзячы на тое, што ты поўны ідыёт!»

Мадэм падступна піскнуў, потым шчоўкнуў: дысканэкт!

— Капаць тваю чарэшню! — Вераніка адвесіла пендаля мышы, якая першая трапіла пад руку. Мыш спрытна саскочыла са стала ў спробе ўцячы, але павісла на хвасце.

Вераніка паспрабавала аднавіць падключэнне, але дарэмна: «Такие имя пользователя и пароль недопустимы в этом домене».

— Картка скончылася, — канстатавала Маша са сваёй канапы, дзе яна, на першы погляд бязмэтна, гартала жаночы глянец. А ў ейнай сведамасці таксама адбываліся якасна новыя пераўтварэнні. Ну і які сэнс зараз будуць мець вышыня абцасаў з даўжынёй спадніцы? І нават больш глабальна: даўжыня ног і колер скуры? Не, зусім радыкальна: чалавечае аблічча агулам — які мае сэнс? Вось размаўляюць два чалавекі — не робаты, не аўтаматы, не камп'ютары! — і не мае значэння, хто як выглядае. Гэта не назаўсёды — рана ці позна яны сустрэнуцца — але першае ўражанне, тое самае *першае ўражанне*, яно было сфарміравана не дзякуючы фрызуры, фігуры ды паставе, не дзякуючы вопратцы з абуткам… А НАСУПЕРАК. А чалавечыя пачуцці — гэта не падман; вунь сядзіць ейная сястрычка Веранічка, яе ажно калоціць: праз што? чаму? што адбываецца? А проста даведалася, чым займаецца ейны хлопчык без яе.

— Машуля, — Вераніка павярнулася да сястры ды нязвыкла ветліва звярнулася да яе, — згатуй, калі ласка, гарбаты!

— А сама? — падазрона спытала Маша.

— Ну калі ласка! А лепш, ведаеш, кавы звары!

Маша хмыкнула, адклала часопіс ды пацягнулася да кухні. Але ейную пільнасць усыпіць было не так ужо і проста. Толькі выйшаўшы ў калідор, яна пачула доўгія трэлі мадэму. О, гэтыя салодкія, забароненыя, такія небяспечныя, ні з чым не параўнальныя гукі — гукі ўсталявання падключэння!

— Ты што, зусім таго?! Па беспарольцы палезла?! Шэф, два счётчика! Ігар табе грошы не на гэта дасылае!

— Кавы! Кавы мне! — зараўла Вераніка.

Гэта быў рык ільвіцы, абражанай у найлепшых пачуццях. Цікава, якія пачуцці самі львіцы ўважаюць за найлепшыя? У кожным разе, выцягваць Вераніку з інтэрнэту цяпер было бессэнсоўна, калі не небяспечна.

Маша на кухні на ўвесь голас заспявала песеньку.

Суди, люди, суди, бог,
Как же я любила!
Через Облтелеком
В Нет я выходила!

— А далей слабо? — Вераніка патрабавала экспромту.

— Лёгка! — адгукнулася Маша.

Нервова-творчы стан сястры дадаваў натхнення і ёй.

Файлики, файлики-и,
Эх, сиди-ром мой старенький!
Файлики, файлики-и,
Винт не почищен, маленький!
Мне б систему обновить —
Негде файлики хранить!

— Яшчэ, Маша! Далей! — крычала ў захапленні Вераніка.

— На ўласным матэрыяле — калі ласка!

Маша ўжо прынесла каву; гэта была распушчальная халтура, але Вераніка не заўважыла.

Эх, Коля, Коля-Николай!
В Интернете не гуляй!
Не ходи на форум.ру!
Я те вирус подару!

— Файлікі, файлікі… Машка, дай слоўнік… не гэты! А, давай усе! — Вераніка зноўку з галавой знікла ў глыбінях нэту, а Маша мела магчымасць на ўласныя вочы пераканацца ў трапнасці гэтай прымаўкі. Сястра не рэагавала ні на якія вонкавыя раздражняльнікі.

Маша, не жадаючы бачыць фінансавы крах сям'і, ужо збегала па новую картку, перамыла посуд, нават ліквідавала ўсе сляды ранішніх водных працэдур, а Вераніка ўсё працягвала абмен рэплікамі з Парыжам, паўтараючы: «Дурдом… Звар'яцець можна!» Асабліва цікавыя моманты яна каменціравала.

— Ой, малая, глядзі! Які гад, ты толькі падумай!

Гэта Вераніка адкрыла ідэнтыфікацыйную картку Nicolas, дзе ў графе «Сямейны статус» было пазначана: «Marrii»[1].

— Ён што, ажаніцца ўжо паспеў?

А: Ты што, жанаты? Што значыцца «жанаты»?

І вось на гэтым месцы паддоследны пачаў блытацца ў паказаннях. Да вялікай радасці Веранікі, якая ведала ўжо пэўна: паддоследны нахабна хлусіць! — і да непадробнага абурэння драпежнай Анжэлік, якая ўжо адчула сваю моц і жадала быць адзінай ды непаўторнай.

N: Ды не, гэта я напісаў pour ma petite amie[2], каб яна ведала, што я жанаты на сваёй працы, і таму ніколі не маю часу яе бачыць!

А: Дык ты маеш дзяўчыну? Адказвай, petite ordure, as-tu une petite amie?

N: Ды не… Ведаеш, я цяпер так напружана працую, што з маёй працай нікога не маю!

— Не, Маша, ты паслухай толькі, як ён хлусіць! Trop trop de travail![3] Так напружана працуе, што толькі і мае клопату, як з дзеўкамі ў нэце балбатаць! Забагата працы! Гнілая адмазка, Нікошка!

Вераніка з Анжэлік склалі цудоўны тандэм; проста ідэальны для таго, каб маральна знішчыць здрадніка-спакушальніка. Па-першае, яны не варагавалі, а мелі супольныя інтарэсы. Па-другое, Анжэлік раскручвала анлайн-раман без рызыкі: джокеры ў гэтай гульні належалі ёй, а не Nico. Па-трэцяе, Вераніка ахвотна і вычарпальна інфармавала Анжэлік аб усіх акалічнасцях. Па-чацвёртае, Вераніка і Анжэлік былі адной асобай.

— Мы сустрэліся, каб адпомсціць! — Вераніка падміргвала свайму блакітнаму адлюстраванню ў маніторы, і Анжэлік адважна краналася забароненых тэм, ведаючы загадзя рэакцыю Nico.

А: А пасля, пасля працы — ты яе маеш?

N: Анжэлік, калі ласка, не кажы гідотаў! Скажы мне што-небудзь прыемнае!

А: Хай твая жонка кажа табе нешта прыемнае!

N: Няма, няма ў мяне ніякай жонкі! І дзяўчыны ніякай у мяне няма!

---

[1] «Жанаты» (*фр.*).

[2] …для сваёй дзяўчыны (*фр.*).

[3] Замнога работы! (*фр.*)

— «Няма ў мяне ніякай дзяўчыны», — на вачах Веранікі міжволі выступалі слёзы. Але Анжэлік пераможна ўсміхалася: я — адзіная і непаўторная!

A: Ну тады мяняй свой статус на картцы!

N: Я ўжо памяняў… Слухай… А ці маеш ты boyfriend?

A: Boyfriend? Non! A quoi bon?[1] Гэта завялікая адказнасць! У мяне толькі amants![2]

N: Vraiment?[3] Ты такая моцная, жорсткая, такая дасканалая… А ведаеш, у мяне раней, гэтаксама як і ў цябе, было багата каханак, але аднойчы яны мне ўсе надакучылі. Я хачу сустрэць сапраўднае каханне!

— Гэта я табе надакучыла? — крычала Вераніка, і Маша чарговы раз уздрыгвала; кожны гэты крык-енк, пэўна, мусіў сягаць Парыжа.

— Каханне сустрэць? Ты яго ўжо сустрэў! На мяне ты забудзешся няхутка… Няхутка — я табе абяцаю! — і Анжэлік, узброеная парадамі Веранікі, працягвала дыялог.

Пасля абраз на Nico выліваліся камплiменты; Вераніка, нават не напружваючы памяць, цытавала вершы вялікімі кавалкамі.

Tu es beau comme le soleil,
Tu es prince, fils de roi!
Je sens l'amour qui s'eveille
Au fond de moi, plus fort que moi!

Tu es beau comme le soleil!
Ma merveille, mon home a moi!
Tu me prendras dans tes bras
Et pour la vie tu m'aimeras!
Tu es beau comme le soleil![4]

А Ніко, наіўны, шчыры Нікошка, не разумеў, што з ім робіць гэтая чорнавалосая драпежніца, ніяк не мог здагадацца, чаго ад яго хоча гэтая femme fatale![5]

N: Que tu es beau, ahahah, tu es beau comme le soleil![6] Цябе цікавіць толькі мая прыгажосць! Злітуйся! Ты, напэўна, маеш патрэбу толькі ў маім целе! Ты не хочаш ведаць, што я маю яшчэ і сэрца!

— Ды што ты кажаш, Нікошка! Які ты ў нас, аказваецца, далікатны! — Вераніка сціскала зубы, каб не расплакацца ад крыўды, а Анжэлік наносіла нявернаму хлопцу яшчэ адзін удар.

A: А што ў гэтым кепскага? Я жыву так, як хачу — гэта раз! Хлопчыкі не плачуць — гэта два!

---

[1] Не! Навошта?

[2] …палюбоўнікі! (*фр.*)

[3] Сапраўды? (*фр.*)

[4] Ты прыгожы як сонца,
Ты — прынц, каралеўскі сын!
Я адчуваю абуджэнне кахання
У сваёй душы, мацнейшага за мяне!

Ты прыгожы як сонца!
Мой чароўны мужчына, прызначаны мне!
Ты абдымеш мяне
І будзеш усё жыццё кахаць толькі мяне!
Ты прыгожы як сонца! (*фр.*)

[5] …фатальная жанчына! (*фр.*)

[6] Ты прыгожы, ах-ах-ах, ты прыгожы як сонца! (*фр.*)

Ужо сцямнела; а ўлетку, як вядома, цямнее позна ды ненадоўга. Маша даўно разабрала свой ложак ды пасля марнай, дзясятай па ліку спробы прымусіць Вераніку пільнавацца рэжыму, нарэшце выдзернула дрот з мадэма.

— Маша, што ты нарабіла, — з інтанацыяй муміі ды такім самым выразам твару, Вераніка, зняможаная, знясіленая, апусціла лоб на клавіятуру.

Анжэлік драпежна, пераможна ўсміхнулася: як прыгожа яна сышла! Не папярэдзіла, не развіталася, не дамовілася пра наступную сустэчу! Прыгожа! Рашуча! — узмахнула крыламі ды вокамгненна знікла ў чорным небе!

— Клон, ідзі спаць, — загадала малодшая старэйшай ды пайшла ў свой пакой.

Вераніка, з адсутным позіркам, з цяжкасцю ўсведамляючы, дзе яна знаходзіцца, схадзіла ў лазенку, але сіл стала толькі пачысціць зубы. Вераніка ўрэшце запаўзла пад коўдру; яе добра калаціла. Ёй было халодна; не было такога месца, дзе б ёй не балела: рукі, ногі, паясніца, галава… Дзень навылёт яна праседзела нерухома і нават амаль моўчкі, а колькі адбылося за гэты дзень! Але што балела мацней за ўсё… Вераніка не ведала, дзе гэты боль: сэрца, розум, душа?

У галаве была каша, і Вераніка вельмі выразна ўяўляла сабе гэтую кашу: нехта адкрыў ейны чэрап, нібы зняў накрыўку з рондля, узяў вялікую лыжку, засунуў яе ў мазгі ды бязлітасна, сумленна, не пакідаючы камякоў, ахайна ўсё перамяшаў. Вынуў лыжку ды закрыў рондаль-чэрап. Часы ды прасторы, краіны, межы, мытні, каханне, боль, здрада, прыгажосць… І рэклама — праз кожныя пяць секунд: «Бяры ЎСЁ — і будзь НАЙЛЕПШЫМ!»

Вераніка, маючы багаты досвед, ведала: з інтэрнэтаўскай кашай у галаве яна не засне. Але тая самая каша адорвала яе маленькай палёгкай: пазбаўленнем здольнасці да рэфлексіі.

Вераніка ляжала ды праглядала рэкламныя ролікі.

Але стома спакваля навальвалася: розум са сваіх невычэрных нетраў выдаў калыханку для Веранікі. І, засынаючы, яна слухала песеньку: «Sur le Pont-au-Change ce soir j'ai rencontre un ange… qui m'a souri et qui loin de ma vue est dusparu… Sur les rues de Paris je l'ai suivi, je l'ai perdu… J'ai poursuivi la nuit de tous les rires et de tous les delires… La nuit…»[1]

Веранiцы здалося, што яна плакала, засынаючы; бо розум — якая неахайнасць! — разам з песенькай зусім выпадкова выцягнуў і ўспамін, які захоўваўся побач. Nicolas, які б ні быў ён здраднік, усё ж не крануў іх агульнай святой таямніцы. Калісьці даўно, тры тысячы гадоў таму, у мінулым жыцці, у парыжскай неонавай ночы ён абдымаў яе ды шаптаў, зазіраючы ў даверлівыя, наіўныя шэрыя вочы: «Que tu es belle, Nini! Tu es la plus belle fille du monde… Nini, je suis ton ange gardien! Crois-moi, Nini. Je suis ton ange gardien, pour toujours!»[2]

Гэта было так неразважна, так неабачліва: адорваць выпадкова сустрэтага ў начным клубе такім позіркам, але як можна не давяраць анёлу? Як можна чакаць прыхаванай небяспекі ад таго, хто спусціўся да цябе з нябёсаў? Ад таго, хто гэтаксама шчыра глядзіць табе ў вочы?...

---

[1] «На Мосце Мянялаў гэтым вечарам я сустрэў анёла… Ён мне ўсміхнуўся і знік з маіх вачэй… Я пайшоў за ім вуліцамі Парыжа, я згубіў яго… Я шукаў яго ў шалёнай парыжскай начы… У начы…» (*фр.*)

[2] «Якая ты прыгожая, Ніні! Ты найпрыгажэйшая дзяўчына ў свеце… Ніні, я твой анёл-абаронца! Вер мне, Ніні. Я вечна буду тваім анёлам-абаронцам!» (*фр.*)

Як дзяцел, пытанне скроні дзяўбе,
і ноч не нясе збавення:
як магу я паклікаць цябе,
калі ты не маеш наймення?

Перапляценні гукаў ды слоў,
марскія вузлы парафразаў…
Як зменяцца шыфры тваіх адрасоў,
адкуль я чакацьму адказаў?..

Ляпілі, бы з гліны, далонямі з цемры
ляпілі гарачыя нашыя целы,
дзве розныя мовы мы зблытвалі ў роце,
каханнем душылі, нібы на гароце
мільёны разоў — хто там зараз падлічыць?
Забылі спытацца: «А як цябе клічуць?»

…Як гукаізаляцыйнае шкло —
варожая родная мова…
Нам кажуць: слова спачатку было!
Я ведаю: слова спачатку было!
Даруйце… Якое слова?..

* * *

На наступны дзень Дом Нумар Чатырнаццаць (па вуліцы Беларускай, як ужо вядома) прачнуўся, звыкла пачаў пералічваць дзяцей-жыхароў у сваіх вантробах, але — упершыню за ўсё жыццё! — збіўся ды, з насцярожанасцю і недаўменнем, пачаў пералічваць наноў. І зноўку лічбы не сышліся. У кватэры нумар два на першым паверсе выразна прасочвалася анамалія. Дом ніяк не мог вызначыць, колькі знаходзіцца людзей у гэтай дзіўнай кватэры. Дом напружыў гарышча, перакапаў усе свае веды, расцярушыў жыццёвы досвед, але, так і не разгадаўшы таямніцы, уздыхнуў ды прызнаўся самому сабе: «Ну вось і старасць мая прыйшла!»

На ўвесь наступны тыдзень — сем дзён, сем начэй — Вераніка знерухомела. Яна выпала з рэальнасці, перайшла ў іншае вымярэнне, амаль перастала прымаць ежу ды рэагаваць на вонкавыя раздражняльнікі. Яна трапіла ў Нірвану.

Маша з Арцёмам накручвалі кругі вакол яе ды забаўляліся:

— Глядзі, Маруся! Твая сястра — гэта жывы — не, паўжывы! — помнік новай Эры Інфармацыі!

— Мадэль Чалавека Будучыні!

— Намёк на дасканаласць!

— Функцыянуюць толькі мазгі, яшчэ раз мазгі і нічога апрача мазгоў! Чысты розум — і ніякае крытыкі!

— Манюня, ты бачыш?

— Што?

— Святло! Гэтае ззянне вакол ейнай галавы! Як ты мяркуеш, гэта што?

— Німб?

— Не адгадала! Глядзі, глядзі, ззянне мацнее ды пашыраецца! Маша, гэта нараджэнне наасфэры!

— Арцём, ты не ўяўляеш! Яна перастала мыцца, есці ды размаўляць! Ведаеш, як мы спаць кладзёмся? Я выдзіраю дрот ды скідваю яе з крэсла!

— Мэры, ты робіш вялікую памылку! Чалавек Інфармацыйнай Эры мусіць адмовіцца на толькі ад вады і ежы, але і ад здаровага сну! Вось табе і вырашэнне энергетычнай праблемы! Амаль perpetuum mobile! Якая эканомія, а?

Вераніка іх не чула. Яна пакутавала — без усялякіх жарцікаў; ёй было кепска.

Бо, па-першае, яе кінуў хлопец. Забыўся на яе так безнадзейна, нібыта і не існавала яе, Веранікі, ніколі. І нават не паведаміў, з якой нагоды. І — натуральна! — не патлумачыў, не прызнаўся, што займеў новыя пачуцці да новай дзяўчыны.

Тое, што новай дзяўчынай была яна сама, Вераніку не абнадзейвала. Бо, выкрыўшы падман, Ніко, пэўна ж, не пажадае… І далей думаць ёй не хацелася. Было занадта балюча.

На e-mail яе-сапраўднай лістоў ад Ніко не прыходзіла. Затое на e-mail яе-новай… belladonnamandragora@yahoo.fr, гэта не адрас, а здзек, спрэс падвойныя сэнсы ды алюзіі; на адрас Анжэлік лісты прыходзілі штогадзінна…

Атрымаўшы першы ліст да сябе-несапраўднай, Вераніка ўзяла ды расплакалася, гарачымі салёнымі слязьмі, як у маленстве.

Nicolas адпісаў ёй толькі два сказы: «Ne m'abandonne pas! Tu me manques!»[1] І прытачыў малюначак: Магрыт, «La promesse»[2]. У небе над морам ляціць вялікая птушка, зробленая з аблокаў.

Вераніка глядзела на птушку ды глытала слёзы; слёзы былі горкія. «Магрыт, мой любімы Магрыт… Ты ніколі не казаў мне, што табе падабаецца Магрыт… Так і не даведаўся, што я таксама яго люблю… Як мы з табою не паразумеліся? Чаму мы не знайшлі супольнай мовы? Ты не пабачыў мяне, не заўважыў мяне — хаця сузіраў мяне дзень і ноч… прагледзеў мяне як сон, як кіно ў сне! Nicolas, Nicolas…»

Анжэлік паводзілася як спрактыкаваная, дасведчаная сцерва. Раскрывала душу, а потым — бац! — хлопала дзвярыма, маючы намер як мага больш балюча зачапіць наіўнага хлопчыка, які ўжо не мог без яе ні жыць, ні спаць, ні працаваць. Nicolas прасіў, прымушаў, маліў Анжэлік прыехаць у Парыж, абяцаў ёй — о, чаго ён толькі не абяцаў! Нават сам быў гатовы хоць заўтра набыць квіток на самалёт ды ляцець да сваёй таямнічай драпежніцы; але — вось незадача! — Анжэлік, дарэмна што тры разы на дзень бажылася, што сумуе, — не хацела яго чароўнага з'яўлення! (А Маша з Арцёмам, між іншым, неаднаразова прапаноўвалі Вераніцы вытанчана адпомсціць: запрасіць Нікошку ў Мінск ды сустрэць яго ў аэрапорце! У сваім звычайным абліччы! Не, у цёмных акулярах ды парыку — і, сустрэўшы, сарваць гэты камуфляж! Завезці ашаломленага monsieur Teil у цэнтар Мінска ды кінуць яго, няшчаснага, на міласць лёсу! «Desolйe, Nicolas! Trop trop de travail!»[3] — менавіта так і з такімі самымі словамі, як ён неаднаразова вызваляўся ад яе, Веранікі! — Арцём і Маша ўяўлялі сабе выраз твару «лягушатника» ды валіліся на падлогу ў эпілептычных прыпадках смеху.)

А Вераніка ніяк не магла прымусіць сябе спыніць размову з Nicolas. Гэтая новая дзяўчынка — нахабная, самаўпэўненая лярва Анжэлік — адкуль толькі яна з'явілася ў ёй? Вераніка згадвала: ці ўласцівы ёй быў такі стыль паводзін? Ці ставала ёй калі-небудзь нахабства паслаць хлопчыка куды далей, назваць яго нікчэмным ды падступным, потым загадаць вярнуцца, прымусіць яго на каленях прасіць прабачэння, прызнацца хлопчыку ў каханні, але з агаворкамі… — і не проста нейкага левага, непатрэбнага фанатыка, а свайго ўласнага, адзінага і непаўторнага, каханага хлопчыка? Не, Анжэлік паводзілася зусім не так, як Вераніка… Вераніка лічыла такіх дзяўчынак кепскімі. «Хлуслівыя бабы!» — вось як яна называла такіх дзяўчынак. Але адбываўся цуд, самы сапраўдны, казачны, не разбаўлены юшкай будзённасці Цуд з вялікай літары: усё ж гэтай нахабнай, жорсткай — Сапраўднай Жанчынай — была Вераніка.

[1] «Не пакідай мяне! Мне цябе нестае!» (*фр.*)

[2] «Абяцанне» (*фр.*)

[3] На жаль, Нікаля! У мяне дужа многа работы! (*фр.*)

Гэта Вераніка складала сказы, якія змушалі Нікошку траціць розум, гонар ды сон з апетытам. І менавіта Вераніцы, сваёй забытай, кінутай Вераніцы ён штогадзіны дасылаў лісты.

Процьму разоў Вераніка хацела паслаць — яна нават іх набірала! — словы: «Nicolas! C'est moi, ta Nini! Je t'aime encore!»[1], але гэтулькі ж разоў стрымлівала сябе, бо ведала, што шчырасць гэтая будзе мець наступствы катастрафічныя.

— Ну і каго мы тады кахаем? — крычала Вераніка і, да вялікага захаплення Машы з Арцёмам, цытавала Бродскага: «Можно, пору за порой, твои черты воссоздать из молекул пером сугубым! Можно, в зеркало вперясь, сказать, что ты — это я, потому что кого ж мы любим, как не себя?»

— «Но запишем судьбе очко! — падхоплівалі хорам Маша з Арцёмам, якія ніяк не маглі паверыць у шчырасць пачуццяў ніколі не бачанага імі хлопчыка з Парыжа. — В нашем будущем, как бы брегет ни медлил, уже взорвалась та бомба, что оставляет нетронутой только мебель!»

«Ну і каго мы кахаем? — моўчкі патрабавала Вераніка справаздачу з нябёсаў. — Каго? Словы? Фразы? Хіба папраўдзе — саміх сябе? І што тады можна называць каханнем? Няўжо гэтая прага быць пачутым, прага стацца патрэбным — гэта і ёсць каханне? Ілюзія паразумення або еднасць інтэлектаў? Ці Інтэлекту — у адзіным ліку ды з вялікай літары! Nicolas, Nicolas, за што ты мяне кінуў, чаго ты спалохаўся?»

Трафік быў перагружаны мегабайтамі кахання. Адзінка, нуль, нуль, адзінка, нуль, нуль, нуль, адзінка, адзінка, нуль, адзінка, адзінка, адзінка, нуль, адзінка, нуль, нуль — я сумую — хачу цябе бачыць — у натоўпе я шукаю твой сілуэт — усе манекены ўва ўсіх вітрынах маюць твой твар — я не магу жыць без цябе — скажы, што я табе патрэбны — скажы, што кахаеш мяне — адзінка, нуль, нуль, адзінка, нуль — я бачу неба — пра што ты цяпер думаеш? — я заўсёды з табою! — я кахаю цябе — я сумую без цябе — я хачу цябе абняць — глядзець табе ў вочы — толькі глядзець табе ў вочы — няма іншай прыгажосці — ты даеш мне сілы жыць — ты даеш мне права быць шчаслівым — я кахаю цябе — я думаю толькі пра цябе — я кахаю цябе — я кахаю цябе — я кахаю цябе — Я! — кахаю!!! — ЦЯБЕ!!! — адзінка, нуль, нуль, нуль, нуль, нуль, нуль — дысканэкт!

Але Маркс з Энгельсам далі маху. Дыялектыкі памыліліся: яны пралічылі ды прадугледзелі ўсё, апрача кахання. Колькасць слоў не перарасла ў якаснае каханне. Наадварот. Чым болей Вераніка атрымлівала слоў, тым меней сэнсу яны мелі. Што адбываецца ў сетцы са словамі кахання? Мабыць, іх фільтруюць на якім-небудзь адмысловым серверы? Мабыць, словы, перагружаныя каханнем, занадта важкія ды не пралазяць у шлюзы?

Лухта гэта ўсё ды словаблудства, а сэнс быў у іншым: дзень за днём, слова за словам, але з Веранікі кудысьці перацяклі ўсе ейныя пачуцці. І тое, што яна лічыла каханнем, і тое, што Машка называла псіхозам — знікала, знікала ды зусім знікла… Як выпарылася. Лопнула, як бурбалкі з ліманаду «Бураціна», пакінутага адкаркаваным на лядоўні ў мінулым жыцці.

Анжэлік памерла ў адначассе. Гэтаксама нечакана, як нарадзілася.

Быў вечар, цёплы летні вечар, і ў пакоі адчынілі акно. Вераніка сядзела пры камп'ютары ды не мела выгляду няшчаснай пакінутай дзяўчынкі. Не была падобна яна, аднак, і да драпежнай паляўнічай на мужчынскія таямніцы. І да Звышчалавека Інфармацыйнай Эры яна таксама не была падобна: праваю рукою Вераніка нешта стукала па клавіятуры, левай дасылала ў рот плён кулінарных высіл-

[1] «Нікаля! Гэта я, твая Ніні! Я ўсё яшчэ цябе кахаю!» (*фр.*)

каў Машы і Арцёма: піражкі з капустай, а заадно і перакладала ім новыя шчырасці парыжскага хлопчыка, паспяваючы праглядаць старонку, на якой кожныя пяць хвілін з'яўляўся новы анекдот. Маша з Арцёмам, як маленькія статуі Буды, сядзелі на падлозе пры Веранічыным стале; яны елі піражкі ды спаборнічалі ў дасціпнасці, прапаноўваючы свае варыянты адказаў закаханаму «лягушатнику». Да таго ж яны слухалі радыё і нават паспявалі падпяваць раз-пораз.

Яны абмяркоўвалі новы джып суседа з другога пад'езда, як Арцём раптам памяняў тэму — як ён, у прынцыпе, заўсёды і рабіў.

— Слухай, Веранічка, — Арцём ажно расхваляваўся. — Ты толькі паслухай мяне спакойна, дамовіліся? Добра?

— Ну? — невыразна прамычала Вераніка з поўным ротам.

— Мне здаецца… Мне здаецца, што гэта — сюжэт!

— Машына? — здзівілася Маша. — Сюжэт чаго?

— Цыц, дзіцятка! — Вераніка павярнулася да Арцёма разам з крэслам ды ўрачыста ўзняла дагары ўказальны палец. — Менавіта! Ты ўвогуле думкі мае… Ну… не тое каб чытаеш — ха! Проста ты маеш рацыю! Ты адгадаў — я сама здагадалася! Адтуль, — і Вераніка паказала пальцам на столь, — адтуль мне даслалі сюжэт!

Вераніка зноўку павярнулася да камп'ютара, паспешна выцерла ліпкія ад піражкоў рукі аб джынсы ды агучыла апошняе паведамленне ад Анжэлік да Nicolas:

— Fuck off!!! Вялікімі літарамі! Машка, выдзірай дрот! Мы ідзём на кухню піць гарбату!

У той жа вечар (а калі дакладна — амаль ноч) Вераніка ўзялася пісаць. Яна акупавала кухню, загадала знайсці ёй простых алоўкаў ды паперы — не проста паперы, а старых сшыткаў савецкай вытворчасці з зжаўцелымі аркушамі, паслала Машу ў кіёск па каву, а Арцёма — па цыгарэты («Малой не прададуць»), запаліла настольную лямпу ды ператварылася ў хатнюю каралеву.

Вераніка засела Пісаць. Яна загадала Машы з Арцёмам: «Маўчаць! Дзвярыма не бразгаць! Па хаце без патрэбы не швэндацца! На кухню не заходзіць! Музыку не слухаць! Гук у тэлевізары — на мінімум!»

І яны рахмана і радасна падпарадкаваліся. Маша — бо старэйшая сястра нарэшце страціць да малодшай усялякую цікавасць, перастане практыкавацца на ёй у праявах мацярынскага інстынкту ды пакіне яе ў поўным ды абсалютным спакоі.

А Арцём — таму што… А ён нават сам не ведаў, чаму. Арцём сядзеў разам з Машкай у зале на канапе і няўважліва глядзеў тэлевізар, а за сценкаю, на кухні, пісала Вераніка. Яна нарэшце пачала пісаць. Арцём таксама меў неўсвядомленую схільнасць чытаць пра сябе няісныя кніжкі; кніжкі, якія нагадвалі заўчасныя эпітафіі. «Яны сустрэліся, каб ажыццявіць Лёс. У Нябеснай Канцылярыі ўсё пралічылі ды зладзілі іхнюю сустрэчу.

Так, яна была сапраўдная Геніяльная Пісьменніца. Затое ён быў Геніяльны Імпрэсарыа. Што яна змагла б без яго? Такая непрыстасаваная да жыцця, далікатная, крохкая, безабаронная, створаная, каб думаць ды пісаць, каб глядзець на неба ды грызці аловак? Што яна здолела б зрабіць без яго? Пісала б ды хавала б у шуфлядзе назаўсёды? Не, яна не здатная была бегаць па выдавецтвах, падпісваць дамовы, спяваць дыфірамбы і цалаваць руку галоўным рэдактарам, яна ніколі не даведалася б пра літаратурныя конкурсы, у якіх ён літаральна змушаў яе ўдзельнічаць, а то і проста, без ейнага ўдзелу і дазволу, браў ды дасылаў паўсюль яе творы. Яна не чытала газет, ні з кім не змагалася, яе справа была ляжаць на канапе ў чаканні натхнення! А ён, Геніяльны Імпрэсарыа, прыйшоў, убачыў ды

пацягнуў яе па жыцці разам з канапай! Што яна рабіла б без яго? Рэцэнзіі, рэдактары, рэпутацыя…

А што ён рабіў бы без яе?

Яны сустрэліся, каб спраўдзіць Лёс.

Абы толькі яна сядзела ды пісала, пісала, пісала, каб толькі спісвала алоўкі ды сшыткі — лясы, пушчы, гушчары алоўкаў ды сшыткаў!..»

І Вераніка папраўдзе пісала. Яна не выходзіла з кватэры, не мыла галавы і не рабіла манікюр. Пяць дзён, дакладней, начэй запар яна знішчала адзін за адным алоўкі. Яна пісала гісторыю свайго апошняга кахання, не мяняючы імёнаў галоўных герояў.

Цягам пяці дзён у кватэры нумар два Дома Нумар Чатырнаццаць па вуліцы Беларускай (той, дзе амбасада Малдовы на рагу) панавала святая цішыня.

І вось нарэшце гэта адбылося.

Вераніка паўстала ў дзвярах пакоя як прывід; яна была падобна да панды з сінімі кругамі вакол вачэй. Вераніка патрусіла пульхным сшыткам над галавою ды абвясціла хрыплым басам:

— Я скончыла!

## ЭПІЛОГ, АБО ШТО БЫЛО ПОТЫМ

Потым Маша прымусіла яе памыцца ды легчы спаць. Потым Арцём прымушаў яе набіраць тэкст («Разумееш, Веранічка, я і сам набраў бы, але хто, апрача цябе, здатны расшыфраваць твае еорогліфы?»). На гэтым місія Веранікі была завершана.

Кніжка выйшла з друку недзе ў сярэдзіне жніўня. Цяпер ужо ніхто дакладна не ўзгадае, што тры асобнікі былі неадкладна дасланы ў Парыж.

Потым, у Парыжы, monsieur Igor, адзіны фундатар літаратурных вычварэнняў сястры, прынёс кніжку на працу, там яе знайшоў monsieur Nicolas. І быў крыху здзіўлены. Бо гэтаксама лёгка ён знайшоў у кніжцы ўласныя лісты да дзвюх сваіх апошніх mesdemoiselles з горада Мінска: Веранічка наўмысна пакінула лісты на мове арыгінала. Не вельмі прыемны быў для monsieur Nicolas той факт, што ўсё іншае было на мове, яму невядомай. Nini, а разам з ёй Angelique ён шчыра ўзненавідзеў ды ніколі нічога ніводнай з іх не дараваў. Але гэта ўжо неістотна.

А потым была ноч, вільготная вераснёвая ноч. Вераніка ехала ў аўтобусе. Пластыкавыя бутэлькі з мінеральнай вадой мякка стукаліся ў торбе пад ейным сядзеннем. Вераніка спала ці, можа, не зусім спала… *Хто… Хто гэта сказаў?.. Жыві так, нібыта на Зямлі рай… Спаць… Paradis… Paris… Je suis ton ange gardien… ton ange gardien… Je suis ton ange… Je n’en sais rien*[1]*, хто гэта сказаў?.. не памятаю…*

Вераніка канчаткова заснула ды не заўважыла, і ніхто ў аўтобусе нічога не заўважыў, нават з тых, хто не спаў. І толькі дасведчаны кіроўца пабачыў ля аўтабана шыльду з надпісам «France»; яна з’явілася ды адразу ж знікла.

*Год напісання — 2004-ы*

[1] Рай… Парыж… Я твой анёл-абаронца… анёл-абаронца… Я твой анёл… Нічога пра гэта не ведаю (фр.).

*Мікола ШАБОВІЧ*

# З БАДЗЕНЕЎСКАГА СШЫТКА



**_Мікола Шабовіч нарадзіўся 4 студзеня 1959 года ў вёсцы Бадзені Мядзельскага раёна. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Выкладае родную мову ў БДПУ імя Максіма Танка. Паэт, перакладчык. Аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў і кніг гумару._**

* * *

Сплываюць гады чародамі,
Сплываюць і не пытаюцца:
Ці гнаўся наўслед за модамі,
Гарбаціўся ці гультаіўся?

Адзін веславаў ці параю —
З другою сваёй паловаю, —
Без розніцы там, за хмарамі,
Дзе ўсё незнаёма-новае.

А што застаецца? Музыка
Тых дзён, што бруілі ўзрушліва
Ад першай сцяжынкі вузенькай
Да многіх дарог спакуслівых.

Радкоў застаецца мроіва,
Дзе мары блішчаць каралямі,
Радкоў пра духмень садовую,
Пра дні, што сплываюць далямі,

Сплываюць, нібы чародамі,
Над вечнасці агародамі…

* * *

Мінае дзень. Мінае незваротна.
І, будзь ты самы найчароўны маг,
Як ні ўсміхайся светла-бесклапотна, —
Прыходзіць час пытанняў і развag.

Ці ўсё зрабіў? Ці ўсё, што ёсць, ад Бога?
Ці ўсё аддаў, ужо немаладзён,
Ці больш узяў пакункамі ў дарогу,
Вярнуць паабяцаўшы цягам дзён?

Ці вольны свет?
Ці думцы ў ім так вольна?
Як мудрасць ёсць, чаму ж ліецца кроў?
Чаму паэт, нібы ізгой бяздольны,
Ахвярай стаў для хціўцаў-махляроў?..

Пытанняў шмат. Хай час на іх адкажа.
Сплывае дзень. Спяшаецца-бяжыць…
Пакуль гады — не цяжкая паклажа,
Патрэбна жыць,
Шчэ як патрэбна жыць!

* * *

Хай сняцца сны. А добрыя збываюцца,
Пакуль жыццё — суцэльны палігон,
Дзе дабрыня, бывае, забываецца,
Благое — мчыцць за намі наўздагон.

І ў гэтым коле, гэтай кругабежнасці
Суседзямі — сябры і несябры,
Суседзямі — нягрэшнікі і грэшнікі,
І нават — песняры і хлусняры.

І кожнаму нябёсамі адмерана
Жыццёвая няпростая вярста
Ад Берага З'яўлення і да Берага,
Адкуль глядзіць нямая пустата.

І ў гэтай кругаверці разняволенай
Валеты так і пруцца ў каралі,
А каралі звяргаюцца ці войнамі,
Ці здрадай — здрайцаў многа на Зямлі.

Адно паэты, быццам бы заклятыя,
Загадку свету мкнуцца разгадаць
І ў гэтым прад усімі вінаватыя —
Іх зорны час закончыўся, відаць.

І толькі ў снах бывае, што збываюцца
Іх мары, як Нябесны Плытагон
Вяшчуе: «Дабрыня не забываецца…»
Хаця жыццё — суцэльны палігон…

* * *

Усё мінае, пралятае
Так незваротна, так паспешліва,
І новы дзень я ўжо вітаю
Даволі стрыманай усмешкаю.

Гартаю новыя газеты,
Гляджу па тэлеку навіны я
Пра інтэрпалы, інтэрнэты,
А не балоты журавінныя.

Пра артабстрэлы, перамовы,
Пра каціроўку, дыслакацыю,
А мне б пачуць пра росквіт мовы
Ці прачытаць пра годнасць нацыі…

Ды мо дарэмна я смуткую,
Што дні праносяцца імклівыя?..
Дасць Бог, яшчэ мы адсвяткуем
І дні трывог, і дні шчаслівыя…

**ТВОЙ ГОЛАС**

Голас пачую —
З ім і начую.
Голас пачую
Твой.
Светла-чароўны,
Любасці поўны,
Роўны
З начной сінявой.

Роўны
З пяшчотнаю песняй салоўкі,
Роўны
З крынічнай бруёй —
Голас маёй ненаглянай сяброўкі,
Сённяшняй музы маёй…

Голас пачую —
З ім і начую…
Толькі чамусь не да сну.
Голас гуллівы,
Вабна-шчымлівы,
Той, што гукае вясну…

* * *

Мой любы парк! А вось і я!
Даўно не бачыўся з табою.
Мая журба тваёй журбою,
Бадай, пабольшае ўдвая.

Калісь тут спеліўся раман,
Радкі ўспраменьвалі за хмары,

І маладыя мроі-мары
Зусім не верылі ў падман.

І гераіня — Эталон —
Сюды прыходзіла, як пава, —
Было з ёй лёгка і цікава
Кахання ўзводзіць Вавілон

І нат не думаць пра развіт,
Хаця на свеце ўсё не вечна.
Не выключэнне мы, канешне,
І кожны з нас у нечым квіт.

Распарадзіўся лёс-крышталь
Не так, як мы таго хацелі,
І нашы душы, нашы целы
Даўно разрознены, на жаль.

І нат не верыцца парой
(Хай час сумненні ўсё ж пакіне),
Ці вінаваты ў тым герой,
Ці, можа, усё-ткі гераіня…

Бывай, мой парк, святлынь мая!
Я рад, што ўбачыўся з табою.
Твая журба маёй журбою
Хай не пабольшае ўдвая…

* * *

Салодка спіш ці вершы мо складаеш?
Каго, скажы, ты ў марах абдымаеш?

Каму, скажы, ты спеліш пацалункі,
Каб несці іх, нібыта падарункі,

Так годна-смела і адчайна-проста
І шкадаваць, што ты малога росту,

Што прыўставаць на дыбачкі павінна,
Каб вуснаў хмель дзяліць напалавіну,

Каб піць з вачэй нясплаканыя мроі,
Як нашыя лірычныя героі…

*Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта*

Нік АЛЕКСАНДЭР

# ЖОНКА ФАТОГРАФА

***Урывак з рамана***



***Брытанскі празаік Нік Александэр (Nick Alexander) нарадзіўся ў 1964 годзе ў англійскім Маргейце. Пачынаючы з 1991 года пражывае ў асноўным у Ніцы. Пасля таго, як у 2003-м усе выдавецтвы адмовілі Ніку ў публікацыі яго першага рамана «50 прычын развітацца», ён выдаў твор за свой кошт. І добра зрабіў: чытачы цёпла прынялі раман, што натхніла аўтара на далейшую працу. Раман «Жонка фатографа» апісвае жыццёвы шлях жанчыны, дзяцінства якой прыйшлося на час вайны і мае нашмат больш сакрэтаў, чым яна сама жадае прызнаваць.***

## 1940 — ШОРДЫЧ, РАЁН ЛОНДАНА

Барбара падымаецца на дыбачкі і абхоплівае падаконнік сваімі маленькімі белымі ручкамі. Кавалак зялёнай фарбы адрываецца і падае на падлогу, і ў гэтую ж секунду падае таксама і яна, збітая з панталыку тым, што кавалак зялёны ўверсе, але белы ўнізе.

«Паглядзі!» — зноў кажа яе сястра, тыкаючы пальцам у шыбу.

Барбара глядзіць на палец і заўважае, як праз яго праходзіць святло, потым глядзіць на брудную шыбу і нарэшце факусіруе позірк на тым, што знаходзіцца па другі бок акна, — на тым, што так усхвалявала сястру.

Удалечыні высока над дахамі яна бачыць групу кропак, што плывуць у чыстым вераснёўскім небе. Яны пакуль што толькі кропкі, але Барбара чуе гудзенне і ўжо ведае, хоць ёй і шэсць гадоў, што кропкі — гэта ваенныя самалёты, што яны — бамбардзіроўшчыкі.

Дзверы за спінай расчыняюцца, і Барбара нервова азіраецца. Яна не ўпэўнена, ці зрабіла што-небудзь не так, але ў такія дні лепш быць падрыхтаванай, бо ёсць адчуванне, быццам памылак зроблена не так і мала.

— І што вы абедзве робіце тут, пад акном? — раздражнёна пытаецца Міні, сцягваючы паліто. — І не кажыце мне, што вы не чулі сігнал трывогі.

— Але паглядзі! — кажа Гленда, паказваючы пальцам на кропкі.

— Зараз атрымаеш у мяне «паглядзі», — пагражае Міні, але, заінтрыгаваная чымсьці ў голасе старэйшай дачкі, праходзіць праз усю кухню, каб таксама ўгледзецца ў тое, што за акном.

Барбара, усхваляваная тым, што Міні ў тую ж хвіліну змоўкла, зноў глядзіць у блакітнае неба і шукае позіркам кропкі. Іх памер вырас, а гудзенне зрабілася гучнейшым. Яна схіляе галаву і глядзіць на сваю разгубленую маці, выраз твару якой мяняецца — ад звычайнага і амаль пастаяннага раздражнення да збянтэжанасці і потым — заклапочанасці.

— Праклятыя фрыцы, — шэпча Міні. Глыбока і сумна ўздыхнуўшы, яна павольна адводзіць позірк ад неба ды, пагладзіўшы Гленду па галаве, кажа: — Кухонны стол, мадам. Зараз!

Потым хапае Барбару за левую руку і выцягвае з пакоя.

Барбара сядзіць спінай да струганай ножкі стала і праводзіць указальным пальцам па драўлянай паверхні над галавой. Гук ад самалётаў набліжаецца і пачынае трохі палохаць. Хутка да яго дадаецца трэск супрацьпаветранага ўзбраення.

— Тады дакладна немцы, — кажа Гленда, звяртаючыся да каленак маці, пакуль тая завіхаецца ля стала, робячы бутэрброды.

Праз пах, што даносіцца з кухні, Барбара разумее, што бутэрброды будуць з рыбнай пастай — такія, якія яна менш за ўсё любіць.

— Хто яшчэ гэта можа быць? — адказвае Міні, і стол дзіўна рэзаніруе ад яе голасу.

— Я думала, што гэта могуць быць *нашы* хлопцы, — кажа Гленда. — Трохі ранавата для фрыцаў, ці не так?

Дагэтуль умераныя налёты нямецкай авіяцыі праходзілі амаль заўсёды ноччу.

На падлозе пад краем стала з'яўляецца талерка ў кветачкі, з адбітым краем. На ёй — тры тоўстыя бутэрброды. Барбара, якой ужо некалькі разоў выгаворвалі за тое, што яна бярэ ежу без дазволу ў той час, калі прадукты прадаюцца па картках, перш, чым асцярожна ўзяць бутэрброд, задумваецца.

— Ну, бяры талерку! — кажа Міні. — Ты хочаш, каб я тут стаяла, пакуль бомба не ўпадзе, ці што?

Гленда цягнецца з-за спіны сястры і бярэ талерку, потым адбірае бутэрброд у Барбары і кладзе яго назад. «Дурнічка», — шэпча яна.

— А мне з гэтага нічога не дастанецца! — кажа Міні, прысаджваючыся да дзяўчат на тонкі матрац пад сталом. Яна прыхапіла з сабою гліняны збан з вадой ды алавяны кубак — адзін на траіх.

— Ці не трэба нам ісці ў сховішча? — пытаецца Гленда. — Бо Мэры з дома праз дарогу кажа…

— Яшчэ не завершана, — кажа ёй Міні. — Ты сама ведаеш, што не завершана.

Сховішча, што знаходзілася ў іх садзе, патрабавала дня цяжкай працы над ім. Міні не лічыла гэта ўсё неабходным, яна, як і шмат дзяўчат на фабрыцы, верыла, што пагроза для Лондана перабольшаная. Таму, стомленая напрыканцы працоўнага дня, яна не жадала працаваць позна вечарам.

— Не наша. Я маю на ўвазе нармальнае сховішча, у моладзевым клубе, — кажа Гленда, — бо Мэры з дома, што праз дарогу, тая, чый дзядуля працуе ў грамадзянскай абароне, дык вось, *ён* кажа…

— З намі тут усё будзе добра, — гучна прамаўляе Міні, перапыняючы. — А цяпер сядзі ціха і пі сваю гарбату, інакш я вып'ю яе сама.

Здалёк чуваць гудзенне вялікага самалёта. Барбара не спяшаецца першы раз кусаць бутэрброд, яна слухае, трымаючы яго каля вуснаў.

— Зноў докі, — кажа Міні. — Гэта заўсёды докі. Небаракі. Не даюць мне папрацаваць.

Барбара ўгрызаецца ў бутэрброд ды, слухаючы, як гук новай серыі залпаў супрацьпаветранай абароны пераклікаецца з шумам ад другога аддаленага выбуху, думае: «Рыбная паста. Фу». Але, нягледзячы на рыбную пасту, ёй вельмі падабаюцца гэтыя гадзіны, якія яна праводзіць, утульна ўладкаваўшыся паміж маці ды сястрой. У любым выпадку гэта самая радасная падзея, якая толькі можа з ёй цяпер здарыцца.

Нешта свісціць над іх галовамі, раздаецца новы выбух. Барбара бачыць, як маці панура глядзіць на ніжнюю паверхню стала, нібыта яна можа расказаць ёй нейкі сакрэт пра гэты новы гук. Міні цягнецца за трыма рэспіратарамі, якія ляжаць перад ёй і якія яна так ненавідзіць, ды кладзе іх у бяспечнае месца — пад стол. І потым гэта паўтараецца зноў — новы выбух, толькі цяпер ён *нашмат* бліжэйшы і яны не толькі чуюць яго, але і адчуваюць вібрацыю, што праходзіць праз падлогу, праз матрац. Міні рэзка ўдыхае і заплюшчвае вочы, Гленда расплюшчвае вочы яшчэ больш, а бутэрброд Барбары выпадае з яе рук і падае на калені.

— Ого! — кажа Гленда, усміхаючыся трохі па-вар'яцку пасля таго, як усё змоўкла.

Калі б яе маці было так весела, як і Глендзе, Барбара магла б узяць прыклад ды таксама вырашыць, што гэта ўсё пацеха. Але, слухаючы, як падаюць усё новыя і новыя бомбы, а выбухі робяцца ўсё бліжэй ды грамчэй, Міні пачынае разумець, што гэта ўсё вельмі адрозніваецца ад налётаў нямецкіх дырыжабляў у яе дзяцінстве, калі немцы выкідвалі бомбы з ілюмінатараў. Гэта адрознівалася нават ад тых налётаў, што рабіліся ў Лондане падчас гэтай вайны, і хоць стары дубовы кухонны стол быў вельмі моцны, магчыма, што пад ім было не настолькі бяспечна, як думала Міні.

Барбара шукае падказку на твары маці і бачыць, як тая нервова аблізвае вусны. Яна не можа ведаць, пра што думае маці, але можа успрымаць яе пачуцці амаль як свае, і тое, што яна адчувае цяпер, — страх. У шасцігадовым розуме Барбары з'яўляецца думка, якой да гэтага ўвогуле не было, — што яе маці можа памыляцца і можа надысці час, калі яе рашэнні акажуцца няправільнымі. Нягледзячы на тое, што сядзіць паміж маці і сястрой, адчувае яна сябе небяспечна. І пачынае плакаць.

— Ты павінна зараз жа спыніць гэта! — кажа Міні, падняўшы руку і пагражаючы Барбары ўдарам.

Барбара цяжка зглынае і адчувае, як яе твар распухае, павялічваецца ў памеры ў два разы, бо яна спрабуе стрымаць яшчэ адзін наступ слёз.

— Слёзы яшчэ ніколі нічога не вырашылі, — кажа Міні, і Гленда асцярожна падміргвае сястры, вяртаючы ёй бутэрброд.

— Даядай, сястрычка, — мякка кажа яна. — З табой усё будзе добра. Мы не дазволім, каб з табой нешта здарылася, ці не так?

* * *

Барбара выходзіць за сваёй маці з нядаўняга сховішча і спыняецца ў шэрым святле світанку. Яна ўдыхае бруднае паветра і бачыць чырвоную, як пры заходзе сонца, смугу, што асвятляе гарызонт.

За выключэннем паху дыму, які пранікае паўсюль, ды ўсеабдымнага чырвонага смогу, падаецца, што нічога вакол іх не змянілася, што гэтай

раніцай, як і кожнай раніцай, прынамсі, здзіўляе. Шум ад начных налётаў не сціхае і наводзіць жах, і цяжка ўявіць, лежачы тут, у цемры, што за сценамі сховішча засталося хоць што-небудзь.

— Давай, — кажа Міні. — Давай здымем з цябе гэтае мокрае адзенне, — Барбара дакранаецца да рукава сваёй сарочкі і адчувае, што сырасць сховішча, якая пранікае паўсюль, усё яшчэ не пакінула яе, затрымалася ў тканіне. Яе рэзка штурхаюць наперад, праз вузкі агарод. — Што наконт Гленды? — пытаецца яна, спрабуючы зазірнуць у адчыненыя дзверы сховішча.

— Няхай паспіць, — адказвае Міні. — У вас з ёй сёння будзе важны дзень.

Так, важны дзень. Бо сёння — дзень эвакуацыі. Перыяд «дзіўнай вайны», калі баявыя дзеянні амаль што не вяліся, скончыўся, ніхто больш не сумняецца ў тым, што небяспека рэальная, і Міні, на якую з пачатку вайны неадступна націскалі з патрабаваннем эвакуіраваць дзяўчат, нарэшце паддалася. Ёй страшна адпускаць іх. Яна баіцца за іх, не ведае, куды яны накіроўваюцца, не ведае, што іх чакае ва Уэльсе… Але яна таксама баіцца і за сябе. Паветраныя налёты настолькі палохаюць, што ёй ад іх робіцца дрэнна, ды яе жыццё цяпер, калі Шэймуса няма (Ці жывы ён яшчэ? Лістоў не было…), нікчэмнае. Пакуль дзеці побач, ёй даводзіцца трымацца. Але што будзе, калі дзеці апынуцца не з ёю?

Пакуль Барбара ела хлеб з маргарынам, Міні глядзела на яе і спрабавала прадказаць, як пройдзе гэты дзень, і нават такое: ці здольна яна сама аддзяліць сябе ад сваёй плоці і крыві.

— Гленда любіць паспаць, — кажа Барбара.

— Дай ёй паспаць, — адказвае Міні. «*Так, дай ёй паспаць,* — думае яна. — *Дай ёй паспаць да апошняга магчымага моманту*». Барбары занадта мала гадоў для таго, каб яна магла зразумець, што на самай справе значыць эвакуацыя, але Гленда, Міні ведае, будзе дзіка і бясконца лямантаваць.

* * *

Яны на вакзале, і Барбара, якой ужо расказалі сакрэт, здзіўлена, што яе сястра ўвогуле тут.

Дзеці паўсюль, групы дзяцей, нібыта скаціна. Яны пракладваюць сабе шлях праз няспынныя рэкі іншых дзяцей, з якімі разам рухаецца маса, якая непраўдападобна аб'ядноўвае настаўнікаў, тоўстых, старых ды цяжарных.

Гленда крыўдзіцца, ціхенька падштурхоўваючы свой маленькі карычневы чамадан, але, як заўважае Міні, шумець пакуль што не пачынае.

Барбара, як яна бачыць, знаходзіцца ва ўзбуджаным стане. Яна не можа вырашыць, прыгода гэта ці няшчасце, яна глядзіць на сястру, маці, усіх навокал, шукаючы падказкі наконт таго, як ёй рэагаваць. Толькі Міні разумее, наколькі вялікім будзе гэты разрыў для іх усіх. Толькі Міні рыхтуецца да таго, што будзе потым.

Справа ад іх пачынае плакаць маленькая дзяўчынка, штуршкамі яе падымаюць у вагон. Барбара паварочвае галаву, бачыць усё гэта і чуе дрыготкі голас: «Я не паеду, я не паеду! Не *паеду!*» Барбара сціскае і расціскае свае пальцы, што трымаюць зроблены з грубай тканіны кошык для закупаў, у якім ляжыць яе адзенне. Грубае палатно драпае яе рукі.

Да іх набліжаецца мужчына з дошкай-планшэтам.

— Спадарыня Дойл! — напышліва кліча ён.

— Спадар Уоліс, — адказвае Міні, імітуючы яго паслужлівы тон.

— Рады, што вы нарэшце прынялі правільнае рашэнне, — самаўпэўнена кажа ён.

— Калі вы называеце правільным рашэнне адасласць сваіх дзяцей Бог ведае куды, каб іх там выхоўваў Бог ведае хто, тады так, спадар Уоліс, мы нарэшце прынялі правільнае рашэнне, — парыруе Міні, пасля чаго адразу разумее, што дзяўчаткі ўсё чулі. Але Міні не можа сябе стрымліваць у такіх сітуацыях. Яна не з тых людзей, што любяць рабіць тое, што ім кажуць, а Грэнвіл Уоліс толькі і робіць, што павучае яе з таго часу, як скарыстаўся сваёй бруднай крамай з завышанымі коштамі на рагу, каб стаць адказным за эвакуацыю. Аднаго яго стаўлення амаль што хапіла для таго, каб прымусіць яе развярнуцца і накіравацца дахаты.

Цягнік перад імі свісціць, пыхкае ды пачынае з бурчаннем выязджаць са станцыі. Барбара глядзіць, як перад ёй праносяцца твары людзей, прытуленыя да брудных вокнаў. Некаторыя з іх падаюцца шчаслівымі і ўсхваляванымі, а на некаторых — чырвоныя вочы ды сляды слёз. Гэта збівае з панталыку.

— Я не павінен увесь дзень абмяркоўваць плюсы і мінусы палітыкі нашага ўрада, спадарыня Дойл, — кажа мужчына. — Такім чынам, яна адна, так? — кажа ён, кіўком указваючы на Барбару.

— Не, ёсць… — кажа Міні, паварочваючыся туды, дзе павінна стаяць Гленда. — Дзе? — мармыча яна, цягнучыся за чамаданам Гленды. — Куды пайшла твая сястра? — кажа яна, моцна насупіўшыся.

Барбара паціскае плячыма, апусціўшы вочы долу.

— Яна пайшла шукаць прыбіральню? — пытаецца Міні.

Барбара круціць галавой.

— Марыя, маці Хрыстова, — усклікае Міні. Яна бярэ Барбару за падбародак і прымушае павярнуцца тварам да сябе. — Ці сказала яна штонебудзь?

Барбара невыразна ківае.

— Спадарыня Дойл! — кажа мужчына.

— Проста пачакайце, ці вам цяжка? — адказвае яму Міні, звяртаючыся потым да Барбары: — Што яна сказала? Раскажы мне, што яна сказала.

— Гэта сакрэт, — шэпча Барбара.

— Што за сакрэт? — пытаецца Міні, і Барбара, якая занадта добра ведае гэты тон, разумее, што лепей сказаць праўду.

— Яна сказала, што не паедзе ва Уэльс. Нізавошта.

— Спадарыня Дойл! — кліча мужчына, і Міні яшчэ раз праглядае натоўп людзей перад тым, як павярнуцца тварам да яго.

— Здаецца, што ў вас дрэнна атрымліваецца кантраляваць ваш вывадак. Магчыма, ва Уэльсе справяцца лепей! Але ёсць яшчэ адна невялікая праблема, звязаная з тым, што я павінен запісаць у гэтых дакументах. Такім чынам, ёсць толькі Барбара, якая едзе адна, правільна?

— Я не ведаю, — адказвае Міні. — Прабачце, проста… проста пачакайце хвіліну.

Міні пачынае прабівацца праз натоўп, спыняючыся, каб спытаць: «Вы бачылі маленькую дзяўчынку? Вы бачылі маю дзяўчынку? У яе каштанавыя валасы і блакітнае паліто. Рост прыкладна такі. *Вы* бачылі яе? *Вы* бачылі маю дзяўчынку?»

Людзі вакол або ігнаруюць яе — занадта занятыя, або глядзяць на яе, нібыта яна вар'ятка. Нават Барбара разумее, што чакаць адказу на гэта пытанне сёння, сярод гэтага натоўпу дзяцей з'яўляецца чымсьці падобным да вар'яцтва.

Мужчына з дошкай-планшэтам бярэ Барбару за руку. Спачатку, паколькі яго жэст супакойвае, яна дазваляе яму гэта зрабіць. Але потым, калі ён пачынае цягнуць яе да вагона, пачынае супраціўляцца. «Не!» — крычыць

яна. «Мама!» Але Міні не бачыць гэтага. Міні ўся ў жудасных пошуках сваёй другой дачкі. Яна падбягае да кожнай дзяўчынкі, якая хоць трохі падобная да Гленды, і цягне за плечы, каб павярнуць да сябе тварам.

— Мама! — зноў крычыць Барбара. Потым, пераймаючы маленькую дзяўчынку, якую яны бачылі да таго, яна ўскліквае: — Я не паеду, не паеду!

Бачачы, што гэта не мае ніякага эфекту, дзяўчынка пачынае лямантаваць. Яе пранізлівы крык уплывае на Міні на нейкім першабытным узроўні, яна спыняецца, паварочваецца і бачыць, як Грэнвіл Уоліс перадае яе малодшую дачку лысаму, знешне бруднаму мужчыне ў касцюме-тройцы. Яна бачыць, як ногі Барбары боўтаюцца ў паветры, і бяжыць праз натоўп назад. Пры гэтым яна збівае з ног маленькага хлопчыка. Павярнуўшы галаву, нясkладна просіць прабачэння ў гэтага дзіцяці, якое пачынае плакаць, але ўсё роўна працягвае бегчы.

Уоліс спрабуе не даць ёй прайсці і кажа:

— Спадарыня Дойл! Дзеля Бога! Гэта ўсё абсалютна няпра…

Але Міні адштурхоўвае яго, аббягае лысага мужчыну і бярэ сваю дачку за руку ў той момант, калі тую паглынае цемра цягніка, паспяваючы рыўком выцягнуць дзіця назад на платформу.

— Яна ніколі не паедзе ва Уэльс адна! — кажа Міні голасам чалавека, які не верыць сам сабе. — Яна не паедзе без сваёй сястры! Пра што вы толькі думаеце?

— Калі яна не паедзе сёння, яна не паедзе ніколі, — кажа спадар Уоліс. — Я зраблю для гэтага ўсё магчымае, абяцаю. Нам трэба эвакуіраваць тысячы, мільёны дзяцей, і вы думаеце, што вы можаце так нас падстаўляць?

— Не прымушай мяне ехаць, — усхліпвае Барбара. — Калі ласка, не прымушай мяне ехаць, мама. Я заўсёды буду добрай дзяўчынкай. Я абяцаю, я буду добрай.

— У любым выпадку, яна ў спісе, — кажа мужчына, паказваючы на дзяўчынку дошкай-планшэтам.

— Цяпер вы можаце *выкрасліць* яе са спіса, — кажа яму Міні. — Ідзі ды стань каля чамадана Гленды вунь там, — павучае яна Барбару, выпускаючы яе руку са сваёй і накіроўваючы яе праз платформу ў іншы ад цягніка бок. — І хопіць ужо плакаць!

Барбара ідзе праз мора дзяцей, што рухаюцца ў іншым кірунку, і кладзе адну руку на чамадан. Адначасова назірае за сваркай паміж маці і тым мужчынам. Яна не чуе, што кажа маці, але яна адчувае нешта магічнае ў яе позе, у тым, як яна трымае рукі на сцёгнах, як паказвае яму, чаго вартая. Барбара адчувае гонар.

— Добра, — кажа Міні пасля таго, як мужчына, паціснуўшы плячыма, робіць зневажальны жэст рукой і звяртае сваю ўвагу на нешта іншае. Яна падыходзіць да Барбары, бярэ ў рукі чамадан і накіроўваецца да выхада.

— Эвакуацыі не будзе? — пытаецца Барбара.

Міні спыняецца і прысядае перад дачкой, як звычайна не робіць.

— А ты *хочаш* паехаць? Ты хочаш сесці на гэты цягнік і паехаць ва Уэльс? Бо ведай, мілая, што ты за адзін крок ад гэтага. Толькі скажы слова.

— Не! — крычыць Барбара, зноў пачынаючы плакаць.

— Тады хопіць ужо раўці, мілая! Я вяду цябе дахаты.

— А Гленда? — пытаецца Барбара, спрабуючы глядзець назад падчас іх шляху праз гучнае вар'яцтва вакзальнага памяшкання.

— Ёй дванаццаць. Яна ведае, як дабрацца дахаты, — адказвае Міні. — І калі яна туды трапіць, яе там будзе чакаць занадта цёплы прыём.

Раптоўна Міні спыняецца і Барбара наганяе яе.

— Дзе твой кошык?

Барбара глядзіць на сваю руку, у якой нічога няма, і спрабуе згадаць, дзе яна згубіла кошык.

— Той мужчына, — кажа, адступаючы назад. — Ён паставіў яго ў цягнік.

— Божа! Толькі гэтага не хапала, — кажа Міні. — Нам яго зараз ніхто не верне. Гэта ўсё было няшчаснай тратай часу. І што мне цяпер даваць табе апранаць? Нібыта яшчэ не дастаткова праблем! Лепей бы табе весці сябе добра, спадарыня. Лепей бы табе быць вельмі добрай дзяўчынкай. Я клянуся табе, што як толькі ты першы раз заплачаш, апынешся на цягніку ва Уэльс і гэта будзе не толькі на час вайны, гэта будзе *назаўсёды!*

Барбара заплюшчвае вочы, каб не дапусціць новых слёз, якія ўжо амаль што выкаціліся з яе вачэй, і ў выніку не заўважае няроўнага каменя на маставой. Яна спатыкаецца, і яе зноў рыўком падымаюць уверх.

— Хадзі прыгожа! — кажа Міні.

* * *

Барбара сядзіць адна, паклаўшы адну нагу на другую, на адзіным ложку, які яны перанеслі ў сховішча. Яна павінна займацца чытаннем, але замест гэтага ўважліва глядзіць на адбітак свечкі ў новай лужыне на падлозе. Яна слухае, як падаюць першыя бомбы. Паветраная трывога была пяць хвілін таму.

Дзверы ў сховішча адчыняюцца, і з'яўляецца Гленда.

— Там знадворку жахліва, — кажа яна і пачынае сцягваць з сябе мокрае паліто, сумняваецца, але нарэшце здымае яго. — Тут унутры таксама жахліва. А дзе мама?

— Пайшла па суп, — адказвае Барбара. — Яна сказала мне не рухацца.

— Вуліца Мапллдэн Роўд трапіла пад налёт, — паведамляе Гленда.

— На самай справе?

— Бомбы ўпалі на нечым заднім двары. Усе шыбы выбіла. І іх сховішча таксама развярнула. Аднак іх там не было.

Барбара зажмурваецца на секунду, потым глядзіць на гафрыраваныя жалезныя сцены і спрабуе ўявіць, як гэта будзе выглядаць, калі іх *разверне*.

— Не хвалюйся, — кажа Гленда, седзячы на краю ложка і здымаючы пантофлі. — Маланка не трапляе ў адно месца двойчы.

— Вунь яно, пачынаецца, — кажа Барбара, прыслухоўваючыся адным вухам да аддаленага свісту запальнай бомбы.

Гленда ківае, чакае выбуху (ён раздаецца недзе далёка), потым кладзе адну нагу на другую і садзіцца насупраць сястры.

— Сястрычка, — кажа яна. — Што ж мне цяпер рабіць?

Барбара загінае старонку кнігі (абарваны экзэмпляр «Маленькага чорнага Самбо») і ўзнімае вочы на Гленду. Святло ад свечкі падкрэслівае яе зморшчанае брыво. Яна пытаецца:

— Што здарылася, сястрычка?

— Джонні заўтра эвакуіруюць. За тры хаты ад іх упала бомба, і яго мама кажа, што занадта небяспечна цяпер заставацца.

Барбара сур'ёзна ківае. Джонні — гэта хлопец Гленды, і хоць Барбара яго ніколі не бачыла, яна сумняецца, што ён увогуле існуе.

— Ён паедзе ва Уэльс?

Гленда круціць галавой:

— Не ўсіх накіроўваюць ва Уэльс, дурнічка.

— Я ведала гэта, — кажа Барбара. — Я проста спыталася.

— Ох, калі цябе пакідаюць, гэта самая горшая рэч на свеце, — кажа Гленда. — Я проста жадаю памерці.

— Сястрычка! — кажа Барбара, раскрываючы рукі і неяк па-дзіўнаму абдымаючы сястру.

— Ён быў адзіным, што стрымлівала мяне ад распаду, — паўтарае Гленда фразу, якую яна чула раніцай аднаго дня з вуснаў сваёй сентыментальнай выкладчыцы спадарыні Рычардсан.

— Не плач, — кажа Барбара, атрымліваючы некаторую асалоду ад сваёй ролі даверанай асобы ў гэтай меладраме.

— Я не магу, — адказвае Гленда. Яна адхіляецца назад роўна настолькі, каб Барбара здолела ўбачыць, што ў яе атрымалася выдаць сапраўдную, хоць і адзінкавую слязу. Здольнасць выдаваць слёзы па патрабаванні — гэта асабісты дар Гленды і, магчыма, гэта адна з прычын таго, чаму Міні звяртае на іх так мала ўвагі.

— Ты не павінна плакаць, — кажа ёй Барбара. — Калі мама гэта ўбачыць, яна адправіць цябе ва Уэльс.

— Можа, мне *варта* плакаць, — адказвае Гленда. — Як мінімум, так я магу зноў пабачыць Джонні.

— Але Джонні не ва Уэльсе, — кажа Барбара, якая цяпер зусім заблыталася.

Яшчэ адна бомба свісціць за сценамі сховішча, хутка пасля яе недзе далёка чуваць выбух. Потым без папярэджання раздаецца аглушальны гукавы воплеск, ад якога дрыжыць зямля, ложак матляецца, трапеча агеньчык свечкі, нават пачынае калыхацца падлога. Пасля ў сховішчы робіцца па-магільнаму ціха. Толькі прыкладна праз паўхвіліны пасля таго, як да дзяўчат зноў вяртаецца слых, яны пачынаюць разумець, што прычына цішыні не ў тым, што свет больш не існуе, а ў тым, што на нейкі час іх аглушыла.

Дзяўчаты ўсё яшчэ не рухаюцца, сядзяць ды глядзяць адна на адну. Але потым Гленда, якая выглядае так, нібыта яна ў паніцы, звешвае ногі з ложка і пачынае абуваць пантофлі.

— Куды ты ідзеш? — пытаецца Барбара. — Мама сказала…

— Мама сказала, мама сказала… — паўтарае Гленда.

— Яна сказала заставацца на месцы. Яна сказала, што табе нельга гэтага рабіць.

— Дык я і збіраюся праверыць маму, — адказвае Гленда. — Што, калі яна трапіла пад налёт?

Барбара прыкусвае ніжнюю губу. Яна не ведае, што рабіць. Яна не ведае, што сказаць.

Калі дзверы ў сховішча рэзка адчыняюцца і з'яўляецца Міні, Барбара выдыхае.

— Вы гэта чулі? — кажа Міні, залятаючы ў сховішча. — Я амаль што разліла суп. Я вам кажу, гэты выбух сапсаваў мне прычоску.

Яна ставіць міску з супам на стул, потым паварочваецца і зачыняе дзверы.

— Вы, дзяўчаткі, добра трымаліся? — пытаецца яна, і Барбара паварочваецца да яе роўна столькі часу, колькі трэба на тое, каб выцерці слязу — сапраўдную слязу палёгкі — са сваёй шчакі.

— Так, — кажа яна. — У нас усё проста цудоўна. Ці не так, сястрычка?

***Пераклад з англійскай Надзеі ФІЛІПЧЫК***
***Крыніца арыгінала: http://nick-alexander.com/2014/09/24/the-photographers-wife-taster-first-two-chapters/***

# ЭЛІЗА АЖЭШКА
# ELIZA ORZESZKOWA




Выданне «Дні» Элізы Ажэшкі заснавана на рукапісе, які знаходзіцца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Вільні (група 1135, рэестр 15, адзінка 4). У архіве Элізы Ажэшкі Інстытута літаратурных даследаванняў Польскай акадэміі навук знаходзіцца рукапіс і мікрафільм, якія з'яўляюцца падставай выдання.

Рукапіс «Дні» быў адкрыты прафесарам Эдмундам Янкоўскім падчас яго навуковага падарожжа ў СССР у 1957 годзе.

*Сярод гэтых дробязей я звярнуў увагу на невялікі, трохі зношаны сшытак. Чаго толькі ў ім няма! Адрасы; цэлыя старонкі прозвішчаў асоб, да якіх трэба было напісаць лісты; мы знойдзем там і нейкія рахункі, і — што важна — першыя спробы афарызмаў і фрагменты вершаў розных аўтараў. А сярод таго нагрувашчвання інфармацыі — некалькі сотняў старонак, рассеяных па цэлым сшытку і запісаных дробным почыркам, якія змяшчалі ні больш, ні менш, толькі каляндар пісьменніцы, апрацаваны ёю. Ён ахоплівае 1898—1904 гады, напісаныя часам скарачэннямі, часам свядома зашыфраванай сістэмай.*

Сшытак, які змяшчае «Дні», налічвае 74 старонкі, пры гэтым старонкі з адваротнага боку таксама ў большасці спісаныя, што разам дае 133 старонкі запісаў. Ёсць сляды вырваных старонак. У апісанні Янкоўскага ёсць адна памылка: запісная кніжка змяшчае не некалькі сотняў старонак, а толькі 58 старонак каляндарных, запоўненых дробным почыркам, што не з'яўляецца нормай для Ажэшкі. Іншыя яе рукапісы паказваюць размашысты характар пісьма. Нататкі зроблены атрамантам, ёсць некалькі запісаў алоўкам, зробленыя па-за домам.

Тэрмін *«каляндар»* вельмі трапны. Інфармацыя ў ім знаходзіцца побач з датамі — гэта падзеі, чытанне, госці, настрой. Толькі ў некаторых месцах мы знаходзім фрагменты з даўжэйшымі рэфлексіямі.

Астатнія з 74 старонак запісной кніжкі служылі практычным мэтам Ажэшкі. Але яны не знаходзяцца цалкам па-за межамі «Дзён», бо сшытак падзелены па гадах: усе наступныя старонкі, якія ідуць за старонкай з датай года (напр., 1902 — напісанае пася-

рэдзіне старонкі) належаць да дадзенага перыяду (за выключэннем 13 і 14, якія знаходзяцца па суседстве з 1898 годам, але дакладна да яго не належаць). Ёсць тут і спісы адрасантаў, ад якіх Ажэшка атрымлівала лісты. Прозвішчы гэтыя напісаны ў чатыры або пяць слупкоў на старонцы і закрэслены (акрамя некаторых выпадкаў). Яны служылі пісьменніцы для пазначэння лістоў, на якія яна адказала. А адказвала яна амаль на ўсе. Прозвішчы часам у запісах скарочаныя (напр., Мразоўск.), што ў выпадку невядомасці карэспандэнта робіць немажлівым для рэдактара ідэнтыфікаваць яго асобу.

Некаторыя старонкі — гэта проста адрасная кніжка. Ёсць тут і такія, на якіх Ажэшка адлічвае тыдні пасля смерці свайго другога мужа, Станіслава Нагорскага. На іншых можна пабачыць хатнія рахункі, лісты даручэнняў перад выездам або наступныя аўтанапаміны:

*«Агранаўтаў» даслаць:*
*Бараноўскаму*
*Лутомскаму*
*Скірмунту*
*даць*
*Мон[іцы]*
*Зос[і]*
*Ядз[і] 1*
*Ядз[і] 2*
*Абрэмб[скім]*
*Ячын[оўскім]*
*Паўлі*
*Куш[эўскім]*

Сустракаем таксама планы сістэм раманаў з тома «*Імгненні*».



Старонкі 17—29, названыя аўтарам *Нататкі. Думкі. Вершы,* змяшчаюць фрагменты паэзіі (Славацкі, Канапніцкая, Вольска, Тэтмаер, Ор-От, Бадлер і інш.) разам з запісамі самой Ажэшкі: афарызмамі і думкамі.

**Назва** «Дні» паходзіць ад Ажэшкі. Пачатак запісаў з кожнага года пачынаецца са слова «Дні» ўверсе старонкі (напр., к. 4 і 34). Прымаем яго згодна з аўтарам як назву цэлага дзённіка.

**Даты.** Ажэшка нумаравала дні згодна з юліянскім календаром, так званым старым стылем. Назву месяца яна змяшчала толькі на пачатку запісаў гэтага месяца. У дадзенай рэдакцыі для лепшага разумення дзённіка ў квадратных дужках мы змяшчаем тое, што ў даце прапусціла аўтарка: назву месяца і дзень па грэгарыянскім календары. Неабходна ўлічваць, што найлепшым кантэкстам для прачытання дзённіка з'яўляюцца лісты. Пісьменніца датавала іх паводле наступнага ключа: карэспандэнцыя да Каралеўства, Галіцыі, Познаньскага і за мяжу — каляндар грэгарыянскі, Літва і Імперыі — каляндар юліянскі. Падобнае рабілі і яе карэспандэнты. Каб пазбегнуць цяжкага пералічэння дат, падаем іх побач.

Самай цяжкай рэдактарскай задачай у выпадку «Дзён» з'яўляецца спосаб запісу, які абрала аўтарка.Сутыкаемся тут са скарачэннямі слоў лёгка зразумелымі, цяжка зразумелымі і незразумелымі. Наступныя прыклады ствараюць гэтую градацыю:

1. *Усё марнае, зменлівае, слабое, нікчэмнае. Агіда да жыцця. Чаму я адчуваю сябе не так, як яны? У так. адпуск. і прысп. псых. тварыць ці падобна?* (фрагмент з 23 студзеня [14 лютага] 1898). *Веч. муз. у Урублеўс. Марыць доў. не атр. нічога!* (запіс з 25 студзеня [6 лютага] 1898).

2. *Дз. т. Ойча! Т. ад. пад ап. і аб. т. нак. ў спр. б. натхн.!* (фрагмент з 19 красавіка [1 мая] 1898 года).

3. *Х гр[ошы] прын[яў] н, о, н, п.!* (фрагмент з 11 [23 кастрычніка] 1898 года).

Другі фрагмент, які складаецца з першых літар і першых складоў слоў, паддасца расшыфроўцы толькі ў агульным кантэксце «Дзён», якія змяшчаюць і іншыя радкі з малітваў. Можам усё ж такі рызыкнуць і прапанаваць наступную расшыфроўку: *Дз[якуй] т[абе] Ойча! Т[абе] ад[даюся] пад ап[еку] і аб[арону], Т[ы] нак[іроўвай] у спр[авах], б[арані], натхн[яй]!* Сінтаксіс гэтага запісу, як і большасці запісаў дзённіка, рэдактарскі, бо Ажэшка часцей прапускала знакі прыпынку.

Трэці фрагмент расчытваецца часткова, бо апошнія тры словы зразумець немагчыма. Ёсць справы, як, напрыклад, канфідэнцыяльныя пазыкі сябрам, пра якія пісьменніца ў лістах нікога не інфармавала. Некалькі такіх фрагментаў знайшлося ў тэксце. Найбольшыя праблемы стварыла расшыфроўка скарачэнняў тыпу: *п. Ячын. веч.* Нам не зразумець, хто ў гэты дзень сапраўды наведаў пісьменніцу: пан Ячыноўскі ці пані Ячыноўская. Абапіраючыся на лісты, можна меркаваць, што гэта хутчэй Ячыноўскі — адвакат часцей наведваў Ажэшку.

Праблему стварае ўжыванне аўтаркай вялікай і малой літар. Заўважная паслядоўнасць у гэтай сферы палегчыла б уключэнне ў расшыфроўку скарачэнняў знакаў прыпынку. На жаль, часам нельга адрозніць літары ў гэтым паспешлівым невыразным почырку. Можа быць, Ажэшка сама знішчала межы сказаў, асабліва ў інтымных запісах. Але тут варта звярнуць увагу на той факт, што нават у назвах прачытаных кніг яна часцей ужывала малую літару. У дадзенай рэдакцыі ўсё набліжана да крытэрыяў сучаснай арфаграфіі. Выразна захаваліся ў рукапісе ўласцівасці мовы аўтаркі (напр., *«цось»* — нешта). Розніца паміж арыгіналам і рэдакцыяй пададзена ў заметках.

Належыць падкрэсліць часам цяжка заразумелы почырк Ажэшкі. Ёсць словы, прачытаць якія не ўяўляецца магчымым. Мы пазначаем іх квадратнымі дужкамі са словам «нечытэльнае» ўнутры. Ёсць некалькі сотняў слоў, якія з'яўляюцца хутчэй рэдактарскай інтэрпрэтацыяй пастаўленых аўтаркай знакаў (значэнне якіх можна толькі дадумаць). Такія выпадкі пазначаны ў тэксце квадратнымі дужкамі з заключаным у іх пытальнікам. Гэтаксама пазначана і няпэўнасць, што датычыцца тлумачэння прозвішчаў. Пры наяўнасці імёнаў дапісваем у квадратных дужках прозвішчы, што дазваляе пазбегнуць памылак, таму што ў асяроддзі Ажэшкі было шмат асоб з аднолькавымі імёнамі.

Дапісаныя да аўтарскіх скарачэнняў фрагменты аб'ёмам часта перавышаюць арыгінальны запіс. З-за такога вялікага ўмяшальніцтва рэдактара паўстае пытанне суаўтарства. Канчатковы тэкст ёсць нароўні вынік працы пісьменніка і рэдактара. Пісьменнік пакінуў толькі накіды, якія патрабавалі дапаўнення даслоўнага.

Мы не можам быць абсалютна ўпэўненымі ў тым, ці адпавядае прачытанне плану аўтара. І так, напрыклад, большасць дзеясловаў скарочана да флексійнага канчатка, таму мы нават не ведаем, якім часам ахвотней карысталася аўтарка: цяперашнім ці прошлым? Можа, яна аддавала перавагу пасіўным формам: *перапіс[ваю], перапіс[вала]* ці *перапіс[ана].* Час цяперашні надае тэксту дынаміку, мае функцыю ўвідавочніць дзеянне; формы часу

прошлага ствараюць ілюзію, што дзённікавы запіс з'яўляецца позна ўвечары, калі час хіба толькі падсумоўваць і калі ўжо ўсё вядома пра наступны дзень. Пасіўныя формы аддаляюць аўтара ад тэксту, робяць запіс не такім інтымным, больш інфармацыйным. Што выбраць? Што мела на ўвазе Эліза Ажэшка? Адно можна сказаць пэўна: яна не прызначала свае запісы для друку, таму не клапацілася пра іх празрыстаць.

Сведчанне рэдактарскай пакоры — квадратныя дужкі, якія мы пакінулі, каб чытач разумеў, дзе канчаецца мова Ажэшкі, а дзе пачынаецца прапанова таго, хто апрацоўваў запісы. На жаль, цяжка было вылучыць месцы пастаноўкі знакаў прыпынку. Залішняя колькасць зносак зрабіла б з тэксту хімеру.

Выбар такога спосабу існавання дзённіка Ажэшкі ў друку супадае з намерам прафесара Эдмунда Янкоўскага, які ў публікацыі фрагментаў з «Дзён» з 1898 года ў кнізе «Эліза Ажэшка» (I выданне: Варшава 1964, раздзел «Страфа верша») ужываў квадратныя дужкі для пазначэння расшыфроўкі скарачэнняў. Усе фрагменты дзённіка, прачытаныя Янкоўскім, суправаджаюцца зноскамі. Дадзеная рэдакцыя не заўсёды прытрымліваецца гэтых прапаноў.

Янкоўскі расшыфраваў крыптонімы, якія часцей за іншыя сустракаюцца ў тэксце: *«п. фр.», «ф.», «Ф.», «Х»* — датычацца маладога афіцэра Францішка Гадлеўскага.

Якой справе можа паслужыць рэдакцыя «Дзён»? Тэкст гэты з'яўляецца каштоўным працягам крыніц, якія датычацца жыцця і творчасці Элізы Ажэшкі, дапаўненнем яе карэспандэнцыі з 1898 па 1904 год. Яшчэ ён з'яўляецца свайго роду жанравай навінкай у творчасці аўтаркі «Над Нёманам», асабліва цікавай для даследчыкаў інтымнага боку яе жыцця. Не прызначаны для друку, ён быў своеасаблівым сакрэтнікам (*кніга маіх самых асабістых і самых таемных запісаў* — так Ажэшка апісвае сшытак у лісце да Марыі Влоскай ад 22.10.1898) і дзённікам адначасова, формай аморфнай, неапрацаванай. Цяжка скласці нейкую кампазіцыю гэтых запісаў. Усе старонкі сшытка звязаны з яго галоўным хрыбтом: дзённікам. Інфармацыю пра лісты ўваходныя і сыходныя з «канцэлярыі» шэрага дамка знаходзім таксама ў дзённых запісах. Старонкі сшытка, на якіх пісьменніца адлічвае тыдні па смерці свайго другога мужа, з'яўляюцца адбіткам тугі па Нагорскім, што ўтрымліваецца ў «Днях» пад многімі датамі. Большасць афарызмаў і думак, змешчаных у сшытку ў чарнавой версіі, мы можам адшукаць у творах і лістах аўтаркі таго часу, фрагменты вершаў і іх парафраз нейкім чынам перадуюць настрой, замацаваны ў дзённічку. Кожны запіс адсылае нас да іншага, а ўсё — да жыцця, гэтай самай чыстай утваральнай формы.

Ажэшка спраўляла аўтабіяграфію, пісала шмат лістоў, якія можна прымаць як памежжа інтымнага дзённіка і эпісталаграфіі. Мы дадаём да гэтага набору дзённічак — каляндар. Ён выяўляе пісьменніцу з найважнага боку: закутай у шараговыя *дні* гарадзенскай штодзённасці.

Пануючае перакананне ў адкрытасці жанравых узораў спрыяе зацікаўленасці памежнымі формамі. Сучасная пісьменніцкая практыка аддае перавагу прозе без выдумкі: аўтабіяграфіі, біяграфіі, дзённіку, успамінам, хроніцы, лістам, размовам з ..., нататнікам, запіскам, сшыткам, рэпартажам, эскізам, фельетонам, афарызмам. Быць можа, менавіта гэты трэнд дазваляе шукаць у творцаў мінулых эпох зацікаўленасць дадзеным тыпам пісьменства. Ліст і дзённік могуць спрачацца ў мастацкай каштоўнасці з навелай або раманам, аднак і маюць пэўныя абмежаванні: яны неадлучна звязаны з біяграфіяй творцы. Гэта яна дае кірунак інтэрпрэтацыі гэта-

га тыпу літаратуры і робіцца неабходным фундаментам для пачынанняў даследчыка.

Тэмы, якія мы можам знайсці пасля расшыфроўкі скарочанных запісаў «Дзён», гэта: адзінота, каханне, фарміраванне, ліставанне, сяброўства, Бог і малітва, лекцыі, хваробы. Запісы, звязаныя з імі, зноў і зноў паўтараюцца, што сучасныя даследчыкі жанру прымаюць за адну з канстант дзённіка, да чаго спрычынілася манатоннасць жыцця.

Адкуль прыйшоў да Ажэшкі намер распачаць дзённік? Яна добра ведала выданне 1883—1884 гадоў фрагментаў дзённіка Анры Амьеля. След гэтага чытання мы знаходзім у лісце да Аўрэлія Драгашэўскага 1903 года:

*Ці чытаў Пан « Інтымны журнал» Амьеля? Калі не, то ці дазволіць Пан даслаць яму гэту кнігу, бо маю яе і ляжыць яна заўсёды на маім бюрку, каб кожны момант магла яе разгарнуць […] Гэтая кніга, адзіная, якую ён пасля сябе пакінуў, з'яўляецца самым прыгожым на свеце зборам думак глыбокіх, тонкіх, арыгінальных, добрых. Шырокія веды, кранальнае і вечна самотнае сэрца, вечны палёт да іншасвету без сталай веры ў іншасвет. Арганізацыя на дзіва далікатная і скрозь напоўненая смуткам.*

Версія, якую яна прапануе выслаць Драгашэўскаму, — гэта, канешне ж, французскі арыгінал, а не польскі пераклад Аляксандры Кардзікоўскай, якому дадзена назва «З дзённіка». Мы не ведаем, калі дакладна Ажэшка сутыкнулася з гэтай фундаментальнай для гісторыі інтымнай творчасці кнігай. Першае сведчанне блізкай знаёмасці з ёй адлюстроўвае ліст да Канстанціна Скірмунта ад 26.10.1901 года, у якім яна пазначае, што раней ведала толькі пачатак «прызнання душы» Амьеля. Мы можам, рызыкуючы, сцвярджаць, што падыходзячы да пісання свайго дзённіка, яна мела ўжо знаёмства не менш як з некалькімі фрагментамі першай часткі «Інтымнага часопіса». Дзённікі гэтыя даволі адрозныя, перадусім яны розняцца характарам запісаў. У Ажэшкі мы маем справу з інфармацыяй рознага кшталту, змешчанай каля даты, кожная нататка — гэта адзін невялікі адбітак дня, пражыты ў рэальнасці. Стылістыка «Дзён» здзівіла ўсіх тых, хто ведаў моўныя схільнасці Ажэшкі. Усё ж гэта менавіта яе складаныя, з вялікай колькасцю залежных, нашпігаваныя прыдаткамі сказы не раз парадыравалі сатырычныя творы, а расцягнутыя апісальныя кавалкі адпужвалі нецярплівых чытачоў. У той жа час у дзённіку дамінуюць эліптычныя запісы, сказы-паролі, інфармацыйна вельмі ашчадныя, часам зразумелыя толькі ў кантэксце аб'ёмнай зноскі, якую рэдактар мусіў рабіць дакладнай. Здавалася б, што інтымны запіс схіляе хутчэй да празмернасці, а не да лаканічнасці. У выпадку Ажэшкі ўсё наадварот. Прычым Амьель, паводле слоў Гідэ, — «балбатун», які ўнурваецца ў чарговы дзень менавіта у той момант, калі дае выхад свайму стану на паперы. Цяжка прыпісаць Ажэшцы комплекс Амьеля. Яе творчасць не абмяжавалася адной кнігай, яе асоба была далёка не інтравертнай, далёкай ад адступлення, устрымання і нерашучасці. Здзіўляе аднак падабенства матываў з'яўлення абодвух тэкстах. Амьель з яго разважаннямі на тэму Бога, веры, этыкі, абавязку і міласэрнасці, з дабрынёю сэрца, пакорай, схільнасцю да самааналізу і цікавасцю да свету меў магчымасць быць адным з найлепшых узораў чалавечнасці для пазнейшай творчасці Ажэшкі.

Можна з рызыкай сцвярджаць, што першы год дзённікавых запісаў мае тэрапеўтычны характар. Потым гэта робіцца звычкай (фізіялагічнае дзеянне — азначэнне Беатрысы Дзідзьер), якая з часам слабее. Тэрапія — абарона ад дэпрэсіі і смутку. Першы запіс датаваны 9 (21) студзеня 1898 года. Мінула год і два месяцы пасля смерці Станіслава Нагорскага, другога мужа пісьменнніцы. Ажэшка даўно ўжо вярнулася да звычайных заняткаў пасля

паўзы ў некалькі месяцаў у выніку экзістэнцыйнага шоку, які выклікае страта самага блізкага чалавека. Аднак у яе жыццё ўвайшло новае неспадзяванае пачуццё. Эдмунд Янкоўскі прысвяціў гэтай гісторыі цэлы раздзел у біяграфіі пісьменніцы. Тут паспрабуем толькі дапоўніць «Страфу верша». Францішак Гадлеўскі, брат гарадзенскіх сяброўак Ажэшкі, Мар'і Гадлеўскай і Паўліны Бакшчанінавай, наведаў яе яшчэ перад смерцю Станіслава Нагорскага. Малады, прыгожы афіцэр 101-га пермскага пяхотнага палка, які стаяў у Гродне, ужо ў другой палове 1897 года стаў незаменнай асобай у доме пісьменніцы. Запаўняў эмацыйную пустку і ажыўляў атачэнне. Цяжка спекуляваць на тэму як нарадзілася каханне. У любым выпадку, яно існуе на той момант, калі Ажэшка пачынае весці дзённік. Было гэтае пачуццё цяжкім, бо аднабаковым. Ажэшцы 57 гадоў, Гадлеўскі на 25 гадоў маладзейшы. Сітуацыя таварыска-метрыкальная не прымалася грамадскай думкай. Пісьменніца не была ўпэўнена ў пачуццях Гадлеўскага. Ён бываў у яе амаль штодзённа ў ролі чытальніка і сябра. Замест адкрытага вызнання яна абрала форму сакрэтнага, шыфраванага запісу. Калі маеш вымаляваны кантэкст, лягчэй вызначыць функцыю гэтага шыфру. Гэта не казус аўтара дзённіка — канспіратара тыпу Самюэля Пепыся, які дзеля аднаго твора прыдумаў уласную форму сценаграфіі і выразна бавіўся другім жыццём на картках дзённіка. Ажэшка, якая знайшла спосаб сублімацыі невыказанага пачуцця, баіцца быць падгледжанай. Яна дапісвае словы толькі да паловы, таму Гадлеўскага шыфруе як *п. фр.*, потым больш таямніча: *Х.* Нясмела вучыцца пісаць пра сябе, пазбаўляючы, аднак, дзеясловы канчаткаў, якія выяўляюць «я». Яе здзіўляе і турбуе, што пачуцці яе не служаць іншым і што іх немагчыма патлумачыць так, каб усім было зразумела.

Няпэўнасць у пачуццях Гадлеўскага пройдзе канчаткова ў ліпені 1898 года, калі пан Францішак выязджае прасіць рукі і сэрца Яніны Іжыцкай, сваёй будучай жонкі. Вынікам аднабаковага пачуцця і шматмесячнай пакуты праз нявыказанае каханне з'яўляюцца тры запісы ў жніўні 1898 года. Першы выказвае здзіўленне няпэўнасцю экзістэнцыйнай сітуацыі чалавека:

18 [30 жніўня]

*Як гэта дзіўна: людзі бачацца штодзённа, пішуць адно аднаму, клапоцяцца адзін пра аднаго, здаецца, што думаюць адзін пра аднаго, нечакана робіцца цішыня, нешта сарвалася… яны чужыя, не дзеляцца нічым, адно пра аднаго нічога не ведаюць… Канец! Страфа замоўкла! У аднога пачынаецца новае жыццё, а другі падае ў абдымкі цішыні і цемры. Святло згасла, голас замоўк, кветка звяла, паэзія згарнула крылы і паляцела. Усё гэта: святло, голас, кветка і паэзія — існавала ў фантазіі. Рэальнасць была толькі простым сяброўствам і няпростым болем?*

Другі — гэта горкі папрок ідыялізму і асабістай метрыцы:

19 [31] жніўня.

*У сферы чалавечых пачуццяў толькі пачуццёвыя ўражанні не з'яўляюцца ілюзіяй. Дзе ілюзіі не граюць ролі, там звычайна няма нічога і толькі летуценным, захопленым галовам здавацца можа, што нешта ёсць. Прывязанасць, упэўненасць, сяброўства, клапатлівасць, удзячнасць, памяць пра дні пражытыя сумесна — ілюзія! Толькі пачуццёвая раскоша звязвае людзей на нейкі час!.. (Путрышкі)*

Трэці фрагмент паходзіць з часткі сшытка, якая змяшчае афарызмы і думкі. Яна тлумачыць сэнс слова «самотнасць», якое шматразова паўтараецца ў «Днях». Яно азначае не толькі немагчымасць выказаць свае пачуцці, але перадусім жыццё без сям'і.

[…]

Пакута з прычыны смутна і трывіяльна скончанай гісторыі з Гадлеўскім выказана ў трох навелах, якія ўзніклі ў гэты перыяд: «Парцалянка» (1898), «Момант» (1898), «Загадка» (1899). Яны таксама паказваюць пэўны творчы механізм.

Прыведзеныя раней фрагменты з дзённіка Ажэшкі можна трактаваць згодна з дапушчэннямі генетычнай крытыкі, як так званы перадтэкст. Вывучаючы з'яўленне тэксту і працэс нараджэння сэнсу, мы адкрываем для сябе, што Ажэшка як бы заклала сэнс трох вышэй прыведзеных навел у сваіх дзённікавых нататках. Навелы паказалі на ўзроўні фразеялогіі і структурных элементаў зафіксаваныя ў дзённіку перажыванні. Гэта іх тэматычная праекцыя. У гэтым сэнсе дзённік і апавяданні з'яўляюцца адным тэкставым корпусам.

«Парцалянка» з'явілася цягам чатырох дзён кастрычніка 1898 года. Яе першаснай матрыцай, матэрыяльным увасабленнем рукапісу навелы з'яўляецца дзённікавы запіс ад 19 (31) жніўня, што датычыцца пачуццёвай раскошы як асноўнага злучальніка паміж людзьмі. Каля запісу *Пішу Парцалянку* з'яўляюцца рэфлексы, звязаныя з Гадлеўскім. Яго постаць апякуе твор. Гераіня навелы — маладая кабета, якая не мае дзяцей і закінута мужам.

[…]

Праз некалькі дзён пасля заканчэння «Парцалянкі», 21 кастрычніка [2 лістапада] 1898 года, Ажэшка распачала пісаць наступную навелу, якая потым увойдзе ў зборнік «Імгненні». «Момант» з'явіўся менш чым за два тыдні, яшчэ жывыя на старонках дзённіка думкі пра Гадлеўскага. Няхай не падмане нас прысвячэнне на тытульнай старонцы навелы: Яну бр. Юндзілу… «Момант» — «паэмка ў прозе», як назвала яго аўтарка, мае тры перадтэкставыя кампазіцыйныя сістэмы: «Дні», рукапіс навелы і ліст да Леапольда Мейета ад 04.12.1898, у якім Ажэшка ўводзіць папраўкі да папярэдне перасланага да Варшавы апавядання.

Твор гэты дэманструе пакуты, выкліканыя пачуццем без адказу. Гераіня з'яўляецца спявачкай, а кожны спявак ёсць найчытэльнейшы сімвал мастацтва.

[…]

У той час, калі з'яўляецца дзённік, пісьменніца ўжо далёкая ад агнастыцызму, які прапагандавала яшчэ ў прыватных выказваннях першай паловы 1880-х. Яе вера ў Бога глыбокая. Але яна не ходзіць у касцёл і не прычашчаецца. У зменах яе стаўлення да гэтых дзеянняў немалую ролю сыграла смерць мужа. Такі кірунак думак падказвае нам біяграфія. Сама Ажэшка не зафіксавала хвіліны пакут, якія навучылі яе маліцца. У «Днях» пісьменніца ўжо можа карыстацца гэтай мовай. Яна ведае, што аднолькава важным з'яўляецца і тое, што робіцца вакол Бога, і тое, што пра Яго кажуць. Адклікаецца заўсёды ўласнай мовай, пазбягаючы гатовых формул. Малітоўныя апастрофы ў дзённіку сведчаць аб яе пакоры лёсу. Бог тут з'яўляецца асобай, якая альбо дае, альбо адбірае. Ажэшка дзякуе яму роўна як за дабро, так і за кепскія хвіліны (*Дзякуй Табе Божа, Пан, за ўсё, што баліць і за ўсё, што цешыць* — «Дні». 18 [21] літапада 1903 года), цалкам паддаецца яго волі. Пасля малітвы яна адчувае палёгку.

Натуральная скарга, народжаная пакутай, выказваецца пытаннем «навошта?» і з'яўляецца ў «Днях» час ад часу. Адзін з такіх момантаў — запіс 29 кастрычніка [11 лістапада] 1903 года, калі абвастрылася хвароба сэрца пісьменніцы — стэнакардыя:

*Ноч в[ельмі] кепская. Ці набліж[аецца] ўжо канец? Удз[ень] леп[ей], але слаба і боя[зь] ночы, пра як[ую] няма каму расказаць. Страш[ная] адзін[ота]!*

*Думаю, што паміра[ючы], не буду мець к[аля] сяб[е] ніводн[ай] іст[оты], якая сапраўд[ы] ках[ае] і кахан[ая]. Думаю, ці заслуж[ыла] такое?*

Апроч малітваў, якія яна пісала сваімі словамі, знаходзім у запісах сшытка з «Днямі» парафразу верша Марыі Канапніцкай «*Магніфікат*», які дасканала выражае пакору перад пакутамі.

[…]

Словы, скіраваныя да Бога, маюць пераканаўчы характар не толькі для Творцы, але і для таго, хто моліцца. Ажэшка схіляе сябе да прыняцця лёсу, спрабуе перамагчы смутак і роспач, адшукаць унутраны спакой, які лічыць найбольшай каштоўнасцю. Малітвы пісьменніцы не маюць эскапічнага характару, не з'яўляюцца містычным зборам замкнёных сэнсаў. Яна не схіляецца да адзінства з Богам таму, што не можа яго знайсці з бліжнім. Яна акружана людзьмі і жадае вяртаць ім сябе. Інструмент для гэтага — малітва, што ўладкоўвае ўнутраны свет чалавека. Ажэшка ў малітоўных закліках набліжаецца да Старога Запавету або традыцый Рэнесансу (чытанне псалмоў у перакладзе Яна Каханоўскага). Не ўжывае ані імя Хрыста, ані імя Марыі, не звяртаецца ні да аднаго з каталіцкіх святых. Адзіным прыведзеным імем застаецца Пан, Бог і Айцец. Звароты да Творцы, зафіксаваныя ў «Днях» заўсёды маюць форму вялікіх скарачэнняў (часам гэта толькі першыя літары слоў), як быццам бы аўтарка лічыла такую форму слова вельмі інтымнай. Паненкі, якія жылі ў Ажэшкі, ніколі не бачылі пісьменніцу за малітвай. Рабіла яна гэта асцярожна. Замест малітоўнага дзеяння з'яўляецца запіс у дзённічку. Патрэба ў публічным выказванні малітвы і разумення яе агульнага значэння саспелі ў Ажэшцы пазней. У цыкле «З думак вечаровых» сярод паэтычных разважанняў пра апошнія справы мы знаходзім псалм-літанію «Злітуйся над намі».

Нам вядома, што адным з любімых чытанняў, якім заўсёды карысталася пісьменніца ў другой палове 1890-х, быў зборнік медытацый «Пра наследаванне Хрысту». Гэтая кніга, пэўна, дапамагла Ажэшцы ў прыняцці пакоры ў стаўленні да жыцця. Справа рук Томаша а Кэмпіса адбілася на рамане «Анастасія», які аўтарка напісала за некалькі тыдняў увосень 1900 года. Гэты твор з'явіўся ў перапынку паміж чарговымі часткамі «Ad astra». […]

Пасля 1896 года ў Ажэшкі адбываецца зрух у разуменні сутнасці жыцця: праца перастае быць радасным абавязкам і пачынае замяняць тое, чаго больш за ўсё ў жыцці не хапае, — блізкасць і каханне. Можа, таму ў «Днях» мы знойдзем яшчэ і страх немагчымасці творчай рэалізацыі. У польскай культуры нормаю з'яўляецца пазіцыя боскага памазаніка. Не да думкі тут пра фазавую або перыядычную крэатыўнасць, пра якую мы ведаем з біяграфій знакамітых пісьменнікаў. У лексіцы Ажэшкі творчасць называецца працай, але разумее яна такую працу як службовую. Гэтае адчуванне місіі не дае сысці з вяршыняў, выклікае расчараванне, калі не атрымліваецца пісаць. У «Днях» шмат запісаў з'яўляецца чаканнем таго, што павінна здарыцца, але не перажываннем таго, што ўжо здарылася. Гэта азначае трагічнае ўсведамленне таго, што нават наш талент не ў нашых руках. Дзённічак адлюстроўвае пачатак, працяг і канец амаль усіх твораў, якія з'явіліся ў 1898—1904 гадах. Цікава аднак, што Ажэшка не піша пра тэмы сваіх твораў, а піша пра фізічныя механізмы іх напісання: *Грудзі баляць ад пісання, Пішу шмат, Не магу пісаць, Пісала з цяжкасцю, Пішу […] з мукаю, бо катар мучыць, але пішу, Перакладаю шмат. […] За 13 дзён сто старонак.* Такая стрыманасць не павінна нас здзіўляць. Лісты пацвярджаюць той факт, што Ажэшка ніколі шмат не распавядала пра свае творы. У інтымных запісках яна не адступаецца ад гэтай звычкі.

Ці можна назваць «Дні» адкрыццём прыватнага жыцця на яго схіле? У Гродна, малым, хоць і губернскім, горадзе, дзе асяроддзе польскай інтэлігенцыі было невялікім, у дадатак задушаным прыбываючымі сем'ямі расійскіх чыноўнікаў, прыватнае жыццё мела іншыя памеры. Яно было заўсёды публічным, бачным, выстаўленым для ацэнкі іншым. Паняцце прыватнасці, інтымнасці ў сучасным разуменні для Ажэшкі не было знаёмым. Місія кансалідацыі польскага асяроддзя не была рамантычнай роляй, а звычайнай рэакцыяй на рэчаіснасць. Аднак надыходзілі ў жыцці імгненні, калі патрабавалася адзінота. Уласна пра тое, як пісьменніца адчувала яе цяжар і яе адсутнасць, расказвае дзённічак.

Цяжка ўявіць, напрыклад, як Ажэшка знаходзіла час на творчасць. Амаль пад кожнай датай ёсць карацейшы або даўжэйшы спіс гасцей, якія прыходзілі ў той дзень. Некаторых трэба было адведаць у адказ. Госці, якія прыязджалі ў Гродна, часам выступалі ў доме пісьменніцы з неафіцыйнымі лекцыямі, на якіх прысутнічала дзесяць і больш слухачоў. Сама Ажэшка выкладала літаратуру і гісторыю Польшчы для маладых паненак, вучыла сваіх пансіянерак, удзельнічала ў чытанні навін, якое адбывалася штовечар у салоне для хатняга кола. Сама яна часта ўголас чытала свае толькі-толькі завершаныя творы. Апека над дзецьмі гарадзенскай беднаты патрабавала фінансавых намаганняў. Ажэшка з Марыяй Абрэмбскай, сваімі паннамі і колам сяброў арганізавалі латарэі і квэсты. Некалькі гадзін штодзённа адбіралі адказы на лісты. Пасля прачытання 2000 захаваных лістоў да пісьменніцы з перыяду, які ахоплівае дзённік, цяжка не здзіўляцца. Справы, якімі займалася Ажэшка, перавышалі магчымасці вялікай установы. Аднак яна неяк з імі спраўлялася. Людзі, што жылі з пісьменніцай, цалкам бралі на сябе працу па доме. Гаспадыня, кухарка, пакаёўка, лакей, вартаўнік, фурман — гэта асобы, якія працавалі ў «шэрым дамку». Акрамя іх пастаянны занятак у адкрытай для публікі прыватнай бібліятэцы і чыльнай зале знайшлі сабе выхаванкі пісьменніцы. У доме Ажэшкі дзейнічала тайная школа для дзяцей гарадзенскай беднаты, што таксама падтрымлівалася іх сіламі. Пісьменніца апекавалася і спачувала. Усталявала ў доме пастаянны распарадак дня, які павінен быў забяспечыць трошкі ізаляцыі, для яе абавязковай. Гэты распарадак заняткаў мы ведаем дзякуючы ўспамінам Марыі Гедройц з Выганоўскіх, вучаніцы Ажэшкі, якая жыла ў яе ў 1901—1903 гадах. Ажэшка ўставала а 8 гадзіне раніцы, сняданак спажывала ў ложку. Ва ўважлівым туалеце найбольш часу займала часанне і ўкладка валасоў, чым займалася сакратарка і чытальніца, якая спала ў гардэробнай, Зося Гашкоўская. Яшчэ яна ўголас чытала пісьменніцы гадзіну перад сном і сядзела побач падчас цяжкіх начэй, калі ў Ажэшкі былі праблемы з сэрцам. Калі не прыязджалі госці, час паміж сняданкам і абедам пісьменніца праводзіла ў сваім кабінеце, разбіраючы карэспандэнцыю або займаючыся творчасцю. Яна не любіла, калі ёй перашкаджалі. Абедала заўсёды ў хатнім коле, часта бывалі на абедзе і госці. Пасляабедзенны адпачынак служыў для агляду новай прэсы. Потым надыходзіў час прагулкі ў кампаніі Марыі Абрэмбскай або паездкі з Зосяй Гашкоўскай. Да 1900 года, калі яшчэ дазваляла здароўе, Ажэшка некалькі разоў на тыдзень праводзіла рэгулярныя курсы па літаратуры і гісторыі Польшчы для абраных ёю маладых паненак. Пасля 1900 года яна вучыла толькі хатнікаў. Пад вечар, каля 18:00, прымала візіцёраў. Любіла сяброў, і яе заўсёды радавалі госці. Іх колькасць павялічвалася да таго часу, пакуль Ажэшка не абмежавала свае выхады з дому ў сувязі з хваробай сэрца. Рэдкія вечары без візіцёраў яна прысвячала сваім хатнікам. Сумесная вячэра каля 20:00 не была канцом дня. Вечар прызначаўся для размоў. Калі Ажэшка

пісала, то замыкалася ў кабінеце і гадзіннік пераставаў для яе існаваць. Яна праводзіла за пісьмовым сталом нават доўгія начныя гадзіны. Тады яна адыходзіла ад свайго звычайнага распарадку і знікала з вачэй хатніх.

Больш згадаць трэба пра асобу, імя якой вельмі часта з'яўляецца ў «Днях». Гэта Марыя Абрэмбская з Сямашкаў (1853—1916), самая верная сяброўка Ажэшкі. Пісьменніца ўзяла яе на працу як чытальніцу ў 1870-х, калі сама пачала мець клопаты з вачыма. Сямашкава стала даверанай сакратаркай, потым роднаснай душой і неадступнай сяброўкай. Патрэба знаходзіцца побач з Марыяй здзіўляла Ажэшку (гэта ілюструюць неапублікаваныя лісты да Абрэмбскай і яе мужа, Максіміліяна). Абрэмбскія замянялі пісьменніцы сям'ю, якой яна не мела. Цяжка казаць пра Ажэшку ў Гродна, не згадваючы Марыю і Максіміліяна. Гедройц так апісвае Абрэмбскую:

*Была яна асобай адукаванай, ведала некалькі замежных моў, была начытанай і спрабавала сябе ў літаратурнай сферы ў якасці перакладчыка. Нарадзілася ў 1853 годзе, была на 12 год маладзейшай за Ажэшку, аднак звярталіся адна да адной па імені, ужываючы пяшчотныя здрабненні. Ажэшка называла Абрэмбскую «Тытка», а Абрэмбская Ажэшку «Сюла» або «Сюлка». Ёй давяраліся ўсе журботы і радасці Ажэшкі, якая часта раілася з ёй нават у справах літаратурнай творчасці. Рэўнасць яе да пачуццёвых адносінаў Ажэшкі з іншымі людзьмі не раз была проста смешнай. Ажэшка пасля настолькі падверглася ўплыву Абрэмбскай, што пачала ставіцца да людзей праз прызму яе поглядаў. Таму вельмі часта людзі, прагнучы нешта атрымаць ад Ажэшкі, звярталіся з тым у першую чаргу да Абрэмбскай. […]*

*Яна была вельмі катэгарычнай і часта нават Ажэшка ёй уступала. Яшчэ яна стварала атмасферу ў доме: калі мела сумны настрой, то ўвесь дом паглыбляўся ў гэты настрой, а Ажэшка, прыкрываючыся працай, дыпламатычна знікала ў сваім пакоі; калі настрой быў вясёлы — дом ажываў. Натуральна, яна не была дрэннай жанчынай, вылучалася вельмі станоўчым характарам, шчырай ветлівасцю і мела вельмі добрае сэрца, што, аднак, хавала і пакрывала шорсткасцю. […]*

*Ажэшцы Абрэмбская была вельмі аддана. Яна любіла яе і жыла яе жыццём. Зрэшты, і Ажэшка не магла без яе доўгі час абыходзіцца. Абрэмбская шмат у якіх дробязях жыцця проста дапаўняла Ажэшку.*

Марыя Абрэмбская выконвала шмат функцый у жыцці пісьменніцы: дапамога ў педагагічнай дзейнасці ў Гродне, замена Ажэшкі на лекцыях, апека над сяброўкай падчас падарожжаў за мяжу, старшынства ў гарадзенскім прытулку, якім апекавалася пісьменніца, суправаджэнне падчас штодзённых прагулак і паездак на вакацыі, прыём і забаўленне гасцей у адсутнасць гаспадыні. Пасля смерці Нагорскага ўсімі грашовымі і побытавымі справамі пісьменніцы ў Гродне займаўся Максіміліян Абрэмбскі. Гэтая цесная сувязь тлумачыць пастаянную прысутнасць Марыі і Максіміліяна на старонках «Дзён».

Каштоўнасць інтымнага дзённіка для прасочвання дынамікі асобы непараўнальная з іншымі матэрыяламі. Вялі яго для асабістых патрэб і — згодна з назвай — з дня ў дзень, што дазваляла аўтару хутка рабіць баланс. Адной з асноўных рыс дзённіка з'яўляецца кампанент будучыні, настаўленні на ўдасканаленне сваёй асобы, што спецыяльна для аўтара дзённіка выконвае ролю псіхалагічнага прэса. Дзённік дапамагае ў пошуку дарогі жыцця, у самакантролі. Жанр гэты мае характар актыўнага, з'яўляецца нечым кшталту люстэрка, якое можна штодзённа чысціць.

Дзённік Элізы Ажэшкі, які яна вяла з перапынкамі цягам сямі гадоў, можна назваць інтымнай і адначасова практычнай формай. У цяжкія

моманты ён выконваў тэрапеўтычную ролю, служыў каляндарыкам, які нагадваў пра лісты, на якія трэба адпісаць, пра сяброўскія абавязкі і іншае. «Дні» можна чытаць з поўным разуменнем і ў якасці суправаджэння карэспандэнцыі, якая дапаўняе дзённік і з'яўляецца, так бы мовіць, далейшым працягам яго аскетычных запісаў. Гэтыя дзве формы звязаны непарыўна. Рэдакцыя «Дзён» аб'яднала інтымную і эпісталярную часткі ў адно цэлае. Нататкі, якія з'яўляюцца каментарыем да дзённікавых запісаў, — гэта, збольшага, вытрымкі з лістоў, што падаецца самым разумным. Такі прыём дазволіў захаваць адзіны голас у тэксце: голас Ажэшкі, якая піша дзённік і лісты гэтага самага дня. У нататках яшчэ змешчана шмат фрагментаў з карэспандэнцыі да пісьменніцы. Усё ж такі яна сама запісвае ў дзённіку дзясяткі прозвішчаў сваіх эпісталярных партнёраў.

Напрыканцы кастрычніка 1904 года дзённік замаўкае назаўсёды. Дапусціць, што пісьменніца пачала рабіць запісы ў іншым сшытку, здаецца малаверагодным, бо ўжо ў нататках з 1904 года адчуваецца стомленасць гэтай формай. «Дні» не перапыняюцца драматычна, яны даходзяць да свайго завяршэння на дзіва натуральным чынам. Запісы становяцца з кожным разам усё больш лаканічнымі, аўтарка дзённіка кандэнсуе час паміж дзвюма аддаленымі датамі, што азначае адсутнасць запісаў за адзін або два тыдні. Што стала прычынай адмаўлення ад дзённіка? Выразна ж бачна, што Ажэшка любіць расказваць пра сябе, а гэтую магчымасць ёй даюць лісты. Можа быць, усё ж такі ёй патрэбен слухач, якім з'яўляецца эпісталярны партнёр. Дзённік жа маўчыць. Аскетызм запісаў мог проста стаміць аўтарку, што прызвычаілася да доўгіх аповедаў. Тлумачэнне можа таксама знайсціся звонку. Восенню 1904 года ўзмацняецца хвароба сэрца, сардэчныя прыступы паўтараюцца, самаадчуванне Ажэшкі заўважна пагаршаецца. [...] *зерне блізкага працягла адчуваю ў грудзях* — піша яна Мейету ў кастрычніку 1904 года. Яна баіцца страціць сілы да працы, якая, як ацэньвае, з'яўляецца адзінай падтрымкай жыцця ў гэты час.

У красавіку 1904 года ўлады пераводзяць Максіміліяна Абрэмбскага ў Саратаў. Але Макс атрымлівае некалькі месяцаў адтэрміноўкі. Ён едзе на Волгу толькі напрыканцы жніўня. Ажэшка часта піша яму, а лісты змяшчаюць у сабе хроніку хатніх падзей. Натуральна, што яны пераймаюць функцыю дзённікавых запісаў. Час, калі змоўк дзённік, для пісьменніцы з'яўляецца перыядам абуджэння эмоцый, выкліканых надзеяй атрымаць нобелеўскую ўзнагароду. Канец 1904 года — гэта рэха расійска-японскай вайны, зімовыя месяцы 1905 года прыносяць рэвалюцыю, якую Ажэшка перажывае даволі глыбока.

Пад канец 1904 года скончыўся для пісьменніцы час, што спрыяў інтраспекцыі. Найістотнейшай сферай пазнання і пранікнення робіцца навакольная рэчаіснасць.

***Івона ВІШНЕЎСКАЯ***

***Пераклад з польскай Анастасіі САЛДАЦЕНКА і Яны МУРАШКА***

***Крыніца арыгінала: Eliza Orzeszkowa. Dnie. Warszawa, 2001***

***Рэдакцыя часопіса «Маладосць» выказвае сардэчную падзяку за прысланую кнігу Бяла-Падляскай гарадской публічнай бібліятэцы і асабіста Гжэгажу Міхалоўскаму, а таксама Універсітэцкай бібліятэцы ў Варшаве.***

## ПАРЦАЛЯНКА

У пакоі, абстаўленым з эстэтычнаю простасцю, змрок пачынаў прыглушаць фарбы і сціраць абрысы мэблі і карцін; аднак яшчэ выразна віднелася на стале пасярод некалькіх кніжак і розных дробязей белая кветка, што на высокай сцябліне ўзвышалася над покрывам невялічкіх яскравых кветачак. Яе пялёсткі белым бляскам і моцай, у якой адчувалася крохкасць, нагадвалі парцаляну. Белая, бы парцаляна, на высокай сцябліне, яна падавалася пераможнаю і бездакорнаю, але ў той жа час самотнаю, нават сумнаю. Імя ёй было Парцалянка. Тыя ж стакроткі, якія ўнізе абвівалі яе ружовым вянком, выглядалі нашмат здаравейшымі і весялейшымі. Румяныя, прысадзістыя, роўныя паміж сабою па росце, даверліва прытуліўшыся адна да адной, яны маглі свабодна перашэптвацца, смяяцца — каму што больш падабаецца, — інакш кажучы, заўсёды бавіць час вялікім хаўрусам, весела, цудоўна, лёгка.

У крэсле, што месцілася непадалёк ад стала, сядзела кабета з тварам маладым, аднак стомленым, і прыгожымі, але патухлымі вачыма ўзіралася ў адмысловы рух, што колькі хвілін выконвалі пялёсткі белае кветкі.

Рух той інтрыгаваў, бо мусіў паходзіць не звонку, а знутры расліны, з нейкае ўласнае волі альбо немачы яе, смутку альбо прыгнечанасці — іншымі словамі, з яе ўласнае, звычайна прыхаванае, душы!

Паколькі адразу лёгкая шэрасць змроку пачала змешвацца з дзённым святлом, пялёсткі кветкі, як быццам бы прыўзнятыя нябачнымі пальцамі, павольна, ледзь заўважна, пачалі падымацца, набліжацца адзін да аднаго, захінаючы сабою пук жоўтых пыльнікаў яшчэ нядаўна шырока раскрытага бутона, сутыкнуўшыся з берагамі, утварылі яшчэ больш шчыльна самкнуты пук. Падавалася, што ў тым павольна зробленым руху адчувалася жаданне забыцца на ўсё ў гэтым свеце, немагчымасць чакання ў цямрэчы.

Калі на небе кудысьці знікла сонца, а ў пакоі згасала дзённае святло, душа кветкі замаркоцілася і белы твар яе паглыбіўся перад ноччу ці то ў сон, ці то ў засяроджаныя развагі.

Кабета, якая цікаўна прыглядалася да гэтай соннай ці задуменна-засяроджанай расліны, засмучана прашаптала:

— Без сонца жыць не можа!

У пакой увайшоў слуга з запаленаю лямпаю, якую паставіў на стале, прадстаўляючы госця:

— Пан Браніслаў Граніч.

Валянціна Каліньска прыўзнялася з крэсла:

— Запрасіць!

У голасе яе звінела радасць.

Яна была высокаю і худою, але менавіта праз гэта вельмі далікатнаю. Ад цёмнае сукенкі адбіваўся белы твар з каралавымі вуснамі і з хмарай чорных валасоў, што пакрывалі галаву. Яна прыўзнялася з крэсла, і яе ядвабная сукенка захрумсцела. Мімавольным рухам, абапёршыся рукою на падлакотнік крэсла, яна крыху выгнула ў бок дзвярэй талію: яе пастава выказвала і парыў, што кідае наперад, і нерашучасць, што прыкоўвае да месца. У гэтай паставе можна было пабачыць дзве спрэчныя рысы яе натуры: парывістасць і сціпласць.

Яна чакала.

Праз некалькі імгненняў дзверы разнасцежыліся; невысокі, элегантна апрануты мужчына, не надта малады і непрыгожы, хутка перасёк пакой, і

рука яе адчула поціск мужчынскай далоні; кароткі, моцны, ён ствараў адчуванне іскраў, што выбіваюцца са збіральніка ўнутранага цяпла.

Поціскі рук бываюць розныя: сухія, слізкія, звычайныя, пачцівыя, назойлівыя, жорсткія; у гэтым жа як быццам бы дрыжала рэха моцнага ўдару сэрца.

Ён не быў прыгожым і быў ужо не вельмі маладым, але рысы, усмешка, манеры, голас бруілі кіпучым жыццём. Было гэта жыццё думкі і пачуцця — пераважна, аднак, пачуцця.

Не здзіўляйцеся! Крыху паэт і крыху публіцыст, пісаў ён няшмат, але быў таленавітым, таму з вершаў яго, роўна як і з прозы, у твары чытачоў удараў бляск святла і подых цяпла — асабліва подых цяпла. Ён здаваўся разумным і пачуццёвым — перадусім, пачуццёвым.

— Вы сёння зусім адна?

— Я часта бываю зусім адна...

— А пан Юльян?

— Муж мой знаходзіцца на адным з пасяджэнняў...

— Якія займаюць у яго 365 дзён на год... Яго зацікаўленасці...

— Амбіцыі...

— Гарачая барацьба з канкурэнтамі.

— Велізарная энергія, якая патрабуе выхаду...

— І якая знаходзіць яе ў танцы Залатога Цяляці... Няхай вас не абразіць мая шчырасць, бо яна міма маёй волі выбухае з жалю...

— З жалю над чым?

— Над вамі!

Як у поціску рукі, такі і ў голасе яго дрыжала рэха ўдараў сэрца, а разумныя вочы з шэрымі зрэнкамі абдымалі яе паглядам настолькі поўным сімпатыі, што яна адчула, як унутры яе пачало раставаць тое, што даўно змерзла.

Яна адвяла позірк на лямпу і, затрымаўшы яго на Парцалянцы, якая імкнулася да агню, падумала: што гэта? Яна пачынае раскрываць пялёсткі? Кветка сапраўды пачала раскрываць пялёсткі. Як быццам бы распальвала яе штосьці, што калісьці астыла, і асвятляла штосьці, што згасла. Але быў гэта толькі пачатак таямнічага акту, які адбываўся ў расліне, а позірк Валянціны, толькі слізнуўшы па ёй, вярнуўся да шэрых вачэй Граніча, што глядзелі на яе амаль што з пакорай.

— Прашу вас выбачыць маю шчырасць, але я сёння...

— Сёння, калі я пісала вам з просьбай, каб вы прыехалі, думала: буду шчырая. Думала, хоць раз у жыцці буду цалкам шчыраю! І ведаеце, што? Ад думкі гэтае ўдарыў мне ў сэрца бляск радасці!

— Чаму — радасці?

— Зараз патлумачу. Толькі лёгкія ветрыкі няспынна шэпчуць лістоце пра тое, што дзеецца на свеце; толькі лёгкія душы часта распавядаюць людзям пра тое, што дзеецца ў іх глыбіні. Іншыя маўчаць. Праз гонар, які не выносіць літасці, праз сумленне, якое нікога не хоча ачарніць скаргаю, праз розум, які адзначае, як споведзь вуснаў адных адказвае на пазяханне іншых, — яны маўчаць.

— Брава, брава!

Былі гэта авацыі не толькі далоняў і сэрца, але ўсяе істоты яго, замілаванай, заслуханай, захопленай, а яна, праз тое, асмялелая і распаленая, скончыла:

— Я належу да маўклівых. Я не давяраюся і не апраўдваюся ніколі. Гэта

разумна, але цяжка. Чалавек, які нясе цяжар, ведае добра, што мусіць яго несці, таму і нясе, аднак няспынна адчувае жаданне падзяліцца цяжарам з кімсьці. З кім? Найлепш з сябрам!

Яна засмяялася:

— Такім ёсць сяброўства: яго неад'емнай часткай з'яўляецца абмен цяжарамі!

— Якія могуць быць вялікім шчасцем, калі ідуць ад рук каханых!

— Хтосьці з мудрых сказаў, што шчырасць — гэта сэрца сяброўства, і калі яно не б'ецца, то сяброўства не жыве. Я прагну паміж сабою і вамі стварыць такое сэрца, каб жыло сяброўства.

— Няхай жыве! — усклікнуў ён.

Ён прыціснуў яе руку да сваіх вуснаў, а пасля прамовіў:

— Ад першага погляду на вас і некалькіх размоў, што паміж намі пры спатканнях завязаліся, я адчуў, што яднае нас тая таямнічая нітка, якая называецца роднаснасцю душ. Няхай пагардлівыя смяюцца з тых пачуццяў — прадвеснікаў найвышэйшае радасці ў жыцці: спаткання з роднаснаю душой. А яны існуюць, і наведваюць тых, каго зусім не скарыла матэрыя, і крыніцы, што б'юць з яе наймацней, не могуць да канца наталіць.

— Так! — прашаптала яна.

Ён схіляўся да яе, патанаў позіркам у яе твары і мовіў далей:

— Радасць тая найчысцейшая. Няма ў ёй ні «зацікаўленасцей», ні «амбіцый», ні «барацьбы з канкурэнтамі», ні цяню Залатога Цяляці; а паіць каханую істоту слодычу ўсіх тых пачуццяў, якія ўліла ў нас прырода, быць для яе насычэннем, абаронаю, цяплом, добрай радай і наўзамен гэтыя несамавітыя даброты атрымліваць — ці не значыць гэта вылавіць найцудоўнейшую перлінку з горкіх крыніц жыцця, авалодаць найкаштоўнейшым каменем у абалонцы крышталю? Ці магу я быць такім неверагодна шчаслівым, што вы зробіце мне ласку і тую перлінку з каменем мне ахвяруеце?

— Так, і наўзамен для сябе прашу такую. Ужо пасля першага спаткання з вамі я аддалася марам, што... можа... можа... урэшце буду мець сябра!

— Як гэта? Ніколі дагэтуль?

— О! Многа якім з'явам я надавала гэтую назву і шмат разоў у праўдзівасць яе верыла на працягу некаторага часу. У мове людзей ёсць мноства самазванцаў. Сяброўства і прыхільнасць часта атрымліваюць у ёй назву — павуцінне. Вецер павее, хваля накрые, крыльца мушкі патрапіць — павуцінне разарвецца, і асуджаным будзе той, хто павесіў на ёй сваё сэрца. Калі пры падзенні яно не разаб'ецца на аскепкі, дык толькі ў тым выпадку, калі зроблена са шкла, загартаванага ў агні нейкае несмяротнае надзеі.

Ён, спыніўшыся позіркам на яе вуснах, ціха прамовіў:

— Вось так жыццё запраўляе прыгожыя душы іроніяй!

— Іронію перамагае ўва мне заўсёды нейкая несмяротная надзея. Я ўжо думала, што яна памерла, але гэта быў толькі летаргічны сон, ад якога вы яе абудзілі.

— Пасля такога цуду ўжо больш нічога не прагну. Быць вашым сябрам...

У той час, як позірк яго мацней распальваўся і глыбей патанаў яе вачах, яшчэ больш прамяністых, ён скончыў:

— Душою ў вашую душу глядзець...

Невядома, навошта яна адчула патрэбу апусціць павекі і згасіць жартаўлівасцю той праменьчык, які, палаючы і неспадзяваны, трапіў да яе — з яго вачэй.

— У такім выпадку падпішам pactaconventa![1] — пажартавала яна.
— Аб сяброўстве, якое не будзе самазванцам, і прыхільнасці, ад каторае ніколі не ўпадуць нашы сэрцы — як з разарванага павуціння.
Яны падалі адно аднаму рукі і страсянулі іх у моцным поціску, але, калі яе рука захацела вярнуцца, ён затрымаў яе ў далоні і, з позіркам, на ёй спыненым, мовіў ціха:
— Рука паэткі! Ліст лілеі і вязь дрыготкіх струн…
У яго рысах таксама зайгралі патаемныя струны, а яна зноўку, немаведама чаму, адвярнула ўвесь у чырвані твар да лямпы, у цяпле і святле якой Парцалянка з кожным разам усё больш абуджалася ад соннае задумы. Было відаць, што яшчэ трохі — і яе белы бутон раскрыецца пры поўні як пры ўзыходзе сонца. Толькі на ўскрайку аднаго з яе пялёсткаў цямнела дробная іржавая плямка, якой перад тым не было.
Браніслаў Граніч падняўся, зрабіў колькі крокаў, паглядзеў на карціну, што аздабляла сцяну, і вярнуўся да прыяцелькі з паспакайнелымі рысамі, залітымі жартаўліваю ўсмешкаю.
Цяжка было сказаць, ці свядомым, ці мімавольным быў рух, якім ён прысунуў сваё крэсла бліжэй да яе. Сядаючы, ён мовіў з усмешкай:
— Не так даўно трапіўшы ў кола тутэйшага таварыства, я не раз ужо чуў ад вашых сябровак…
— Сябровак? — перапытала яна з усмешкаю.
— Сябровак.
Ён таксама засмяяўся і адзначыў:
— Як мы аднолькава з тых жа самых рэчаў смяемся. Згода душ, упадабанняў, нават гучанне галасоў! Чуў, між іншым, як вашы сяброўкі казалі: «Гэтая бедная Валянціна! З гэтаю беднаю Валянцінай». Чаму беднаю? Чаму беднаю — пытаў я сябе, бо ў тых пань пытаць не хацеў. Маючы маладосць, прыгажосць, маёнтак, становішча, атрымаць ад свету такі эпітэт? Ці вашы сяброўкі мелі на ўвазе тыя 500 працоўных пасяджэнняў і 300 вечароў гульні ў карты, якія складаюць год вашага мужа?
— О не! У гэтым плане я падаюся тым паням толькі годнаю зайздрасці, бо я, дзякуючы канстытуцыйнай хартыі, акрамя высокага бюджэту маю неабмежаваныя вольнасці. Эпітэт паходзіць уласна ад таго, што не моцна радуюць мяне ўсе гэтыя даброты…
— І ад таго, што сярод дабротаў, якія вы маеце, няма і знаку цвярозасці. Ці не так? Ніякім чынам немагчыма назваць вашу натуру цвярозаю. Ці адгадаў я? Буду смелым. Дазволю сабе адгадваць далей. Не! Дазволю сабе, хутчэй, душою ў душы вашай чытаць…
Ён нахіліўся так, каб магчыма было зазірнуць у самы яе твар. Пасля ўсміхнуўся дрыготкімі вуснамі.
— Але для таго, каб душа магла чытаць у іншай душы, люстэркі павінны знаходзіцца насупраць. І вы свайго павекамі не захіляйце.
Яна падняла павекі, і яе палымяныя вочы спаткаліся з яго вачыма, у якіх гарэла полымя.
— Так. Добра. Цяпер пачынаю чытаць. У цудоўным люстэрку тым адбіваецца душа выключная, адна з тых, якія Бог рассеяў па зямлі, як зоркі па небе, каб свяцілі ў цемрадзі. Вы ідэалістка, а значыць, істота, якая сумуе па ідэале. Сумаваць па ідэале — значыць, паміраць з суму па рэчах немажлі-

[1] Pactaconventa — усеагульнае пагадненне (*лат.*).

вых. Вы належыце да тых, хто марыць пабудаваць шлях да зор, хто сустрэчным прымервае ўласныя чары, а з памылкай сутыкнуўшыся, плача над ёю, як над труною; да тых, хто аплаквае хвалю, бо ўцякла, і песню, бо скончылася, хто шукае дасканаласці ў дзяржаве, якой уладарыць недасканаласць, і вечнасці ў тым, чаму імя крохкасць…

Яна перапыніла яго са смехам:

— Іншымі словамі, спрабую схапіць за крылы вецер, што ляціць полем, і акурат апоўдні шукаю на гадзінніку чатырнаццатую гадзіну. Вы адгадалі. Я такая.

Ён шапнуў:

— Я таксама. Мы аднолькавыя.

На яе твары адбілася яснасць вялікага шчасця. Адчуваць сябе дакладна вычытаным і на лісце другога вычытваць тыя ж самыя склады, з якіх збудаваны выраз нашае ўласнае істоты, — гэта вялікае шчасце! З выразам шчасця ў вачах яна глядзела на Парцалянку, бутон якой цалкам раскрыўся. Пасля яна павярнула галаву да сябра, які спытаў:

— Што вы зрабілі з мінулагоднім карнавалам?

— Вы ведаеце пра гэта?

— Распавядалі мне тыя пані… «Уявіце сабе! — казалі. — Мінулагодні каранавал быў ажыўлены і вясёлы, было мноства размаітых забаў, мы ўсе танчылі, як шалёныя, некалькі тыдняў, мянялі строі, бавіліся розным чынам, і адна толькі бедная Валянціна бліснула пару разоў на балях у найпрыгажэйшым з найпрыгажэйшых строі, пасля чаго ўзяла і ні з таго ні з сяго з'ехала ў вёску да бацькоў. Цалюсенькі карнавал — казалі — тая бедная Валянціна праседзела ў вёсцы, праз замерзлыя вокны гледзячы, як ідзе снег». Так казалі — ці праўду?

— Праўду! Не ведаю, каторы ўжо раз спрабавала я з усімі ісці да студні ўцех, але яе воды былі такія халодныя… на балях я так мерзла…

— Вы мерзлі?

— Так. Найпрыгажэйшыя строі не любяць мяне, не гутараць са мною пасяброўску, не падзяляюць маіх думак і пачуццяў; таму я не плачу ім узаемнасцю; я не люблю іх, яны мяне не займаюць; я не клапачуся пра ўражанне, якое ствараю ў свеце. А што да тых празмерна гучных катанняў на санях, дзе аднойчы я прымала ўдзел, то мне бразгат вупражы і шматлікі смех перашкаджалі чуць, як падае снег…

— Чуць?

— Так. Вы заўважалі гэты рытм, манатонны і нястомны, з якім сняжынкі падаюць на зямлю сярод суцэльнае цішыні? Ніводная з іх ніколі не спускаецца паспешней альбо павольней за іншыя, але ўсе яны здаюцца паслухмянымі, падпарадкаванымі музыцы, якую мы можам адгадваць толькі па іх палёце. Я з'ехала ў вёску, каб слухаць, як падаюць сняжынкі ў непахісным рытме на галлё старых вязаў, што ўзвышаюцца за вокнамі майго роднага дома… Гэта такая белая песня…

— А мне падаецца, што я цяпер слухаю песні…

І таму, што рука яе была падобна да працягнутай праз лісток лілеі вязі дрыготкіх струн, ён узяў яе і схаваў у гарачых далонях.

— Таксама песняю для мяне — расповеды майго старога бацькі. Сівы цяпер, як голуб, ён меў маладосць, азораную гераічным момантам, які на ўсё жыццё забяспечыў яго памяць такімі ўспамінамі, што, калі ён іх распавядае, я пераношуся думкамі ў свет вялікіх пачуццяў, мужчынскіх учынкаў, пакут, пройдзеных падчас будавання шляху да зор, і — страчваю свой сум.

Ёсць у мяне і старая маці, якой цяжкая хвароба знерухоміла ногі. Таму, калі я там, то павольна ваджу яе па доме, у кожным яго кутку прыпыняючыся і паказваючы ёй напаміны пра маё шчаслівае дзяцінства і яе празмерную дабрыню. Падчас такіх прагулак мой сум таксама мяне пакідае.

— Мяне пакідае мой, калі я слухаю вас… Я мог бы дадаць: «Я вашу руку песцячы…» — бо з нясмелаю пяшчотаю далонню яе кранаў.

Яна, адчуваючы, як яе перапаўняе штосьці новае, нечаканае, чужое да таго, пра што казала, утаропіла свой позірк у ржавую пляму, якая ўсё больш разрасталася па пялёстку Парцалянкі, і, узбуджаная, другую руку да ілба прыціскаючы, хутка прамовіла:

— Да чаго я толькі не датыкалася, за што толькі не хапалася рукамі і думкамі, абы толькі яе пазбыцца, гэтае настальгіі па недасягнутым! У родным доме мяне, яшчэ зусім дзіцёнка, асляпіў ідэал ведаў. Я рванула да яго і ўжо павінна была імчаць за ім у далёкія краі, калі зразумела, што гэтым я зраблю бацькоў нешчаслівымі, і — засталася…

— Залатое сэрца! — прашаптаў ён і абапёрся плячом на падлакотнік крэсла, на якім сядзела яна, такім чынам, што яшчэ трошкі — і дакрануўся б ім да яе чорных валасоў.

— Маё сэрца ляцела на спатканні з сяброўствам, якія аказваліся…

— Самазванскімі!

— Прыхільнасцямі, якія былі…

— Павуціннем!

— Ратаваць ад няшчасцяў, дапамагаць людзям у іх патрэбах…

— Значыцца, і філантропія…

— Поўная суцяшэння, але для мяне складаная…

— Чуў, як называе ваш муж міласэрныя ўчынкі…

— Прэміямі, што выдаюцца недасканаласці, а людзей убогіх ён ад дома загадвае паспешна адганяць, бо разносяць заразу!

Яна засмяялася, але востра, неспакойна, як быццам бы ад пляча, што кранулася яе валасоў, працяла яе рэзкаю і трывожнаю хваляю; гэта было штосьці, што падымала нервы і тармазіла мову. Немаведама чаму, яна адчула патрэбу падняцца і аддаліцца.

Паднялася.

Яна стала за два крокі ад сябра, каля Парцалянкі, якая, узнімаючы на высокай сцябліне свой шырока раскрыты бутон, мела на пялёстках ужо колькі ржавых і чорных плямаў. Але, не бачачы ў тую хвілю ні кветкі, ні чагосьці іншага вакол сябе, яна, як зачараваная, казала ўсё хутчэй і хутчэй:

— Калі б я мела які талент! Я хадзіла на лекцыі музыкі і малявання… Ах, смешна сказаць і сорамна… Але скажу: пісала вершы! Што ж, калі я не абранніца Муз! Я не абранніца Муз — і дом, лічы, пусты… Таксама я не маю дзяцей і хатняга агмяню, зусім… Вы не пытайцеся ў мяне, навошта такім шляхам я павяла свой лёс. На свеце існуе столькі памылак, падкопаў, надуманасці, ілюзій, нявопытнасці… Доўга было б усё пералічваць… А цяпер, між тым, што? Сарваць кайданы і шукаць шчасця? А бацькі, для якіх бунт мой быў бы ўдарам і, можа, смяротным? Кожны мае штосьці, што мусіць ашчаджаць. А ўжо пасля шукаць шчасця… Што за вар'яцтва! Яно ідзе на спатканне з чалавекам, а калі ідзе, дык найлепш ганарліва ўзняць галаву і сказаць: абыдуся без цябе! Я даўно ўжо сказала шчасцю: абыдуся без цябе! Толькі што жыццё маю пустое. Кожнага ранку пытаюся ў сябе: навошта мне дзень? І адказваю — не патрэбен мне ён! Сцены гэтага дома няспынна ў мяне пытаюцца: навошта жыццё? Я не знаходжу адказу. Пакуты быва-

юць розныя, толькі што на голад цела кожны мае літасць і дапамогу, а пра голад гадзін ніхто не ведае, бо той, хто даведаецца, — маўчыць. Мае нагадваюць пра кармленне, а забаў, строяў, пустых размоў — не хочуць. Я магла б іх гэтым насыціць, але яны не хочуць. Апрача таго, я не маю нічога, хіба што яшчэ большы клопат са сваім вар'яцтвам. Я вар'ятка і ведаю пра гэта дакладна. На гадзінніку свету шукаю гадзіну, якой не існуе. Часам думаю, што, можа, існуе, ды толькі я не магу яе заўважыць. Калі я даведалася, што вы прыязджаеце ў наш горад, то надзея, ужо пахаваная мною, пачала абуджацца ад летаргічнага сну, і, калі я пабачыла вас, абудзілася цалкам. Вас апярэдзіла слава пра ваш вялікі розум і ваша сэрца. З поціску рукі, з гучання голасу, са слоў і вачэй я разумею, што не памылілася, і кажу сабе: сонца ўзыходзіць! Ізноў я аддалася марам пра сардэчнае і вернае сяброўства, а таксама пра тое, што буду мець сябра. Дзеля гэтага і напісала сёння з просьбаю аб гадзіннай размове, а пішучы, думала: буду цалкам шчыраю! Скажу ўсё. І сказала. Калі сонца ўзыходзіць, цалкам раскрываюцца бутоны кветак. Глыбока ўнутры я адчуваю шчасце, якое расхрыствае душу перад кімсьці нашмат вышэйшым за мяне. Натуральна, што вы ў сто разоў разумнейшы за кабету, якая ўмее толькі сумаваць і шукаць, але не можа знайсці. Што я мушу рабіць? Што любіць? Навошта прагнуць, намагацца, нават цярпець, каб толькі загасіць агонь смутку, адагнаць нуду і здолець сказаць хвілям пакутаў: сыходзьце, бо мне ёсць чаму служыць і я патрэбная! Мінулае бацькі майго — гэта ліхтар, за якім я прагну ісці, але не бачу дарогі. Ён не можа паказваць мне яе, бедны сівы голуб, які новых дарог свету ўжо не бачыць. Вы мусіце ведаць іх лепш за іншых. Вам вядомыя ўсе добрыя шляхі, што вядуць за ліхтарамі. Адну з іх вы мне пакажаце, ці не так? Я ведаю, што так адразу нельга. Але на глыбіні сапраўднага сяброўства, сардэчнага, б'юць такія струмені сімпатыі, з якімі прыбываюць магчымасці ўсяго. Вы будзеце маім сябрам і адначасова настаўнікам, праўда? Разам будзем на гадзінніку свету шукаць тую нябачную, жаданую, толькі намі чаканую гадзіну, ці не так? Будзем разам будаваць той шлях, які давядзе да зор… праўда?

Бязмежна ўзрушаная, яна не магла гаварыць далей. Твар яе палаў агнём, вочы блішчалі, рукі спляліся на грудзях, як для малітвы.

Ён узіраўся ў яе з пачашчаным дыханнем, потым наблізіўся, узяў у далоні сплеценыя рукі і мовіў:

— Праўда! На дне маёго сяброўства да вас б'е струмень такой сімпатыі, што, калі я гляджу на вас, свет і ўсё, што на ім ёсць, знікае з маіх вачэй і памяці.

Градам пацалункаў ён пакрыў яе рукі, што дрыжалі ў яго далонях, як вязь дрыготкіх струн, і паўтарыў:

— Праўда! Няма нічога такога, чаго я не мог бы для вас зрабіць, пра што не прагнуў бы з вамі размаўляць, чаго не пайшоў бы для вас шукаць, толькі б можна было свабодна глядзець у твае вочы і голас твой слухаць.

Ён чэпка абхапіў яе за талію, а яна збялела, не аказваючы яму супраціву. Зрэнкі яе патанулі ў тумане асалоды.

— Праўда! Чалавек знаходзіць шчасце толькі тады, калі яно само выходзіць да яго насустрач. Ні мне, ні вам яно не спаткалася раней ніколі… Зараз яно прыбывае! Акурат каля нас адчуваецца яго гарачы подых і тая магнетычная сіла, што цягне нас за ім — хоць бы і ў прорву!

Ён прыцягнуў яе да грудзей, і яе галава, як кветка пры павеве ветру, нахілілася і адшукала сабе апору на яго плячы.

— Бедная! Самотная! Шляхетная! Прыўкрасная! Мая! Ці мая?

Адначасова з апошнім словам яго вусны спачылі на яе вуснах. У пакоі запанавала ціша. Хвіля… дзве, і — раптам — моцны жаночы крык:

— Не! Не!

Яна стала за сталом з лямпаю, на яе твары чырвань змянялася бледнасцю, амаль да ўтрапёнасці ў вачах. Мужчына застаўся стаяць дзе стаяў і апусціў галаву.

— Не, не! Я не таго хацела! Не дзеля таго… Магутны Божа! Можа, вы думаеце, што дзеля таго я клікала…

Яна засмяялася такім смехам, у якім сэрца разрываецца на шматкі, і доўга так пасмяяўшыся, мовіла:

— Між іншым так… так! Згода душ, глядзець душой у душу, настальгія па ідэале… будаванне шляху да зор… абарона, добрая парада… О, самазванцы!

Яна смяялася яшчэ хвілю, ён маўчаў. Потым была хвіля цішыні, калі яна, ужо без усмешкі і, канешне, спахмурнеўшы і зморшчыўшы лоб, ціха сказала:

— Я была шчыраю, паверце мне, што я была цалкам шчыраю. Толькі абудзілі вы ўва мне голас, якога я ніколі не хацела слухаць, на які столькі разоў адгукалася і якому загадвала — спаць. Абуджаны вамі, ён адгукнуўся, але, на шчасце, хутка змоўк — праз сорам. Не будзем шукаць разам на гадзінніку свету надзвычайнае гадзіны, каб не знайсці найпрасцейшае!..

Цяпер ён, не набліжаючыся, з нерухомаю паставай і з апушчанаю галавой, пачаў гаварыць:

— Прашу прабачыць мне, хаця б таму, што, калі я казаў пра рэчы звышнатуральныя, быў так, як і вы, цалкам шчырым і толькі памыліўся сам на сабе. Я добра разумею чысціню пачуццяў і ўзнёсласць вашых заданняў і ніколі не прыпынюся кідацца ў роспач з тае прычыны, што камень, у крышталь апрануты, які вы мне ахвяравалі, упаў з маёй рукі. Крышталі вельмі прыгожыя, але ў руках чалавека іх існаванне нетрывалае. Мая рука, можа, менш грубая за іншыя, але, нягледзячы на тое, чалавечая. Такія істоты, як вы, звычайна з'яўляюцца выпадковымі госцьмі на гэтай зямлі, і таму іх доляю сярод звычайных яе жыхароў з'яўляецца — самотнасць. Няхай пані з ласкаю істот нябесных прабачыць мне і верыць у маю самую шчырую, самую глыбокую павагу!

Усё яшчэ за некалькі крокаў ад яе, ён пакланіўся і сышоў.

Многа часу прайшло. Валянціна Калінська абудзілася ад каменнае задумы і мутным позіркам абвяла пусты пакой.

Раптоўна яна ўзнялася і ўзяла ў рукі шкляны посуд з кветкамі. Што гэта значыць? Шырока раскрытыя пялёсткі Парцалянкі страцілі сваю пругкасць і бляск, а на іх паверхні праступіла мноства іржавых і чорных плямак. Яна выглядала так, быццам бы яе штосьці скамечыла і апарыла. Здарылася гэта ад штучнага святла і пякучага цяпла лямпы.

Кабета доўга глядзела на скамечаны і апараны бутон кветкі, ажно да той пары, калі з бязмежна сумных яе вачэй пачалі падаць вялікія кроплі слёз, калі вусны, падобныя цяпер да збляднелага караля, зашапталі:

— Лямпу прыняла за сонца!

***Пераклад з польскай Анастасіі САЛДАЦЕНКА і Яны МУРАШКА***

***Крыніца арыгінала:***
***http://www.esciagi.info/biblioteka/u-sam-na-sam-735.htm1.***

Ева ЛЯВОНАВА

# БЫЦЬ ВАСІЛЬКОМ

## *«Апокрыф» Максіма Багдановіча ў мастацкай рэцэпцыі Алеся Разанава («Паэма вяхі»)*

Стаўся ўжо відавочным той факт, што як сама Біблія, так і заснаваныя на біблейскім матэрыяле творы пільную ўвагу прыцягваюць у крызісныя, каламутна-віхурныя перыяды гісторыі. Нанава расчытаныя, яны падтрымліваюць чалавека ў яго экзістэнцыяльнай празе ўстойлівасці, спрыяюць пошуку ім грунту пад нагамі, не дазваляюць зняверыцца пасярод эсхаталагічных прадчуванняў і глабальных бедстваў. Паказальна, што наша памежжа стагоддзяў і тысячагоддзяў амаль люстраным чынам звернута да папярэдняга памежжа стагоддзяў — часу, калі наканавана было жыць і тварыць Максіму Багдановічу. Бадай, і яго творчасць надзвычай актуалізавалася сёння не ў апошнюю чаргу з-за яе прасякнутасці біблейскімі матывамі, знітаванасці з хрысціянствам як з духоўным апірышчам для асобы.

Гарантам і захавальнікам духоўнасці Максім Багдановіч бачыў мастацтва, складнікам якога лічыў Красу, пра што сведчаць шматлікія творы паэта, і найперш — славуты «Апокрыф» (1913). Праблематыку і паэтыку «Апокрыфа» больш ці менш грунтоўна неаднойчы разглядалі і вучоныя, і пісьменнікі. Пры гэтым досвед папярэдніх даследчыкаў цалкам лагічна трапляў у поле зроку наступнікаў, апынаючыся, нароўні з першакрыніцай, аб’ектам іх вывучэння. Паказальны прыклад у гэтым сэнсе — эсэ Міхася Стральцова «Загадка Багдановіча» са шматлікімі адсылкамі (то згодамі, то пярэчаннямі) да кнігі Алега Лойкі.

У вопыце інтэрпрэтацый «Апокрыфа» асаблівае месца займаюць творы Алеся Разанава. Яны аднолькава прывабныя глыбінёй пранікнення ў мастацкі свет Багдановіча і ўласнай захопленасцю, нават апантанасцю Разанава «з’явай красы і з’явай Беларусі», праблемай іх зродненасці ў Багдановічавай паэзіі.

Заўважым, што перазовы з вялікім папярэднікам, з яго найважнейшымі тэмамі, у тым ліку тэмай мастацтва і яго прызначэння, відавочныя ў многіх творах Алеся Разанава, як, да прыкладу, у вершы «Шчасце» (1967):

Твой недаступны лёс, музыка,
пасуе велічы тваёй.
Як неадкладную пазыку,
як у глыбіні з галавой,
да ачмурэласці,
да стомы
аддаць усё, усё аддаць… [6, с. 26].

Тэме мастацтва прысвечаны і верш «Паганіні» (1968):

…Нашчадкі бога Апалона —
паэт,
музыка
і мастак,
о як вы прагнулі палону,
каб гулка крочыць па мастах,
каб расхінаць, нібы адзенне,
стагоддзі,
далі,
галасы… [6, с. 28].

Некаторыя творы, у прыватнасці, зномы з кнігі «Паляванне ў райскай даліне», месцяць непасрэдны роздум паэта над тыпалогіяй эстэтычнага крэда Багдановіча [гл.: 5, с. 210, 216].

Два творы Разанава ўяўляюць сабой адмысловыя прысвячэнні Багдановічу і, адначасова, інтэрпрэтацыі яго «Апокрыфа» — «Паэма вяхі» (1976) і эсэ «Жыта і васілёк: Слова пра Максіма Багдановіча» (1997). Паказальны сам факт вяртання паэта праз два дзесяцігоддзі да твора вялікага папярэдніка. Спынімся гэтым разам на першай з інтэрпрэтацый.

Што паэма генеравана «Апокрыфам», сам аўтар засведчыў у вышэйназваным эсэ:

**«Некалі, гадоў дваццаць таму назад, я напісаў "Паэму вяхі", прысвечаную Максіму Багдановічу... у яе аснову пакладзены вобразы з "Апокрыфа" — жыта і васілька, народа і музыкі, але з другога, "дэфармаванага", "двойчы апокрыфнага" раздзела, дзе жыта не з васільком, а васілёк не ў жыце...»**

«Некалі, гадоў дваццаць таму назад, я напісаў "Паэму вяхі", прысвечаную Максіму Багдановічу… у яе аснову пакладзены вобразы з "Апокрыфа" — жыта і васілька, народа і музыкі, але з другога, "дэфармаванага", "двойчы апокрыфнага" раздзела, дзе жыта не з васільком, а васілёк не ў жыце…» [3, с. 86]. Зрэшты, этымалогія задумы ясная і паводле самой паэмы, дастаткова толькі звярнуцца да яе зместу; у фінале ж гучыць зварот непасрэдна да Максіма Багдановіча.

Твор складаецца з пяці частак, першая з якіх — гэта філасофска-эстэтычны подступ да тэмы — у працяг «Апокрыфа» — музыкі і народа, васілька і калосся; у трох наступных, гранічна трагедыйных, увасабляецца якраз той самы «дэфармаваны», «двойчы апокрыфны» стан роднага краю, у якім «жыта не з васільком»; пятая частка ў нейкай ступені размыкае трагедыйную прастору сучаснасці ў перспектыву будучыні.

Менавіта першая частка асабліва насычана яўнымі, хаця і адвольнымі, цытатамі з «Апокрыфа» або алюзіямі на яго: «Недзе на Міншчыне, Віленшчыне, / Магілёўшчыне ці Задзвінскай зямлі…»; «Сцішана шархацяць босыя крокі вандроўніка: / добра быць коласам, / але шчаслівы той, каму давялося быць васільком… / Каму давялося быць васільком у жыце…»; «Ніхто ні аб чым не здагадваецца, / і толькі музыка ўзіраецца ўслед небасхілу, / а васілёк — услед каласам…». Ёсць алюзіі на «Апокрыф» і ў другой частцы паэмы: «…і затапталі сляды, каго бачылі, / але не запомнілі…»; «І сам ты не ведаеш, хто ты, / бо ўсё ўзгадавана табою: / і немаўля, і маці, і ціхая калыханка…» [4, с. 24—26].

Аднак «Апокрыф», і гэта канцэптуальна важна, асэнсоўваецца Алесем Разанавым у кантэксце як творчасці Багдановіча ў цэлым, так і абставін яго драматычнага лёсу; адпаведна ў алюзіўным патэнцыяле «Паэмы вяхі» адгукнуліся і апавяданне «Музыка», і «Страцім-лебедзь», і адзін з паэтычных накідаў «Маці-Беларусь! Цяжка твайму сыну / Глядзець на родны край…» [1, с. 452], і перадсмяротныя радкі «Я не самотны, я кнігу маю…». У сваю чаргу рэмінісцэнцыі з «Апокрыфа» змешчаны ва ўласна біблейскую алюзіўную парадыгму, найперш Эклезіясту з яго скепсісам і стаіцызмам, матывамі непрадказальнасці і тленнасці чалавечага жыцця, нявызнанасці шляхоў Госпада, неспасцігальнасці быцця і, адначасна, скрушнага цяжару ведання. Параўнаем, напрыклад: «І паклаў я на сэрца помысел мой, каб мудрасць уведаць… спазнаў, што і гэта — пагоня за хукам. / Бо пры многасьці мудрасьці множыцца й скруха; і хто памнажае спазнаньне, той памнажае і боль» (Экл 1: 17—18) [2]; у «Паэме вяхі»: «…Але не суцешыцца сэрца веданнем, / што час твой, твой час, / каб здзівіцца і ўразіцца, / мог быць яшчэ карацейшы, / а мог і наогул не выпасці…» [4, с. 26].

Плёнам гэткай алюзіўнай шчыльнасці ёсць сцвярджэнне пераемнасці з Багдановічам, філасофскае счапленне гісторыка-культурных эпох, падкрэсленае акцэнтаванне старой, як свет, але і па сёння актуальнай тэмы мастака і народа; нарэшце, праз алюзіі, іх варыяцыі і паўторы дасягаецца цэласнасць твора, а ўсе чытацкія асацыяцыі скіроўваюцца ў адзінае рэчышча, пазначаюцца агульнай ідэяй і атрымліваюць развіццё ў яе вызначальным святле. Апрача таго, рэмінісцэнцыі і алюзіі на «Апокрыф» і іншыя творы Багдановіча з'яўляюцца ключом да зместу паэмы, своеасаблівым вытлумачэннем бязмежнай трывогі паэта, нашага сучасніка, за лёс і будучыню Бацькаўшчыны.

Цэнтральныя часткі «Паэмы вяхі» змяшчаюць у сабе выразныя і ўражальныя сімптомы катастрофы, заняпаду, маральнага і матэрыяльнага запусцення краю, абумоўленых бяспамяцтвам і бязбожнасцю яго насельнікаў, іх клопатам адно пра матэры-

яльнае, мінучае, «надзённае», абарванасцю сувязі паміж каленамі і родамі і, як вынік, безабароннасцю перад небыццём, «смугой і немаччу»:

Жылі — то здалёку, то зблізку…
А быў надзённа-бязлітасны захад,
і быў надзённа-крывавы ўсход,
і хацелася жыць надзённа…
На колькі сцежак паболела,
на колькі магіл паменела
зямля, з якой немагчыма спрачацца,
бо ва ўсе калены і роды яна свая?!
Песня запомніла:
прыйшлі з чужыны ў ваш вольны край,
а вы ідзяце ў чужыну з нявольнага краю…
[4, с. 25].

Бязроднасць, бяздомнасць, безайчыннасць набываюць у паэме амаль апакаліптычнае гучанне. Дамінуюць набрынялыя смерцю гратэскавыя вобразы і сітуацыі, многія з якіх падказаны «Страцім-лебедзем» Багдановіча, а праз яго — народным сказам пра «Страцім-птушку» і ўласна біблейскай сімволікай сусветнага патопу з яе найглыбейшым папераджальна-прагнастычным сэнсам: «…адчыніліся ўсе крыніцы вялікай бездані, і вокны нябесныя адчыніліся…» (Быц 7: 11), а таксама драмай лёсу самога Максіма Багдановіча:

Страшны цяжар твой…
Баляць надарваныя грудзі:
столькі абраўшы, не ўтрымліваюцца
на паверхні…
Наводдалі — за табой —
бунтуе астрожнае мора:
спрачаецца хваля з хваляй,
і вецер трасе прастору,
і неадступны бераг уздымаецца насупор…
Зацяты міжбой стыхіяў — крыкі, і ўсплёскі,
і стогны…
А ты, нерухомы і гонкі, ужо і часу не маеш:
усё ў табе ўтаймавалася
і ад цябе не розніцца,
і васільковая зорка цвіце над тваёй галавой…
А недзе ў гнеўнай стыхіі
высільваецца Страцім-лебедзь
сярод адрынутых птушак,
якія хацелі жыць… [4, 26—27].

Па сутнасці, перад намі своеасаблівая паэтычная антыўтопія — у такім жа сэнсе, як, да прыкладу, «Апошняя пастараль» Алеся Адамовіча; узгадайма, што ў якасці аднаго з эпіграфаў Адамовіч таксама выкарыстаў у сваёй аповесці радкі Багдановіча — з яго «Трыялета»:

Калісь глядзеў на сонца я,
мне сонца asляпіла вочы…

Яўна або прыхавана ў паэме Разанава валадарыць міфалагема смерці — смерці як з'явы прамінулай, як рэаліі сучаснасці і як пагрозы будучай усёзнішчальнасці. З міфалагемай смерці сумяшчаюцца лейтматывы «шоргату», «шархацення». Аднак і смерць, і яе суправаджальны знак — «шоргат» — набываюць у працэсе разгортвання твора розныя семантычныя адценні. Смерць Страцім-лебедзя, дачасная смерць беларускага песняра на чужыне; небыццё беларускага краю і «смерць пры жыцці» яго «радакоў» праз смерць у іх душах і свядомасці «таго, хто аднойчы стаў небасхілам», — Хрыста; смерць васілька, які «нідзе не прыняўся», — красы і песні, слова і духу, волі і долі… Гэтаксама і шоргат — знак катастрафічных зрушэнняў, іх набліжэння і ацеляснення; гучанне «пясчанага гадзінніка жыцця» («асыпаецца недзе магіла, выкапаная / дачасна…»; «гайдаецца час чалавека… рассыпаючы шоргат…»); «шархацяць сярпы жнеяў і жытнёвыя каласы»; «шархацяць босыя крокі вандроўніка»; шархацяць, «гартаюцца — не адгартаюцца старонкі / самотнай кнігі — кнігі твайго жыцця…». Што думка, ідэя, рэалізуючыся ў канкрэтным мастацкім творы, набывае бачныя формы, — з'ява ў паэзіі звыклая, але каб тая ж ідэя знаходзіла яшчэ і формы, так бы мовіць, чутныя — гэта ўжо адна з адметнасцей стылю Алеся Разанава, як і Максіма Багдановіча з яго незвычайнай здольнасцю сінтэзаваць вобразы, гукі, пахі, фарбы, рухі ў іх арганічных «адпаведнасцях».

**З міфалагемай смерці сумяшчаюцца лейтматывы «шоргату», «шархацення». Аднак і смерць, і яе суправаджальны знак — «шоргат» — набываюць у працэсе разгортвання твора розныя семантычныя адценні**

Але вось у апошняй частцы адбываецца дзівосна-падспудная змена настрою, пафасу; не зніклі ні пытанні, ні сумненні, усё яшчэ невядома, «на што прамяняюць людзі апошнія калівы жыта / і васілька і неразменную жменю зямлі з-за пазухі», і ніяк не скончыцца наш пошук «свайго народа», але мігціць-прабіваецца спадзеў на пуцяводнасць песні Багдановіча, на недарэмнасць яго пакутнага жыцця:

…і твая магіла
пасярэдзіне свету —
каб бачылі, як вяртацца,
каб ведалі, як заблудзіліся… [4, с. 28].

Адчайна-магічным намаганнем мастакоўскай волі вяртаецца надзея на духоўнае ацаленне, на будучыню, на ажыванне-ўваскрэсенне:

Але апошняе не аддаецца,
апошняе ўжо не належыць людзям…
Сыплецца шоргат —
сыплюцца жмені зямлі, якая — ты верыў —
лечыць нават ад смерці,
на твае збалелыя грудзі:
ты чуў гэты шоргат?.. —
і высяваюцца дбайна рукамі асмяглымі
апошнія калівы васілька,
і апошнія калівы жыта глыбей берагуцца —
для Беларусі,
для вечнай тваёй Беларусі,
Максім Багдановіч [4, с. 28].

Цалкам адэкватная зместу паэмы яе паэтыка, праз якую і ствараецца атмасфера ўсхваляванасці, напружанага душэўна-духоўнага пошуку аўтара і яго лірычнага героя. Страфічны падзел ва ўсіх пяці частках паэмы адсутнічае, даўжыня радка адвольная, рытмічны дыяпазон вельмі разнастайны. У выніку адбываецца празаізацыя верша, ён набывае характар размоўна-дыялагічны, фрагментарны, надзвычай экспрэсіўны. Ураджанне суцэльнай дысгармоніі, не так мастацкага, як быційна-існаснага дысанансу, эфект натуральнасці ўзнаўлення перажыванняў у вялікай ступені абумоўлены спецыфічнай, суадноснай з задумай і сэнсам паэмы яе сінтаксічнай арганізацыяй. Радкі-думкі ў большасці сваёй незавершаныя, быццам прамоўлены ў чаканні завяршэння, дадумвання нябачным суразмоўцам; у невялікім па аб'ёме — на чатыры з паловай старонкі — творы больш за сорак разоў ужыта шматкроп'е, дзясятак разоў — пытальнік (часам у спалучэнні са шматкроп'ем або клічнікам). Праз паліфанічную семантыку вобразаў і матываў, праз тэктанічныя зломы ў структуры паэмы дасягаецца яшчэ і філасофская маштабнасць, у адзінай мастацкай плоскасці зведзены розначасовыя пласты — біблейска-міфалагічная даўніна, мінуўшчына «Апокрыфа» і мінуўшчына пачатку XX стагоддзя, прабеглыя пасля смерці Багдановіча дзесяцігоддзі, час стварэння «Паэмы вяхі», а праз чытацкае ўспрыманне — наш час, пачатак XXI стагоддзя, і, нарэшце, час будучы.

Праз усю паэму праходзіць зварот да «цябе» — «ты», «табою», «твой»… Зразумела, перадусім гэта зварот да Багдановіча, які, паводле эсэ «Жыта і васілёк», «і надалей застаецца вяхою і арыенцірам у беларускіх пошуках Айчыны, у вяртанні Айчыны і вяртанні ў Айчыну. З апокрыфа ў канон» [3, с. 86]. Але ж невыпадкова «ты» час ад часу пераходзіць у «вы». Міхась Стральцоў заўважыў: «Сіла Багдановіча як паэта і мысліцеля ў тым, што ён заўсёды засцерагаецца адназначных рашэнняў, што прадмет, з'яву разглядае ён усебакова, у дыялектычнай узаемаабумоўленасці і супярэчнасці» [7, с. 323—324]. Выснова гэтая цалкам справядлівая і ў дачыненні да аўтара «Паэмы вяхі»; голас яго лірычнага героя, без сумневу, звернуты і да свайго краю, і да кожнага суайчынніка. «Ты будзеш вечна шукаць свой народ і будзеш знаходзіць…» [3, с. 86].

## СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ:

1. Багдановіч, М. Поўны зб. тв. : у 3 т. Мінск, 1991. — Т. 1.
2. Біблія: Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету кананічныя ў беларускім перакладзе / пер. В. Сёмухі. — Duncanville, 2002.
3. Разанаў, А. З апокрыфа ў канон: Гутаркі, выступленні, нататкі. Мінск, 2010.
4. Разанаў, А. Каардынаты быцця. Мінск, 1976.
5. Разанаў, А. Паляванне ў райскай даліне. Мінск, 1995.
6. Разанаў, А. Танец з вужакамі: Выбранае. Мінск, 1999.
7. Стральцоў, М. Выбранае: Проза, паэзія, эсэ. Мінск, 1987.

Віктар КОРБУТ

# «АЎТАРКА НАЙЛЕПШАЙ ЖАНОЧАЙ АПОВЕСЦІ»

***Ад рэдакцыі.** Змешчаная ў гэтым нумары аповесць Югасі Каляды «Je suis ton ange gardien» прапанавана да друку не самой аўтаркай, а Віктарам Корбутам, укладальнікам кнігі Югасі «Слова не з майго лексікону», што рыхтуецца да выхаду ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Артыкул Віктара Корбута, напісаны для гэтай кнігі, прыводзіцца тут у скарачэнні і спецыяльна для таго, каб засяродзіць увагу чытача на пазіцыі «аўтаркі лепшай жаночай аповесці» — бо пазіцыю гэтую, далібог, можна назваць феноменам сучаснай айчыннай літаратуры.*

Пра нашых пісьменнікаў шмат гавораць літаратуразнаўцы і крытыкі ў манаграфіях, выдадзеных малым накладам, і на спецыяльных форумах у інтэрнэце. А людзі, «народ» іх мала ведае. У 2011 годзе сацыёлагі высветлілі, што беларусы чытаюць увогуле нячаста. Ніколі не бярэ ў рукі кнігу траціна насельніцтва. Палова беларусаў кніг не купляе зусім, у лепшым выпадку пры патрэбе пазычаюць у знаёмых ці бяруць у бібліятэцы. Сучасную замежную літаратуру (у першую чаргу расійскую) ведаюць лепей за сваю. 62 працэнты апытаных наогул не цікавяцца беларускімі кнігамі. Істотная частка (13,3 %) беларусаў зусім не ўмее чытаць па-беларуску. На пытанне пра сучасных беларускіх пісьменнікаў найчасцей называюць імёны, якія сталі знакавымі яшчэ за савецкім часам: Васіля Быкава (6,5 %), Уладзіміра Караткевіча (3,8 %), Івана Шамякіна (3,2 %). Пераважная ж большасць не ведае нікога (74,6 %). Для параўнання: у сучаснай масавай расійскай літаратуры беларусы абазнаныя значна лепей: 17,8 % ведаюць, хто такая Дар'я Данцова. На думку публікі, зрабіць беларускую літаратуру папулярнай маглі б цікавыя аўтары і творы (52,4 %), іх большая жанравая разнастайнасць (27,2 %), а таксама лепшая рэклама (22,9 %).

Менавіта тое, што Югася Каляда — цікавы аўтар, які працуе ў жанры гарадской прозы (не вясковай і не сярэднявечнай, як класікі беларускай літаратуры) з 1998 года, і дагэтуль змушае мяне цікавіцца ёю як чалавекам, пісьменнікам. Маё меркаванне не суб'ектыўнае. Людміла Рублеўская згадвае, як Югася ўзбіралася на свой шлях у літаратуры: «На новое литературное явление из Гомеля ожесточенно нападали и ожесточенно же защищали. Ее прозу называли подростковой, феминистической, эклектичной... Обвиняли в том, что написанное — сведение счетов с неким молодым человеком. Что нельзя мешать в винегрет фэнтези, фантастику и дамские романы. Югася появилась в минском литературном бомонде, дополнительно раздражая всех рыжим цветом волос и пофигизмом, после чего бомонд разродился еще несколькими рецензиями разной степени ехидства». Менавіта таму, што Югася займаецца стваральнай творчай работай па-беларуску, я лічу сваім абавязкам дапамагаць ёй прабівацца на сучаснае літаратурнае поле нашай краіны.

Гэтае поле не надта ўрадлівае на таленты, запатрабаваныя шырокімі масамі, але зваднае, зрэшты, як любая творчая супольнасць. Югася ж — не баец у літаратуры. Яна творца чыстае красы. Не больш і не менш. Яна піша для сябе (звычайна алоўкам). І пасля напісання дасылае твор мне, а тады звоніць і пытаецца: ну як? І я зазвычай кажу: геніяльна! Толькі трэба мову падправіць.

Я разумею, пра густы не спрачаюцца, але з моманту нашага знаёмства ў 1998 годзе, калі прачытаў спачатку вершы, а пасля пер-

**Напісаныя вершыкі я перачытала па пяць разоў «на предмет» памылак. Памылак там НЯМА! Кожны радочак, кожная косачка / кропачка ўзважаныя мною па сто разоў!!! Не дай Божа табе выправіць хоць адну маю «ў» на «у», і наадварот!**

шыя празаічныя творы Каляды, мне ўсе яе творы здаюцца вартымі таго, каб не легчы ў шуфляду, а выйсці на шырокі прастор — у друк. Сама Югася ставіцца да сябе спакайней. Больш за тое, мінаюць гады, і яна глядзіць на напісанае раней як на «дзіцячае», нявартае не тое што друку, а нават перачытвання.

Пераможца! Ты ўсіх перамог:
і мяне, і сябе аднachасна.
але тут, на крыжы ўсіх дарог, —
ты шчаслівы? Ці, можа, няшчасны?

Цытаваны фрагмент — з падборкі, якую Югася перадала мне 26 студзеня 2001 года з наказам: «Віктусік! Дасылаю табе шаснаццаць маіх вершаў, напісаных у 99-01. Іншыя вершыкі гэтага пэрыяду я палічыла нявартымі.

Заўваж, тут няма вершаў 98 года, бо ўсе яны — зусім, зусім іншыя. Я тады была дзіцёнкам».

Аўтарка даручыла мне гэтыя творы, каб я заняўся іх публікацыяй: «Даручаю табе адказную ролю майго біёграфа & архіварыуса […]

Напісаныя вершыкі я перачытала па пяць разоў “на предмет” памылак. Памылак там НЯМА! Кожны радочак, кожная косачка / кропачка ўзважаныя мною па сто разоў!!!

Не дай Божа табе выправіць хоць адну маю “ў” на “у”, і наадварот! Не выпраўляй! Там, дзе я прашу парады, я паставіла пытальнік (“?”)! […]

Не займайся “самодеятельностью”! […]

Не давай іх чытаць абы-каму, напр., Карнею, усялякім там левым…

Паспрабуй іх надрукаваць. Аддай іх у АРХУ [часопіс “Arche”]. Занясі іх у “Пустацьвет” [часопіс “Першацвет”].

Калі хто-небудзь возьмецца за друкацыю маіх вяршыскаў, памятай: мяне клічуць Югася Каляда! (І хто куды мяне кліча?)

У выпадку патрабавання біяграфічных звестак паведамляй толькі: “Югася Каляда. Нарадзілася ў Гомелі”. І ўсё! […]

Віктусік! Даруй за такі загадны лад майго ліста! Я вельмі табе ўдзячная за тое, што ты хоць неяк цягнеш па жыцці мяне з маёй улюбёнай канапай, з якой я не падымуся па сваёй волі».

Рукапіс сапраўды бездакорны. Усё сведчыць, што аўтар — упэўнены ў сабе чалавек. Югася пераадолела крызіс. Больш за тое, яна пэўна заявіла пра сваё «я»: адгэтуль яна менавіта *Югася Каляда*. І за псеўданімам не павінна быць больш нічога, ніякіх падрабязнасцей, ніякай мінуўшчыны, апрача аднаго — яе твораў.

Чым жа ўрэшце адметная творчасць Югасі Каляды? У замалёўцы з цыкла «сУчаснікі» Адам Глобус гэтак сфармуляваў сваё ўспрыманне пісьменніцы: «Калі ўсё надрукаванае ў кнізе Югасі Каляды […] “Галоўная памылка Афанасія” звесці да аднаго-адзінага сказа, дык я выберу такі: “Прапусціць маршрутку, потым з вялікім шкадаваннем чакаць аўтобуса нумар чатыры, дачакацца, з пагардаю прапусціць ашалелы натоўп, зайсці апошняй і — хуценька! — шмыгануць на месца ля акна, каб усю дарогу не саступаць месца ніводнай бабе з вялікімі клункамі ды не глядзець у бок п’яных мужыкоў”». З яго вынікае сутнасць паводзін гераіні-аўтаркі, якія акрэслю так: эгаізм, снабізм і нахабства. «З пагардаю прапусціць ашалелы натоўп» — снабізм стаадсоткавы. «Каб усю дарогу не саступаць месца ніводнай бабе» — эгаізм узорны з адценнем моднага, цяперака, постфемінізму. Таму тэксты Югасі Каляды выглядаюць свежымі, дынамічнымі і прывабнымі нават для «п’яных мужыкоў». Не выпадкова Глобус уключыў у свой час Каляду ў прэтэндэнты на прэмію «Залатая літара», якую ён сам уручае штогод. Аднак узнагароду за 2005 год атрымаў Ігар Бабкоў. Сярод «22 нагод, каб даць прэмію Бабкову», Глобус пад 16-й пазіцыяй назваў такую: «Бо напісаў водгук на кнігу Югасі Каляды».

Кніга Каляды «Галоўная памылка Афанасія» таксама прэтэндавала на літаратур-

ную прэмію «Гліняны Вялес» і ўвайшла ў яе шорт-ліст разам з кнігамі Сяргея Дубаўца, Вінцэся Мудрова, Алеся Наварыча, Наталлі Кучмель.

Звычайна цікавасць да пэўнага пісьменніка мусіць падаграваецца ім самім, яго эпатажнымі ўчынкамі. Так склалася ў наш медыйны век, што калі сам не прапіярышся, дык наўрад ці нехта гэта зробіць за цябе. Прыклад Югасі нетыповы: яна не рабіла нічога для публікацыі сваіх твораў і не ўвіхалася каля прапагандысцкай печы. Усе рэцэнзіі, што выходзілі, з'яўляліся з ініцыятывы тых, хто чытаў яе кнігу. Водгукі з'яўляліся нават праз год пасля выхаду «Галоўнай памылкі Афанасія».

На думку празаіка Паўла Гаспадыніча, творы Каляды належаць да «авангарду», але гэтая нестандартнасць — не самамэта, а спроба спакусіць чытача, «пакрысе падвесці яго да праблемы Чалавека і Грамадства». Гаспадыніч прызнае, што «маладой пісьменніцы» ўласцівы «відавочны талент і пэўны вопыт».

Нейкі крытык, схаваны за псеўданімам Хрыстафор Мортус, мяркуе, што Югася — майстар у апісанні няшчаснага кахання: «Толькі няма ў яе "няшчасцях" чагосьці пакутліва-саплівага тыпу спроб на самагубства — прысутнічае суцэльная аўтарская самаіронія ды добрыя рэкамендацыі для дзяўчынак, у каханні не спакушаных, ці для дзяўчынак, якія гараць жаданнем помсты». Ганна Кісліцына развіла тэму: «В романе молодой писательницы Югаси Каляды героиня хочет, чтобы ее любили такую, какая она есть, — с выбритой налысо головой, в драных джинсах, с изрезанной лезвием рукой. Такой антигламур...».

Андрэй Федарэнка ў інтэрв'ю заяўляў, што чытае з маладзейшых пісьменнікаў Югасю Каляду, якую «вельмі хваляць, але яна не зусім мой аўтар». Сапраўды, можна адзначыць тэндэнцыю: Югасю заўважылі і прызналі пераважна маладыя аўтары або «маладыя духам», такія, як Глобус, або шчырыя прыхільнікі наватарства ў літаратуры, як Рублеўская. Сярод «старых» класікаў на з'яўленне Каляды ў літаратуры амаль ніхто не адгукнуўся — прынамсі, у прэсе.

Загаварыла Каляда пра сябе і сваю творчасць толькі ў 2007 годзе. Адбылося гэта на

## Тэксты Югасі Каляды выглядаюць свежымі, дынамічнымі і прывабнамі нават для «п'яных мужыкоў»

старонках газеты «Советская Белоруссия» з ініцыятывы яе літаратурнага аглядальніка Людмілы Рублеўскай, якая шчыра жадала «выцягнуць» Югасю з яе «шкарлупіны». У той час Каляда жыла ў Гомелі, не кантактавала ні з якімі літаратурнымі суполкамі, не належала — свядома — ні да якіх пісьменніцкіх саюзаў.

Толькі 17 мая 2007 года Югася дала першае караценькае інтэрв'ю ў апытанні пісьменнікаў «Возможна ли литература не всерьез», дзе абвясціла, што з беларускімі літаратарамі «мало знакома» і надалей не збіраецца ўваходзіць у нейкія брацтвы па пяру: «Вот что во мне в самом деле вызывает отвращение — это так называемые литературные кланы, тусовки, клубы, течения, направления, сообщества; кто с кем и против кого дружит; где печататься престижно, а где позорно... Не хочется выставлять себя эдакой святой среди разгула греха и порока, я вообще, стараюсь хорошо относиться к людям, но мне противно на это смотреть, не то что участвовать! К литературе эта грызня не имеет никакого отношения. Литературный процесс — это сидеть и писать, не спрашивая совета: "А как мне вот тут лучше написать: «зэдлік» или «тубарэтка»?" — у сборища, ах, простите, "суполкі" графоманов. Писатель — коль уж у человека хватило отваги так назваться — должен творить сам, один на один со всей мировой культурой, ведь и отвечать ему».

З 2010 года Югася зноў жыве ў Мінску. Ад ранейшай дзяўчынкі «с выбритой налысо головой, в драных джинсах» не засталося нічога. Яна працуе выканаўчым дырэктарам прыватнай фірмы. У бізнес-колах яе ведаюць не як пісьменніцу Югасю Каляду, а толькі як Яўгенію Парашчанку. Але час ад часу з'яўляюцца людзі, якія яе пазнаюць і кажуць, што чыталі кнігу ў блакітнай вокладцы ў «далёкім» 2005-м. Але гэта пакуль што не натхніла Каляду кінуць усё і цалкам занурыцца ў літаратуру.

*Маргарыта ДЗЯХЦЯР*

# КУДЫ ЗАВОДЗЯЦЬ МАРЫ



«Я заўсёды марыла пабыць у Італіі. Пакуль мая мара застаецца марай». Так пачынае сваё эсэ на кінематаграфічную тэму студэнтка Маргарыта Дзяхцяр. Чаму яна хоча трапіць у гэту краіну? Шмат у чым дзякуючы менавіта кіно.

Яна піша пра кіно, тэатр і кнігі. Не самыя сумныя цікавасці, ці не так? Прапануем некалькі замалёвак Маргарыты — для пашырэння светапогляду і ўзняцця настрою.

## РЫМСКІЯ ПРЫГОДЫ

Спачатку я паглядзела «Еш, маліся, кахай» Раяна Мёрфі. Потым быў Вудзі Ален з яго «Рымскімі прыгодамі» (шкада, што фільм пазбавілі яго арыгінальнай назвы «З Рыма з любоўю»). Звычайна ў кіно Італію паказваюць краінай з выбітнай кухняй, архітэктурай і прыродай. Але Ален дазваляе ўбачыць нешта большае, чым проста прыгожыя карцінкі. У гэтым яго фільме можна «сустрэць» выбітных італьянскіх (і не толькі) людзей. Героямі стужкі робяцца не зоркі і не мільянеры, а звычайныя людзі. Наколькі я зразумела філасофію Алена, ён імкнуўся зрабіць іх — герояў стужкі — шчаслівымі. Узяць хаця б простага рымляніна Леапольда. У яго ёсць сям'я — каханая жонка, цудоўныя дзеці, але ён марыць аб славе, хоць бы і непрацяглай. І ён яе атрымлівае: з непрыкметнага чалавека ператвараецца ў ікону стылю і ўлюбёнца жанчын. Хіба такое бывае? Бывае, канешне. У Вудзі Алена і не такое здараецца…

Маладыя Антонія і Мілі прыязджаюць у Рым, каб уладкавацца і звыкнуцца з горадам, у якім збіраюцца застацца назаўсёды. Яны выглядаюць такімі шчаслівымі, ідэальнымі, што нават і не ў галаве думка пра іх няверннасць адно аднаму. Паход Мілі ў цырульню заканчваецца здрадай мужу і знаёмствам з шыкоўнай актрысай у выкананні Арнэлы Муці. Гэты ж дзень перакуліў і жыццё Антоніа, бо ён пазнаёміўся з Аннай (Пенелопа Крус!) і ні ў чым не саступіў жонцы. Пасля гэтага выпадку Антоніа разумее, што Рым — не яго горад. Не лёс у ім застацца, калі ўсё так крута паварочваецца, прычым, у горшы бок.

А вось наступная кампанія цалкам разбурае стэрэатыпы пра каханне, стасункі і ўзаемапаразуменне. У некаторым сэнсе нават пра мары. Вядомы амерыканскі архітэктар Джон шукае спакою і самоты на вузкай

італьянскай вулачцы, на якой жыў у юнацтве, і нечакана сустракае будучага калегу, суайчынніка Джэка. Яго лёс цалкам паўтарае лёс самога Джона, і той робіцца кімсьці накшталт анёла-ахоўніка для хлопца і аберагае яго ад глупстваў. Ды сваю «дольчэ віта» Джэк злёгку сапсаваў: закахаўся ў лепшую сяброўку сваёй дзяўчыны Салі, Моніку. На шчасце, Моніку больш цікавіць яе кар'ера актрысы, чым закаханы студэнт, і Джэку ўдаецца выраўняць сваё жыццё.

Самая незабыўная і, напэўна, важная гісторыя разварочваецца напачатку стужкі. Чаму тады я пішу пра яе ў канцы? Бо лепшае заўсёды пакідаюць на дэсерт.

Звычайная для еўрапейскага горада сітуацыя: амерыканская турыстка Хелі заблукала, а палкі брунет, італьянец Мікеланджала (так, як той самы славуты мастак) дапамагае ёй дабрацца да фантана Трэві, вядомага выканаўца жаданняў за простую манетку. Пазней пара вырашае пабрацца шлюбам. Так, банальна. Але гэту банальную гісторыю робіць арыгінальнай знаёмства бацькоў Хелі з бацькамі жаніха ў Рыме. «Цвіком праграмы» робіцца дзіўны Джэры, якога іграе Вудзі Ален (дарэчы, гэта першая яго роля за апошнія шэсць гадоў, відаць, стужка для яго асаблівая). Джэры імкнецца зрабіць з бацькі Мікеланджала, уладальніка пахавальнага бюро, опернага спевака. У дУшы. Натуральна, Джэры без бою не здаецца і ладзіць свату выступленне на вялікай сцэне і… душавую кабінку. У той час як новаспечаную зорку прэса ўзносіць на алімп славы, Джэры называюць простым італьянскім словам «імбічыле». Што ў перакладзе жонкі Джэры азначае «ты апярэдзіў свой час».

На самай справе стужка насычана цеплынёй і станоўчымі эмоцыямі. Гэта не проста камедыя з тонкім гумарам Вудзі Алена. Гэта кінастужка пра мары не зусім звычайныя і не зусім нязбытныя. Аказваецца, што жыццё лепей нават і без іх выканання. Леапольд марыў стаць папулярным, але адразу стаміўся ад славы. Антонія і Мілі хочуць набрацца досведу і стаць шчырымі адно з адным. Джэк імкнецца знайсці каханне ў чалавеку, з якім яму не суджана застацца, і губляе розум. Джэры жадае зноў працаваць на сцэне, а не быць пенсіянерам, але атрымлівае толькі слова «імбічыле».

Такія вось мары. Навошта яны? Каб зразумець, што ідзеш падманным шляхам. Каб вярнуцца да рэальнага жыцця, якое ўтрымлівае ўсё, што патрэбна для шчасця.

Такія вось яны, «Рымскія прыгоды». Італія дорыць спадзяванні. Туды варта з'ездзіць. Мо зразумею, нарэшце, што мне ад жыцця патрэбна?

## КІНО: ЗАБАВА ЦІ НЕШТА БОЛЬШАЕ?

— Холі, я кахаю цябе.

— Ну і што?

— Што? Вельмі шмат. Я кахаю цябе, ты мая!

— Не. Людзі не могуць належаць адно аднаму.

Гэта дыялог герояў стужкі «Сняданак у Ціфані». Пачынаючы разважанні на тэму, што такое кіно, ці патрэбна яно наогул, забава яно або нешта большае, я хачу сказаць, што гэты дыялог — прыкмета таго, што кіно — гэта нешта больш значнае, чым проста стужка. Колькі маіх сяброў лічыць, што людзі не могуць належаць адно аднаму, як кажа Холі Галайтлі? Вельмі шмат! Адкуль яны ўзялі гэтую думку? Канешне, са стужкі! І гэта не адзіны выпадак. Я вельмі часта сутыкаюся з тым, як людзі параўноўваюць кіно і жыццё, а потым, незадаволеныя жыццём, зноў глядзяць кіно, каб толькі апынуцца хоць на некалькі гадзін у гэтым казачным свеце.

Для мяне знаёмства з кінаіндустрыяй пачалося на 2-м курсе ўніверсітэта. Не падумайце, што я не глядзела фільмы да гэтага. Я кажу пра сур'ёзнае знаёмства, калі я пераглядзела амаль усю класіку ад братоў Люм'ер да Міхаэля Ханэке і Бернарда Берталучы; шмат савецкіх фільмаў, з якімі б я ніколі не пазнаёмілася, калі б не ўніверсітэцкая праграма, бо нават не ведала пра іх існаванне; дакументальныя і кароткаметражныя стужкі, якія сталі для мяне сапраўдным адкрыццём, бо як можна зрабіць шэдэўр з нечага на першы погляд нябачнага і нявартага ўвагі?

Нельга так адразу адказаць на пытанне, забава кіно ці не, таму я буду разбірацца ў гэтым з выкарыстаннем прыкладаў, раскладаючы ўсё па паліцах. Хтосьці можа сказаць, што кінастужкі — гэта адлюстраванне рэчаіснасці, хтосьці скажа, што гэта добрая фантазія рэжысёра, хтосьці — што гэта сінтэз. І ўсе будуць мець рацыю. Калі ў мяне была магчымасць папрацаваць у часопісе «На экранах», я прасіла ў рэдактара дыскі з

анімацыйнымі стужкамі «Беларусьфільма». Яны мне здаваліся тады нечым недасяжным, іх нельга было нідзе ўбачыць. І я брала гэтыя дыскі, глядзела іх так, быццам я адна з «Мечтателей» Бернарда Берталучы. Я, як і яны, лічыла, што фільмы, якім аддаю свой час, не проста забава. Гэта своеасаблівыя ўрокі жыцця, нешта з глыбокім філасофскім падтэкстам, нейкае псіхалагічнае ўздзеянне на мяне. Я захаплялася.

Усё ж такі лічу, што ёсць кіно-забава, а ёсць кіно, якое трэба не проста паглядзець, але і зразумець. Я не хачу нікога абразіць, але фільмы падзяляюцца на тыя, што не патрабуюць асаблівага напружання, і тыя, што патрабуюць увагі і разумення. Не кожны, напрыклад, зможа паглядзець «Антон тут рядом» Любові Аркус цалкам. Гэта эмацыйна складана. «Як можна адчуць чужы боль?» — гэтым пытаннем задаюцца героі стужкі, гэтым пытаннем задаецца рэжысёр. Пасля прагляду «Антон тут рядом» ува мне парвалася нейкая струнка, я пачала разумець, што камусьці нашмат цяжэй, чым мне. І гэта можна назваць забавай? Такія стужкі не дзеля гэтага існуюць. На такой стужцы проста немагчыма адпачыць — на ёй можна толькі папрацаваць, бо ні хвілінкі галава не застаецца без думак. Тое ж самае я сказала б пра фільмы Кіры Муратавай і Рэнаты Літвінавай.

А стужкі Міхаэля Ханэке? «Любовь» і «Забавные игры» — гэта не тое кіно, якое можна глядзець у кампаніі з папкорнам. Гэта дарослае кіно пра жыццё з усімі яго жорсткасцямі і несправядлівасцямі, гэта кіно пра каханне і давер. Калі сюжэт стужкі «Любовь» можна параўнаць з жыццём запалкі, то «Забавные игры» — гэта смерць гэтай запалкі, марудная і пакутлівая. Але што прымушае людзей цярпець гэта? Навошта глядзець фільмы, дзе ад жорсткасці немагчыма сядзець на месцы? Такія стужкі могуць навучыць. «Любовь» вучыць клопату, паказвае, што сапраўднае каханне мусіць перажыць усе цяжкасці. «Забавные игры» для мяне так і засталіся незразумелымі. Рэжысёр кажа, што ён не паказвае ў стужцы гвалт. Гэты гвалт бачым мы самі, і толькі мы вырашаем, працягнуць прагляд ці не. А гэта значыць, што ўсе нашыя ўчынкі — справа нашых рук, а гэта павінна значыць, што і лёс сям'і з фільма залежаў таксама ад іх саміх. Мне незразумелая такая думка, таму, каб я глядзела гэтую стужку зноў, я б проста не даглядзела яе да фіналу.

Ёсць нешта яшчэ. Кіно можна глядзець не толькі каб развівацца, стаць больш інтэлігентным, але і каб не рабіць памылак. Прынамсі такіх, якія робяць героі. І што з таго, што гэтых людзей насамрэч не існуе? Іх памылкі — існуюць. Кэці з «Какими мы были» Сідні Полака, Джэп Гамбардэла з «Великой красоты» Паала Сарэнтына, Бэн з фільма «Выпускник» Майка Нікалса, — усе яны пражываюць сваё жыццё не так, як ім хочацца. Яны памыляюцца, як звычайныя людзі, але знаходзяць у сабе сілы змяніць лёс. Гэта магчыма. І вось яшчэ адна функцыя кіно — матывацыя. Кінастужкі могуць матываваць нас на грандыёзныя ўчынкі! Мы і самі не ведаем, на што здольны. Мы можам паехаць у Японію, як Шарлота з «Трудностей перевода» Сафіі Копалы, мы можам пачаць новае жыццё з новым імем, як Рыта з «Малхоланд Драйв» Дэвіда Лінча, мы маладыя і неразумныя, як Аксель і Вера з «Неубранных постелей» Алексіса Дос Сантаса, мы нават можам паверыць у тое, што рускія былі першымі на Луне (як я, прызнаюся, на хвілінку і зрабіла), паглядзеўшы аднайменную стужку Аляксея Фядорчанка, мы можам рабіць глупствы, як Аура з «Крошечной мебели» Лены Данэм, а потым узяць ды пасталець. Кіно дапамагае нам адчуць, што жыццё нашмат цікавейшае, чым мы яго сабе ўяўляем, яно можа быць лепшым, чым мы яго пражываем. Жыццё — гэта крыніца натхнення. Два маіх любімых рэжысёры натхняюцца жыццём — Іван Вырыпаеў і Вудзі Ален. І я не магу сказаць, што я гляджу іх стужкі для забавы. Я натхняюся тым, чым натхняюцца яны, я шукаю ў жыцці тое, што паказалі мне яны, я хачу спасцігнуць тое ж, што спасціглі яны. Для мяне іх стужкі — падручнік. Я не люблю наступаць на граблі, я люблю рабіць свае памылкі, а на чужыя магу паглядзець у кіно.

Тым часам Холі Галайтлі кажа, што яна не ведае, хто яна, што людзі не могуць належаць адно аднаму. Кажуць, парады трэба слухаць, а рабіць па-свойму. Вось так і зраблю. Адзін прагледжаны фільм = памылка, якую ты не зробіш.

## АДЧУВАЙ МЯНЕ ЖЫВОЙ

Колькі шуму робяць фільмы, звязаныя так ці інакш са штучным інтэлектам. Варта ўспомніць «Сімону» Эндру Нікола, не зусім

такія ж, але падобныя па сэнсе «Вечнае ззянне чыстага розуму» Мішэля Гандры і «Рубі Спаркс» Дэйтана і Фэрыс. Я бачыла ўсе гэтыя стужкі, таму магу сказаць, што ўсе яны гавораць пра адно і тое ж. Чалавек пачынае страчваць пачуццё рэальнасці, жаданне жыць у рэальнасці, жаданне выходзіць са сваіх кватэр. І найбольш ярка гэтыя моманты можна ўбачыць у фільме Спайка Джонса «Яна».

Мне цяжка пачынаць глядзець новыя фільмы — з аднаго боку пачуццё цікаўнасці, з другога — пачуццё нявызначанасці, незразумелага, невядомага. Ад «Яе» (а менавіта так назва стужкі гучыць па-англійску) я не чакала нічога, бо рэцэнзіі свядома не чытала, каб не быць прадузятай. Ведала толькі тое, што гэты фільм змяняе светаўспрыманне і можа паўплываць на мае далейшыя стасункі з тэхнікай.

Тэадор, Тэа — пісьменнік. Недаацэнены, звольнены з працы ў «Лос-Анджэлес Таймс». Жыццё прыводзіць яго на працу ў кампанію, якой замаўляюць лісты. Лісты не друкаваныя, а быццам напісаныя на паперы прыгожым почыркам. Лісты каханым, бабулям, унукам, жонкам, дзецям, братам… Тэа ў напісанні такіх лістоў быў спецыялістам. Але ўжо з першых секунд стужкі зразумела, што праца не прыносіць яму задавальнення. Ён, як і тыя, хто жыве побач, шукае кахання (Тэа разводзіцца з жонкай, якую бязмежна кахаў), шукае чалавечых радасцей, топіць свае перажыванні ў камп'ютарных гульнях (добра, што не ў алкагольных напоях). І вось ён становіцца адным з першых уладальнікаў новай аперацыйнай сістэмы. Гэта сістэма — больш, чым проста прыдатак да тэхнікі. Гэта істота, калі можна так яе назваць, якая можа выслухаць, пагаварыць, параіць, якая нават мае сваё меркаванне. Дастаткова моцны канкурэнт чалавеку. Адзін у яе хіб — няма цела, няма абалонкі, якая б зрабіла яе ідэальнай.

Усе мы ведаем, як пачынаецца знаёмства. Знаёмства Тэа і сістэмы было незвычайным ужо таму, што ён ніяк не мог прадказаць, што ў сістэмы ёсць імя. Імя, якое яна выбрала сама. І выбрала яна яго не выпадкова, а таму, што яно ёй сапраўды падабалася. Яе звалі Саманта. У маім уяўленні адразу ж узнікла прывабная маладая жанчына, але цалкам яе вобраз я скласці не магла. У гэтым і праблема — мы чуем голас, але ўяўляем тое, што хочам, а не тое, што ёсць насамрэч. Саманта не чалавек, як бы ні хацелася, каб гэта было наадварот. Саманты нават не існуе. Яна — гэта праграма, у яе няма душы (зараз Тэадор заспрачаўся б са мной). Саманта і сама кажа, што не разумее, як гэта — быць чалавекам. Як можна адчуваць? Што такое пачуцці? Але на гэтае пытанне можа адказаць Тэа. Ён ведае, што такое пачуцці. Пасля расстання з жонкай ён не мог успрымаць жанчын як жанчын, а ў Самантце знайшоў кагосьці блізкага, каму можна даверыцца і хто разумее. З назвы фільма зразумела, што яны павінны закахацца. Але як гэта магчыма? Саманты ж не існуе!

Саманта існуе ў навушніку, які Тэа здымае на ноч. А раніцай ён зноў з Самантай. Яна стала для яго наркотыкам, залежнасцю. Ён хоча яе абдымаць, цалаваць, кранаць. Яна кажа, што ад яго пачуццяў у яе быццам бы «з'явілася скура». Чалавек і праграма растварыліся адно ў адным, усё астатняе знікла. Аднойчы Саманта спытала ў Тэадора пра яго жонку. Гэта было так:

— Што адбылося, калі яна была з табою?

— Мы ішлі наперад разам.

Цяпер разам з Тэа хоча ісці наперад Саманта. Яна дапамагае яму лячыць душу, гаіць раны. Тэадор пачаў атрымліваць задавальненне ад жыцця. Ён расказаў пра Саманту сябрам, яны прынялі гэта. Здавалася, шчасце блізка. Але не можа ў чалавека і праграмы быць хэпі-энду. Якой бы ні была іх любоў, гэта немагчыма. «Чым больш кахання ты зведваеш, тым большым яно становіцца». Напэўна, кубак можа перапоўніцца.

Буду вытрымліваць інтрыгу, што было пасля. Пасля прагляду гэтай стужкі я шмат зразумела. Напрыклад, што людзі забыліся, што такое перажываць пачуцці. Што такое сапраўды адчуваць сімпатыю і боль. Яны перасталі надаваць увагу гэтым «дробязям». Што з намі здарылася? Чаму? Чаму мы страчваем пачуццё рэальнасці? Чаму любім сядзець на адным месцы больш, чам спасцігаць свет і быць з блізкімі? Навошта мы шукаем падтрымкі ў штучнага? Гэта наша праблема і праблема наступнага пакалення. Гэты фільм — пяшчотны, далікатны (інакш не скажаш) — уражвае тым, што дапамагае падумаць пра сябе, знайсці ў сабе нешта такое, чаго не бачылі раней, палюбіць сваіх сяброў і тое, што мы ўсе можам кудысьці пайсці і так шмат убачыць і спасцігнуць. У галоўным героі ўсё ж такі я бачу надзею.

Ён заўсёды ярка апранаецца, не штучны, ён вылучаецца на фоне горада. Ён — асаблівы. У яго ёсць усё, каб жыць шчасліва. І ў нас ёсць усё. На жаль, мы гэтага пакуль не ўсвядомілі.

### МЯНЕ НІХТО НЕ ВЕДАЕ

Ён жыве ў самым звычайным мегаполісе, у простай кватэры ў спальным раёне. Ён падыходзіць да акна, быццам яно куліса, рассоўвае шторкі — акно робіцца падобным да сцэны. За ім адбываецца нейкае дзеянне. Недзе спяшаюцца машыны, але зусім няма людзей. Ніводнага чалавека. Такое самотнае жыццё.

Спектакль Яўгена Грышкаўца «+1» пра чалавека. Пра тое, што ў свеце сем мільярдаў людзей, а ўсе самотныя. Зашмальцаваная тэма, але падносіцца, як заўсёды, незвычайна, па-грышкавецку, бо разам з акном ён адкрывае гледачу і сваю душу.

За акном ідзе дождж, а ў такое надвор'е заўсёды хочацца з некім пагаварыць. Грышкавец выбірае гаварыць пра тое, што яго ніхто ведае. Ён не агаворваецца, не памыляецца. Тысячы людзей ідуць на яго паглядзець і паслухаць яго маналогі, але ніхто яго не ведае.

Колькі ў нашым горадзе, краіне, ды ўвогуле ў свеце такіх кватэр, такіх людзей? Сотні? Тысячы? Мільёны? Такіх складаных і нікому не вядомых, якія часам не могуць знайсці патрэбныя словы. Гэта кватэра-сцэна з мэбляю, вешалкай для адзеня, шторкамі на вокнах. Амаль у кожнага гэта ўсё ёсць. Але не кожны можа, як Грышкавец, апрануць касцюм касманаўта і злятаць, напрыклад, на Марс. Не проста каб стаць вядомым, а каб зразумець, што ён сумуе па Радзіме. Ён яе мо не любіць, як прызнаецца сам, але сумуе. Там, на паверхні Марса, ён яшчэ больш самотны. Успамінае Радзіму: як там пахне стравай, паліклінікамі, што там ёсць плацкартныя вагоны, пробкі, цяжкае неба, рэгістратуры па якіх ён так моцна сумуе. Гэта цалкам адзінокі чалавек, Сусвет ляжыць у яго на далоні, але ён яму не патрэбен. І Сусвет адчувае, што ён сумуе, і вяртае яго дамоў.

І вось Грышкавец зноўку ў сваёй кватэры. Цяпер ён разважае пра гісторыю чалавецтва, параўноўвае яе з кравецкім сантыметрам, дзе мы займаем толькі тры міліметры. Але якія! Гэтыя нікчэмныя міліметры — усё яго жыццё: людзі, што любяць яго, як ён выказваецца, не за тое, што ён харошы, а таму, што яны цудоўныя. Гэта час, калі нават пры наяўнасці блізкіх людзей хочацца ператварыцца ў замерзлага палярніка, і Грышкавец у яго ператвараецца. Яго замятаюць снягі, ён хоча развесці касцёр. І вось ужо дарэчы аказваюцца кніжкі з яго пісьмовага стала. Але яны не ратуюць, ён застаецца замярзаць. І няхай яму будзе горш за каго іншага ў свеце, але няхай яго ўсе шукаюць. Яго, вось гэтага «+1», страта якога не прынесла б свету асаблівых пакут, бо яго ж ніхто не ведае, ці не так?

Чалавек увесь час шукае страхі. Напэўна, вы прыкмячалі гэта за сабою. Мы заўсёды баімся. Чаго? Скажам, апакаліпсісу. Але Грышкавец слушна прыкмячае: «А хто мы тут увогуле такія, каб быць на Зямлі апошнімі?» Вось і адказ: ніхто, а значыць, не трэба баяцца. Трэба хацець жыць, каб некаму быць патрэбнымі. У жыцці эксперымент — не лепшая ідэя. Потым жа рай ці пекла… хто ведае? І вось Грышкавец пераносіцца ў рай, там усё цвіце і пахне, там абавязкова павінна быць цёпла, там жоўты пясок і ўсе ў гавайскіх сарочках. А яшчэ там спецыяльная райская музыка, якая не надакучыць, кветкі вырастаюць імгненна, выскокваючы з гэтага цёплага жоўтага пяску… Але галоўнае — усё падсвечана зялёным. А гэта ж колер спакою. Вось такім уяўляецца рай.

І тут на Зямлю вяртаецца рэальнае жыццё. Хадзіць па вулках, быць такім складаным, «усім такім з сябе +1», быць нікому не вядомым, не ўмець падбіраць словы, не ведаць як жыць. І, здаецца, столькі праблем вакол, і чалавек, які ўсяго толькі «+1», не можа з імі справіцца. Куды яму! Але ж на самай справе ніхто не самотны. Заўсёды-заўсёды ёсць побач тыя, з каго складаецца наша жыццё. Гэта людзі, «няўжо ж вы іх не бачыце?» Прыгледзьцеся добра. І гэты агромністы свет, і неспасціжны космас, якія самі па сабе, — ім усё роўна, ведаюць вас ці не. Але ёсць іншы свет, якога ў акне не відаць. Гэта свет кожнага з нас: там можна падабраць патрэбныя словы, пра якія так непракоіўся Грышкавец; там можна чакаць чагосьці добрага; там можна спадзявацца і быць чыёйсьці надзеяй.

«У кожным чалавеку ёсць запіска… Але самі мы некалі ці даведаемся, што ў нас там напісана?» — так заканчвае спектакль Грышкавец. І адчыняе другое акно, пра якое ніхто не здагадваўся, хоць і было нейкае адчуванне недасказанасці, калі адна са шторак заставалася захінутай. У гэтым другім акне паказваюць партрэты — твары людзей, дарагіх акцёру, тых, да каго ён спяшаецца пасля працы, каму выбірае падарункі, з кім адзначае святы і, як усе, пакутуе, дзеліць гора. І гучыць «Алілуйя» «Бітлз». Менавіта не фонам, а гімнам. Каб было дзеля каго жыць, каб было чаго чакаць, каб нехта нас ведаў, каб было для каго стаць тым самым «+1».

## ПАКУЛЬ Я ЖЫВАЯ

Як гэта: лічыць кожную хвіліну, думаючы пра смерць? Тэса смяротна хворая, і яна змагаецца за жыццё, за час — хаця б за адзін дзень, гадзіну, хвіліну. Яна складае спіс таго, што павінна зрабіць да таго, як памрэ. Гэта сюжэт стужкі «Сейчас самое время» Ола Паркера. Стужка знята па кнізе Жэні Даунхэм «Пакуль я жывая». На шчасце, мне ўдалося прачытаць яе да таго, як выйшаў фільм, таму ёсць з чым параўноўваць.

І ўзнікае пытанне: чаму ў большасці выпадкаў кіно не супадае з кнігай? Я не так уяўляла сабе герояў, не такім бачыла горад, дзе разгортваюцца падзеі, ды і сюжэт фільма часам не супадае з кнігай, гэтаксама як і знешнасці герояў. Але гэта і добра. Кніга дае прастору ўяўленню. Да таго ж я ні на кроплю не расчаравалася ў акцёрах.

19-гадовая Дакота Фанінг сыграла галоўную ролю дзяўчынкі, хворай на лейкемію. Гераіня разумее, што часу ў яе няма, таму робіць тое, што ёй хочацца, згодна з парадай урача. Бацька, які без памяці любіць дачку, шукае выратавання ў цалкам бесталковых леках, спадзяецца на тое, што яшчэ можна нешта змяніць. Дачка імкнецца вярнуць яго з нябёсаў на зямлю, але які бацька хоча верыць у горшае?

Я не ведаю… Я не магу зразумець Тэсу. Я не змагла б атрымліваць асалоду ад жыцця ў яе становішчы. Большасць з нас зламалася б. І хоць яна акружана людзьмі, якія любяць яе, яна ні на секунду не забываецца, што хворая: «Я ўсяго толькі паміраю. Гэта не заразна».

Адзін з пунктаў плана Тэсы — каханне. Яна яшчэ не кахала, і вось па шчаслівай выпадковасці (як гэта часта бывае ў кіно і літаратуры) Тэса знаёміцца з Адамам. Яна верыць, што ён яе выратуе. Хаця б на час. З ім яна можа ісці далей, нешта рабіць, нечага чакаць.

Тэса — моцны чалавек. Неверагодна моцны. Мне здаецца, яна здольна прымусіць жыць каго заўгодна. Яна ўгаворвае блізкіх «падысці да краю і зрабіць крок». Яна ўмее вяртаць да жыцця ўсіх, акрамя сябе. Тэсе часта бывае балюча, яле яна можа ўсміхацца, змірыўшыся з гэтым. А ўсё дзякуючы Адаму. Ён слабы — баіцца ўсяго на свеце. Тэса кажа яму: «Мы асвоімся», хаця памрэ праз некалькі тыдняў. Ён здзіўляецца: «Мы з табой?» — «Так, я вярнуся ў нечыім аблічча».

Час ідзе. У Тэсы ўсё добра. Яна забылася на хваробу і смерць, яна кахае і спадзяецца. Толькі валасы растуць марудна. Гэта засмучае. Чаму час бяжыць хутка, а валасы растуць марудна? Ад кепскіх думак Тэса адгароджваецца, седзячы на лаўцы, у бяскрайнім полі, гледзячы на бясконцае мора. Так прыгожа і бесклапотна. Там няма нікога, там яна жыве і не ведае болю.

Тыдні пралятаюць, як хвіліны. Тэсу цікавіць, як яна памрэ. Не будзе балюча, будзе толькі цягнуць на сон. Будуць добрыя сны, не будзе зразумела, дзе ноч і дзень. Гэта жудаснае слова «дні»… У выніку яна проста сплыве, растворыцца, знікне.

За гады свайго кароткага жыцця Тэса навучылася цаніць, марыць і дзейнічаць. Дзейнічаць, а не гаварыць. Калі на ўліку кожная хвіліна, няма калі разважаць. Калі настае час сысці, Тэса адчувае, што падае. Яна прапануе Адаму пачаць адлік яго жыцця без яе. Тэса цяпер вольная, ёй зусім не страшна.

«Жыццё — гэта чарга імгненняў. І кожнае ты пражываеш да канца. Пражыві, пражыві іх усе. Чарга імгненняў. Няхай яны пройдуць. Імгненні, што непазбежна вядуць да галоўнага».

Апошні эпізод фільма: Тэса, яшчэ маленькая дзяўчынка, бегае па садзе ў промнях сонца. Я веру, што яна ў лепшым свеце.

У канцы прагляду мне зрабілася кепска. Невыносна балюча і шкада дзяўчынку. Жыццё часта бывае несправядлівым. Але часам не тое галоўнае, якая яго працягласць. Галоўнае — як мы яго пражываем.

Алена КАРП

# ПАД ПОЛЬСКАЙ АКУПАЦЫЯЙ

## *Літаратуразнаўчыя штудыі штотыднёвіка «Рунь» (1920)*

**«Няма крытыкі», — наракаў Змітрок Бядуля ў 1924 годзе [12, с. 6]. З гэтай адвечнай не толькі для нашай літаратуры скаргай можна было б перакінуцца ў цяперашні 2014-ы, зірнуць прыдзірліва, паўзважваць на шалях: ёсць / няма, to be or not to be... Але змарнуем такую выгадную падводку, бо насамрэч нас цікавіць, як выглядала беларуская літаратурная крытыка перыяду станаўлення ў асобным выданні, да якога, між іншым, сам Бядуля спрычыніўся.**

У 1920 годзе пад рэдакцыяй Янкі Купалы пачаў выходзіць штотыднёвік «Рунь», вакол якога, паводле У. Конана, «на вельмі кароткі час згрупаваліся літаратурныя і навуковыя сілы тагачаснай Беларусі» [9, с. 60]. «Рунь» раскашавала нядоўга — выйшла ўсяго 10 нумароў, а літаратурнае жыццё сапраўды віравала на яе старонках. Дастаткова сказаць, што тут былі надрукаваныя творы Максіма Багдановіча, Уладзіміра Жылкі, Алеся Гаруна, Францішка Аляхновіча, Леапольда Родзевіча, дый сам рэдактар упершыню змясціў у часопісе свае «Песні на ваяцкі лад» з пазнакай «Перадрук забараняецца». Рунець, красаваць, налівацца мусіла вучыць літаратурная крытыка, якая і сама ў той час яшчэ вучылася, шукала, якой быць. Нешматлікія адпаведныя публікацыі ў «Руні» даюць пэўны малюнак тэндэнцый, стратэгій, жанраў.

«Рунь» не выступала з праграмнымі заявамі — іх замянілі творы і публіцыстыка. Першы нумар адкрываўся вершам Янкі Купалы «У вырай», у якім сацыяльнае было непарыўна знітавана з эстэтычным. Адначасова як заклік да шырокай нацыятворчай працы і як патрабаванне мастацкіх здзяйсненняў, здольных заявіць пра маладую беларускую літаратуру на свет цэлы, чыталіся наступныя радкі:

> Гэй, вольныя птахі, патомкі крывічаў!
> Да неба! Па зоры і гром перуновы...
> Час крылля расправіць — пагудка ўжо кліча,
> Ўжо віхры цярэбяць да шчасця шлях новы.
> Гэй, вольныя птахі, ўладарнікі песні!
> На шляхі, пад сцягі красы і свабоды!..
> Час вылецець к славе з пагібельнай плесні
> І песняй агністай здзівіці народы! [10, с. 1]

Змешчаны на той жа першай старонцы артыкул Змітрака Бядулі «Рунь» раскрываў сімволіку назвы, якая, дарэчы, наўпрост перагукаецца з «Нашай Нівай». Вобраз сейбіта, спорнай руні як выніку яго працы быў запатрабаваны нацыянальным рухам, праз гэтую дасяжную і блізкую селяніну паралель: праца на зямлі — асветніцкая праца — даводзілася значнасць і перспектыўнасць апошняй.

«Наша беларуская літаратура, мастацтва, нашае нацыянальнае адраджэнне — гэта вясновая рунь, каторая красуецца пад сонцам. <...>

Нашыя сілы яшчэ маладыя, але беларускае адраджэнне расцець і павялічваецца з кожным днём. Будзіцца наш ратай да лепшай долі, рвецца да новага жыцця і сам хоча будаваць сваё шчасце.

Мы верым, што беларус стане гаспадаром свае зямлі. <...> Мы верым, што беларускае поле закрасуецца, закаласіцца пад гарачым сонцам раскошна і багата!»[1] [1, с. 1] — пісаў Змітрок Бядуля, і ягонае «мы»

---

[1] Можна параўнаць, як некалькімі гадамі раней гэтую вобразнасць распрацоўвала «Наша Ніва»: «Туга арэцца ніва наша спачатку, але зерня ўсходзяць, сыны забытага вялікага народу чуюць сваю павіннасць грамадзянскую, каторая заве іх да працы ў бацькаўшчыне». (Наша Ніва. — 1909. — 15 (28) кастрычніка); «Забыты народ, як зерне пад праменямі сонца, як Лазар, пад дзействам дзіву, ажыў...» (Наша Ніва. — 1910. — 1 (13) студзеня).

дазваляе ўспрымаць гэтыя словы як пазіцыю рэдакцыі, а не выключна аўтарскую.

Крытыка, як і ў часы нашаніўства, не абмяжоўвала сябе выключна літаратурнымі пытаннямі. Не толькі эстэтычныя, але і грамадзянскія ідэалы дэклараваліся аўтарамі ў артыкулах, у якіх пульсаваў дух часу. Час быў выйсці сейбіту на ніву сваю. Нацыянальнае пытанне, інтарэсы адраджэння былі тым складнікам, які апрыёры ўваходзіў у крытычную творчасць і тым не менш не засціў вочы, не быў фарсіраваным.

Так, калі Лявон Гмырак у артыкуле «Беларускае нацыянальнае адраджэнне», надрукаваным у зборніку «Велікодная пісанка» (1914), з маладой запальчывасцю і радыкалізмам (між іншым, у бібліяграфічнай даведцы «Руні» яго атэставалі як «вельмі шчырага беларуса і вялікага ідэаліста ў жыцці» [11, с. 7]) выкрэслівае з беларускага кантэксту творчасць Аляксандра Пшчолкі, то Яўхім Карскі на старонках «Руні» з прафесійнай разважлівасцю аднаўляе добрую рэпутацыю пісьменніка. Лявон Гмырак, з аднаго боку, стаяў на пазіцыях класавай барацьбы, з іншага, адчуваў сябе на варце беларускага адраджэння, і ад таго не мог прыняць творчасць аўтара, што «...дужа непрыстойна нападае на беларускае нацыянальнае адраджэнне», «На народ <...> глядзіць спачуваючы, але на яго мову, звычаі — з нескрыванай пагардай» [4, с.71]. «Пашаны да нацыянальнага беларускага гонару нідзе ў яго непрыкметна. У некаторых творах, найчасцей тых, што пісаны зусім па-беларуску, пісьменнік пускаецца на кпінкі з беларуса, кшталтам вясёлых “жыдоўскіх” ці “армянскіх” анекдотаў. Апавяданні Пшчолкі — месцамі гэта глум і здзек з беларуса» [4, с.71], — такі вырак крытыка.

Яўхім Карскі ў артыкуле «Беларускі пісьменнік-народнік А. Р. Пшчолка» вызначае пазіцыю Л. Гмырака як памылковую і здымае абвінавачванні калегі. Слова Карскага мае большы давер дзякуючы падрабязнай, разгорнутай аргументацыі, здольнасці стварыць пэўны літаратурны кантэкст вакол аўтара, сканцэнтраваць увагу на адметнасці яго таленту, эстэтычнай каштоўнасці твораў. Адсылка да Францішка Багушэвіча (Я. Карскі звяртае ўвагу на падабенства апавяданняў Ф. Багушэвіча «Сведка» і А. Пшчолкі «Свидетель») можа ўспрымацца і як апеляцыя да аўтарытэту пісьменніка, чыя рэпутацыя даволі трывалая, чыё апавяданне на той жа сюжэт, што і ў Пшчолкі, не западозранае ў непаважлівым стаўленні да беларуса і за якім апанент Карскага прызнаваў «пачэснае месца ў нашым пісьменстве»: «Багушэвіч скрануў беларускае нацыянальнае адраджэнне, падаў кліч, і яно памаленьку пачало разрастацца» [4, с. 69]. У пашыранай версіі артыкула (другая кніга трэцяга тома «Беларусаў») Карскі яшчэ раз звяртае ўвагу: «Что касается мнимых насмешек, издевательств над простым народом, то у Пщолки комический элемент не переходит границы возможности, и “насмешек” у него не больше, чем, например, у А. Павловича и некоторых других новейших писателей» [7, с. 367]; «...можно видеть, что отзыв Л. Гмырака о Пщолке очень пристрастен» [7, с. 369]. Падсумоўваючы, Карскі адназначна заяўляе: «кпінаў з беларуса нідзе няма»; «Пры выніку ўсяго сказанага можна бачыць, што дзеяльнасць Пшчолкі зусім адпавядае духу беларускага народу, каторы не без гумару адносіцца да розных жыццёвых з’явішч» [8, с. 8]. З рознасці ідэалагічных установак крытыкаў парадаксальным чынам вынікае і рознасць іх стратэгій. Л. Гмырак, празмерна палітызуючы літаратурны працэс, «ачышчае» яго ад ідэйных апанентаў, Карскі, будучы прадстаўніком рускай школы беларусазнаўства, дастаткова бесстаронні, калі Гмырак — праваднік, удзельнік нацыянальнага адраджэння, то Карскі — найперш навуковец, які глядзіць на беларускую літаратуру як на аб’ект свайго даследавання і ўзбагачае яе, надаючы легітымнасць тым творам, у якіх бачыць эстэтычную значнасць. Наогул жа сама магчымасць дыскусіі сведчыць пра тое, што ў 1920 годзе літаратурная крытыка была ўжо дастаткова актыўнай, разнастайнай і прадстаўнічай.

Нашаніўская крытыка намагалася вызначыць і падказаць аўтарам шлях, які не ігнараваў бы інтарэсы нацыянальнага адраджэння, але разам з тым не быў бы вузкім, вывеў бы ў свет, далучыў да сусветнай культуры. Вацлаў Ластоўскі і Максім Багдановіч у артыкулах «Аб патрэбе стылю ў жыцці народа» (1911) і «Забыты шлях» (1915) адпаведна вынайшлі неабходную формулу: праз народную творчасць — да ўласнай арыгінальнай,

праз адметнае нацыянальнае — да сусветнага. Змітрок Бядуля ў апублікаваным «Рунню» артыкуле «Стыль» не вынаходзіць чагосьці прынцыпова новага, але паўтарае, умацоўвае ў грамадскай свядомасці ўжо агучаную думку: «Заданнем беларускіх культурных працаўнікоў павінна быць выяўленне нашага стылю. Трэба паказаць багацтва і размаітасць беларускай душы з усіх бакоў, ва ўсіх яе формах і аздобах»; «Нашыя пісьменнікі, кампазітары, маляры павінны чэрпаць сваю творчасць з свежай крыніцы народнай душы» [2, с. 7]. Адным словам, тое, пра што казаў Бядуля, ужо было адкрыта, прадстаўлена як праграма і нават рэалізоўвалася. Але цікава таксама, як ён падае сваю думку. Жыццёвыя, простыя і канкрэтныя прыклады, максімальна разгорнуты ўступ, які паступова няўхільна падводзіць да тэмы, зварот да сакральных вобразаў, да святыняў, што мусіць быць для чытача ўражвальным: «Выбражэнне Хрыста можна дзяліць на эпохі, народы і класы: Хрыстос першых рыбароў, рымскіх часоў, інквізітараў, пустэльнікаў, крыжакоў, багатага і беднага чалавека і г.д.

Адзін ад аднаго вельмі розніцца.

<...>Мы павінны ва ўсіх праявах жыцця паказываць склад сваёй душы — свайго Хрыста» [2, с. 6—7].

Усё гэта дае падставы меркаваць, што Бядуля меў на ўвазе вельмі шырокую аўдыторыю — не толькі інтэлігенцыю, патэнцыйных аўтараў, якія будуць кіравацца гэтай эстэтычнай праграмай, але і чалавека з сацыяльных нізоў, якому каштоўнасць, паўнавартаснасць, не-«хамскасць» нацыянальнага трэба давесці, выгадаваць з яго ўдзячнага рэцыпіента будучых шэдэўраў.

Наогул, калі паспрабаваць прасачыць, што ж ставілася аўтарам у заслугу, на якія вартасці звяртала ўвагу прадстаўленая ў «Руні» крытыка, то мы будзем мець даволі працяглы і зусім чаканы пералік, дзе знойдзе сваё месца і актуальнасць, насычанасць ідэйнага зместу, і псіхалагізм, і займальнасць, і валоданне словам, пластычнасць апісанняў, у цэлым усё тое, што і сёння цэніцца ў мастацкай творчасці. З недахопаў скласці пералік не атрымаецца. Хіба што А. Данілевіч заблытаўся ў сюжэце «Антона» М. Гарэцкага і на вачах чытача даваў рады свайму непаразуменню ды ўказаў таму ж аўтару, што, можа, і не варта ўжываць так «шмат чыста магілёўскіх правінцыялізмаў, напрыклад: «наканованае» прадчуццё, «спакідацца» (расставацца), «стродкая» (?), «грэбліва» (?), маўклівы...» [5, с. 8] Варта сказаць, што М. Гарэцкі меў уласную пазіцыю адносна беларускай мовы і яе ўзбагачэння, ясна выказаную ў артыкуле «Наш тэатр»: «Пісьменнік наш<...> мае доўг прад Беларуссю абгледзець, як дарагі камень, кожнае слоўца, зважыць, абсмакаваць і ўцяміць сілу яго. Ён павінен дбаць аб прыгажосці мовы не прыдуманай, а праўдзівай, бо прыдуманае-няўдалае ў мове дужа прыкра... Пісьменнікі нашы павінны ведаць той багаты славесны скарб, што сабралі дагэтуль на нашай ніве шаноўныя за гэткую працу дабрадзеі: Насовіч, Шэйн, Раманаў, Карскі і др. Пісьменнікі беларускія! Пільней прыслухвайцеся к мове людзей нашых на рынку, на кірмашы і ўсюды-ўсюды, і тыя, што жывяцё на захадзе Беларусі, даведайцеся, як гаворань на яе ўсходзе, а ўсходнія пабывайце на захадзе» [3, с. 583—584]. Крытык мог ведаць гэты тэкст, прынамсі, ён не прапаноўваў тыя дыялектызмы выкарчаваць, а ўсяго толькі раіў падаваць тлумачэнні і заўважаў, што нягледзячы на іх шматлікасць, апавяданне тым не менш чытаецца лёгка.

Крытыка «Руні» была лаяльнай і незласлівай, яе задачай хутчэй было паказаць аўтара чытачу, чым указаць аўтару яго слабыя месцы[1]. Часам, праўда, лаяльнасць набывала двухсэнсоўную форму. Так, у кароткіх біяграфічных даведках пра пісьменнікаў Альфонс Петрашкевіч атэстуецца як «скромны салоўка беларускіх зялёных далін і кволага бярэзніка ля рэчкі» [13, с. 7]. Такая заніжаная прэ-

[1] Рэдакцыя «Руні» ўсведамляла неадпаведнасць паміж прызначэннем і статусам пісьменніка. Паказальны апублікаваны ў штотыднёвіку жарт: «Беларускі літаратар, бачачы, як сторож вайсковай камісіі набівае сабе жывот белай булкай з салам, сказаў яму з вялікай зайздрасцяй і сумам:

— Мой ты Божухна! Я гэтак смашна паядаць не маю за што…

— Бо трэба было ягамосцю змалку дзён чаго-небудзь парадачнага навучыцца, дык і меў бы за што паядаць». (Рунь. — 1920. — № 9 — 10).

зентацыя кантраставала з «арліна-сакалінай» сімволікай праграмнага верша Купалы. Нельга, аднак, казаць, што аўтар даведкі не меў да пісьменніка шчырай, хай сабе і наіўнай у сваім выяўленні, сімпатыі. Непрафесіяналізм А. Петрашкевіча («Паэзія яго — шчырая, простая, пісаная мазольнай рукой маладога селяніна-хлебароба» [1, с. 7]) не ўспрымаўся як недахоп, бо ў тым ліку і з сялянства ўзгадоўвалася нацыянальная інтэлігенцыя. Да таго ж, той факт, што цягам васьмі гадоў пісьменнік выступаў у друку, сведчыў пра яго як пра чалавека, які прыйшоў у літаратуру невыпадкова. Таму пры ўсёй сваёй непрэзентабельнасці найменне «скромны салоўка» было станоўчай характарыстыкай.

Стылёва крытыка «Руні» не была аднароднай, усё ж яе прадстаўнікі мелі неаднолькавую прафесійную падрыхтоўку, валодалі рознымі тэмпераментамі і ў сілу гэтага выяўлялі розныя крытычныя стратэгіі.

Напрыклад, Я. Карскі не даваў сабе такой свабоды самавыяўлення, як калегі. Нягледзячы на яго ўдзел у палеміцы наконт А. Пшчолкі, даследчык усё ж не займаўся расстаноўкай сіл, вызначэннем рэпутацый. Ён выступаў як збіральнік, гісторык літаратуры. І такая сціплая роля мела, аднак, зусім не сціплае значэнне для культуры, у якой ён працаваў. Гэта разумеў і сам даследчык, з поўным правам даючы ў артыкулах спасылкі на сваю фундаментальную працу «Беларусы», і рэдакцыя «Руні», якая не хавала свайго зычлівага стаўлення да «паважанага прафесара» і ахвотна прадастаўляла старонкі выдання для літаратуразнаўчых і этнаграфічных даследаванняў Я. Карскага. У прадмове да перавыдання трохтомніка «Беларусы» 2007 года зазначана: «У метадалагічным плане Я. Ф. Карскі адчуў вызначальны ўплыў ідэалогіі пазітывізму, адным з ключавых момантаў якой быў практыцызм. <…> Літаратурная крытыка і літаратуразнаўства перыяду пазітывізму мелі амаль выключна справаздачны і канстатацыйны характар» [6, с. 20]. Гэта выразна заўважна і па прадстаўленых у «Руні» артыкулах. Я. Карскі педантычна збіраў і выкладаў матэрыялы, датычныя пачынальнікаў беларускай літаратуры, у поле яго зроку траплялі і тыя аўтары, інфармацыі пра якіх небагата (напрыклад, Арцём Вярыга-Дарэўскі), але без чыіх імёнаў гісторыя не будзе поўнай. Замест прырашчэння сэнсаў, інтэрпрэтацыі Я. Карскі даваў інфармацыю, па магчымасці дакладную, прынамсі спраўджаную ва ўсіх даступных крыніцах. Тут трэба, аднак, агаварыцца, што друкаваныя ў «Руні» артыкулы датычыліся літаратуры XIX стагоддзя, у адносінах да якой такая збіральніцкая і класіфікатарская праца была і апраўданай, і ўхвальнай. Тады як ацэнка Карскім літаратуры XX стагоддзя выклікала ў навуковых колах пэўныя, у многім справядлівыя, пярэчанні.

Рэцэнзіі А. Данілевіча, прысвечаныя кнігам Максіма Гарэцкага, хоць і мелі свае вартасці, не ўздымаліся, тым не менш, да ўзроўню прафесійнай крытыкі. Данілевіч заставаўся на паверхні тэксту, адказы на свае пытанні ён шукаў непасрэдна ў сюжэце, не даючы сабе заглыбіцца ў аналіз. Большую частку яго рэцэнзій займае даволі падрабязны пераказ зместу, які па аб'ёме перавышае каментарый з нагоды прачытанага. Яшчэ адна прыкмета аматарскай крытыкі — незасвоены тэрміналагічны апарат. Нягледзячы на тое, што «Дзве душы» М. Гарэцкага пазначаныя тут жа, у бібліяграфіі, як аповесць, крытык паслядоўна называе твор апавяданнем.

Непрафесійнасць кампенсуецца жывой, непасрэднай рэакцыяй на твор, індывідуальна-аўтарскім бачаннем, якім крытык эмацыйна дзяліўся з чытачом. Сувязь літаратуры з жыццём успрымалася як апрыёрная, а актуальнасць — як несумненная вартасць. Прачытанае рабілася нагодай для разважанняў пра нядаўнюю гісторыю і сённяшнюю сітуацыю, спробай зірнуць на яе і ацаніць з тых ракурсаў, якія падказвае пісьменнік: «Апавяданне не толькі напамінае нам пражытую кожным з нас у сваёй душы барацьбу, але яно выклікае ў нас новыя думкі, яно змушае нас перагледзець нашыя адносіны да падзеяў апошніх гадоў»; «Больш “сучаснае” кніжкі нам не прыходзілася спатыкаць у апошнія гады» [5, с. 8]. Відавочна, крытык сачыў за літаратурным працэсам і, вылучыўшы сярод іншых, вітаў кнігу Гарэцкага як своечасовую і адметную ў мастацкім плане.

З. Бядуля, які ў «Руні» прадстаўляў так званую пісьменніцкую крытыку, уздымаў пытанні эстэтычнага характару. Разам з тым ён паслядоўна працягваў і развіваў тэзісы нашаніўскай крытыкі. Гэта датычыцца як разгледжанага вышэй артыкула «Стыль», так і тэксту, прысвечанага творчасці М. Баг-

дановіча, — «Натхненне і гармонія». Апошні хутчэй выяўляе паэтычны талент З. Бядулі, чым дае новае, больш шырокае ўяўленне пра М. Багдановіча. На час публікацыі ўжо былі вядомыя працы А. Луцкевіча «Пясняр чыстай красы», «Максім Багдановіч», ды і сам паэт яшчэ да вайны, выступаючы як крытык і тэарэтык, агучваў сваю эстэтычную праграму. З. Бядуля, па сутнасці, не выходзіў за межы вядомага, паўтараў ужо напрацаванае крытыкай. І такое паўтарэнне ўмацоўвала за паэтам вобраз выключна «жраца хараства», «паэта чыстай красы». Артыкул Бядулі і ёсць апалогіяй хараства: тыя пастулаты, што ён знаходзіў у Багдановіча, адпавядалі яго эстэтычным запатрабаванням, адгукаліся ва ўласнай творчай практыцы. Магчыма, ён адпачатку шукаў сугучнасці, супадзенняў, пацвярджэння ўласных шуканняў, са спакойным сумленнем пакідаючы па-за ўвагай іншыя бакі творчасці ўлюбёнага аўтара. Гэта адна са спецыфічных рыс пісьменніцкай крытыкі, гэтаксама як і эсэістычнасць, разняволенасць, шырокае выкарыстанне ўласна мастацкіх сродкаў, што шчодра дэманструе З. Бядуля.

З таго, што матэрыялы літаратурнай тэматыкі з’яўляліся ў «Руні» даволі рэгулярна і былі даволі розныя, як па стылі, жанрах, так і па вазе, значнасці, можна меркаваць пра не выпадковы і не эпізадычны інтарэс да літаратурнай крытыкі ў 1920 годзе. Яе неабходнасць была ўсвядомлена колам прафесійных літаратараў. На момант узнікнення «Руні» ўжо існавала пэўная крытычная традыцыя, крытыкі выдання ўжо мелі сваіх папярэднікаў і ў айчыннай літаратуры, маглі абапірацца на чужыя напрацоўкі, як рабіў тое, напрыклад, З. Бядуля, альбо аспрэчваць іх (Я. Карскі супраць Л. Гмырака). Імі былі выказаны меркаванні і ацэнкі (напрыклад, што да М. Гарэцкага), выпрацаваны спосабы ўзаемадзеяння з чытачом (спакойная разважлівасць і цвёрдасць Карскага, арыентацыя на адметнасць аўдыторыі і палымяная натхнёнасць Бядулі), адэкватныя і нашаму часу. Разам з тым былі ў літаратурных матэрыялах «Руні» і заканамерныя ў перыяд станаўлення мінусы (падрабязны пераказ зместу, агульныя фразы), якія тым больш недарэчна і архаічна выглядаюць у сучаснай крытыцы.

**ЛІТАРАТУРА**


1. Бядуля, З. (З. Б.) Рунь / З. Бядуля // Рунь. — 1920. — 2 мая. — С. 1.
2. Бядуля, З. Стыль / З. Бядуля // Рунь. — 1920. — 16 мая. — С. 6—7.
3. Гарэцкі, М. Наш тэатр / М. Гарэцкі // Выбраныя творы / М. Гарэцкі. — Мінск, 2009. — С. 579—587.
4. Гмырак, Л. Беларускае нацыянальнае адраджэнне / Л. Гмырак // Творы: Проза. Крытыка. Публіцыстыка / Л. Гмырак. — Мінск, 1992. — С. 52—85.
5. Данілевіч, А. (А. Д.) Максім Гарэцкі. Дзве душы / А. Данілевіч // Рунь. — 1920. — 2 мая. — С. 8.
6. Запрудскі, І. М. Прадмова да трэцяга тома працы Я. Ф. Карскага «Беларусы» / І. М. Запрудскі, І. В. Казакова, У. Г. Кароткі // Белорусы: В 3 т. Т. 3, кн. 1. Очерки словесности белорусского племени / Е. Ф. Карский; предисл. к третьему тому И. Н. Запрудского, И. В. Казаковой, В. Г. Короткого, комент. к первой книге И. В. Казаковой. — Минск, 2007. С. 5—28.
7. Карский, Е. Ф. Александр Романович Пщолко / Е. Ф. Карский // Белорусы: В 3 т. — Минск, 2007. — Т. 3, кн. 2. Очерки словесности белорусского племени. — С. 365—370.
8. Карскі, Я. Беларускі пісьменнік-народнік А. Р. Пшчолка / Я. Карскі // Рунь. — 1920. — 16 мая. — С. 7—8.
9. Конан, У. М. Беларуская эстэтычная думка ў першыя гады савецкай улады / У. М. Конан // Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі / У. Конан. — Мінск, 1968. — С. 38—76.
10. Купала, Я. У вырай / Я. Купала // Рунь. — 1920. — 2 мая. — С. 1.
11. Лявон Гмырак (Л. Бабровіч) // Рунь. — 1920. — 9 мая. — С. 7.
12. Мушынскі, М. І. Ранні перыяд беларускай савецкай крытыкі і літаратуразнаўства (першая палавіна 20-х гадоў) / М. І. Мушынскі // Беларуская крытыка і літаратуразнаўства (20—30-я гады) / М. І. Мушынскі. — Мінск, 1975. — С. 5—59.
13. Петрашкевіч, А. (Ф. Калінка) // Рунь. — 1920. — 2 мая. — С. 7.

# НАДЗЕЯ АНУФРЫЕВА: «"ЗУБРОНАК" — ГЭТА СІТА, ЯКОЕ ПРАСЕЙВАЕ ЛЮДЗЕЙ»

*З дырэктарам Рэспубліканскага адукацыйна-аздараўленчага цэнтра «Зубронак» гутарыла Тамара САРАЧЫНСКАЯ.*

**— Раскажыце гісторыю «Зубронка»: як ён ствараўся, мяняўся…**

— «Зубронку» ўжо 45 гадоў. Дзень нарадзін мы адзначаем 17 жніўня, калі была праведзена першая ўрачыстая лінейка. Тады ж на памяць усім пакаленням заклалі камень з гэтай датай. З той пары, што б ні здарылася, кожны год 17 жніўня тут абавязкова праводзіцца свята, калі адчыняюцца дзверы для ўсіх, хто калісьці адпачываў або працаваў у «Зубронку». 45 — гэта, можа, не так і шмат, але нам дарагі кожны год. «Зубронак» — гэта штосьці маладое, гэта дзеці і важатыя — малады педагагічны калектыў. Кожнае пакаленне на працягу ўсіх 45 гадоў спрыяла таму, каб «Зубронак» развіваўся.

**— А як асабіста вам тут працуецца? Цяжка ці радасна?**

— Я лічу, што «цяжка» — гэта калі абставіны вакол якія-небудзь звышчалавечыя, не іначай. Вось нашым бацькам і дзядам на ваенных франтах было сапраўды цяжка. А сённяшняму пакленню грэх скардзіцца. А праца, якой бы і дзе б ні была, — гэта проста праца. У кожным разе, такая, якую ты сам выбраў.

**— Што вы лічыце сваім самым вялікім дасягненнем падчас працы ў «Зубронку»?**

— Нічога вялікага я не здзейсніла: у космас, як Гагарын, не лятала. Але, працуючы ў «Зубронку», нейкі ўнёсак зрабіла ў аблічча цэнтра. Мы дамагліся паляпшэння ўмоў працы педагогаў. Бо без гэтага было б вельмі цяжка сёння прыцягнуць педагагічныя кадры: мы ж аддаленыя ад вялікіх гарадоў. Але ведаючы, што ўмовы ў нас лепшыя, чым у іншых месцах, у «Зубронак» прыязджаюць па размеркаванні. Праўда, у нас даволі высокія патрабаванні. У нашай уставе і ва Указе Прэзідэнта пазначана, што



цэнтр «Зубронак» створаны для адпачынку дзяцей, якія дасягнулі поспеху ў вучобе, спорце, творчай дзейнасці. Зразумела, што для працы са здольнымі дзецьмі патрэбны такія ж здольныя педагогі. Бо калі дзіця па ўзроўні свайго развіцця, ініцыятывы, лідарскіх якасцей, арганізатарскіх здольнасцей будзе перавышаць педагога, каго ж мы выхаваем? Таму і патрабуем, каб у нас працавалі падрыхтаваныя спецыялісты з адпаведнымі ведамі і актыўнай асабістай пазіцыяй. Гэта павінны быць лідары па натуры. Часам па размеркаванні да нас прыязджае выдатнік, але ў ім няма ні агню ў душы, ні запалу да працы. Іншы ж — хоць і не выдатнік, але мае вялікую любоў да дзяцей, жаданне нешта для іх рабіць. Калі дзецям добра, то і яму добра. Ён прыдумшчык, энту-

зіяст. Педагог «Зубронка» павінен любіць сваю працу, валодаць патрэбнымі ведамі і чалавечымі якасцямі. Таму мы здзяйсняем адбор, папярэдне гутарым са студэнтамі ВНУ. «Зубронак» — гэта сіта, якое прасейвае людзей. Шмат хто пра сябе думае, што ён дакладна «што трэба» на гэтай пасадзе. А высновы робяць дзеці. Мы праводзім анкетаванне, сочым за стаўленнем дзяцей да выхавацеляў, і большасць лічыць, што важаты стаў сябрам, таварышам, правадыром. Толькі адзінкі адказваюць, што ён быў проста выхавацелем. Аднак сказаць, што ўсе выхавацелі на 100 працэнтаў узорныя, — нельга. Так бывае толькі ў ідэале.

**— Ці можна ваш калектыў назваць дружным?**

— Ён у нас вельмі вялікі — 400 чалавек. Сябраваць такой колькасцю — складана. Калектыў найперш мусіць вырашаць пэўныя задачы, а ўзаемаадносіны ў ім павінны спрыяць вырашэнню гэтых задач. Пра свой калектыў хачу сказаць, што ён творчы; пастаўленыя задачы вырашаюцца; узаемадзеянне забяспечана на годным узроўні. А ў мікракалектывах завязваюцца сяброўскія адносіны. Такі калектыў — гэта ідэальны вобраз, да якога варта імкнуцца. Нашы педагогі працуюць у мікракалектывах, і там мы імкнёмся іх з'яднаць, але таксама заклікаем падтрымліваць агульныя інтарэсы. Сказаць, што не бывае спрэчак, нельга. Але я лічу, што калі няма супярэчнасцей і канфліктных сітуацый, то калектыў не развіваецца.

**— Якія традыцыі існуюць у вашым калектыве?**

— Адна з самых спрыяльных — падвядзенне вынікаў працы за год у апошні дзень апошняй змены. Мы праводзім сход працоўнага калектыву, вызначаем лепшых, узнагароджваем і абавязкова ладзім сумесны канцэрт, свята. Гэтай традыцыі ўжо 13 гадоў. Ёсць традыцыі супрацоўніцтва з грамадскімі арганізацыямі: прафсаюзным камітэтам, першаснымі ячэйкамі грамадскіх арганізацый «Белая Русь» і БРСМ, Жаночым саветам, Моладзевым камітэтам. Іх прадстаўнікі прысутнічаюць на нашых планёрках і вельмі шмат робяць для нашага калектыву. Нядаўна дзякуючы прафсаюзнаму камітэту больш за 160 чалавек на чатырох аўтобусах ездзілі ў цырк. Ёсць традыцыя ўшанавання ветэранаў: яны бываюць у «Зубронку» разоў пяць на год. Яшчэ мы праводзім з супрацоўнікамі цэнтра гуканне вясны: у гэта мерапрыемства ўваходзяць спартыўныя спаборніцтвы, конкурс мастацкай самадзейнасці тыпу «Хвіліна славы» або «Еўрабачанне па-зубронкаўску». Некалькі апошніх гадоў ладзіцца конкурс «Міс Зубронак». У ім удзельнічаюць не толькі важатыя, але і прадаўцы, і супрацоўнікі бухгалтэрыі, іншыя работнікі. Пераможцы атрымліваюць сур'ёзныя падарункі кшталту турыстычных падарожжаў, нават у Парыж. Іншымі словамі, ёсць за што пазмагацца. Пераможцу конкурсу «Важаты года» выдаецца грашовая ўзнагарода памерам прыкладна ў 1 000 долараў. Але каб стаць найлепшым важатым, трэба не проста паўдзельнічаць у шоу, трэба сумленна працаваць цягам года. Трэба сачыць, як кожную змену цябе па розных параметрах ацэньваюць дзеці і метадысты. Толькі тады ты можаш хаця б трапіць у фінал.

Выдатна, калі дзеці, якія самі адпачывалі ў «Зубронку», скончыўшы педагагічную навучальную ўстанову, вяртаюцца сюды працаваць. У нас ёсць два яскравыя прыклады. Першы — Павел Пятроўскі, які адпачываў у «Зубронку» сямнаццаць разоў, скончыў педагагічны каледж, прыехаў працаваць у цэнтр, дзесяць гадоў быў важатым, а зараз працуе кіраўніком гуртка. Другі выпадак — Вераніка Нямірава (інтэрв'ю з гэтай важатай можна прачытаць у № 2 часопіса «Бярозка». — **Заўвага рэдактара**). Яна скончыла эканамічны факультэт, па размеркаванні трапіла ў банк, адпрацавала там належны тэрмін, але ўсё роўна прайшла перападрыхтоўку, каб працаваць у «Зубронку». Вось такія важатыя нам патрэбны. Магу прывесці прыклад, як Вераніка працуе: падчас мерапрыемства стаяць важатыя і Вераніка сярод іх. Адзін хлопчык сядзіць у капюшоне. Яна, пратанцоўваючы, просіць яго рухамі зняць капюшон. Хлопчык спачатку не разумее. Яна зноў паказвае. Хлопчык здымае капюшон, а яна — вялікі палец угару: «Малайчына!» Вераніка хуткая, энергічная. Ніколі не бачыла, каб яна проста спакойна крочыла — увесь час у больш хуткім руху.

**— А сярод дзяцей у вас ёсць любімчыкі?**

— Кожнае дзіця прыязджае да нас рэдка, раз на год, таму цяжка да кагосьці па-

сапраўднаму прывязацца. Але быў у нас адзін хлопчык з Санкт-Пецярбурга. Калі ён прыязджаў, то абавязкова прыходзіў да мяне і, як дарослы, распытваў, што за год змянілася. У мінулым годзе бацькі пакаралі яго з-за дрэнных адзнак — не набылі пуцёўку. Не магу сказаць, што я вылучаю любімчыкаў, але з дзецьмі, якія нечым ярка выдзяляліся, сустрэцца праз год вельмі прыемна. Прыклад — Ліда Заблоцкая. Яна цудоўна спявае, мы ёю ганарымся. Менавіта на нашым мерапрыемстве яна атрымала першы гран-пры, а потым ужо на Еўрабачанні заняла трэцяе месца. Натуральна, ёсць дзеці, якіх ведаеш больш. Увогуле, пра любімчыкаў лепей пытацца ў важатых атрадаў. А я старалася заўсёды, нават калі займалася выкладчыцкай дзейнасцю, не паказваць, што маю прыхільнасць да пэўных дзяцей. З некаторымі, праўда, перапісваюся ў інтэрнэце. Адзін хлопчык неяк запытаўся, хто ўсё ж такі быў маім любімчыкам. Я адказала: «Калі ты не заўважыў, то лічы, што іх не было».

**— Якія з распрацаваных у «Зубронку» праграм вы лічыце самымі ўдалымі?**

— Беларуска-расійская змена Саюзнай дзяржавы «За гонар Айчыны», у якой удзельнічалі кадзеты, была вельмі прыгожай, вельмі «мужчынскай»: форма, пастраенні, ваенная выпраўка. Яна не магла не запомніцца. Паралельна ёй праходзіла змена Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Змена МНС мне падабаецца стаўленнем самога міністэрства. Калі прыязджае міністр, ён адразу трапляе ў цэнтр увагі: дзеці ведаюць яго, а ён ведае дзяцей. Удзел міністэрства выклікае шчырую павагу, гэтаксама як і ДАІ Мінскай вобласці — яны дэманструюць вялікі клопат пра дзяцей.

Знакавымі з'яўляюцца міжнародныя змены. На працягу ўжо некалькіх год летам у нас праходзіць моладзевы міжнародны форум «Сяброўства без межаў». Заўсёды складана арганізаваць яго, забяспечыць прысутнасць розных краін. Але калі такая змена збіраецца, атрымліваецца вельмі цікава. Змена «Гуляюць дзеці — гуляем мы» цікавая сваёй шматслойнасцю. Спачатку падрыхтоўка да змены — конкурс сярод важатых «Гуляем мы», калі кожны праводзіць конкурсную гульню з дзецьмі. Потым прыязджаюць дзіцячыя каманды і прымаюць удзел у конкурсах. Пасля далучаюцца культарганізатары са школ, палацаў дзіцячай творчасці і іншых устаноў адукацыі і праводзяць з нашымі дзецьмі свае конкурсныя праграмы. На гэту змену прыязджаюць замежныя госці. І кожны прыводзіць якую-небудзь цікавую гульню. Гульня — гэта тэхналогія, якой мы карыстаемся кожную змену, але тут яна прысутнічае ў вялікай канцэнтрацыі. Люблю, калі ў нас праходзяць змены творчага плану. Напрыклад, «Адысея розуму», таксама міжнародная змена. Першы раз у ёй удзельнічалі дзеці з 15 краін: Швейцарыі, Германіі, Польшчы, Славакіі... Каманды рознаўзроставыя: ад 6 да 18 гадоў. Адна з умоў — конкурсы ладзяцца на англійскай мове, што стымулюе яе вывучэнне. Гэтыя конкурсы актыўна падтрымліваюцца бацькамі, якія прыязджаюць разам з дзецьмі. Але па ўмовах усе працы павінны выконвацца дзецьмі.

**— Ці змяняюцца дзеці за змену?**

— Вядома! Напачатку змены адразу бачна тых, хто бываў у «Зубронку» раней, — нават і пытацца не трэба. На прывітанне яны кажуць: «Добрай раніцы!» У нас ёсць традыцыя казаць не «Прывітанне!», а «Добрай раніцы!», «Добры дзень!», «Добры вечар!» Пад канец змены ўжо ўсе вітаюцца такім чынам. Калі напачатку змены ў навічкоў шмат пытанняў, то пад канец усе дакладна ведаюць свае абавязкі і, ад'язджаючы, пакідаюць пакоі прыбранымі. Аднаго разу мне патэлефанаваў тата, каб падзякаваць за тое, што мы навучылі яго сына засцілаць ложак. А мама адной дзяўчынкі хвалілася, як яна доўга не магла паверыць, што яе дачка сама здолела скласці чамадан… Дзіця ў нас прывыкае да самаабслугоўвання, вучацца за сабою глядзець. Дзеці хутка засвойваюць правіла: каб сказаць, трэба падняць руку, а не крычаць. Вядома, за 21 дзень кардынальна змяніцца немагчыма. Трэба стварыць умовы для самаразвіцця і самавыхавання. Мне здаецца, многія менавіта ў нас упершыню задумваюцца пра важныя рэчы, напрыклад, пра выбар прафесіі.

**— Як бы вы сфармулявалі: чаму варта наведаць «Зубронак»?**

— У «Зубронак» варта прыязджаць, таму што ён дакладна дае штуршок да развіцця.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# ПРЫВІТАННЕ З 1928 ГОДА

Гэтая невялікая паштоўка спачатку была для мяне проста фотаздымкам, які я не раз бачыў у эмігрантазнаўчых публікацыях Лявона Юрэвіча. На прыступках нейкага будынка (як мне здаецца, сёння гэта Рускі тэатр імя Горкага) стаялі беларускія літаратары: Алесь Дудар, Васіль Каваль, Аркадзь Мардвілка, Ізраіль Плаўнік, Наталля Вішнеўская, Мікола Нікановіч, Зінаіда Бандарына, Ілары Барашка. Многіх з іх праз якія 5—10 гадоў чакае блуканне па пакутах: лагер, высылка, следства, расстрэл. Некаторыя ацалеюць.

Якім жа было маё здзіўленне, калі я ўбачыў арыгінал гэтага здымка, які захаваўся ў зборах Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. На адвароце яго быў ліст да аднаго з прыкметнейшых пісьменнікаў 1920-х гадоў Алеся Дудара, напісаны на ўкраінскай мове. Урэшце ўвесь тэкст атрымалася прачытаць. Вось ён.

*Б.С.С.Р.*
*Менск.*
*Правадная, 15а кв. 2*
*Ал. Дудару*

*1928. 19/XI*

*Дорогий Алесь!*

*Кожного дня збіраюся тобі надіслати листа і кожного дня не встигаю. Зараз примусив себе хоч листівку послати. Не гнівайся на мою мовчанку і адгукнуся. До речі,*



*пороблю ще фото, то пришлю. Готуемо з Поліщуком книжку «Білорусь крокуе» про нашу подоріж. Як жівете? Привіт Сташевському, Баращі, Чароту, Вишневській і всім. І досі найкращі спомини — це спомини про Білорусь.*

*Твій Андрій.*

*Передай вибачення т. Вишневській, що так її покалічено в «Молодняку» на фото. Я в тому не винен.*

*Харків, ул. Лібкнехта 31, «Плуг».*
*А. С. Панів*



*Андрый Сцяпанавіч Паніў.*

Аўтар ліста, Андрый Сцяпанавіч Паніў (ці, больш звычна па-нашаму, Паноў) (1899—1937) — адзін з прадстаўнікоў украінскага «расстралянага адраджэння», паэт, перакладчык, арганізатар літаратурнага працэсу ў Харкаве. У прыватнасці, быў нязменным адказным сакратаром літаратурнага аб'яднання «Плуг».

Біяграфія яго амаль тыповая для пакалення: нарадзіўся ў небагатай сям'і пісара. Скончыў настаўніцкую семінарыю, пасля рэвалюцыі — інстытут народнай адукацыі (1921—1925). Потым — літаратура і журналістыка: праца ў газетах «Селянська правда», «Вісті ВУЦВК», «Культура і побут», «Комуніст», часопісах «Плуг», «Плужанин», «Шляхи мистецтва», «Комунарка України», «Сільськогосподарський пролетар», «Сількор України», «Всесвіт». Асобнымі кніжачкамі пабачылі свет зборнікі вершаў «Вечірні тіні» (1927), «Без межі» (1933), кніга для дзяцей «Як звірі хату будували» (1925), зборнікі навелаў «Село» (1925), «Христя» (1928), а таксама некалькі падручнікаў для малодшых школьнікаў.

Украінска-беларускае пабрацімства 1920-х гадоў яшчэ не да канца вывучана. Больш вядома пра кантакты з Украінай Янкі Купалы і Якуба Коласа. Так, у фотакаталогу Купалы «Ты гэтых вачэй не забудзь...» (2012) можна ўбачыць фота беларускіх пісьменнікаў у Харкаве 3 сакавіка 1928 года. Побач з Купалам, Коласам, Гартным, Чаротам, Зарэцкім — і сябры Андрыя Панова — Валяр'ян Палішчук, Сяргей Піліпенка, Пётра Панч, Паўло Тычына. Безумоўна, і ён сам пазнаёміўся з літаратарамі з Беларусі. Пацвярджае гэта іншы здымак з каталогу, датаваны ўжо 19 мая 1928 года. На падворку дома Янкі Купалы ў Мінску — група ўкраінскіх гасцей з беларускімі сябрамі. Першы злева ў другім шэрагу — Андрэй Паноў. Вельмі можа быць, што пра гэтую паездку ён і згадвае ў паштоўцы да Алеся Дудара. А здымак на прыступках зроблены тады ж — вясной 1928 года.

Арыштавалі Панова ў 1934-м, пасля нядаўняга забойства Кірава, калі рухавік рэпрэсій, знайшоўшы сабе апраўданне, разгарнуўся з шалёнай сілай. 10 гадоў СЛОНу — «Соловецкий лагерь особого назначения», а праз колькі часу — за арганізацыю (у лагеры?) партыі «Всеукраїнський центральний блок», шпіянаж і падрыхтоўку тэрактаў — расстрэл у 1937-м.

Дудара арыштуюць значна раней — за верш «Пасеклі наш край папалам» у сакавіку 1929-га, праз тры месяцы пасля гэтай паштоўкі. Потым высылка ў Смаленск, нібыта дараванне, і праца ў 1930-я гады ў пісьменніцкай грамадзе. Але ў 1936-м ізноў дастануць ягоную справу і асудзяць, расстраляюць за некалькі дзён да Андрэя Панова — у страшную ноч на 30 кастрычніка 1937 года, калі былі забіты больш за 100 культурных дзеячаў Беларусі.

Але на паштоўцы — па-ранейшаму маладыя твары, і украінскі сябра прабачаецца за няякасны друк фота ва ўкраінскім часопісе «Молодняк» — аналагу беларускага «Маладняка», як быццам гэта сама вялікае гора, што можа быць для маладога літаратара.

*Леанід ЛАЎРЭШ*

# ПРЫГОДЫ СЯРГЕЯ ПЯСЕЦКАГА НА ЛІДЧЫНЕ



*Станіслаў Ігнацы Віткевіч. Партрэт Пясецкага, (1939).*

Пасля заканчэння Савецка-польскай вайны Сяргей Пясецкі, жаўнер Літоўска-беларускай дывізіі, абаронца Варшавы 1920 года, застаўся без пэўнага занятку. Пра гэты час ён расказвае ў аповесці «Жыццё раззброенага чалавека», беларускі пераклад якой нядаўна з'явіўся. Частка дзеянняў гэтай аповесці адбываецца на пачатку 1920-х у Лідзе. Тут галоўны герой, пераапрануўшыся ў беднага беларускага селяніна, размаўляе па-беларуску і прадае лідскім яўрэям фальшывы вэксаль.

Каб неяк выжыць, Сяргей Пясецкі пачаў супрацоўніцтва з 2-м аддзелам Генеральнага штаба польскай арміі — выведкай. Добрае веданне моў, фізічная падрыхтоўка і набыты сярод мінскіх зладзеяў спрыт зрабілі з яго выдатнага выведніка.

Аднак выведка плаціла няшмат, таму Пясецкі заняўся кантрабандай. Ён неаднаразова пераходзіў Савецка-польскую мяжу, бывала што і па 30 разоў на месяц. Потым расказваў, што толькі за лета 1925-га прайшоў пешшу больш за 8 000 кіламетраў. За ўцёкі з засады, якую арганізавала ГПУ, і ўратаванне калегі атрымаў чын падпаручніка.

Пясецкі падтрымліваў кантакты і з савецкімі камандзірамі, прывучаючы іх да какаіну. Потым пачаў займацца кантрабандай наркотыкаў. Сам стаў наркаманам, учыніў шэраг скандалаў з кіраўніцтвам і ў лютым 1926-га з выведкі быў звольнены. Але ёсць версія, што нібыта ён, Сяргей Пясецкі, выявіў сувязі паміж Саветамі і некаторымі ўплывовымі польскімі асобамі.

Такім чынам, Пясецкі зноў стаў чалавекам без працы. У пошуках уратавання спрабаваў нават уступіць у Замежны легіён. Пра гэты час расказваюць ягоныя творы «Пяты этап» і «Каханак Вялікай Мядзведзіцы», якія існуюць у перакладзе на беларускую. Цяжка забыць той эпізод у «Пятым этапе», дзе добра п'яны ўзброены галоўны герой робіць напад на адзін з лідскіх рэстаранаў, а потым са стрэламі ідзе па раёне Слабодка да каханкі.

Шукаючы працу, Пясецкі з рэвальверам і рэштай какаіну наведаў Брэст, Львоў і Варшаву, а з сярэдзіны мая пасяліўся ў Лідзе ў свайго сябра Яна Шэўчыка па адрасе Слабодка, 62 і жыў тут да 6 ліпеня. Будучы пісьменнік заўважыў, што сябру цяжка яго ўтрымоўваць, падзякаваў за гасціннасць і пайшоў пешкі ў Гродна да стрыечнага брата Антона Пясецкага. Пабыў у Гродне (брат жыў па вуліцы Славянскай, 11) толькі адзін дзень, бо і Антону Пясецкаму не было з чаго жыць. Былы выведнік і кантрабандыст зноў пайшоў у Ліду і падчас гэтай хады дзесьці каля ракі Дзітва зра-

зумеў, што няма іншага выйсця як пачаць рабаваць[1].

Першы рабунак Пясецкага адбыўся 27 ліпеня 1926 года. Кур'ер віленскі пры канцы ліпеня пісаў: *«Бандыт Пясецкі блукаў на працягу некалькіх дзён у навакольных лясах (каля Ліды. —* ***Л. Л.****). У дзень рабунку ў 8 гадзін раніцы ён заўважыў фурманку і напаў на двух яўрэяў, якія ехалі ў ёй: Юдаля Барышанскага і Мардуха Дражніна. Пагражаючы пісталетам, цалкам абрабаваў абодвух... забраў у іх 1054 злотых, залаты гадзіннік і іншыя рэчы»*[2].

Сам рабаўнік падчас допыту ў лідскай паліцыі гэтак расказваў пра свае дзеянні: *«У вызначаны дзень на шашы ў напрамку Мажэйкава каля ракі Дзітва ў 7-8 гадзіне раніцы спаткаў фурманку, якая ехала ў бок Ліды і перавозіла 4 пустыя скрыні ад гарэлкі. На фурманцы ехалі купец і фурман. Бачачы, што сітуацыя добрая для мяне, што яны вязуць грошы за гарэлку і няма нікога навакол, я наблізіўся да фурманкі і крыкнуў па-беларуску "Рукі ўгору!". На мой заклік фурман спыніў коней і падняў рукі, тое самае зрабіў і купец. Я сказаў, каб аддалі грошы, якія яны ўзялі за гарэлку, пасля чаго фурман адразу добраахвотна аддаў мне 1054 злотых, з якіх я па яго просьбе даў яму некалькі злотых на авёс для каня і на жыццё. У другога яўрэя я забраў чорны адкрыты гадзіннік у цэлулоідной похве — больш грошаў не патрабаваў, бо купцы сказалі, што больш грошаў не маюць. На момант рабунку трымаў у руцэ рэвальвер (наган), якія меў з часоў працы ў дэфензіве, але не страляў. Атрымаўшы грошы, загадаў ім ехаць у Ліду і нікому нічога не казаць пра рабунак, а сам пайшоў у напрамку станцыі Нёман, каб ехаць чыгункай у Вільню, але спазніўся на цягнік і пешшу пайшоў у вёску Руда, што за Нёманам. Тут пагаліўся і пастрыгся, купіў харчоў і шкарпэткі, адрамантаваў камашы і пешшу пайшоў да Навагрудка. У Навагрудку купіў сябе гумовы плашч, чорную кашулю, бялізну, партфель, партабак, сцізорык і іншыя дробныя рэчы, на ўсё гэта, разам з фурманкамі і выдаткамі ў Лідзе — каля 400 злотых. У турме Навагрудка пакінуў для вязняў 40 злотых. Увечары вузкакалейкай выехаў да Наваельні, а адтуль чыгункай да Вільні»*[3].

Потым было ўстаноўлена, што рабаўнік быў пад уздзеяннем какаіну і меў патрэбу ў грошах для пакрыцця закладу за свайго сябра Антона Невяровіча. Аднак калі ён атрымаў грошы, Невяровіч ужо быў на волі.

У Вільні Пясецкі спачатку пасяліўся ў гатэлі «Папа» на вуліцы Завальнай. Але пасля сустрэчы з сябрам — кур'ерам «двуйкі» (польскай выведкі) Антонам Невяровічам, каб зэканоміць грошы, перасяліўся на кватэру ў Новай Вілейцы, якую той здымаў у «ракавой жанчыны» Веры Булгакоўскай. Дарэчы, для знаёмых Вера выдавала сябе за жонку спевака Фёдара Шаляпіна.

Праз некалькі дзён Пясецкі з Невяровічам планавалі пайсці ў Савецкую Расію, каб прынесці адтуль алмазы, якія, хаваючы ад бальшавікоў, закапаў у Маскве іх знаёмым Генрык Краўзэ. Гэтыя алмазы каштавалі каля 6 000 долараў — вельмі вялікія грошы па тым часе, і Пясецкі з Невяровічам павінны былі пасля вяртання з Расіі атрымаць палову гэтай сумы. Для экспедыцыі патрэбны грошы, але Пясецкі не толькі не захаваў нарабаваныя, але дзякуючы «ракавой жанчыне» — палюбоўніцы Невяровіча, патраціў амаль усё, што меў. Сябры вырашылі пайсці на другі рабунак, і Булгакоўская ведала іх планы.

Прэса пісала: *«Як паведамляюць, 22 жніўня адбыўся дзёрзкі напад на вузкакалейны цягнік, які курсуе паміж Васілішкамі і Скрыбаўцамі. Бандыты пасля затрымання поезда са зброяй у руках пагражалі жыццю ўсіх пасажыраў і адабралі ў іх упрыгожванні, вялікую колькасць долараў і некалькі*

---

[1] Alwida A. Bajor, Sergiusz Piasecki wywiadowca, przemytnik, bandyta, pisarz... // Magazyn Wileński. № 8 — 2004. С. 36.

[2] http://niezalezna.pl/50815-bandyta-ktory-sie-stoczyl-do-poziomu-literata-niesamowita-historia-sergiusza-piaseckiego.

[3] Skorobocki Eugeniusz. Sprawa Sergiusza Piaseckiego w Komendzie Policji Państwowej powiatu lidzkiego // Magazyn Polski. № 3(32) — 2004. С. 57—58.

*дзясяткаў тысяч злотых. Потым, неапазнаныя, збеглі ў невядомым кірунку»*[1]. У тым жа нумары паведамлялася пра затрыманне «савецкіх бандытаў» Пясецкага і Невяровіча, якія *«бралі ўдзел у нападзе на вузкакалейны цягнік. У арыштаваных знойдзена шмат упрыгожванняў з цягніка... Гэтых людзей паслала мінскае ГПУ з мэтай выведкі. Бандыты мелі зброю»*[2].

Праз нумар тая ж газета «Слова» паведаміла, што *«арыштаваны бандыты Пясецкі і Невяровіч, якія некалькі дзён таму зрабілі напад на вузкакалейны поезд пад Лідай. Яны прызналі сваю віну і выдалі супольнікаў. Між іншым, сазналіся, што ў злачынных акцыях ім дапамагаў шараговец паліцыі Віленска-Троцкага павета Левандоўскі, праз пасрэдніцтва якога хаваліся зброя і скрадзеныя рэчы, атрымлівалася неабходная амуніцыя. Расследаванне праводзіць адмыслова дэлегаваны следчы Міхалевіч»*[3]. І потым: *«у сувязі з нападам на цягнік... арыштавана жыхарка Нова-Вілейкі нейкая Булгакоўская, падазраваная ў супрацоўніцтве з бандытамі... Сёння мы даведаліся, што Булгакоўская вызвалена ад арышту з-за недахопу ўлік»*[4].

Беларуская газета «Народная справа» таксама паведамляла: *«22 жніўня на вузкакалейцы паміж Васілішкамі і Гжывіцамі пад Лідай банда разбойнікаў напала на поезд і абрабавала ўсіх ехаўшых у ім. Паліцыя заарыштавала ў Нова-Вялейцы двух удзельнікаў нападу — Пясецкага і Невяровіча, якія прызналіся да віны і выкрылі сваіх хаўруснікаў. Аказваецца, што і тут не абышлося без удзелу паліцыі: бандытам дапамагаў у іх "працы" паліцыянт Левандоўскі, пастарункавы паліцыі Віленска-Троцкага павета, які хаваў рабаваныя рэчы і аружжа, якое сам жа дастаўляў»*[5].

Газета назвала Скрыбаўцы на польскі манер Гжыбаўцамі. Насамрэч, у тыя часы да Васілішак вяла вузкакалейка Мураванка — Скрыбаўцы — Вялікае Мажэйкава — Васілішкі. А самі Скрыбаўцы з'яўляюцца чыгуначнай станцыяй на лініі Ліда — Масты.

Звернемся да аповеду пра рабунак Антона Невяровіча, які быў занатаваны ў пратаколах Лідскай паліцыі:

*«З Вільні выехалі ў Ліду (разам з Пясецкім. — **Л. Л.**) вечаровым цягніком 7 жніўня. З Ліды выйшлі па гасцінцу ў напрамку Белагруды. Пераначавалі ў лесе і на другі дзень пайшлі па гродзенскай шашы ў бок ракі Дзітва. У тых ваколіцах жылі тыдзень ці болей, вывучаючы мясцовасць. У лесе жывіліся харчамі, купленымі ў Вільні, а калі яны скончыліся, варылі бульбу з грыбамі ў посудзе — рондалю і кубку, якія ў падарожжа дала нам Булгакоўская. Калі ж мы стаміліся сядзець на адным месцы і пачалі галадаць, дык перайшлі на раку Лебяда каля мястэчка Васілішкі, дзе мы і спыняліся на некалькі дзён, сілкуючыся грыбамі і бульбай, час ад часу лавілі рыбу ў рацэ Лебяда, тут нас бачылі мясцовыя людзі. Падчас нашага знаходжання ў ваколіцах Васілішак, у адзін з дзён мы вышлі да лоркі*[6]*, якая ехала ў бок станцыі Скрыбаўцы, але тады ў нас яшчэ не хапіла смеласці зрабіць напад, да таго ж у лорцы ехала шмат хрысціян, а мы вырашылі рабаваць толькі яўрэяў, і таму вярнуліся ў лес. Праз два дні, 22 жніўня 1926 г. мы вырашылі зрабіць напад на тую ж лорку, таму прыйшлі да дарогі, па якой ехала лорка з пасажырамі ў Скрыбаўцы, і селі пад елкай. Калі мы ўбачылі лорку, дык пайшлі ўздоўж трасы, каб яна нас нагнала. Калі мы заўважылі, што едзе шмат яўрэяў, дык падбеглі да яе, і тады Пясецкі жэстам паказаў мне, што будзем рабаваць. Пясецкі першы скочыў у лорку, прыказаў затрымаць каня і па-руску сказаў пасажырам падняць рукі ўгору, я спачатку стаяў каля лоркі з рэвальерам у руках, так сама як і Пясецкі... Падчас рабунку да Пясецкага з крыўдай звярнулася яўрэйка: чаму ён аддаў раней адабраныя грошы чыноўніку і каталічцы,*

---

[1] Słowo № 202(1222) 31 sierpnia 1926.

[2] Там жа.

[3] Słowo № 204(1214) 2 września 1926.

[4] Słowo № 207(1217) 5 września 1926.

[5] Народная справа № 14, 4 верасня 1926.

[6] Лорка — так зваўся вузкакалеёвы вагон, які цягнуў конь.

*за гэта Пясецкі забраў у яе завушніцы... Пасля рабунку... сказалі, каб абрабаваныя гадзіну не рухаліся з месца... а самі пабеглі да лесу... выйшлі на шашу (Ліда—Гродна. — **Л. Л.**) паміж 33-м і 34-м кіламетрам і пайшлі ў бок Ліды. На раніцу падышлі да Ліды на паўтара км, паснедалі адабранымі прадуктамі, падлічылі нарабаваныя грошы і агледзелі рэчы — у нас было 15 долараў, 140 зл., 4 пярсцёнка, пара завушніц і лёгкае паліто, якое Пясецкі забраў, бо думаў, што нам будзе холадна. Потым я ў шапцы чыгуначніка пайшоў у Ліду, дзе купіў брытву, бутэльку гарэлкі, харчы... і ў дамоўленым месцы сустрэўся з Пясецкім, мы разам пад'елі, пасля чаго Пасяцкі пагаліўся... Вечарам мы пайшлі ў Ліду. У чыгуначнай касе я купіў білеты да Вільні, мы селі ў цягнік і без ніякіх перашкод даехалі да Вільні»*[1].

Сяргей Пясецкі: *«Закончыўшы, прыказаў Невяровічу рэзаць пастромкі ад вупражы каня... Пасля рабавання адышоў ад лоркі на 20 крокаў і падумаў, што падае дождж, холадна і яшчэ некалькі дзён мы будзем у дарозе, таму я вярнуўся і ў аднаго маладога яўрэя адабраў карычневае паліто, якое і зараз на мне. Калі я адбіраў паліто, дык рэвальвер нават не даставаў, паліто аддалі мне добраахвотна»*[2].

Чаму Пясецкі з Вільні адмыслова едзе пад Ліду, каб здзейсніць рабунак? Мяркую, справа ў тым, што ён як жаўнер Літоўска-беларускай дывізіі ў 1919 і 1920 гадах ваяваў у гэтых лясах пад Лідай і добра ведаў мясцовасць.

Пасля рабунку Пясецкі і Невяровіч са здабычай вярнуліся ў Новую Вілейку да Булгакоўскай, але гаспадыні дома не было. Ключ ад кватэры знаходзіўся ва ўмоўленым месцы, а ў кватэры на стале сябры знайшлі запіску, з якой даведаліся, што гаспадыня паехала ў маёнтак пад Яшунамі да маці. Невяровіч адразу паехаў да каханкі, а Пясецкі, агледзеўшыся, не знайшоў сваю валізку і, галоўнае, сваю гітару. Застаўшыся ў кватэры адзін, пакрыўджаны Сяргей Пясецкі зрабіўператрус і знайшоў дзённік Булгакоўскай, з якога шмат даведаўся пра «ракавую жанчыну»: у нейкага афіцэра яна скрала 200 злотых, потым разам з сяброўкай Янінай Ізмаіловіч скралі дарагі гарнітур. У 1925 годзе з нейкім таксістам абрабавала афіцэра на 800 злотых і г. д.

Невяровіч не знайшоў сваю каханку і, вярнуўшыся ў Вільню, адразу выпадкова сустрэў яе на вуліцы Кальварыйскай. Вера растлумачыла сваю адсутнасць тым, што бавіла час з афіцэрамі-лётчыкамі ў Лідзе. Пасля сур'ёзнай размовы з жанчынай гітара Пясецкага знайшлася ў некага з сяброў Булгакоўскай. Вяртанне гітары святкавалі дзвюма бутэлькамі гарэлкі.

Сябры ўжо зусім сабраліся ў Расію за алмазамі і таму арганізавалі развітальны вечар. Прыехала сяброўка Веры Яніна Ізмаіловіч. Вечар пачаўся дрэнна. Трохі выпіўшы, дзяўчаты пасварыліся з-за нейкага раней скрадзенага залатога гадзінніка. Да таго ж Невяровіч сказаў сваёй каханцы, што пасля Масквы ён да яе не вернецца. Па пакоі пачалі лётаць шклянкі, кніжкі, бутэлькі...[3]. Гулянка закончылася даносам на сяброў у паліцыю.

Віленскі даследчык Славамір Андрушкевіч знайшоў у Цэнтральным Архіве Літоўскай Рэспублікі справу супраць Сяргея Пясецкага і Антона Невяровіча. З яе бачна, што: *«У ноч з 28 на 29 жніўня 1926 г. жыхарка горада Вільня Яна Ізмаіловіч заявіла ў Камісарыят паліцыі ў Новай Вілейцы, што ў яе сяброўкі Веры Булгакоўскай знаходзяцца дзве падазроныя асобы, якія маюць агнястрэльную зброю»*[4].

Справа трапіла ў Віленскі ваенна-палявы суд, пасяджэнне якога адбылося 3 верасня

---

[1] Skorobocki Eugeniusz. Sprawa Sergiusza Piaseckiego w Komendzie Policji Państwowej powiatu lidzkiego // Magazyn Polski. № 3(32) — 2004. С. 55.

[2] Там сама. С. 59.

[3] Alwida A. Bajor, Sergiusz Piasecki wywiadowca, przemytnik, bandyta, pisarz... // Magazyn Wileński. № 5 — 2004. С. 37.

[4] Andruszkiewicz Sławomir. Sergiusza Piaseckiego droga do «Wieży Babel». Nasz Czas http://www.pogon.lt/NCz_int/Literat18.html.

ў Лідзе. Газета «Віленскі Дзённік» пісала ў рэпартажы з пасяджэння гэтага суда: «*Пад уплывам непрыемнай інфармацыі аб нападу, чакаў убачыць на лаве падсудных асобаў з выдатнымі характарыстыкамі па тэорыі Ламброза, але гэтыя знясіленыя маладыя людзі маюць слабавольныя твары людзей, здольных як да злых, так і да добрых учынкаў. Пясецкі вучыўся дзесьці ў гімназіі, нібыта скончыў больш за 7 класаў, у арміі атрымаў чын падхарунжага. Нявяровіч скончыў 4 класы. Маладзейшы за Пясецкага, бачна, што ён цалкам пад уплывам Пясецкага. Вядуць сябе вельмі павольна, адносіны Пясецкага да Нявяровіча рыцарскія: цвердзіў, што менавіта ён быў душой ўсіх дзеянняў. ... Абвінавачаныя карыстаюцца... спагадай прысутных у зале суда, сярод якіх шмат неўрастэнічных, кароткастрыжаных жанчынын.*

*Усе прызнаюць і сцвярджаюць, што да нападу іх штурхнула адсутнасць працы пасля звальнення з войска. Пасля здабычы грошай праз рабунак меліся з'ехаць за мяжу, каб пачаць там новае жыццё. У абвінаваўчым акце Пясецкі і Нявяровіч абвінавачваліся ў тым, што ўзброеныя рэвальверамі напалі на пасажырскі вагон лініі Скрыбаўцы—Васілішкі, і зтэрарызаваўшы пасажыраў, адабралі грошы і каштоўнасці, пасля чаго схаваліся ў лесе. На судовых пасяджэннях стала вядома, што ў беднага чыноўніка, беднай жанчыны і фурмана, якія ехалі ў вагоне, з літасці грошаў не адабралі. Акрамя таго, абвінаваўчы акт сцвярджае пра напад і рабаванне Пясецкім яўрэяў з Астрыны. Паколькі абвінавачаныя прызналі сваю віну, таму сведкі на слуханнях не прынеслі нічога новага. Пасля выступу пракурора, які запатрабаваў смяротнага пакарання для абодвух падсудных, выступалі абаронцы: Хагемаер і Міссан. З-за ўжывання абвінавачанымі какаіну і іх псіха-нервовага стану абарона прасіла перанесці справу ў звычайны суд. Суд пайшоў на нараду, пасля чаго прыгаварыў Пясецкага і Нявяровіча да смяротнага пакарання. Абодва вердыкт суда прынялі спакойна*»[1].

У іншых рэгіёнах Польшчы рабаўнікі атрымалі б 4 ці 5 год турмы. Але Заходняя Беларусь знаходзілася ў ваенным стане, і таму ўзброеныя рабаўнікі аўтаматычна атрымалі вышэйшую меру пакарання. Абарона падала хадайніцтва пра памілаванне. Абодвух злачынцаў уратавалі былыя заслугі Пясецкага. Ужо на наступны дзень прыйшоў станоўчы адказ, польская выведка знайшла магчымасць падтрымаць свайго былога службоўца і прэзідэнт Польшчы змяніў смяротнае пакаранне на 15 год турмы. Антон Нявяровіч памёр праз год пасля арышту ва ўзросце 28 гадоў. Яму прысвечана аповесць Пясецкага «Пяты этап»[2].

Цікава, што праз месяц пасля нападу Пясецкага на вагон вузкакалейкі невядомыя бандыты, узброеныя карабінамі, рэвальверамі і гранатамі каля станцыі Скрыбаўцы напалі на скоры цягнік Варшава — Ліда. Але цягнік спыніўся якраз на тым месцы, дзе на рэйках знаходзіўся ўзмоцнены нарад паліцыі, і бандыты ўцяклі ў лес[3]. Як бачым, Пясецкі ў той час не быў самым вялікім злодзеем у Заходняй Беларусі.

Спачатку Пясецкі адбываў кару ў лідскай турме, якая ў канцы 1925 года была адрамантавана і пра якую прэса пісала, што яна *«можа задаволіць нават суровую інспекцыю»*[4]. Але інспекцыю Пясецкага турма не прайшла. Асуджаны выведнік і перамытнік, убачыўшы дрэннае стаўленне да вязняў, крадёж і махлярства кіраўніцтва турмы, узняў бунт, пасля падаўлення якога, як лідар і падбухторшчык, тры месяцы насіў кайданкі. За далейшыя падбухторванні да бунту ён быў пераведзены з Лідскай турмы ў турму горада Равіч, што ў заходняй Польшчы. Але і тут ён пачаў рыхтаваць бунт вязняў і таму быў пераведзены ў турму горада Каранаў. Далей

[1] Dziennik Wileński № 227, 7 września 1926.

[2] Гл: Сяргей Пясецкі. Пяты этап. Раман. Пераклад з польскай Язэпа Янушкевіча // Полымя. — 2010. — № 4. — С. 91.

[3] Słowo № 224(1234) 25 września 1926.

[4] Słowo № 45(1055) 25 lutego 1926.

як лідар паўстання ў Каранове трапіў у турму з самым строгім у Польшчы на той час рэжымам — у Свенты Крыж. З усяго свайго турэмнага тэрміну Пясецкі два гады адбыў у ізалятары. На яго асабістай справе было напісана: «Небяспечны». Тым не менш, у турме Пясецкі пачаў чытаць Біблію і «Літаратурныя Ведамасці» (Wiadomości Literackie), толькі тут ён вывучыў літаратурную польскую мову, пачаў пісаць свае кнігі і праз гэта атрымаў агульную вядомасць[1].

Дарэчы, хутка кіраўніцтва Лідскай турмы адказала за свае цёмныя справы. Пры канцы сакавіка 1928 года былі арыштаваны намеснік начальніка турмы Мар'ян Бартноўскі і чыноўнік турэмнай адміністрацыі Альфонс Зямніцкі. Начальнік турмы Баляслаў Марэк застрэліўся ў хаце[2]. Газеты пісалі, што *«следства сабрала вялікі матэрыял пра злоўжыванні Бартноўскага. Дапытваліся ўсе супрацоўнікі вязніцы... Арыштаваныя Бартноўскі і Зямніцкі пераведзены ў віленскія Лукішкі»*[3].

Публікацыя першага ж рамана выклікала паспяховую кампанію за датэрміновае вызваленне хворага на сухоты пісьменніка. У 1937 годзе перад ім адчынілася турэмная брама — указам прэзідэнта Польшчы пасля 11 год турмы знакаміты пісьменнік быў памілаваны. Пасля прэзідэнцкай амністыі газета «Слова» пісала: *«У верасні 1926 г. Пясецкі быў асуджаны на шматгадовае пакаранне за два узброеных рабункі. Суд прыгаварыў яго да смяротнага пакарання за два узброеных напады. Адзін з рабункаў адбыўся дзесьці на дарозе паміж Васіліішкамі і Лідай. Ахвярай нападу стала група яўрэяў і сялянаў, якія ехалі коннай лоркай да Ліды (тут памылка, яны маглі ехаць лоркай да Скрыбаўцаў, а ужо адтуль сапраўднай чыгункай да Ліды. — **Л. Л.**). Суд прыгаварыў рабаўніка да смерці, але кара смерці прэзідэнтам была заменена на 15 год турмы... На следстве Пясецкі ва ўсім добраахвотна сазнаўся і сам паведаў пра яшчэ адзін папярэдні напад. І ў першым, і ў другім выпадку здабычай была дробная біжутэрыя і невялікія грошы. Матывы рабункаў? Пясецкі доўга заставаўся без працы, трэба было з чагосьці жыць, неяк утрымліваць сябе... А пачалося ўсё з заявы ў паліцыю ў Новай Вілейцы нейкай кабеты пра тое, што яе сяброўка хавае Пясецкага. Меў ён тады 27 гадоў»*[4]. Насамрэч, газета «запамятавала» сваю ж ранейшую інфармацыю пра нарабаваныя дзясяткі тысяч злотых, што зразумела, бо трэба было растлумачыць грамадству прэзідэнцкую амністыю вядомага пісьменніка.

У 1938 годзе Сяргей Пясецкі нават быў намінаваны на літаратурную прэмію Нобеля.

Наш горад тым часам яшчэ стане месцам дзеянняў добрай трэці ягонай неверагодна трапнай сатырычнай кнігі «Запіскі афіцэра чырвонай Арміі». Увогуле, тэма Сяргея Пясецкага — добры рэсурс для развіцця турызму: горад Ліда стала фігуруе ў ягоных кнігах, захавалася і лідская турма, дзе ён пачынаў адбываць пакаранне. Цяпер у гэтым будынку месціцца друкарня. А ў некалькіх дзясятках метраў на поўдзень ад могілак пры вуліцы Гражыны (цяпер праспект Пераможцаў) у 1920-я знаходзілася неасвечанае месца, дзе хавалі самазабойцаў і асуджаных Лідскім ваенна-палявым судом да расстрэлу. Смертнікаў вялі пад канвоем праз увесь горад і расстрэльвалі ў пясчаным кар'еры. Трохі пазней асуджаных пачалі караць смерцю на тэрыторыі турмы[5]. І калі б Пясецкага не памілаваў польскі прэзідэнт, нікому не вядомы выведнік і кантрабандыст, які б так і не паспеў стаць пісьменнікам, знайшоў бы свой апошні спачын менавіта тут — каля старых Лідскіх могілак.

[1] Polechoński K. Żywot człowieka uzbrojonego. Warszawa-Wrocław, 2000. S. 33—35.

[2] Kurjer Wilenski № 66(1113) 22 marca 1928.

[3] Kurjer Wilenski № 69(1116) 25 marca 1928.

[4] Słowo № 209(4773) 31 lipca 1937.

[5] Naruszewicz W. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 105.



*Святлана СІТНІК*

# ПАЛЁТ НАД ЭГЕЙСКІМ МОРАМ

— Мне тэрмінова патрэбна твая дапамога. Як псіхолага, — голас маёй сястры ў тэлефоннай слухаўцы гучыць усхвалявана. Яна рэдка звяртаецца да мяне за парадай — хутчэй я іх ёй навязваю, але тут, відаць, асаблівы выпадак.

— Прыязджай заўтра, вечар твой, — прыкідваю я час, імкнучыся адгадаць, пра што пойдзе гаворка. Хаця што тут гадаць: у асноўным да мяне па дапамогу звяртаюцца тыя, хто хоча жыць. Вельмі хоча жыць. Вельмі-вельмі.

* * *

Усё смачнае ўжо з’едзена, гарбата выпіта, кава таксама, а мы ўсё ніяк не падступімся да галоўнага. Адцягванне часу — першая прыкмета таго, што сітуацыя складаная, і нам абедзвюм неабходна сабраць дух і сілы. Нарэшце сястра пачынае:

— Я хачу жыць… — яна робіць паўзу, здзіўляецца ёй і працягвае: — Я хачу жыць сваім жыццём. Мне здаецца, што я жыву не так, як павінна. Маё жыццё шэрае і змрочнае. Кожны дзень адно і тое ж. Нічога новага не адбываецца. Досыць, я так больш не хачу.

— Але ты ж ведаеш, што рызыкуеш? — я хітра прымружваю вочы — вельмі люблю такія жаданні. — Тваё жыццё можа аказацца якім заўгодна. Ці гатова ты прымаць тыя падзеі, што прызначаны для *твайго* жыцця?

— Я гатова да ўсяго, абы не так, як цяпер.

— А якое яно, тваё жыццё? Ты хаця б уяўляеш, што ты робіш, кім працуеш, з кім жывеш? Што ты хочаш атрымаць ад свайго жыцця? У цябе ёсць жаданні і прапановы для яго?

— У тым і справа, што я сама не разумею, не ведаю, чаго хачу. Раней ніколі не задумвалася пра гэта, плыла па цячэнні. І вось, прыплыла…

Так, сапраўдныя жаданні маёй сястры настолькі завалены страхамі і чужымі хаценнямі, што яна нічога пра іх не ведае. Шкада, што я не заўважыла гэта раней… Будзем іх шукаць. Душа ж яе, напэўна, ведае пра іх. У яе і папытаем.

— Мы зробім з табой простае практыкаванне, — прапаную я і тлумачу правілы. — Нам трэба апынуцца як мага бліжэй да тваёй душы. Яе запаветнае жаданне будзе для нас тым святлом, на які і пойдзем скрозь цёмныя калідоры невядомасці. Твая задача — давяраць мне, сабе і таму працэсу, які зараз будзе адбывацца. Згодна?

Сястра згаджаецца, мы робім практыкаванне і на пытанне пра жаданні яе душы атрымліваем адразу два супрацьлеглыя адказы: *жыць* і *памерці*. З жаданнем жыць усё зразумела — пра гэта мы ўжо размаўлялі, а вось што каштоўнае знайшла яе душа ў жаданні памерці — гэта трэба тэрмінова высвятляць. У імя выканання першага жадання…

Я даследую і імкнуся зразумець гэта дзіўнае жаданне душы маёй сястры. Ці не служыць яно іншаму жаданню? Гляджу далей, глыбей, шырэй: дзеля чаго яна гатова ахвяраваць жыццём? Вось яно, знайшла — лятаць! Адчуваць прастору агромністага неба, лунаць свабодна і лёгка над зямлёй, адчуваючы бясконцую прастору свету, паглынаючы свет цалкам і патанаючы ў ім — маленькай, кволай… І зноў вялікай, цэльнай, у бяскрайняй прасторы паміж зямлёй і небам!

— Ты лётаеш у сне? — пытаю. Яна ківае, і яе станоўчы адказ супакойвае мяне. Усё зразумела: мая сястра вядзе замкнуты лад жыцця насуперак жаданням сваёй душы, якая, наадварот, прагне прасторы і свабоды. Што ў гэтым павінна? Страхі. Дзіцячыя, падлеткавыя, глыбокія і неўсвядомленыя — яны хаваюцца ў самых аддаленых куточках падсвядомасці, цішком уплываючы на стасункі з акаляючым светам, фарміруючы досвед, вызначаючы лёс. Трэба ад іх вызваліцца, і гэта другі, цяжкі этап нашай працы.

* * *

Страхі, гэтыя шэрыя кардыналы, служаць аднаму толькі — свайму — гаспадару. Імя ў таго — падсвядомасць. Задача падсвядомасці — захаванне жыцця. Любой цаной, любымі сродкамі. Дарэчы, вораг у падсвядомасці ёсць — звышсвядомасць. Гэта цікаўная заўсёды лезе куды не трэба: свет яна, ты бач, спасцігнуць хоча! Хоча грошай, улады, кахання і поспеху. Хоча радавацца і быць шчаслівай. І тым ставіць нашу жыццёвую бяспеку пад пагрозу — ці мала што? Таму: спыніць яго, у што б тое ні стала! Запалохаць так, каб і носу свайго з хованкі не высоўвала!

* * *

Пакуль гаспадар страхаў малы ўзростам і не мае досведу і сілы, яму дапамагае дарослы, як бацька свайму малому. Вось малы даследуе свет, пашырае тэрыторыю. «Не хадзі туды, павалішся, будзе болька!» — крычыць яму мамка, якой кіруюць слугі яе падсвядомасці. Малы паслухмяна адыходзіць убок: «Мабыць, гэта лесвічка не для мяне, пайду на арэлях пагайдаюся».

«Асцярожна, яшчэ ўпадзеш», — папярэджвае мамка. Але малы неўтаймоўны: «Ну добра, пайду гляну, што там у кустах». А мамка не толькі трывожыцца за дзіця, якое адышлося ад яе, але і лаўкі пакідаць не хоча, таму зноў крычыць: «Не лезь туды, там Бабай!»

Бабай — гэта аргумент, сур'ёзны аргумент, каб спыніцца і вярнуцца назад, у бяспечнае месца. На ўсялякі выпадак лепш увогуле ад мамкі далёка не адыходзіць: бо не ведаеш, наколькі гэты персанаж у адэкваце —бабуля казала, што ён забірае дзяцей ад мам. Амаль як цётачка-выхавальніца. Між іншым, а ці бачыў хто калі таго Бабая? Не. Але гэта таму, што спужаўся раней, чым змог пазнаёміцца.

Бабай — страшылка, створаная бацькамі з выхаваўчымі мэтамі: так прасцей і лягчэй кіраваць паводзінамі сваіх дзяцей і пазбягаць уласных страхаў. Вобраз нечага вельмі страшнага, бо ў першую чаргу невядомага, неспасцігнутага, не зразумелага нам. Як і Новае Жыццё. Ці не таму мы баімся яго, як Бабая, не жадаючы сур'ёзна нешта мяняць, застаючыся са сваімі звыклымі знаёмымі, «бяспечнымі» праблемамі?

Хутчэй за ўсё, так. Страхі, закладзеныя ў пачатку жыцця, — гэта яго аснова. Яны вызначаюць ступень нашай свабоды: у дзеяннях, рухах, думках і ўчынках. Думкі і дзеянні ствараюць падзеі, а падзеі, як каменьчыкі, выкладаюць дарогу жыцця. Тое, якой яна будзе, — вузкай ці шырэйшай, колькі падзей і падарункаў на сабе змесціць, залежыць ад таго, чаго і наколькі мы баяліся ў дзяцінстве. І як некалі нашы выхавацелі і бацькі пры дапамозе страхаў маніпулявалі намі і кіравалі нашымі жыццямі, так цяпер мы самі, пераняўшы іх досвед, пры дапамозе тых самых, па сутнасці, маніпуляцый, кіруем ёю. «Не хадзі туды, паранішся, будзе болька» — знаёмае? А так: «Не ідзі ў новыя адносіны, не стварай іх — ён кіне цябе, і зноў будзе балюча, будзеш пакутаваць і плакаць».

На жаль, дарослыя маніпуляцыі ствараюць асаблівае ўяўленне пра свет — як варо-



жы, небяспечны, агрэсіўны. А далей ўяўленне пра такі свет вымушае розум шукаць адпаведныя алгарытмы ўзаемадзеяння з ім і чапляцца за адпаведныя перакананні. Прыклады такіх перакананняў: «Чалавек чалавеку — воўк», «Грошы — зло», «Усе мужыкі — казлы», «Жыццё пражыць — не поле перайсці», «А Бог усё бачыць!». Перакананні — гэта, можна сказаць, назвы праграм, што вызначаюць працу свядомасці. Па ўплыву яны падобныя да камп'ютарных праграм: што загрузілі, так тэхніка і працуе, якія гульні на працоўны стол павесілі, у тыя і гуляем.

У якія гульні гуляеце вы, даведацца нескладана: вазьміце аркушык паперы і, не задамваючыся, раскажыце сабе, што вы думаеце пра свет, жыццё і людзей. Запішыце свае асацыяцыі — тое, што прыйдзе ў галаву. Ці не надышоў час адправіць з тузін файлаў у кошык?

Многія людзі, жадаючы змяніць сваё жыццё ў лепшы, шчаслівы бок, завальваюць спробы, бо дзейнічаюць у межах якой-небудзь асноўнай сваёй жыццёвай праграмы, якая не мае функцыі ўнясення змен. Часам неабходна ўзяць ды аднавіць праграму ці ўвогуле яе сцерці, замяніўшы на новую, але, на жаль, гэта прыходзіць у галаву тады, калі гаворка ідзе пра камп'ютарныя тэхналогіі.

* * *

І вось цяпер я, бы праграміст, вымушана перапісаць праграму і выканаць перазагрузку. Толькі праграма ў мяне — не гульня, «Новае жыццё маёй сястры» называецца. Справа акуратная і адказная. І як з праграмы спецыялісты выдаляюць лішнія элементы, якія перашкаджаюць правільнай рабоце, так і я павінна адшукаць і прыбраць дзіцячыя і іншыя страхі, што не дазваляюць сястры пашыраць жыццёвую прастору і вымушаюць жыць сціпла і «не высоўвацца». Я стаю на баку звышсвядомасці, узброеная самай сучаснай тэхнікай, і гэта вобразна, а на справе — сучаснымі псіхалагічнымі прыёмамі. Адчуваю моц унутры, вопыт за спінай і веру — мы справімся. Тым не менш, я маруджу, бо страхі — не адзіныя перашкоды на шляху да нашых жаданняў. Ёсць яшчэ нештачка, на што трэба звярнуць увагу.

Калі мы ўжо прымянілі аналогію з камп'ютарнымі тэхналогіямі, то гэта нештачка — вірусы, што прабраліся ў свядомасць і ўтульна ў ёй прыстроіліся. Яны забяспечваюць збоі ў працы камп'ютара-свядомасці, перашкаджаюць яму працаваць правільна, у адпаведнасці з праграмай душы, сутнасці, сапраўднага «Я». Вірусы — гэта бацькоўскія праграмы.

— Што ты цяпер адчуваеш? — пытаю сястру.

— Я адчуваю, што дарэмна мы з табой гэта ўсё задумалі — нічога ў жыцці памяняць нельга.

— А яшчэ? Прыслухайся да адчуванняў.

— Адчуванне безвыходнасці, — сястра цяжка ўздыхае, а я лаўлю інсайт — гэта ж адчуванне нашага бацькі! Гэта ж яго звыклы стан. Некалі жыццё падарыла яму талент, ён ім не карыстаўся — і ператварыўся ў ахвяру жыццёвых абставін. Абставін, якія змяніць нельга.

Я падумала пра сябе. Прыгадалася нядаўняя сітуацыя: я чакала гасцей, а бацька, які таксама гасцяваў у мяне, сядзеў у кухні — піў каву. Я рашыла падзяліцца эмоцыямі:

— Не люблю гэты стан хвалявання, калі ўсё падрыхтавана і я ў поўным парадку, а гасцей яшчэ няма. Сядзіш і чакаеш, калі ўсё пачнецца.

— Ага, — адказвае бацька, — а потым раптам раз — і ўсё, чаго так чакала, abломваецца.

— Тата! — з усмешкай усклікваю я. — Столькі часу і сілы я патраціла на вызваленне ад тваіх негатыўных установак, а ты мне падкідваеш і падкідваеш новыя! Не каркай! Усё будзе добра! Усё атрымаецца!

* * *

Сёння наш з сястрой дзень — звычайна бацькоўскія праграмы і ўстаноўкі не «выпаўзаюць» на паверхню. Трэба быць вельмі ўважлівым, каб іх знайсці, з мэтай вярнуць назад таму, каму яны першапачаткова належалі. Неяк я дапамагала адной дзяўчыне — будучаму псіхолагу. У інстытуце яна атрымлівае тэарэтычныя веды, а практычныя — ад мяне. Мне імпануе яе жаданне разабрацца са сваімі праблемамі, дапамагчы сабе перш, чым пачаць дапамагаць іншым. Святлана ўжо спрабуе даваць

практычныя парады і рэкамендацыі родным ды знаёмым, і даволі дзейсныя. Яны ж уважліва яе слухаюць, шчыра дзякуюць, але працягваюць рабіць па-свойму. «Я стараюся, імкнуся дапамагчы, — кажа дзяўчына, — а потым адчуваю, што мае парады нікому не патрэбны. Гэта адчуванне непатрэбнасці заўсёды са мною, і мне ўвесь час здаецца, што мяне адштурхоўваюць бацькі, муж, што я ім непатрэбна.

Пастаяннае адчуванне непатрэбнасці і адрынутасці (якое Святлана набыла яшчэ ў дзяцінстве) сёння стварае фон, на якім і разварочваюцца падзеі яе жыцця. Гэта як змрочныя дэкарацыі — на іх фоне вельмі складана іграць радасныя і шчаслівыя п'есы. Мы вырашылі перарабіць інтэр'ер, памяняць фон: выявіць старыя ўстаноўкі, закладзеныя ў свядомасць выхавацелямі, настаўнікамі і бацькамі, а потым вызваліцца ад іх.

Зазірніце сабе ўнутр: о, колькі вы там знойдзеце ўсякага ламачча! Але калі б мы дазвалялі сваім старым пачуццям (крыўдам, напрыклад), вераванням і падзеям загрувашчваць тэрыторыю нашай свядомасці, не даючы, дарэчы, месца новаму досведу (а значыць, і падзеям)! Мы ж яшчэ і любім пакалупацца ў іх, як, даруйце, асобы без пастаяннага месца жыхарства, на памыйцы. Але, тым не менш, усе мы хочам ад жыцця новых сустрэч, радасных эмоцый, шчаслівых імгненняў. А куды іх прыладзіць?

Вось толькі маленькая частка бацькоўскіх перакананняў і выхаваўчых установак, якія з дня ў дзень выслухвала маленькая Святланка: «Ты ніхто, завуць цябе нікім!», «Рабі, што табе гавораць!», «Ты ўвогуле пустое месца», «Ці мала чаго табе хочацца!», «Ты хто такая? Ты — ніхто!», «Адыдзі, ты перашкаджаеш».

У маленькага дзіця яшчэ няма свайго досведу: няма тых вынікаў і дасягненняў, якія б дапамаглі яму сфарміраваць меркаванне пра яго самога. Гэта меркаванне фарміруюць дарослыя, сыходзячы з уласных уяўленняў пра тое, якім павінна быць дзіця. А якім яно павінна быць? Калі ўявіць бацькоў Святланы, то для іх ідэальнае дзіця, хутчэй за ўсё, — гэта камфортнае дзіця, якое не перашкаджае займацца сваімі справамі. Такое, якое дзейнічае згодна з жаданнямі бацькоў, але не ўласнымі.

А Святлана аказалася дзяўчынкай з характарам. Асобай і індывідуальнасцю. І цяпер узгадала сітуацыю, якая вельмі паўплывала на далейшае жыццё.

— Мне пашанцавала з выхавацелькай, — распавядае яна. — Цяжка ўспомніць, каб яна сварылася на мяне. Адзіны момант, пра які я ніколі не забуду, — гэта калі яна прымусіла мяне есці амлет. Я ненавідзела амлеты і ненавіджу іх дагэтуль! Ён быў халодны, нясмачны. Я плакала, казала, што не буду яго есці. У адказ яна паставіла жорсткую ўмову: «Пакуль не з'ясі — з-за стала не выйдзеш». Яна звяртала на мяне ўвагу іншых дзяцей, расказвала, якая я дрэнная, непаслухмяная дзяўчынка. Я адстойвала сваю думку, сваё права есці тое, што я хачу, супраціўлялася як магла, праяўляла індывідуальнасць. І за гэта была так жорстка пакарана…

* * *

Маленькая Святланка імкнулася заявіць пра свае жаданні, яна хацела праявіць сябе як асоба. Яе жаданні патрабавалі ўвагі бацькоў, але ў таты і мамы былі свае планы, якія не перасякаліся з патрэбамі дзіцяці. Адпачынак, прагляд тэлеперадач, гатаванне вячэры, падрыхтоўка ўрокаў са старэйшай сястрой — ды ці мала спраў у бацькоў. Капрызлівае і непаседлівае малодшае дзіця выклікала раздражненне і нецярплівасць, хацелася як мага хутчэй вызваліцца ад яго навязлівых приставанняў: няхай ідзе ў свой пакой і гуляе з цацкамі!

Раздражненне суправаджалася крыкамі, крыкі новымі жаданнямі адпіхнуць, адрынуць дзіця, каб хутчэй вызваліцца для дарослых спраў. Але не ў нашай кампетэнцыі асуджаць Святланіных бацькоў, ды і не гэта наша задача. Наша задача — знайсці прычыны сённяшніх няўдач. Яны ў тым самым, яшчэ з дзяцінства, уяўленні пра сябе як пра нешта непатрэбнае.

З аднаго боку, мая вучаніца імкнецца ісці сваім шляхам: яна хоча дапамагаць іншым у вырашэнні іх праблем, а гэта значыць, хоча адчуваць сябе аўтарытэтнай асобай. Для гэтага яна набывае вопыт і веды, развівае і ўдасканальвае сябе. І ёй бы ўжо пажынаць плады сваёй працы, калі б не яе ўяўленне пра сябе, якое яна набыла ў дзяцінстве. Яно аўтарытэтнае, бо ўкладзена ў галаву яшчэ

дзіцяці дарослымі людзьмі. Прыхаванае і неўсвядомленае, бо месціцца ў самых глыбінях свядомасці. Вызначальнае, бо ўплывае на прыняцце сённяшніх рашэнняў цішком, подла і пастаянна.

Ці маеш ты права даваць парады, калі ты «пустое месца»? Як ты можаш даць добрую параду, калі ты «дрэнная»? Ці можаш ты быць настаўнікам, калі ты «ніхто»? Ці чакае цябе поспех у псіхалагічнай практыцы, калі ты баішся быць адрынутай, не прынятай людзьмі? Канешне, ты наўрад ці такое сабе дазволіш. А калі станеш дазваляць, то сама ж несвядома і створыш сітуацыі, якія ў чарговы раз пацвердзяць старыя перакананні.

Вось такія «скарбы» можна адшукаць у нашай свядомасці! І гэта добра, бо цяпер мы лёгка можам перапісаць старыя праграмы.

* * *

Напэўна, у вас узнікла пытанне: якім чынам свядомасць і пераўтварэнне старых праграм адаб'ецца на вашым жыцці. Вядома, ніхто з нас не будзе працаваць, не прадбачачы выніку. І праца над сабой — гэта, у першую чаргу, праца на вынік, на змены: сябе і сваёй рэальнасці.

Была справа, па дапамогу да мяне звярнуўся малады чалавек: сімпатычны, разумны і паспяховы. Здавалася б, якія ў яго могуць быць праблемы? Сямейныя. З той пары як яго сям'я дапоўнілася дзіцяткам, хлопец сышоў у дэпрэсіўны стан. Нічога яго не радуе, нічога не непакоіць, нічога не хочацца рабіць, ні да чаго не хочацца імкнуцца. Паміж ім і каханай жонкай, з якой дзесяць гадоў пражылі душа ў душу, — непаразуменне.

Размаўляем і высвятляецца, што цэлы пласт досведу, які маленькі Ілюша, не маючы свайго, падгледзеў і ўзяў сабе ў карыстанне.

Вобразна кажучы, скапіраваў, быццам папкі з праграмамі, на свой комп і цяпер выкарыстоўвае. Канешне, у гэтым ёсць «плюсы» — не трэба нічога новага выдумляць: працуе праграма, а мы працуем па праграме. І ўсё б нічога, толькі вось праграмы тыя даўно састарэлі і нам (з нашым-та характарам!) — не падыходзяць.

Ілья глядзіць на мяне і пацвярджае: чым менш мы хочам быць падобнымі да сваіх бацькоў, тым больш мы да іх падобныя.

— Мая мама пражыла цяжкае жыццё, яна цягнула нас на сабе, бо бацька, можна сказаць, быў «намінальным», — распавядае Ілля. — Я вельмі люблю яе…

— І з-за любові да яе не дазваляеш сабе лёгкага жыцця? І калі жыццё прыйшло да цябе лёгкім і шчаслівым — бяры ды радуйся, — ты вырашаеш збегчы ад яго ў ціхую дэпрэсію, сам сабе ствараючы праблемы і складанасці, штодзень пракручваючы ў галаве самыя цяжкія думкі? Ты не дазваляеш сабе быць шчаслівым, бо іначай здраджваеш маме ў яе няшчасці і цяжкім лёсе?

Так атрымліваецца, што нягледзячы на тое, што мы даўно сталі дарослымі, у стасунках са сваімі бацькамі мы застаемся дзецьмі. І як бы ні выстаўлялі перад імі свае дасягненні, унутры нас працягвае жыць дзіця, якое па-свойму выстройвае адносіны з мамай і татам. Псіхолагі называюць гэта дзіця «ўнутраным».

«Унутранае» дзіця любіць сваіх бацькоў нягледзячы ні на што: ні на тое, што адбывалася з імі ў іх жыцці, ні на тое, што з імі адбываецца цяпер. Яго любоў не церпіць здрады: ён не дазволіць сабе шчаслівых стасункаў, калі яго бацькі былі імі абдзелены. І нават калі лёс будзе да яго, ужо дарослага, добразычлівым, калі чалавек сустрэне сваю палавінку, калі ўсё ў іх будзе добра на зайздрасць суседзям, — усё роўна недзе ўнутры любоў да бацькоў не дасць яму шчаслівага спакою.

Далей можаце працягнуць самі: няшчасны, адзінокі, непаспяховы, разведзены, бедны, незразумелы і незразуметы, злосны, агрэсіўны, здраднік або ахвяра здрады… Цяпер зразумела, адкуль непрыемнасці? У любым выпадку, яны растуць разам з намі.

Часта нам складана зразумець прычыны нашых цяжкіх станаў і неабдуманых учынкаў, цяжка растлумачыць, чаму мы прыцягваем да сябе тыя ці іншыя падзеі, але «дзіцячая» любоў нешта тлумачыць. Але вы хочаце зірнуць глыбей, у самыя далячыні несвядомага?

* * *

Чаму ж дзіцячая любоў такая падражальная? Чаму мы, нават свядома жадаючы не быць падобнымі да бацькоў і ні ў якім разе

не паўтарыць іх лёс, падсвядома ўсё робім наадварот, у выніку часта атрымліваючы менавіта тое, ад чаго так старанна адварочваліся? Аднойчы нам кажуць: «Ты такая ж сварлівая, як твая маці» або «Ты — копія свайго бацькі». Аднойчы мы разводзімся і застаемся з дзецьмі, як некалі мама, або кідаем жонку з маленькім дзіцем, як зрабіў бацька. Аднойчы вас назавуць няўдачнікам, бо такім быў бацька, або абвінавацяць у безгаспадарлівасці, бо маці думала толькі пра сваю кар'еру.

Вядома, мы стараемся, і часта з усяе моцы: быць больш паспяховай, дагадзіць мужу, стаць шчаслівай. Але наш рух да сямейнага шчасця, грошай або поспеху натыкаецца на наш жа ўнутраны неўсвядомлены рух, на гэткі паток, што ідзе ў адваротным напрамку — ад шчасця, ад удачы, ад поспеху. Шмат сілы сыходзіць на тое, каб процістаяць гэтаму патоку, створанаму з глыбокай любові «ўнутранага» дзіцяці да сваіх бацькоў. Але чаму любоў менавіта такая, падражальная?

Хаця б таму, што мы не шукалі іншых рашэнняў. І выкарыставалі тое, што было прапанавана родавым, сістэмным досведам, які бярэ пачатак ад даўніх часоў: калі хочаш выжыць у сваім племені — будзь падобным да супляменнікаў. Калі ты «белая варона» — маеш шанцы на «вылет» з родавага гнязда. І калі ты слабы і безабаронны, то такі паварот падзей можа лёгка стацца для цябе смяротным сыходам — аднаму ў небяспечным свеце складана выжыць нават моцнаму і кемліваму былому супляменніку.

Яшчэ са старых добрых часоў жыццё ў групе, племені спрыяла выжыванню супляменнікаў. Выгнанне з групы было суровым пакараннем, бо практычна вяло да пагібелі. Каб выжыць, чалавек павінен быў належаць да свайго племені, быць яго часткай, падабацца яму, следаваць яго правілам. Часы мяняюцца, а законы выжывання застаюцца нязменнымі. Асноўнае, бліжняе акружэнне дзіцяці, яго «племя» — бацькоўская сям'я. Але мы робімся дарослымі, набіраем сілу і можам самі вырашаць: працягваць нам нечы вопыт ці збочыць з пратаптанай сцежкі і стварыць новыжыццёвы досвед, пратаптаць свой шлях.

Усведамленне негатыўных бацькоўскіх праграм дазволіла Ільі ўбачыць, які моцны ўплыў аказваў на яго чужы досвед. Менавіта ён кіраваў жыццём, а не сам яе гаспадар. Падражаючы бацьку: адчуваючы тое ж, што ён, робячы так, як ён, Ілья падсвядома будаваў свае адносіны з жонкай гэтаксама, як бацька. А «наследны» цяжкі вопыт маці падаўляў імкненне сына жыць лёгка і з задавальненнем.

Адмовіўшыся (і вызваліўшыся!) ад бацькоўскага жыццёвага досведу, Ілья набыў свабоду — свабоду самому выбіраць як жыць і што адчуваць. Праз нейкі час ён знайшоў для сваіх праблем некалькі добрых рашэнняў.

* * *

З сястрой мы прагледзелі некалькі бацькоўскіх праграм, вызваліліся ад некаторых страхаў і знайшлі рашэнні, якія дапамогуць яе душы «лятаць», быць вольнай і пашыраць свае межы. Мы прарабілі вялізную ўнутраную працу і вельмі стаміліся.

— Добрага табе адпачынку! — зычу я сястры, праводзячы яе да дзвярэй. — А якой гадзіне самалёт?

— А чацвёртай раніцы, — адказвае яна. — Ужо няшмат засталося.

— Здорава, ужо раніцай ты будзеш ляжаць на пясочку і слухаць мора. Дарэчы, патэлефануй потым маме, скажы, як даляцела, добра?

— Добра. Пакуль. Дзякуй табе.

Правёўшы сястру, я стомлена рухнула на ложак і прачнулася вельмі позна ад званка. Звaніла мама:

— У Лены ўсё добра. Даляцелі, усё ў парадку. Праўда, праседзелі лішнюю гадзіну ў аэрапорце: у іх самалёце перад вылетам знайшлі паломку, ды такую, што давялося мяняць самалёт…

Адклаўшы тэлефон убок, я дастала сшытак і адкрыла апошнюю старонку. Уверсе прыгожымі літарамі было напісана: «Жыццё». «Нягуста, але…» — падумала я, разглядаючы невялікі слупок, складзены з адзінак. Пакапаўшыся ў сумцы, знайшла ручку і акуратна вывела ўнізе: «+1». У памяці ўсплыла фраза з дзяцінства: Адзін:нуль, гуляем далей. Я ўсміхнулася гэтаму ўспаміну і з палёгкай выдыхнула: я зноўку вяду.

Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, у якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў.

*Яшчэ сустрэнемся?!*

***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 70300 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 28600 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 89000 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 20200 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
При передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19.
Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 30.01.2015. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 14,98. Тыраж 1946 экз. Заказ Кошт нумара ў розніцу 19100 руб.

Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «БудМедыяПраект».
220123, Мінск, вул. В. Харужай, 13/61.
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**